Князь жа вялікі Вітаўт пайшоў да Брацлава, заняўшы Брацлаў, пайшоў да Сакольца і яго заняў, ноччу прыйшоў да Камянца і здабыў яго, а затым заняў і Смотрыч, і Скалу, і Чырвоны Гарадок — і ўсе гарады ўзяў. Ваяводу ж князя Фёдара Нестака, што ў тых гарадах быў, схапіў, а па ўсіх гарадах князь вялікі Вітаўт сваіх старастаў пасадзіў. А здабыў [ён усё гэта] літоўскімі сіламі, і ніхто ніадкуль яму не дапамагаў.

Тады [польскі] кароль [Ягайла] пачаў прасіць князя вялікага Вітаўта: «Мілы браце, даў табе Бог — здабыў ты Падольскую зямлю, дык зрабі мне ласку — дай мне [палову] Падолля». Князь вялікі Вітаўт даў каралю палову Падольскай зямлі за дванаццаць тысяч пенязяў, даў Камянец, Смотрыч, Скалу, Чырвоны Гарадок і Бакоту, а ва ўсіх іншых падольскіх землях і гарадах князь вялікі Вітаўт пасадзіў сваіх старастаў: у Брацлаве, у Сакольцы і ў Бені-цы (Вінніцы — В.Ч.). Кароль жа тыя гарады за дваццаць тысяч пану Спытку аддаў.

Калі князь вялікі [Вітаўт] біўся з татарамі [на Ворскле], пан Спытка прыходзіў на дапамогу вялікаму князю Вітаўту, і тады пана Спытку забілі татары. Пані ж Спыткавая аўдавела і засталася з малымі дзецьмі. І пачаў кароль слаць [лісты] вялікаму князю Вітаўту, так гаворачы: «Тую палову Падольскай зямлі, што ты даў нам за дваццаць тысяч пенязяў, мы аддалі былі за дваццаць тысяч пану Спытку. [Цяпер жа], калі пані Спыткавая аўдавела з малымі дзецьмі, а землі тыя няма каму бараніць ад татараў, вярні дваццаць тысяч пенязяў, а гарады зноў вазьмі сабе». І князь вялікі [Вітаўт] паслаў каралю сорак тысяч [пенязяў] з панам Нямірам і Дзімітрыем Васільевічам, баярынам луцкім, а гарады свае зноў узяў сабе, і старасту свайго пасадзіў, двараніна Граноўскага. Пасля Граноўскага [вялікі князь Вітаўт] даў [Падолле] пану Пятру Мантыгірдавічу, а пасля яго — пану Дзідзіголду. Потым, калі [вялікі князь Вітаўт] пану Дзідзіголду даў Смаленск, Падолле [ён] даў пану Доўгірду. Пан жа Доўгірд быў старастам ва ўсіх тых гарадах на Падоллі аж да смерці вялікага князя Вітаўта. А як толькі князя вялікага Вітаўта не стала ў жывых, прыехалі ляхі і пана Доўгірда з горада Камянца паклікалі да сябе на раду і, да рады не дапусціўшы, схапілі і абрабавалі. Потым яны захапілі Камянец [і іншыя гарáды] і ўсім тым заваладалі, што [цяпер] у Падольскай зямлі трымаюць.

## «ПАХВАЛА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ».

Таямніцу цара захоўваць пахвальна, а пра справы вялікага гаспадара паведамляць пахвальна. Хачу вам расказаць пра вялікага князя Аляксандра, гэтак званага Вітаўта, літоўскіх і рускіх і шмат іншых земляў гаспадара. Але спачатку па пісанаму: «Братва, Бога бойцеся, а князя шануйце». Гэтак і я хачу вам расказаць пра гэтага слаўнага гаспадара. Але немагчыма ні расказаць, ні апісаць справы вялікага князя Вітаўта. Калі б было магчыма спасцігнуць вышыню неба і глыбіню мора, то можна было б выказаць сілу і храбрасць гэтага слаўнага гаспадара.

Вялікі князь Вітаўт валодаў Вялікім княствам Літоўскім і Рускім і шмат якімі іншымі землямі, проста кажучы, усёю Рускаю зямлёю. Ды не толькі ўся Руская зямля [была яму падуладная]. Яшчэ і гаспадар Венгерскай зямлі, гэтак званы цэзар рымскі, у вялікай любові жыў з ім. Аднойчы быў гэты слаўны гаспадар у сваім горадзе Вялікі Луцк і паслаў сваіх паслоў да венгерскага караля, гэтак званага цэзара рымскага, і загадаў яму прыбыць да яго. Ён жа паслухмяна неўзабаве прыехаў да яго са сваёю каралеваю і пашану вялікую выказваў, і падарункі шматлікія падносіў яму. І з таго часу вялікая любоў умацавалася паміж імі.

Як не дзівіцца славе вялікага гаспадара [Вітаўта]. Няма земляў ні на ўсходзе, ні на захадзе, адкуль не прыходзілі б пакланіцца гэтаму слаўнаму гаспадару. Калі нават ёсць цар над усёю зямлёю, і той, прыйшоўшы, кланяўся слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Аляксандру, гэтак званаму Вітаўту. Яшчэ і турэцкі цар пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў [гэтаму] слаўнаму гаспадару. У вялікай любові жыў з ім і прававерны і хрысталюбны цар царградскі. Таксама і Чэскае каралеўства з вялікаю пашанаю ставілася да [нашага] слаўнага гаспадара. А яшчэ дацкі кароль пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Вітаўту. У тыя ж гады брат яго Ягайла, па-ляшску названы Уладзіславам, валодаў Кракаўскім каралеўствам, і ён ■ ім [таксама] у вялікай любові жыў. Калі слаўны гаспадар Вітаўт на якую зямлю гневаўся і хацеў пакараць, кароль Уладзіслаў заўсёды даваў яму дапамогу. Служылі яшчэ яму і ўсходнія цары.

Таксама вялікі князь маскоўскі ў вялікай любові жыў з ім. Служылі яму яшчэ і іншыя: вялікія князі нямецкія

з усімі сваімі гарадамі і землямі, па-нямецку называныя магістрамі; гаспадар зямлі Малдаўскай і Бесарабскай, па-валашску называны ваяводаю; таксама і гаспадар зямлі Балгарскай, па-балгарску называны дэспатам. Яшчэ і іншыя вялікія князі [служылі вялікаму князю Вітаўту]: вялікі князь цверскі, вялікі князь разанскі, вялікі князь адоеўскі, і Вялікі Ноўгарад, і Вялікі Пскоў. Проста кажучы, не знойдзецца ва ўсім Памор'і ні горад, ні край, якія б не слухаліся гэтага слаўнага гаспадара Вітаўта.

Гэтыя вялікія гаспадары, вялікія князі, вялікія землі, пра якія мы тут пісалі, адны ў вялікай любові жылі з ім, а іншыя моцна служылі яму, слаўнаму гаспадару, пашану вялікую [выказвалі] і падарункі шматлікія прыносілі яму не толькі кожны год, але і кожны дзень.

Калі слаўны гаспадар, вялікі князь Аляксандар, званы Вітаўт, на якую зямлю гневаўся і хацеў яе сам пакараць або куды хацеў сваіх моцных ваяводаў паслаць і каму ад тых земляў загадваў да сябе прыбыць, яны неўзабаве паслухмяна са сваёй зямлі да яго прыходзілі. Калі ж якому гаспадару з-за якой-небудзь патрэбы немагчыма было прыбыць [да Вітаўта], ён сваё войска пасылаў яму (Вітаўту — В. Ч.) на дапамогу і на службу.

Гэты вялікі князь Аляксандар, званы Вітаўт, у вялікай пашане і славе прабываў. [Аднойчы] быў ён у адным са сваіх гарадоў — вялікім горадзе Кіеве, і прыслалі да яго [сваіх пасланцоў] вялікія князі ардынскія, паручаючыся верна служыць яму, і прасілі ў яго цара на царства, бо шмат вялікіх ардынскіх цароў служыла пры яго двары. І даў ён ім цара па імені Салтан. Той жа цар, які быў у Ардзе, учуўшы, што слаўны гаспадар [Вітаўт] паслаў свайго слугу на царства, не пасмеў працівіцца яму, пакінуў царства і ўцёк. Салтан жа, прыйшоўшы ў Арду, сеў на царства паводле волі вялікага гаспадара Вітаўта, вельмі паслухмяна служыў яму і неўзабаве памёр. Старэйшыны ж ардынскія паслалі сваіх паслоў з вялікімі дарамі да слаўнага гаспадара [Вітаўта] і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Салтан Малы. Гэты Салтан, сеўшы на царства, ніяк не смеў не слухацца слаўнага гаспадара: дзе і калі [вялікі князь Вітаўт] яму загадае, ён тады і туды качуе. Прайшло мала часу, і вялікія князі ардынскія, не смеючы нічым разгневаць слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, каб без яго волі не садзіць на трон цара, прыслалі да яго з вялікаю пашанаю і прасілі іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Даўлат-Бярды.

Як рака, праплываючы ўсе землі, людзей і жывёлу поіць, а сама не змяншаецца, так і слаўны гаспадар [Вітаўт] шмат цароў адпускаў у Арду, а ў яго большала цароў. Мы ж да папярэдняга вернемся. Гэты цар Даўлат-Бярды мала часу цараваў, і таму тыя ж старэйшыны ардынскія, калі ішлі каля вышэй згаданага горада Кіева і ўчулі, што ў гэтым горадзе знаходзіцца слаўны гаспадар, вялікі князь Вітаўт, прыйшлі і пакланіліся яму, і шматлікія падарункі прынеслі, і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Махмет. Як ад мора шмат вады выходзіць, так і ад гэтага слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, мудрасць сыходзіць.

У год 1430 князь вялікі Вітаўт Кейстутавіч склікаў да сябе караля польскага Уладзіслава [Ягайлу], вялікага князя маскоўскага Васіля Васільевіча, вялікага князя цверскага Барыса Аляксандравіча, магістра нямецкага і прускага, магістра лівонскага. Вялікія паслы прыходзілі ад Івана, цара царградскага, і ад рымскага цэзара, і ад дацкага караля, і ад вялікага князя разанскага і ад валашскага ваяводы паслы прыходзілі. Адоеўскія ж князі самі былі. І ад Вялікага Ноўгарада, і ад Пскова, і ад ардынскага цара, і ад іншых князёў і земляў паслы былі. Гэтыя каралі, вялікія князі і паслы былі ў вялікага князя Вітаўта сем тыдняў на яго страве, а на [кожны] дзень ішло аброку па трыста бочак мёду (медавухі — В. Ч.), па трыста ялавіц, баранаў і вепраў [таксама] па трыста.

Князь вялікі Вітаўт хацеў ускласці на сябе карону, але яго непрыяцелі ляхі не прапусцілі яе, і таму ён не ўсклаў на сябе карону. І расхварэўся князь вялікі Вітаўт і адпусціў [дамоў] вялікіх князёў і царскіх паслоў са шматлікімі падарункамі і з пашанаю. Кароль жа польскі Уладзіслаў застаўся ў вялікага князя Вітаўта. І пры ім памёр вялікі Вітаўт 23 кастрычніка ў дзень памяці святога апостала Якава, брата Гасподняга.



## *Максім БАГДАНОВІЧ*

### ПАГОНЯ

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старажытнай Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмежную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі наўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!

Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

# *Віктар ЧАРОПКА*

## ДАЎМОНТ

*Князю снілася Бацькаўшчына. У снах ён вяртаўся да яе. Раніцай князь сумна паглядаў з вокнаў палат у бок літвінскай мяжы, туды, дзе ляжала зямля бацькоў — Нальшчанская. Зямля бурштынавых лясоў і крынічнай сінявы азёраў і рэк, старажытных міфаў і паданняў. Зямля, дзе свята верылі ў адухоўленасць нябёсаў, зямлі і водаў, дзе гарэў нязгасны агонь Зніча. Край, дзе князь нарадзіўся. Пад зорамі якога спазнаў ён каханне жанчыны. З крыніц якога наталяў смагу. Там засталося ягонае дзяцінства, там адгаралі дні ягонага юнацтва.*

У мігаценні агменя бачылася князю палыханне Зніча. У завыванні зімовага ветру, вясновым шапаценні зялёных вяршалін, у тужлівым мармытанні восеньскіх дажджоў чуўся князю спеў нальшчанскіх пушчаў. І нат у шматгалоссі знаменных распеваў чулася песня роднага краю, яго хвалюючы кліч. І бачылася князю вечаровае сонца, што стомлена пакідала залітае рабінавай чырванню неба і кацілася за спічастую сцяну лесу. Апошнія промні бліскавіцамі зіхацелі на рачных хвалях. А на беразе бачылася адзінокая постаць хлопчыка, на пачцівай адлегласці — узброеныя слугі, што суправаджалі яго. Хто гэта? Гэта ён — Даўмонт. Яшчэ не дарос ён да сядла. Яшчэ далёка яму да баявых

паходаў, і птах славы яшчэ не пралятаў над ім. Бацька ўпершыню ўзяў яго ў аб'езд па Нальшчанскай зямлі. Вось бацька падыходзіць да яго, кладзе на плячо руку. А за ракой зямля крывічоў. Памяць зберагла ў віхуры падзей і пранесла праз не адно кола часу гэтую яву далёкага дзяцінства. Бацькаўшчына — яна сонцам, заходзячым за лес, рэчкай, на хвалях якой мігацелі сонечныя промні — апошняй мяжой перад Чужыншчынай, крыніцамі, у якіх спаталяў смагу, і бурштынавымі стваламі хваін — гэтымі вобразамі жыла ў ягоным сэрцы. І водар скошаных траў... І крыкі драчоў на лугах... І бацькоўская рука на плячы... Як гэта было даўно!

Нікому князь не казаў пра свае сны.

Даўно ў князя была другая Айчына — Плескаў. Даўно ён насіў другое імя — Цімафей. Даўно забыта бацькоўская вера, і не матчына мова гучыць у ягоных вуснах.

Каму-каму, а яму грэх наракаць на лёс. Не напаткала князя смерць, як многіх, з кім сутыкнуўся на шляхах зямных. Няма ўжо Міндоўга, Таўцівіла, Траняты, Войшалка. Не туляецца ён ізгоем пры дварах літоўскіх рыцараў, як той Суксе. Ужо каторае дзесяцігоддзе ён улюбёнец і абраннік пскоўскі. Любяць яго псковічы за харобрасць і ўмельства ў ратным баі, багалюбства і дабрачыннасць да люду хрысціянскага, спагаду да сірот і ўдавіц, за дух разумнасці святой, за дзеянні дзеля прыбытку і славы Плескава. І слаўна імя ягонае не толькі ў Плескаве, але і ў іншых краях і землях. І шматмудрыя мніхі-летапісцы заносяць ягоныя дзеянні на старонкі летапісаў нашчадкам для павучання і памяці. І параўноўваюць яго з вялікім Аляксандрам Неўскім — князем князёў, ваяводам ваявод. Грэх наракаць на лёс.

Малады быў тады князь нальшчанскі Даўмонт, калі на Літве прагным звычаем брат пайшоў на брата. Другалюбства і іншыя добрыя норавы забыў Міндоўг, зірнуць смерці ў вочы многіх літвінаў прымусіў, правам і вольнасцям баярскім гвалт ад яго стаў. Улады, славы, пажытку, новых зямель Міндоўгу хацелася. Але болей, чым князю, хацелася гэтага ягоным воям і прыяцелям — наваградцам. Ім патрэбна была Літва, ужо даўно абжытая і аселеная крывічамі ды дрыгавічамі. Наваградак прагнуў уладарыць Літвою, і Міндоўг быў мячом, якім наваградскае баярства ваявала яе. Паклікалі яго ў Наваградак. Сказалі: «Прымі веру нашу — і будзеш князем». Прыняў хрост. І стаў князем. А што ён — князь. Нальшчанскі? Ён уклен-

чыў перад наваградскім князем. З Міндоўгам звязвала сваяцтва — іхнія жонкі былі сёстры. Часта гасцяваў ён у Міндоўгавым доме і не раз прымаў будучага літвінскага караля ў сваім.

Да Міндоўга тоіў ён нелюбоў. Неміласцівы на кроў, вуздою хцівасці абрытаны, хіжы і злахітры. Сэрца сваё для сяброў і паплечнікаў зачыніў і лічыў іх сваімі галдоўнікамі. Ад боязі за карону і кволасці ўлады было гэта.

І здзіўляла Міндоўгава любоў да жонкі. Была яна тым чалавекам, ля якога забываўся Міндоўг пра цяжар улады. Калі памерла яна, тугою і смуткам пакутаваў кароль. Ці не ейныя незабыўныя рысы ўбачыліся Міндоўгу ў твары Даўмонтавай жонкі, ці ейны голас нагадваў яму голас каханай? І гвалтам узяў за сябе чужую жонку, Даўмонтаву.

Стрываць, змірыцца з абразай, праглынуць крыўду? А дзе гонар? Можна дараваць учарашняму ворагу, які просіць у цябе літасці, зла не памятаць, пусціць у сваё жытло, пасадзіць побач за сталом, падняць кубак за любоў і яднанне, але як дараваць таму, каму служыў без хітрасці, а ўзнагародай табе — здзек? Аднак — хто ён, Даўмонт, а хто — Міндоўг? Вялікая сіла ў князя — моцная ў бранях наваградская дружына. І малая — у яго, у Даўмонта. Не паспееш і меч падняць на вялікага князя, як сам без галавы ляжаш ля ягоных ног.

А тут Транята. Той ведаў, што яму трэба ад іншых. Прагнуў жамойцкі князь улады. І таму, хто мог дапамагчы яму, гатоў дапамагчы і ён. Так змовіліся яны. І надышла ноч, калі іхнія воі акружылі Міндоўгаў дом. Без шуму, нібы прывіды, выраслі яны з начной цемры перад вартай і пасеклі яе. Сам Транята і Даўмонт кінуліся ў вялікакняскія пакоі. Кароль спаў. Соннага яго ў ложку і забілі. І сыноў ягоных — Руклю і Рапенуса — забілі. Хіба яны прычынілі яму зло? Навошта было гэтае забойства? Каб ніхто не змог узяць меч помсты, каб ніхто не адпомсціў за Міндоўга.

Было каму помсціць за Міндоўга — Войшалку. Манах, ён скінуў схіму і з-пад Пінска прыйшоў на Літву, у Верхняе Панямонне. Наваградскія дружыннікі і баяры, пінчукі — сіла вялікая. Літасці нальшчанцы не чакалі. Уцёкамі выратаваўся Даўмонт. Тады не ведаў, што назаўсёды пакідае Бацькаўшчыну. Не мог князь прадбачыць, што рыхтуе яму лёс. Ды і думаць пра гэта не думаў. Смерць была побач — ратаваўся ад яе. І толькі вось цяпер, пасля столькіх гадоў, смуткам адзывалася ў душы памяць аб Бацькаўшчыне

каўшчыне. А была магчымасць вярнуцца. Была. Загінуў Войшалак. У Навагарадку сеў Войшалкаў швагер Шварн Раманавіч: можна было вяртацца. Не вярнуўся, застаўся ў Плескаве.

Плескаў — малодшы брат «господина великого Новгорода». Малодшы прагнуў роўнасці са старэйшым. Малодшаму надакучыла несці цяжар залежнасці ад старэйшага. Малодшы марыў пра вольны дух вечавы. Ноўгарад, асляплены велічнасцю, па-ранейшаму прызнаваў Пскоў сваім прыгарадам. І не болей. Па-ранейшаму ноўгарадскае веча вырашала лёс псковічаў. Толькі вось у бедах, калі імклівым набегам ваявала Пскоўшчыну Літва або прыпаўзаў да яе межаў жалезны цмок крыжацкай навалы, не спяшаў старэйшы брат дапамагчы малодшаму, і ўсё часцей псковічы адбіваліся ад ворага сваімі сіламі. Пскоў шукаў выйсце і часта не лепшае знаходзіў. Мір з крыжакамі, які заключылі яны,— здрада агульнарускім інтарэсам, не прынёс ён чаканага. Давялося пакласці за Ордэн многіх лепшых мужоў сваіх у бітве са жмойтамі пры Шаўляі ў памятным 1236 годзе. А праз чатыры гады Ордэн, сабраўшыся сіламі, рушыў свае закутыя ў браню «свінні» на пскоўскую зямлю. Ізборск і Пскоў расплаціліся за залішнюю даверлівасць незалежнасцю. Праз два гады Аляксандр Неўскі разбіў крыжакоў і вызваліў Пскоў, але на гэтым вайна з імі не закончылася.

Пскову патрэбны быў баявы князь, які адвагу і ўмельства яўляў у рацях, які мог адстаяць інтарэсы пскоўскія перад Ноўгарадам, які разбіраўся б ва ўсіх хітраспляценнях адносін літоўска-рускіх, ноўгарадска-рускіх і ў супярэчнасцях іхніх шукаў выгаду для Пскова. Надзеі ўскладалі на Даўмонта. Плескавічы добра разлічылі. У ізгоя выбару мала, нават зусім няма — значыць, волі вечавой падначаліцца. Падтрымку ў іншых землях яму цяжка знайсці — значыць, стане даражыць месцам баявога князя. А вопыту баявога Даўмонт паднабраўся нямала. Чаму б не ўзяць яго? Узялі ж палачане Таўцівіла, і верай і праўдай служыў ім, атрымаўшы ад іх імя Добры.

«І крещен был бысть у соборной церкви святой Троицы и наречено было имя ему в святом крещении Тимофей»,— пакіне летапісец паведамленне пра Даўмонтава хрышчэнне. А пасля адразу выпрабаванне. Вядзі, княжа, дружыну

ў паход. І павёў Даўмонт псковічаў на сваю былую Бацькаўшчыну. Не гонару сабе шукаці ішлі псковічы, не імя слаўнага, нат не здабытку. Хай пралье Даўмонт кроў былых суайчыннікаў, хай гора і слёзы прынясе Літве, каб не вабіла яго дарога назад. Разумеў гэта Даўмонт, а вёў патаемнымі сцежкамі ў Нальшчаны пскоўскую дружыну. Праз адрачэнне ад Радзімы мог ён застацца ў Пскове, і адрокся. За ўсё прыходзіцца плаціць у гэтым свеце. За вячыстае шчасце на нябёсах — адрачэннем ад зямных радасцей. За каханне да жанчыны — неспакоем душэўным. За славу ваярскую — крывёй. І ён таксама плаціў...

Браталюбна жыў раней з Гердзенем, а цяпер — вораг яму. На ягоныя землі напаў і аб браталюбстве забыў, аб сваяцтве. Хацелі гэтага ад яго псковічы — і ён падняў на Гердзеня меч, і не па-ваярску ў адкрытым баі, а, як варапай, патаемна. Гвалту і ніцавання не спыняў. Закон войнаў святы. Узятае зброяй у ворага — тваё. Нямала здабыткаў плескавічы захапілі, нямала палону павялі з сабою. Паланянкай стала і жонка Гердзеня з двумя сынамі. Праўда, не ўзяў грэх на душу, не пакараў іх смерцю. Гердзень з дружынай у семсот ваяроў дагнаў яго за Дзвіной. І хаця толькі сотню вояў і меў Даўмонт, але бой прыняў. Уцякаць? Толькі пераможцам мог ён вярнуцца назад у Плескаў. Абнясславіць сябе баязлівасцю — пазбавіцца пасада пскоўскага. «Братие, потягнем за святую Троицу и за святыя церкви за свое отечество»,— заклікаў ён псковічаў за сабою і першы рушыў у сечу. І кожны раз, апускаючы цяжкі меч на галовы нальшчанцаў, ён нібыта зноў і зноў рассякаў тыя путы, што яшчэ звязвалі яго з Бацькаўшчынай. Той бой ён выйграў. У Літве яго імя клялі — у Пскове славілі. І ў Ноўгарадзе з пачцівасцю аднесліся да новага пскоўскага князя. Таму і не падтрымалі ноўгарадцы вялікага князя ўладзімірскага Яраслава, калі той з нізавымі палкамі прыйшоў у Ноўгарад, каб выгнаць Даўмонта.

У наступным 1267 годзе Даўмонт зноў павёў на Літву плескавічаў разам з ноўгарадцамі. І зноў прынёс Бацькаўшчыне кроў і слёзы. Новай Радзіме служыў верай і праўдай. Хто ў дакор слова скажа? Усякае было: смяротная пагроза ад вялікага князя Яраслава, выгнанне з Пскова і зноў вяртанне ў горад, сечы з крыжакамі, паходы ў Лівонію, адраджэнне спаленых пскоўскіх пасадаў, узвядзенне Даўмонтавага крамля.

Перамогамі над крыжакамі і праславіў імя сваё. Кергольмская бітва. У 1268 годзе разам з ноўгарадцамі, князем Дзмітрыем Аляксандравічам і дружынамі Яраслава пасля жорсткай сечы ля Кергольма разбілі ордэнскае войска. У баі гэтым загадваў ён правым крылом, стрымліваючы націск жалезнай свінні. Пасля перамогі агнём і мячом прайшоўся князь з псковічамі па Эсцейскай зямлі да самага мора. Магістр Отан, помсцячы псковічам, праз год прывёў пад сцены Пскова васемнаццаць тысяч ваяроў Хрыстовых. Тыя падзеі ўжо сталі легендай, дзе прыдуманае і праўдзівае пераплялося, як карані дрэў... Адзнаку пераможнага мяча пскоўскага князя атрымаў на твары сам магістр. І крыжакі адступілі. Як адступалі яны і пазней — у 1271 і 1272 гадах,— так і не перамогшы Даўмонта.

На многія гады адбіў ён ахвоту ў крыжакоў хадзіць на Русь, на многія гады вырваў для Пскова мір. Цэлае пакаленне псковічаў вырасла не пад звон мячоў, а пад спевы жнеяў і благавест саборных званоў. Ягоным клопатам апаясаўся Пскоў каменнай сцяной, самай моцнай на Русі. Ягоным імем называецца сцяна і цяпер — Даўмонтаў град. Пскоў рос, багацеў, набіраўся моцы перад новымі выпрабаваннямі. Славілі псковічы імя свайго князя. Шчаслівы, зайздросны лёс.

Усё часцей снілася князю Бацькаўшчына, на крылах памяці лятаў ён туды. Там і сонца не такое, там і месяц не такі, там і зоркі не такія, там і дрэвы не такія, там усё да болю роднае, мілае, апетае моваю матчынаю, там усё сваё. Там засталося маленства, там ягонае юнацтва. Там спяць вечным сном яго бацькі. І ў завыванні ветру, і ў шэпце лістоты, і ў мармытанні дажджоў, і нат у шматгалоссі распеваў знаменных... Апавядаюць, што легендарны Усяслаў Чарадзей у Кіеве звон сваёй Сафіі Полацкай чуў. І да яго, Даўмонта, людзі трызнілі аб страчанай Бацькаўшчыне. А можа, ад старасці гэта? Жыццё, як знічка, дагарае. І цягне азірнуцца назад. А там бачыцца постаць хлопчыка на рачным беразе, і побач постаць яго бацькі. І сонца ўжо зайшло за лес. Напіцца б вады з той ракі...

Стары князь зноў возьме ў рукі пераможны меч і разаб'е крыжакоў, што заявяцца пад Псковам. «Бысть сеча зла яко николи яше тока не бывала у Пскове». Гэта адбудзецца ў сакавіку 1299 года. А праз месяц князь памёр.

*«Сей же князь бе не единемъ храборьствомь показань бысть оть Бога, но и боголюбець показаися, в мире*

*приветливь и церкви украшая и попы и нищая любя и вся праздники честно проводя и попы и черенца кормля и милостыню дая сиротам и вдовицам...»*

*«Бысть же тогда жалость велика во Плескове, мужем, женам и малым детям, по добром господине благоверном князе Тимофеи».*

Так запісалі летапісцы.

...У адзін з летніх дзён 1299 года літоўска-пскоўскую мяжу пераехаў атрад вершнікаў. Суправаджалі яны Даўмонтавага сына князя Давыда. Сын выканаў перадсмяротную волю бацькі — вярнуўся на зямлю сваіх продкаў. Што чакала яго на ёй? Але гэта ўжо новы аповяд — аповяд пра славутага ваяводу беларускіх і літоўскіх дружын Давыда Гарадзенскага.

## АПОШНІ БОЙ КНЯЗЯ ВЯЧКІ

Больш як два стагоддзі нашы продкі змагаліся з крыжакамі. Разам з беларусамі ў гэтай барацьбе ўдзельнічалі літоўцы, рускія, палякі, украінцы, латышы, эстонцы. Гэта было супрацьстаянне Захаду і Усходу. За крыжацкімі ордэнамі мечаносцаў і тэўтонцаў стаялі сілы ўсёй Заходняй Еўропы. Які лёс чакаў нашых продкаў, каб не перамаглі яны ў гэтай вайне? Лёс знішчаных нямецкімі феадаламі балцкіх, палабскіх, заходніх славян, прусаў, яцвягаў, куршаў, земігалаў? Лёс зняволеных на стагоддзі латышоў і эстонцаў? На Грунвальдскім полі закацілася былая магутнасць тэўтонаў. Болей за дваццаць баявых харугваў з беларускіх зямель удзельнічалі ў Грунвальдскай бітве. А зачын на слаўную перамогу быў зроблены два стагоддзі назад, калі ў 1203 годзе дружыны беларускіх і літоўскіх воінаў упершыню ўступілі ў бой з крыжацкімі полчышчамі. Сярод першых быў і кукейноскі князь Вячка, які абессмяроціў сваё імя гераічнай абаронай старажытнарускага горада Юр'ева.

У сярэдзіне XII стагоддзя пачалася шырокая агрэсія нямецкіх феадалаў на ўсход, на землі палабскіх, балтыйскіх і заходніх славян. На захопленых славянскіх землях узнікалі нямецкія герцагствы і графствы. Адразу ж пасля гэтага пачалася заваёва немцамі Усходняй Прыбалтыкі. Рымскі папа прыраўняў паход у Лівонію да крыжовага паходу ў Палесціну. Але дзеля таго, каб мець пастаянную

вайсковую сілу, каталіцкая царква засноўвае ў Лівоніі вайскова-манашаскі ордэн мечаносцаў, або, як часта яго называюць, Лівонскі ордэн. Папа Інакенцій III даў мечаносцам статут ордэна храмоўнікаў (тампліераў). Ордэн складаўся з братоў-рыцараў, братоў-светароў і братоў-служачых. Той, хто паступаў у Ордэн, даваў чатыры зарокі: паслухмянства Ордэну, дабрамудрасці, беднасці, прысвячэння свайго жыцця барацьбе з язычнікамі і ворагамі каталіцкай царквы. Кожны ордэнскі брат насіў на адзежы знакі адрознення — чырвоны крыж і меч, адсюль і назва ордэна — мечаносцаў. Жалезная дысцыпліна, добрая баявая вывучка, шчодрая падтрымка каталіцкай царквы рабіла ордэн галоўнай сілай нямецкіх феадалаў у заваёве Усходняй Прыбалтыкі. Мечаносцы з фанатычным запалам распачалі сваю дзейнасць. «І залілі крывёю паганцаў усе дарогі і месцы». «І захапілі яны многіх, і перабілі ўсіх мужчын, і звялі ў палон жанчын і дзяцей». «Спустошылі і аддалі агню ўсе весі, а мужчын, якіх захапілі, усіх спалілі жывымі»,— пісаў ордэнскі храніст Генрых Латвійскі. Занадта позна зразумеў сваю памылку полацкі князь Уладзімір, што дазволіў каталіцкім светарам «хрысціць» падуладных яму ліваў. Злата, якое плаціў рыжскі біскуп замест даніны ліваў, асляпіла полацкага князя — і быў страчаны дарагі час. Ордэн паспеў трывала ўсталявацца ў Лівоніі, пабудаваць некалькі моцных замкаў, у тым ліку і Рыгу, якая закрыла выхад полацкім купцам у Балтыйскае мора. І паходы полацкіх дружын у 1203 і 1206 гадах у Лівонію не прыносяць Уладзіміру перамогі. Крыжакі, схаваўшыся за каменныя сцены, з дапамогай балістаў адбілі ўсе спробы палачан авалодаць Гольмам і Рыгай. У гэтых паходах удзельнічаў і князь Вячка. У 1206 годзе на дапамогу крыжакам прыбылі новыя атрады нямецкіх феадалаў, а таксама дацкае войска пад зверхнасцю караля Вальдамара. Становішча ў Лівоніі склалася не на карысць Полацка. Адчуўшы сілу, Ордэн ад тактыкі ўступак палачанам, мірных пагадненняў з імі пераходзіць у наступ. Крыжакі напалі на Вячкаў горад Кукейнос і захапілі яго. Адкрыта далучыць Кукейноскае княства да ордэнскіх уладанняў рыжскі біскуп не наважыўся, ён вяртае горад Вячку з умовай размясціць там крыжацкі гарнізон. Ганарлівы Вячка паўстае супраць Ордэна, распраўляецца з крыжацкім гарнізонам, спальвае замак і адпраўляецца на Русь. Гэта адбылося ў 1208 годзе.

Да 1224 года пра Вячку няма ніякіх звестак у летапі-

сах. Чым займаўся ўвесь гэты час былы кукейноскі князь?. Не будзе перабольшваннем, калі сказаць, што так і не ўклаў у похвы ён свой меч, працягваў ваяваць з крыжакамі. Вячка паступае са сваёй дружынай на службу Ноўгараду і, відаць, удзельнічаў у паходах наўгародцаў у Лівонію і Эстонію. Як вопытнага і смелага ваяводу наўгародцы пасылаюць Вячку ў Юр'еў — фарпост Ноўгарада ў Эстонскай зямлі. Да 1219 года крыжакі з дапамогай дацкіх войск захапілі Паўночную Эстонію і працягвалі наступ на эстонскія землі. З'яўленне ў Юр'еве Вячкі выклікала ўздым вызваленчай барацьбы эстаў супраць крыжакоў. «І сабраліся ў замак Дорпат (Юр'еў) да караля Вячкі ўсе ліхадзеі з суседніх зямель і Сакалы, здраднікі, братазабойцы, забойцы братоў-рыцараў і купцоў, завадатары злых змоў супраць лацінскай царквы. Галавой і мозгам іхнім быў усё той жа кароль Вячка, бо і сам ён даўно стаў коранем усялякага зла ў Лівоніі»,— піша Генрых Латвійскі. Супраць Вячкі ў Рызе пачынаюць рыхтаваць паход. Было сабрана вялікае войска, у склад якога ўвайшлі мечаносцы, паломнікі, купцы, гараджане Рыгі, дружыны ліваў і лэтаў. Вайсковыя сілы ўсёй Лівоніі і Эстоніі былі кінуты на Юр'еў. З самага пачатку паходу крыжакі прыняліся за рабаўніцтва, спустошылі і выпалілі Віронію. Падышоўшы да Юр'ева, ордэнскія войскі разбілі стан і шчыльным колам абклалі горад. Восем дзён крыжакі будавалі абложныя машыны, катапульты, штурмавую вежу з узроўнем замка. Вежу насунулі над ровам і пад яе абаронай крыжакі спусціліся ў роў і пачалі падкопвацца пад вал. Каб аблегчыць штурм замка, крыжакі паслалі да Вячкі паслоў і прапанавалі яму «вольны шлях для выхаду з яго людзьмі, канямі і маёмасцю, толькі б ён пакінуў замак і гэты народ (эстаў — **В. Ч.**) адступнікаў». Вячка разумеў, што горад не абараніць: рана ці позна вораг захопіць яго — занадта няроўныя былі сілы, але ён адмовіўся ад ордэнскай прапановы.

Многа дзён доўжылася аблога. Крыжакі абстрэльвалі замак з балістрыяў і катапультаў. Разам са стрэламі і камянямі на замак ляцелі і гаршкі з «грэчаскім агнём». Дзеля запалохвання абаронцаў горада крыжакі палілі перад валамі вялікія вогнішчы. І ўдзень, і ўноч працягваўся падкоп пад замак. У адказ з замкавых сценаў стралялі з лукаў і балістрыяў. «І біліся так шмат дзён»,— сведчыць Генрых Латвійскі. Раззлаваныя крыжакі на вайсковай радзе вырашылі нікога з абаронцаў замка не шкадаваць

і «адпомсціць зладзеям на жах іншым». Нарэшце быў гатовы падкоп — і крыжакі пайшлі на штурм. Абаронцы замка адчайна адбіваліся ад ворага. Эсты адкрылі спецыяльныя адтуліны ў вале, праз якія скочвалі ўніз вогненныя колы. Але закутыя ў даспехі рыцары раскідалі агонь, збілі полымя са штурмавой вежы і ў сваю чаргу запалілі замкавую браму. Частка штурмуючых пранікла ў адтуліны ў вале і, зламаўшы супраціўленне эстаў, уварвалася ў замак. За крыжакамі на штурм кінуліся дружыны ліваў і лэтаў. Уварваўшыся ў замак, крыжакі пачалі жорсткую расправу з абаронцамі: «І адразу пачалі забіваць народ, і мужчын, і нават жанчын, не шкадавалі нікога, так што лічба забітых даходзіла ўжо да тысячы»,— піша Генрых Латвійскі. Вячка разам з дзвюма сотнямі воінаў заняў абарону ва ўнутраных умацаваннях. Усе воіны і сам князь загінулі ў няроўным баі. Крыжакі авалодалі замкам. Гэтая перамога адчыняла крыжакам шлях да межаў Наўгародскай рэспублікі.

Смерць Вячкі і ягоных вояў, аднак, не была дарэмнай: подзвіг беларускага князя натхняў рускіх і беларускіх воінаў на Чудскім возеры і ў далейшай барацьбе з ордэнам.

## *Леанід ЦЫГАНКОЎ*

# ПАЛКАВОДЗЕЦ, ВОІН, ГЕРОЙ...

## (ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КЕЙСТУТ)

### УКРАДЗЕНАЯ ГІСТОРЫЯ

Некалі я быў курсантам вайсковай вучэльні, і на ўроку па гісторыі ваеннага майстэрства адзін з выкладчыкаў знаёміў нас з архітэктурным помнікам «Тысячагоддзе Расіі», які размешчаны ў цэнтры Ноўгарадскага крамля.

У паўночнай частцы гарэльефнага фрыза, прысвечанага раздзелу «Ваенныя людзі і героі», пададзены славутыя рускія палкаводцы. Усяго іх 36. Сярод іх — Аляксандр Неўскі, Ярмак, Аляксандр Сувораў, Міхаіл Кутузаў. Побач з Дзмітрыем Данскім «палкаводзец, воін, герой, князь

Брэсцкі, Гродзенскі, Трокскі, вялікі князь літоўскі Кейстут (Кейстуціс)».

Даўшы кожнаму сціслую характарыстыку, выкладчык сказаў, што Кейстуту належыць вялікая заслуга. Гэта ён удасканаліў вайсковую справу, зрабіўшы яе ледзь не мастацтвам. Ён распрацаваў стратэгію і тактыку бою дзеля адбіцця крыжацкай навалы з нашых земляў. Ён стварыў перадавое па тым часе фармаванне і падрыхтоўку войскаў, якія дазволілі за 18 гадоў да Кулікоўскай бітвы разбіць татараў ля Сініх вод (1363 г.).

Прайшло дваццаць гадоў. Мне пашчасціла наведаць горад Тракай і агледзець замак. Цэнтр горада перасякае вуліца Кейстуціса. Гэтая назва мне нічога не казала, і я пацікавіўся ў экскурсавода, хто гэты чалавек, чыім імем названа вуліца. Мне сказалі, што гэта нацыянальны герой літоўскага народа, вялікі князь літоўскі. Што пасля смерці свайго бацькі Гедыміна ён атрымаў у валоданне Тракай і Жамойць. Тут нарадзіліся яго дзеці.

Тады мне не прыйшло ў галаву звязаць у адно вялікага рускага палкаводца XIV стагоддзя Кейстута з вялікім літоўскім палкаводцам XIV стагоддзя Кейстуцісам.

Напярэдадні Новага 1991 года мне давялося быць у Вільнюсе. У кнігарні купіў карту, дзе значная частка тэрыторыі Беларусі ўваходзіла ў склад Літоўскай Рэспублікі. Я пацікавіўся, на якой падставе сцвярджаюць, што Полацк, Віцебск, Брэст, Гродна, Ашмяны лічацца літоўскімі гарадамі і там жывуць продкі літоўцаў, а не беларусаў. Мне растлумачылі, што продкі Гедыміна звязаны з княжымі родамі Полацка, Віцебска, Смаленска. А землі Валыні ад Ковеля, частка цяперашняй Брэсцкай вобласці і Гродзенская складалі родавыя землі Кейстуціса.

Я ўжо чытаў працы Анатоля Грыцкевіча, Міхася Ткачова, Міколы Ермаловіча, Алега Трусава, Уладзіміра Арлова, Леаніда Дайнекі, Кастуся Тарасава, Віктара Чаропкі, глядзеў тэлеперадачы «Спадчына», якія так хораша вяла Вольга Іпатава, і, вядома, пагадзіцца з гэтым не мог.

Так, гісторыя Беларусі абкрадзена. Яе абкрадвалі ўсе. Вялікага палкаводца, слаўнага сына і патрыёта беларускай зямлі Кейстута літоўцы свядома перахрысцілі ў Кейстуціса.

У сваю чаргу рускія цары, у сваіх мэтах і зыходзячы з таго, што Кейстут славянін, да таго ж яго маці — руская князёўна Вольга, а войскі пад яго кіраўніцтвам выгналі тэўтонаў з Ноўгарадскай і Пскоўскай земляў, назвалі яго

героем Расіі. Ён атрымаў права быць увасобленым на такім пачэсным мануменце Айчыны, якім з'яўляецца мемарыяльны помнік «Тысячагоддзе Расіі».

Больш таго, я не магу пагадзіцца з буйнейшым рускім гісторыкам В. Ключэўскім, які піша, што літоўскія князі падпарадкоўваюць сабе раз'ядананыя княствы заходняе Русі. Гэтая Русь са сваімі князямі не зрабіла асаблівага супраціву Літве, якая вызваляла яе ад татарскае няволі. Якраз наадварот. Тут вялікая фальсіфікацыя гісторыі Беларусі. У Вялікім княстве Літоўскім князі маюць старажытнаславянскія імёны і паходзяць са славянаў. Літоўцы і татары не заваёўвалі старажытныя беларускія землі.

## СУПРАЦЬ КРЫЖАЦКАЕ НАВАЛЫ

У канцы XII стагоддзя пачалася нямецка-рыцарская агрэсія ў Прыбалтыцы. У 1250 г. па закліку рымскага папы быў зарганізаваны крыжовы паход з мэтай скарэння ліваў. На наступны год быў пабудаваны горад Рыга, які зрабіўся апірышчам агрэсараў. Народы Прыбалтыкі з усяе моцы змагаліся супраць заваёўнікаў.

Па ўзоры крыжовых паходаў у Малую Азію ў 1202 годзе ў Прыбалтыцы ствараецца Ордэн мечаносцаў, які ўтрымлівае пастаяннае рыцарскае войска і якое ў 1208 г. разбіла ліваў, а к 1228 г.— і эстаў. Адначасова нямецкія рыцары распачалі наступ на землі Вялікага Ноўгарада, Полацка, Пскова. Ап'янелыя поспехамі, у 1236 г. мечаносцы задумваюць крыжовы паход супраць Літвы. Але барацьба для іх аказалася не па сілах. Пры пасрэдніцтве папы мечаносцы вымушаны былі аб'яднацца з Тэўтонскім ордэнам і сталі ягонай філіяй пад назваю Лівонскі ордэн.

Пры Гедыміне, бацьку Кейстута, барацьба з крыжакамі ішла з пераменным поспехам. У баі загінуў і сам Гедымін, бароначы адну з літоўскіх крэпасцяў у 1341 годзе.

Пасля смерці Гедыміна літоўскія князі чатыры гады дзейнічалі самастойна. Найбольш значны ваенны паход ажыццявіў Кейстут разам з братам Альгердам, калі прагналі рыцараў Лівонскага ордэна з пскоўскай зямлі. Надалей асноўная барацьба з крыжакамі легла на Кейстута, якому належала заходняя частка Вялікага княства Літоўскага. Землі, дзе жылі продкі сучасных літоўцаў, складалі толькі дзесятую частку ў княстве, астатнія ж дзевяць

дзесятых былі беларускія. Відавочна, адсюль асноўная барацьба з варожай навалай легла на плечы нашых продкаў, а не на літоўцаў.

У 1345 г. Кейстут прыходзіць да высновы, што нашэсце крыжакоў могуць спыніць толькі аб'яднаныя намаганні ўсіх літоўскіх князёў гедымінавага роду пад уладай аднаго вялікага князя. Ідэю падтрымаў брат Альгерд. У тым жа годзе Кейстут займае Вільню, дзе княжыў малодшы сын Гедыміна Яўнут, і запрашае на вялікае княжанне Альгерда. Зазначым, што пасля смерці бацькі браты жылі дружна і дзейнічалі згодна, ставячы на першае месца інтарэсы другога.

Альгерд сваю палітыку скіраваў на аб'яднанне асобных земляў былой Кіеўскай Русі. Пад яго кіраўніцтвам войскі ліцвінаў вызвалілі Украіну ад прыгнёту татарскай Залатой Арды. Яго ваяры дайшлі да Чорнага мора. Кіеўшчына, Валынь і Падолле былі далучаны да Вялікага княства.

Кейстут жа цалкам прысвяціў сябе ахове заходніх межаў гаспадарства. Баючыся ўмацавання аб'яднаных сілаў ліцвінаў, Тэўтонскі ордэн спешна і велізарнай колькасцю рушыў на нашы землі. Войскі на чале з Кейстутам перапынілі захопнікаў, а потым напалі на Лівонію і захапілі Рыгу. На пачатку 1348 года магістр ордэна, сабраўшы саракатысячнае войска, зноў робіць набег на гістарычную Беларусь. 2 лютага 1348 г. шыхты з Брэста, Віцебска, Смаленска і Полацка, якімі камандаваў Кейстут, ушчэнт разбіваюць варожую пошасць. Летапісы адзначаюць, што ўратаваліся тыя, хто бягом пакінуў поле бою...

Стала зразумела: Кейстута ў баі не перамагчы. Яму прапаноўваюць прыняць хрысціянства, узамен абяцаюць вечны мір і спакой ягонаму княству. Асабліва актыўна такія перамовы вяліся ў 1358 годзе.

Кейстут — дыпламат, ён выяўляе сябе мудрым і дальнабачным палітыкам. Ён абапіраецца на завет свайго бацькі Гедыміна. Прыняцце каталіцкай веры не захавае Літву і Беларусь ад націску крыжакоў. Наадварот, праз каталіцкую веру немцы праводзяць сваю захопніцкую палітыку і ажыццяўляюць свае палітычныя інтрыгі. Кейстут адказаў: ён шануе веру і звычаі бацькоў, але ён паважае і чужую веру. Вера ягоных продкаў — паганская, і ён адданы ёй. Ён не мае нянавісці да католікаў, але гэта вера іншага народа.

Аднак ён гатовы быў адмовіцца ад паганства і прыняць хрышчэнне. Умовы вылучаў наступныя: тэўтоны вяртаюць

славянам захопленыя землі. Тэўтоны перасяляюцца на ўскраінныя землі Арды і бароняць рускі народ ад татара-манголаў. Крыжакі адказалі: такія ўмовы яны выканаць не могуць. Усё заваяванае — іх уласнасць, яна належыць ім як пераможцам.

У жыцці Кейстута былі і чорныя дні. У сакавіку 1361 г. ён быў захоплены ў палон. Трымаўся мужна, як патрыёт, і адмовіўся падпісаць дакумент, паводле якога частка Літвы (Жамойць) мусіла перайсці пад уладу Ордэна.

З палону ён збег. У помсту за гэта крыжакі ўзмацнілі агрэсію і ў 1362 г. штурмавалі замак у Коўне. Замак барапіла дружына Кейстутавага сына — Вайдата, бараніла па-геройску. У жывых заставалася 36 чалавек, але воіны не здаліся. Калі пачаўся пажар, пайшлі на прарыў праз шчыльныя крыжацкія ланцугі.

Кейстут разумеў, рака Нёман — найгалоўная артэрыя, і пачаў ствараць апорныя пункты на яе берагах. Тут яго-нае вайсковае майстэрства выявілася ва ўмелым выкарыстанні асаблівасцяў мясцовасці, у стварэнні сістэмы варты, у новай архітэктуры крэпасцяў-замкаў. Ён пачаў будаваць умацаванні з двух частак: замка — з памяшканнем для воінаў і зброі і ўмацаванага прыгарада дзеля абароны мірнага насельніцтва.

Частыя набегі тэўтонаў не давалі людзям спакойна жыць і працаваць. Як спыніць іх наступ? Кейстут прапаноўвае вялікаму князю нанесці ўдар па галоўнай ордэнскай крэпасці — Кенігсбергу. Паход адбыўся ў 1370 г. Ішлі асобнымі сцежкамі, абмінаючы на шляху мястэчкі і вёскі, не захопліваючы, не рабуючы. Магістр ордэна, атрымаўшы звесткі пра дзіўныя паводзіны ліцвінаў, разгадаў манеўр. Быў дадзены загад усім паспяшацца на дапамогу Кенігсбергу.

17 лютага 1370 г. войскі Альгерда ля Рудаву (цяпер Мельнікава), за 18 кіламетраў на поўнач ад Кенігсберга, былі атакаваныя буйнымі крыжацкімі сіламі. Калоны Кейстута таксама неслі страты.

Мы не ведаем, што казалі, звяртаючыся да воінаў перад боем, Альгерд і Кейстут. Верагодна, гэта былі словы пра радзіму, пра незалежнасць і волю, заклік не пасараміць славы продкаў і не аддаць у рабства крыжакам сваіх мацярок, каханых, дзяцей...

Перамога дасталася братам. Перадышка доўжылася сем гадоў. Яна была скарыстаная на эканамічнае і куль-

турнае развіццё. Кейстут яшчэ ў 1342 г. заключыў гандлёвае пагадненне з Англіяй, згодна з якім ангельцы атрымалі права на свабодны ўезд у Княства. Цяпер падобнае пагадненне было заключана з Масквою. Маскоўскі князь Дзмітрый і вялікі князь літоўскі вызначалі, што «гандлярам шлях чысты» з абодвух бакоў.

## МАЙСТЭРСТВА ПАЛКАВОДЦА

Што ж забяспечвала Літве поспех у барацьбе з ворагамі? Найперш — правільная ўнутраная палітыка, якую праводзілі Альгерд і Кейстут. Яна была скіраваная на аб'яднанне сіл усіх земляў княства, на прадухіленне княскіх міжусобіц, на эканамічнае развіццё. Знешняя палітыка мела на мэце засцерагчы славянскія землі ад чужаземных захопнікаў.

Гісторыкі падлічылі, што з 1345 г. па 1377 г. тэўтоны нападалі на Літву 70 разоў, а лівонцы — 30. Атрымліваецца на 33 гады валадарання 100 буйных паходаў. А былі ж і маленькія... Аднак і Кейстут рабіў паходы ў адказ. Праўда, радзей: на Тэўтонскі ордэн — 30 разоў, на Лівонскі — 11. Адстойваючы незалежнасць дзяржавы, Кейстут удасканаліў вайсковую арганізацыю. Ён спыніўся на стварэнні лёгкаўзброенай кавалерыі — і невыпадкова. Былі ўлічаны прыродныя ўмовы і ўзбраенне рыцарскай конніцы. Месцы, дзе ішлі баі, былі балоцістыя і лясістыя. Лёгкія кавалерысты маглі шырока манеўраваць, і ў гэтым заключалася іхняя перавага над цяжкаўзброенымі рыцарамі.

Рыцары мелі даспехі, якія ахоўвалі іх ад стрэлаў, мяча і дзіды. Агульная вага толькі латаў (без зброі) аднаго рыцара сягала 60 кілаграмаў. Часта рыцар быў так закуты ў «жалеззе», што на ягоным целе не заставалася ніводнага незакрытага сантыметра. У бітве пры Бувінэ французскі кароль Філіп Аўгуст быў скінуты з каня, але ворагі не знайшлі ніводнай дзірачкі, ніводнае шчылінкі ў яго амуніцы, праз якую можна было б дастаць караля нажом або шылам. Доўга шукалі яны такога месца, раіліся, як забіць рыцара, а тым часам падаспела дапамога і вызваліла караля...

Для абароны ад зброі праціўніка воіны Кейстута мелі асаблівыя прадметы экіпіроўкі. Аснову яе складала кальчуга (у іншых крыніцах — кашуля) з колцаў. Колцаў было прыкладна 20 тысяч, а важылі ўсе ахоўныя даспехі каля

16 кілаграмаў. Параўнайце: 60 і 16 кілаграмаў. Адсюль лёгкасць і спрыт, манеўранасць, хуткасць пераходаў, магчымасць ваяваць на балоцістай мясцовасці, прабірацца праз гушчар. Неад'емнай якасцю кожнага вершніка было ўменне секчы як левай, так і правай рукою, страляць з лука, калоць і выбіваць ворага з сядла, бараніцца зброяй і прыкрывацца шчытом, спрытна скакаць, плаваць, бароцца.

Тактыка войска Кейстута залежала ад мэтаў і віду паходу або ад моцы наступаючых крыжакоў. На вайне шырока скарыстоўваліся «падсады», «засады», «западныя рацi» дзеля нечаканага нападу на ворага. У адкрытых бітвах ліцвіны мелі строй у тры шарэнгі. Стараліся нападаць нечакана, неўспадзеў, заманіць ворага ў цясніну і, адначасова атакуючы з розных бакоў, знішчыць.

Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што ў войсках рускіх і літоўскіх княстваў вялікую вагу мелі «сцягі» і ваенная музыка. Мне асабіста не ўдалося сустрэць дакументаў, дзе даецца адказ, якія былі сцягі. Зыходзячы з гістарычных традыцый беларусаў, [redacted] магу выказаць меркаванне, што воіны Кейстута мелі разнастайныя бубнавыя інструменты, сапілкі, дудкі, ражкі. Вядома, напрыклад, што ў паходзе супраць камскіх балгар у 1220 г. рускае войска мела трубы, бубны, сурны і сапелі.

Кейстут сачыў за развіццём ваеннай справы за межамі і стараўся ўсё лепшае, карыснае ўкараніць у сваёй арміі. Так, у 1382 г., штурмуючы Юрбаркскі замак, ён выкарыстаў бамбарды — прататыпы сучасных артылерыйскіх гармат.

Ствалы бамбардаў рабіліся з жалезных палосаў, сцягнутых металёвымі колцамі і ўкладзеных у драўляныя калодкі. Снарадамі служылі камяні вагою 300 — 400 грамаў. Адлегласць палёту складала 700 метраў.

Баявыя дзеі Кейстута падарвалі эканамічную і ваенную моц крыжакоў і спрыялі яго сыну Вітаўту разбіць на Грунвальдскім полі (1410 г.) тэўтонскіх рыцараў, спыніць націск германцаў на пяць стагоддзяў. Кейстут становіцца гонарам народа. Яго аўтарытэт бязмежны ў Вялікім княстве Літоўскім. Яго ведаюць і паважаюць ува многіх краінах Еўропы. Кіраўнікі Ордэна называлі яго ідэальным воінам, высакародным і сумленным. У сорак гадоў ён стварае сям'ю. Жонка Бірутэ нарадзіла яму трох дачок і трох сыноў. Дзяцей ён выгадаваў сапраўднымі патрыётамі. Яны з годнасцю працягвалі ягоную справу. Вітаўт у 1392—

1430 гг., а Жыгімонт у 1432—1440 гг. былі вялікімі князямі Беларуска-літоўскай дзяржавы.

Я пісаў пра Кейстута і думаў: якому народу ён належыць? Рускім, украінцам, беларусам, літоўцам?

Французскія гісторыкі называюць Карла Вялікага сваім нацыянальным героем, а нямецкія — сваім. Карл Маркс адзначыў, што дзяржава франкаў папярэднічала ўзнікненню Францыі, Германіі і Італіі. З такой метадалагічнай пасылкі і трэба зыходзіць пры вызначэнні ролі князя літоўскага Кейстута.

Кейстут належыць некалькім народам. Паходжання ён славянскага, аснову ягоных войск складалі славяне. Яго дзейнасць распаўсюджвалася на гістарычную Беларусь. Што да перайменавання яго імя з Кейстута ў Кейстуціса, то гэта не робіць гонару літоўскім гісторыкам ды іншым фальсіфікатарам. Тым больш сам Кейстут лічыў сябе ліцвінам-славянінам, ■ не літоўцам-балтам.

# *Пятро БІТЭЛЬ*

## БАРАЦЬБА ЗА СМАЛЕНСК

Гісторыя Смаленска сягае далёка ў глыб мінулых стагоддзяў. Назва гэтага горада ўпершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 862—865 гг. Каля 882 г. Смаленск быў уключаны ў Кіеўскую Русь, а ад першай паловы XII ст.— цэнтр самастойнага княства.

У 1395 г. заваяваў гэты горад наш славуты князь Вітаўт, але ён уладарыў там толькі 6 гадоў — адваявала Смаленск Масква. Праз два гады горад зноў быў далучаны да Вялікага княства Літоўскага і прабыў у яго складзе 37 гадоў. У 1514 г. заняў горад і большасць земляў былога княства Іван Строгі. На гэты раз Смаленск знаходзіўся пад уладай Масквы амаль цэлае стагоддзе. У 1611 г. пасля доўгай аблогі горад заваявала армія Рэчы Паспалітай.

Смаленск быў важным фарпостам на пагранiччы дзвюх дзяржаў, а таму як Масква, так і Рэч Паспалітая вельмі ім даражылі. А калі маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч заявіў свае прэтэнзіі на Смаленшчыну, Варшава захвалявалася, і на вясновым, 1654 г., сейме шляхта прагаласавала за

рэзалюцыю пад назвай «Securitas Smolenska», якой сцвярджала, што Смаленск — неад'емная частка польска-літоўскай дзяржавы. Адначасова было пацверджана рашэнне ўмацоўваць і абараняць горад-крэпасць, а яго грамадзянам і паслам даваліся значныя прывілеі.

У 1653 г. пасля смерці віленскага ваяводы Кішштафа Хадкевіча кароль Ян Казімір зрабіў перамяшчэнне ваяводаў: пост сталічнага ваяводы ён аддаў польнаму гетману Вялікага княства Літоўскага Янушу Радзівілу, смаленскага ваяводу Юрыя Глябовіча пасадзіў на Жамойцкае ваяводства, у Смаленск назначыў віцебскага ваяводу Паўла Сапегу, а на яго месца хацеў паставіць Піліпа Абуховіча. Аднак хітры Сапега змог адмовіцца ад перамяшчэння, і смаленскім ваяводам стаў Абуховіч.

Чарговы семнаццаты смаленскі ваявода Піліп Казімір Абуховіч прыбыў у горад 21 снежня 1653 г. Гэта быў кансерватар без прадбачлівасці, без быстрыні і рыцарскага запалу — тып дамаседа, аматар спакою і міру. Сваю кар'еру ён пачаў паслом, якога пачаргова выбіралі ад мсціслаўскага, наваградскага, смаленскага і мазырскага рыцарскага круга. Лістападаўскі сейм 1649 г. стаў важным момантам у ягоным жыцці. На пост прыдворнага маршалка Вялікага княства Літоўскага, пасля смерці Антона Тышкевіча, кароль паставіў Дзяржаўнага пісара Завішу, а пісарам літоўскім прызначыў Абуховіча. Старанні Завішы пакінуць на сваім крэсле сына не мелі поспеху. У наступным годзе Абуховіч стаў членам камісіі па вайсковых фінансах і прымаў удзел у пасольстве ў Маскву, якое ўзначальваў кашталян Вялікага Княства Станіслаў Вітоўскі.

Супраць новага ваяводы з абурэннем выступіў мсціслаўскі падкаморы Пётр Вяжэвіч, які лічыўся смаленскім падваяводзічам і прэтэндаваў на ваяводскае крэсла. Гэта быў чалавек саманадзейны, лёгкі да спрэчак і інтрыган. Ён пачаў падбухторваць супроць Абуховіча сенатараў, шляхту і жыхароў горада, карыстаючыся часта, мякка кажучы, нешляхетнымі метадамі. Напісаў Абуховічу некалькі абразлівых пісьмаў, у якіх папярэджваў яго не з'яўляцца ў Смаленск, «бо яго там не хочуць бачыць».

Аднак пагроза вайны з боку цара Аляксея змусіла смалян прасіць новапрызначанага ваяводу прыбыць і ўзначаліць арганізацыю ўмацавання горада. Пры ўездзе яго ўрачыста сустракалі гараджане, духавенства і войскі гарнізона на чале з палкоўнікам Корфам. Толькі Вяжэвіч

і далей ставіўся да Абуховіча варожа і ключы ад замка перадаў не яму, а Корфу.

Новы ваявода застаў Смаленск спустошаным, народ ушчэнт збяднелым. Горад-крэпасць — у жахлівым становішчы. У інвентарызацыі, зробленай пры першым знаёмстве з горадам, сказана:

«Брамы з трэшчынамі, масты дзіравыя, дахі гнілыя, муры моцна пашкоджаныя, вежы параскрываныя, памосты папсаваныя... з аднаго боку замка шмат даху сарвала віхура, у многіх вежах няма сходкаў на вышэйшыя паверхі. З ліку 34 вежаў цалкам у руінах — 5...» «...На вежах і мурах — 42 гарматы, пераважна дробнага калібру — шасці- і чатырохфунтовыя, некалькі дзесяці- і дванаццаціфунтовых, адна пятнаццаціфунтовая. Дзве найбольшыя — саракафунтовая «Вітаўт» і пяцідзесяціфунтовая «Базылішак» — ляжаць на зямлі...»

У цэхгаўзе было: «...14 паўтарафунтовак, пораху маскоўскага фас вялікіх і малых 77, мала каторая з іх поўная, больш за дзесяць бочак іншага пораху, серкі і салетры; куль жалезных рознага памеру 15 600, побач на зямлі ў кучах алавяныя кулі для мушкетаў, ракеты і гранаты...»

Людзей, здольных да абароны горада і замка, аказалася не больш як 3500 чалавек. У першую чаргу неабходна было аднавіць умацаванні, і з наступленнем вясны пачаліся інтэнсіўныя работы. Абуховіч кіраваў усім асабіста і самаахвярна. На жаль, не на ўсім знаўся, таму праца выконвалася не заўсёды як трэба, нават дапускалася з боку падрадчыкаў ашуканства. Такім чынам, выдзеленыя на рэстаўрацыйныя мерапрыемствы 60 000 злотых траціліся неэфектыўна і нават марна.

Аднак перад з'яўленнем маскоўскай арміі ўсе жыхары горада і ўсе ваенныя заўзята працавалі на насыпах, мурах і вежах. Гарнізонам замка камандаваў палкоўнік Корф, а гарадскімі атрадамі — земскія ўрадоўцы і афіцэры.

Хоць смаленскі ўладыка Андрэй Квасцеўскі быў шчырым прыхільнікам Рэчы Паспалітай, праваслаўным жыхарам не было даверу, і па ініцыятыве езуітаў у іх адабралі зброю.

Аблога Смаленска пачалася 8 ліпеня 1654 г. Маскоўскай арміяй камандаваў асабіста цар Аляксей Міхайлавіч. Пасля таго як Абуховіч адмовіўся ад прапанаванай яму мірнай капітуляцыі, пачалася бамбардзіроўка горада. Ад першых магутных маскоўскіх гармат муры пачалі крышыцца і развальвацца. Гарадской артылерыяй камандаваў

Тызенгаўз, але ён не мог даць адпаведнага адпору сваёй намнога слабейшай агнявой сілай. У горадзе з першых дзён аблогі пачала расслабляцца дысцыпліна, гараджане сталі адмаўляцца абараняць найбольш пашкоджаныя муры. Не абышлося і без дэзерцірства, прычым адным з першых, зняверыўшыся ў паспяховасці абароны, уцёк найлепшы пушкар. А каб здабыць ласку цара, ён паказаў яму найслабейшыя пункты абароны. Відаць, скарыстаўшы гэтую інфармацыю, маскоўскае камандаванне прыступіла да генеральнага штурму. Праз разбіты мур уварваўся ў горад вялікі атрад маскалёў, якія пачалі вывешваць свае харугвы. Абаронцы змагаліся адважна, нават вырваліся за мур і адагналі ворага «на трое гоняў». Так быў адбіты першы штурм, а пазней іх было мноства з розным вынікам.

Пасля адной вылазкі чатырохсот чалавек пад камандай Плятара, калі смаляне мусілі адступіць, страціўшы 36 жаўнераў, Вяжэвіч са сваімі сябрамі накіраваў канцлеру ў Вільнюс данос, у якім, між іншым, пісаў:

«...Абуховіч, ні з кім не парадзіўшыся, выпусціў на маскалёў 200 чалавек з абухамі, кіямі і бердышамі, не даўшы ім агнястрэльнай зброі, баючыся, што вораг можа яе адабраць. Ваявода загадаў уцякаць, як будзе цяжка, пад мур. У гэтай вылазцы загінула 70 чалавек, а рэшта ледзь трапіла ў брамы...»

Каля Жалезнага шанца былі закладзены міны і, калі там распачалася бітва, ад выбуху загінула некалькі соцень воінаў з абодвух бакоў, была разбурана вежа і вялікая частка абарончага муру. А калі пад ударамі маскоўскіх гармат рухнула Круглая вежа, сітуацыя абаронцаў вельмі пагоршылася, прыйшлося весці рукапашныя баі амаль бесперапынку.

Самыя жорсткія штурмы адбыліся 28 і 29 ліпеня. 180-фунтовыя гарматы крушылі мур, разбуралі будынкі, збівалі вежы. У горадзе запанавала сапраўднае пекла, бо вораг, апроч артылерыйскіх куль, сыпаў на абаронцаў град «мушкетных куль, і рэдкі быў дом, якога куля не дасягнула...», «усе кляштары пастраляныя, алтары паразбіваныя, крыжы пазбіваныя...», «такая трагедыя трывала бесперапынку «Per augustum» (Праз увесь жнівень).

З пачатку жніўня маскалі павінны былі адступаць з шанцаў, якія нарыхтавалі ўздоўж Дняпра,— іхні начны штурм адбіла смаленская пяхота. 10 жніўня супроць адной з брам паўстаў «гуляйгорад», з якога цэлы дзень вялася бамбардзіроўка. Абложаныя адбіваліся як маглі, але ад

няспынных атак друзам сталі яшчэ дзве вежы, у муры ўтварыліся вялікія праломы. Асабліва страшным аказаўся дзень 26 жніўня.

Выкарыстаўшы праломы ў абарончых сценах, каля 12 гадзін ночы ўзабраліся маскалі па наваленым друзе на мур. Спачатку ніхто ім не перашкодзіў, бо вартавыя, стомленыя і амаль заўсёды п'яныя, спалі на сваіх пастах мяртвяцкім сном. Стральцы сцягнулі іх на ніз і, замест таго каб кінуцца адразу на замак, заселі ў вежы, чакаючы сігналу, і прамарудзілі там тры гадзіны. На пададзены знак кінуліся з крыкам на кватэры, а іншыя з вежы, махаючы сцягам, страляючы і кідаючы цаглінамі, крычалі: «Наш горад!»

Доўга цягнуўся бой, абаронцы вельмі змагліся, некаторыя паўцякалі пад масты, а «ў тых, што адважна абараняліся, так распаліліся стрэльбы, што нельга іх было зараджаць, бо порах адразу ўспыхваў». Сітуацыю ўратавала самаахвярнасць і адвага Абуховіча, які высоўваўся на пярэдні край, хоць і «атрымаў траўму — у яго трапіла цагліна». Падбітым цаглінай аказаўся і палкоўнік Корф.

Вораг быў адкінуты з Вялікага вала і з мура каля Вуглавой вежы, але там загінула некалькі соцень змагароў. А ў іншым месцы пагражала яшчэ большая небяспека. Цар, назіраючы з Пакроўскай гары, кінуў некалькі тысяч сваіх стральцоў на Каралеўскую браму. Яны высеклі ахоўны палісад і па 400 драбінах пачалі ўзбірацца на мур. Пры абароне гэтай брамы адзначыўся паручнік Осцік на чале мяшчанаў. Яму самаахвярна дапамагалі жанчыны, ліючы з муроў кіпень, скідаючы попел, каменне, цэглу і палены. Маскалі панеслі тут вялікія страты і былі змушаны адступіць. У адным месцы, калі не хапіла зброі, абаронцы скінулі на ворага дзве калоды з пчоламі. Зацятыя баі ішлі каля збітай вежы і разваленага муру. Абуховіч накіраваў туды ротмістра Оўруцкага, але яго адразу параніла, тады яго замяніў палкоўнік Корф, якому прыйшлося адбівацца ўжо на мурах. Людзі канчаткова стаміліся, зброя распалілася так, што немагчыма было з яе страляць, і пачалася паніка, якую не мог стрымаць і адважны палкоўнік. У гэты час маскалі ўсцягнулі на мур дзве гарматы: загінулі лепшыя смаленскія пушкары, і здавалася, што ўжо нішто не ўратуе горад, але на вежы ўзарваўся прынесены непрыяцелем порах, і наступленне страціла сілу. Інжынер Байноліч з рыцарамі выбілі астаткі ворагаў з муру, а Тызенгаўз агнём гармат ачысціў насыпы. Страты з абодвух бакоў

былі велічэзныя. Шмат параненых памерла ад атручаных куль, мноства загінула пад цэглай і каменнем.

У выніку гэтых баёў утварыліся вялікія праломы ў сценах крэпасці і ў вежах, выйшлі са строю шматлікія гарматы, пагарэла і паразвальвалася безліч дамоў. Людзей, здатных да абароны, засталося менш як 2000, пораху — каля 9000 фунтаў. У наступныя дні шляхта на чале з Корфам пачала адмаўляцца абараняць крэпасць там, дзе былі развалены вежы і муры. Абуховіч нерваваўся, яго адносіны з Корфам значна пагоршыліся.

Панёсшы асабліва вялікія страты, усе патрабавалі адпачынку, баі былі спынены на тры дні. У гэты час бакі абменьваліся палоннымі, хавалі забітых. Адначасова да абаронцаў дайшла вестка, што гетман Радзівіл пацярпеў ад казакаў паражэнне, і як доказ гэтага — пад муры Смаленска было прыведзена шмат палонных з ягонай арміі. Абуховіч дазволіў з імі сустрэцца, і іхняя інфармацыя адмоўна падзейнічала на стойкасць абаронцаў. Упадніцкія думкі і настроі перш з'явіліся ў вярхах, простыя ж людзі спачатку трымаліся непахісна.

Ваявода непакоіўся штораз больш: надзея, хоць і невялікая, на дапамогу Радзівіла развеялася, абаронцаў станавілася з кожным днём менш, і цяжка было абставіць мур, які цягнуўся на паўтары мілі. Неспакойная была і ўся каманда, якая разумела безвыходнасць становішча. Адзін толькі смаленскі падкаморы, князь Самуіл Станіслаў Друцкі-Сакалінскі, не траціў мужнасці і заклікаў да змагання. Да яго на нараду сабраліся 30 жніўня ўсе камандзіры, дзе Абуховіч раскрыў слабыя бакі абароны крэпасці, наракаў на «вялікую грамадзян безадказнасць і пастаяннае п'янства», хоць у тым была і яго немалая віна. Ён замала праяўляў энергіі, не ўтаймоўваў недысцыплінаваных, не расправаўляўся са здраднікамі і буянамі, сярод якіх найбольш нахабнымі былі, апроч славутага Вяжэвіча, Галімонт, Уніхоўскі, малады Друцкі-Сакалінскі і іншыя. На нарадзе выступалі некаторыя са шляхты за бескампрамісную барацьбу. Адным з такіх быў Данісевіч, які казаў, што «ёсць яшчэ і людзі, і ёсць порах». А шляхціц Міладоўскі, пачуўшы на нарадзе ўсю праўду, так напалохаўся, што зараз жа спусціўся з муру і ўцёк.

Езуіты і іншыя прадстаўнікі каталіцкага духавенства ўпрошвалі ваяводу не здаваць горад, але ён ім адказваў: «Лепш толькі замак страціць, чым увесь народ гэты, які, штурмам горад узяўшы, маскалі ў пень высекуць». А тым

часам у горадзе пачаліся сярод простых людзей бунты і масавае дэзерцірства. Здрадзіла некалькі афіцэраў, і на бок цара перайшоў полк нямецкай наёмнай пяхоты. У выніку гэтага ў горад уварвалася некалькі маскоўскіх палкоў.

У такой сітуацыі заставалася або загінуць са зброяй у руках, або капітуляваць. 29 верасня ваявода падпісаў акт аб здачы горада, а 3 кастрычніка а 14 гадзіне выязджаў конна з брамы, замыкаючы доўгі абоз пераможаных. Цар са сваёй світай на конях стаяў перад брамай і наглядаў за гэтай сумнай працэсіяй.

Калі ваявода наблізіўся да яго на які дзесятак крокаў, яму і ягоным спадарожнікам было загадана скласці зброю і нізка кланяцца цару. Пасля таго Аляксей Міхайлавіч уручыў Абуховічу пісьмо да караля і сказаў: «Ідзі, гультай, і раскажы свайму каралю, якое ты бачыў войска і ў якіх быў пераплётах».

Абуховіч адышоў з часткай грамадзянаў, пакінуўшы разваленую крэпасць і цалкам знішчаны горад, у якім засталіся лічаныя жыхары. У ліку афіцэраў, што здаліся на ласку цара, аказаўся і палкоўнік Корф, які адважна ваяваў, але ўвесь час недалюбліваў Абуховіча, часта падрываючы ягоны аўтарытэт.

Вароты ў Рэч Паспалітую аказаліся адчыненымі, з'явілася патрэба знайсці вінаватага. Спачатку большасць вінаваціла гетмана Радзівіла за тое, што не дапамог Смаленску, што не адказваў на пісьмы ваяводы, што няўдала вёў кампанію супроць казакаў і г. д., аднак пасля ўсю віну ўсклалі на аднаго Абуховіча. Хтосьці пусціў чутку, што ён прадаў маскалям Смаленск за бочку золата, што здаўся маскалям пасля першага гарматнага стрэлу, і такім чынам яго імя пакрылі ганьбай здрады.

Радзівіл апраўдваўся пісьмом, якое напісаў у Менску 2. XII. 1654 г. і адрасаваў прымасу Ляшчынскаму, а Абуховіч, спыніўшыся ў Докшыцах, напісаў 25 кастрычніка «Акт пратэстацыйны» супроць стаўленых яму абвінавачанняў. Гэты акт пацвердзілі сваімі подпісамі 15 грамадзянаў, былых абаронцаў Смаленска. Гэта былі:

1. Ян Ваяводскі, суддзя смаленскай зямлі, 2. Станіслаў Уніхоўскі, падсудак смаленскі, 3. Аляксандр Парчэўскі, пісар земляў смаленскіх, 4. Каспар Глушынскі, 5. С. І. Баканоўскі, 6. І. Красоўскі, 7. Ян Нецяшэўскі, 8. Самуэль Лыка, 9. Ян Бака, 10. Ян Кароль Пасак з Гаславіц, 11. Габрыель Кіневіч, 12. Войцах Якубовіч, 13. І. Бжа-

зецкі, 14. Ваўжынец Пшавальскі, 15. Стэфан Давідоўскі.

Аднак у пару далейшых грозных падзей, калі вясной наступнага года цар Аляксей сумесна з казацкай арміяй, якой камандаваў атаман Залатарэнка, канчаткова разграміў войскі Радзівіла і Гасеўскага ды заняў Вільню, а пасля і амаль усю тэрыторыю ВКЛ; калі ўсю Польшчу, ці, як яе тады ў нас называлі, Карону, захапілі шведы, не было ні ахвоты, ні часу спыняць на тым акце ўвагу ні каралю, ні сейму.

Але ворагі не пакінулі яго ў спакоі і ў 1655 г. распаўсюдзілі славуты «Ліст да Абуховіча», напісаны ў з'едліва-сатырычным тоне. Аўтар гэтага пісьма, знеслаўляючы былога смаленскага ваяводу, адначасова крытыкуе грамадскія заганы ад імя прагрэсіўнай беларускай шляхты, якая нават праз сто гадоў пасля Люблінскай уніі марыла пра незалежнасць Вялікага княства Літоўскага.

Абуховіч яшчэ ў 1656 г. удзельнічаў у бітве супроць шведаў пад Варшавай. Памёр у 1657 г., пакінуўшы цікавы жыццяпіс пад загалоўкам «Дыярыуш», які мае гістарычнае значэнне.

І толькі ў 1658 г. сыны Абуховіча даказалі ў сейме Рэчы Паспалітай невінаватасць бацькі і гэтым самым у нейкай ступені яго рэабілітавалі.

# *Ірына* МАСЛЯНІЦЫНА

## СЛОВА ПРА ДРУЖЫНУ НЯСВІЖСКУЮ

Уставаў на досвітку князь Юрый Нясвіжскі, перад іконаю святою схіляў калені, крыжам асяняў сябе, надзяваў кашулю белую, у паход далёкі, цяжкі рыхтаваўся.

Выходзіла са святліцы сваёй пяшчотная княгіня, востры меч мужу падавала, тройчы ў вусны цалавала, твар ды рукі лады слязамі аблівала, на смяротны бой праводзіла.

Выязджаў князь Юрый Нясвіжскі з гарадскіх брамаў. Вёў за сабою храбрую дружыну прэч з родных мясцін у задняпроўскія стэпы. Далучацца там нясвіжцы да аб'яднанага войска рускіх князёў і сустрэнуцца з чорным татарскім воінствам, якое, бы Гасподзен гнеў, цячэ з бязмежных заходніх прастораў на славянскія землі.

Дробны дожджык запырскаў цёплымі кроплямі твары дружыннікаў. А сялянам сустрэчным здаецца, што гэта слёзы. Скупыя мужчынскія слёзы жалю і журбы.

Плача неба дажджом, плача трава ранішняю расою, плачуць бярозы светлым веснавым сокам. Не відаць больш дружыне княжацкай трапяткіх нясвіжскіх бяроз...

Запаволіўся час у Нясвіжы. Дзень стаў доўгім, як гук пахавальнага звону. Ноч стала бясконцай, як жаночае чаканне. І, хаваючы слёзы пад нізка апушчанымі вейкамі, павольна рушыць штодзень праз прыціхлы горад княгіня ў Божы храм маліцца за князя Юрыя.

Пакінулі Нясвіж слава і моц, радасць і песні разам з дружынай, што пайшла на бой. Не вярнуць слязамі і крыкамі Мужнасць у абдымкі Пяшчоты. Сіле і Гонару Нясвіжа напісана на раду легчы, як у ложак шлюбны, у зямлю задняпроўскую, змяшаць сваю кроў з халоднымі водамі Калкі...

Кліча княгіня да сябе ў святліцу старую вяшчунню. Вядзьмарка кідае ў любімы кубак князя залаты княгінін пярсцёнак. Схіляецца над кубкам княгіня. Пры цьмяным святле свечкі да болю ў вачах углядваецца ў ваду. І робіцца вада раптам чырвонай, як віно. Бачыць няшчасная жанчына ў ёй, як топчуць чужыя коні харугву Нясвіжскай дружыны, як кружаць сцярвятнікі над мёртвымі целамі, выдзёўбваюць вочы ў ратнікаў князя Юрыя. Чуе смех ворагаў, што балююць, і стогны паміраючых славянскіх воінаў, прыціснутых цяжкімі дошкамі, на якіх сядзяць татарскія мурзы. Быццам чайка беспрытульная, крычыць княгіня і падае без сіл на падлогу, бо сярод князёў, што ў пакутах канаюць пад дошкамі, і яе лада...

Няма больш у Нясвіжа абаронцаў. Закацілася зорка славы князя Юрыя...

* * *

Скрозь выпаленыя чорныя вёскі і вытаптаныя палі, праз згвалтаваную татарамі Русь ад Калкі ішоў ратнік. Погляд яго быў халодным і нетутэйшым, вусны выцягнуліся ў адну тонкую нітачку, твар — колеру зямлі. На грудзях ратніка зяяла рана. Яе нанесла кап'ё чужынца. Не сталі дабіваць пасля бойкі ратніка татары, бо гэтую рану палічылі смяротнай. Але нехта з іх каб зрабіць апошнія гадзіны нясвіжскага воіна больш пакутлівымі, паказаў яму ледзь жывога князя Юрыя.

— Паспрабуй дабрацца да Нясвіжа,— прахрыпеў князь.— Пацалуй родную зямлю за мяне і за ўсіх нас. Інакш душам нашым не будзе спакою... Абяцай гэта свайму князю.

І пацяклі слёзы па твары ратніка, бо ён не меў сіл, каб выканаць княжацкую волю. Бо ён паміраў...

Тройчы над полем бою ўзыходзіў месяц. Тры ночы пасля перамогі татар над пераможанымі балявалі ваўкі ды крумкачы. Тройчы схілялася над ратнікам бязвокая Смерць. Але толькіківала сумна галавою. На трэцюю ноч яна прарыпела:

— Ты ўжо мой. Але я не магу ўзяць цябе. Бо трымае цябе ў жыцці воля твайго князя і слова, якое даў ты яму, каб князь Юрый мог памерці спакойна. Уставай і ідзі, ратнік. Я даю табе адтэрміноўку.

І ўстаў ратнік. І, заціскаючы крывавую рану, крочыў. Кожны крок аддаваўся нясцерпным болем.

Поле бою дыхнула на яго смуродам смерці. Ваўкі разбягаліся пры яго набліжэнні. Сцярвятнікі з шумам узнімаліся ў паветра. Ратнік са смяротнай ранай на грудзях ішоў у бок Нясвіжа.

* * *

Княгіня прымала пострыг. Яе вочы аслеплі ад слёз, і яна не бачыла ні святара, ні полымя святых свечак. Пасля абраду яе вывелі да нясвіжцаў. І гараджане схіліліся перад тою, што была ў гэтыя дні ўвасабленнем іх суму і гора.

Яна не бачыла іх, але ўзняла руку для благаславення. І раптам замерла, адчуўшы тое, чаго не адчувалі відушчыя.

— Адчыніце брамы,— устрывожана сказала княгіня.

Нясвіжцы кінуліся да брамы, і ў горад увайшоў заліты крывёю ратнік.

З воклічам жаху адстараняліся ад страшэннага пасланца людзі, бо быў падобны ён на нябожчыка, які ўстаў з магілы.

Але сляпая княгіня не бачыла ні жудаснай раны, ні нежывога погляду ратніка. Яна працягнула да яго рукі, і вястун упаў перад ёю на калені.

— Княгіня,— прагаварыў ён,— я тут, каб перадаць табе апошняе «даруй» твайго мужа, каб сказаць нясвіжцам, што дружына наша білася слаўна і прыняла смерць з год-

насцю. А яшчэ я тут, каб пацалаваць родную зямлю, без гэтага не будзе спакою нам, мёртвым.

І лёг ратнік на зямлю, і дакрануўся да яе вуснамі. І скончылася тады адтэрміноўка, якую дала яму Смерць. Ускрыкнуў пасланец князя Юрыя і сціх назаўсёды.

Падышла да яго сляпая княгіня, апусцілася побач, дакранулася да мёртвага. І здарылася дзіва: цела ратніка знікла. На месцы ж, дзе толькі што ляжаў ён, з'явілася-вырасла магутнае дрэва — тапола. І тады вярнуўся зрок да княгіні, каб дзіва гэткае дало надзею яе сэрцу.

Ці праўда гэта — хто зараз скажа. Але старая тапола і да гэтага часу жывая. Расце яна ў цэнтры Нясвіжскага парку, які з'явіўся ў XIX стагоддзі вакол яе.

## *Міхась ТКАЧОЎ*

### ЯК СЛУЧАКІ ВАЯВАЦЬ ВУЧЫЛІСЯ

*(Урывак з кнігі «Замкі і людзі»)*

...Як і іншыя гарады Беларусі, Слуцк меў значнае мяшчанскае апалчэнне. Яно было самым буйным у параўнанні з іншымі ўладальніцкімі гарадамі і складалася з чатырох палкоў, якія фарміраваліся па месцы жыхарства. Найбольш шматлікімі лічыліся полк слуцкага войта і полк Яна Стрэльніковіча. У 1655 г. у іх налічвалася 10 соцень з 18, якія былі набраныя з жыхароў Старога горада. Полк, сфарміраваны з жыхароў Новага места, у колькасных адносінах раўняўся палку Астроўскаму. Жыхары Трайчанскага прадмесця складалі шостую сотню палка слуцкага войта. У асобныя сотні былі аб'яднаны сацыяльна неспакойныя элементы горада — «лёзные люди». У 1655 г. пад ружжом налічвалася 1800 чалавек гараджан, у 1681 г. у трох слуцкіх палках — 1095 чалавек. Чацвёрты — Астроўскі — полк ліквідавалі пасля суцэльнага спусташэння прадмесця Востраў у 50-х гадах XVII ст. у час руска-польскай вайны.

Палкі падзяляліся на сотні і дзесяткі. Меўся свой камандны склад у асобах палкоўніка, сотнікаў, падсотні-

каў, дзесятнікаў. Усіх іх прызначаў магістрат. Цэхавыя ваенныя арганізацыі слуцкіх рамеснікаў доўгі час уключаліся ў склад соцень, але ў сярэдзіне XVIII ст. яны ўжо вылучаліся з соценнай арганізацыі.

Усе апалчэнцы Слуцка абавязаны былі мець розную зброю — халодную і агнястрэльную: ручніцы, мушкеты, пісталеты, шаблі, бердышы, палашы, рагаціны, вілы. Уладальнікі агнястрэльнай зброі стаялі ўперамешку з тымі, у каго яе не было. Апошнія павінны былі ў выпадку трывогі прынесці на вал пяць камянёў памерам з кулак.

Мяшчане Слуцка доўга хадзілі ўзброенымі нават у мірны час. Аднак пасля руска-польскай вайны была ўведзена забарона насіць зброю ў мірны час, асабліва агнястрэльную. Рэскрыптам 1661 г. князь Багуслаў Радзівіл прапанаваў захоўваць мушкеты, амуніцыю і баявыя прыпасы ў спецыяльным гарадскім цэйхгаўзе. Пры гэтым гарантавалася, што зброя мяшчан не будзе выкарыстана на патрэбы гарнізона замка. Статуты рамесных цэхаў таксама забаранялі прыходзіць са зброяй на цэхавыя сходкі. Гэта запісаў у 1661 г. статут слуцкага цэха кушняроў, а ў 1664 г.— статуты цэхаў панчошнікаў, рымараў, сядзельнікаў, саф'яннікаў, слесараў, кавалёў, ткачоў і інш.

Гарадскім уладам Слуцка Радзівіл прадпісаў рэгулярна праводзіць заняткі па стральбе, ваенныя вучэнні, парады. Для «муштры», ваенных вучэнняў, заняткаў па стральбе адводзіліся асобнае месца і час. Важнай формай захавання ваеннай дысцыпліны ў мірны час з'яўляліся «попісы» членаў гарадскіх апалчэнняў. На плошчы перад Новым замкам мужчынскае насельніцтва павінна было пастроіцца па палках, сотнях і дзесятках абавязкова пры спраўнай зброі і неабходнай амуніцыі. Уладальнік няспраўнай зброі, згодна статуту 1621 г., плаціў штраф у чатыры капы грошаў. «Попісы» ў Слуцку праводзіліся звычайна ў снежні на працягу трох дзён у прысутнасці старасты, каменданта замка і войта. У ваенны час на «попіс» павінны былі з'явіцца не толькі мясцовыя жыхары, але і прыезджыя людзі са сваімі слугамі незалежна ад іх падданства, нацыі і веры.

У складзе гарадскога апалчэння з 1621 г. да сярэдзіны XVII ст. меўся атрад кавалерыі, які складаўся з заможных гараджан — купцоў, цэхмістраў і сотнікаў.

Генеральныя «попісы» звычайна завяршаліся стралковымі спаборніцтвамі, якія заахвочвалі ўладальнікі Слуцка. Трое лепшых стралкоў у якасці ўзнагароды на адзін год да

чарговага «попіса» вызваляліся ад чынша і ўсіх гарадскіх павіннасцей, акрамя абароннай. Таксама практыкаваліся штомесячныя спаборніцтвы па стральбе для ўсіх жадаючых. Уладальнік горада са сваёй казны выдзяляў тры прэміі: за першае месца — мушкет, за другое — шаблю, за трэцяе — дзіду. З 60-х гадоў XVII ст. па распараджэнню Б. Радзівіла мяшчанам і гарадской моладзі дазвалялася з пачатку лета кожную нядзелю і па святах пасля абеда страляць у цэль. Пераможцы таксама ўзнагароджваліся падарункамі. Крамнікам-гандлярам порахам забаранялася прадаваць яго даражэй, чым 2 грошы за фунт для тых, хто набываў яго для трэніровачнай стральбы.

Акрамя гарадскога апалчэння, у Слуцку меліся атрады так званых «гарадскіх выбранцаў». Яны набіраліся добраахвотна з мяшчан, якія неслі пастаянную ваенную службу, але не кідалі сваіх заняткаў рамяством альбо гандлем. Гэта асобае воінскае фарміраванне не ўваходзіла ў склад гарнізона магістрацкіх войскаў, и было падначалена магістрату. Сярод гарадскіх выбранцаў налічваліся людзі розных прафесій, у тым ліку прадстаўнікі гарадской беднаты — «лёзныя» і «падсуседзі», якія не мелі ўласных дамоў. У адрозненне ад астатніх гараджан выбранцы рэгулярна муштраваліся пад кіраўніцтвам прафесійнага ваеннага паручніка. Колькасць такіх салдатаў у Слуцку ў другой палове XVII ст. дасягала 100—130 чалавек. Яны былі ўзброеныя галоўным чынам мушкетамі.

Гарадское апалчэнне Слуцка выступала пад агульным сцягам — харугваю магістрата.

Рамесная вытворчасць у горадзе ў XVII ст. дасягнула такога ўзроўню, што ў Слуцку выраблялі практычна ўсе віды халоднай і агнястрэльнай зброі. Тут працавала «людвісарня», дзе адлівалі гарматы, мелася парахавая майстэрня. Ва ўсе часы ў горадзе знаходзілася вялікая колькасць зброі. Так, у 1620 г. мелася 26 гармат, 130 гакаўніц, 83 ручніцы, не лічачы 150 ручніц, якія былі раздадзены выбранцам і атраду пяхоты, у 1661 г.— 40 розных гармат калібрам ад 3/4 фунта да 14 фунтаў, больш за 530 стрэльбаў і мушкетаў і 760 адзінак халоднай зброі. У 1746 г. у Слуцку было 66 гармат, у 1760 г.— 29 медных і 25 жалезных гармат, 12 марціp, 100 адзінак ручной агнястрэльнай зброі. Па сведчаннях 1767 г., ужо налічвалася 103 гарматы, у тым ліку шмыгаўніцы, марціры, чатыры дванаццаціствольныя «арганы» і іншая зброя.

# БЕЛАРУСЬ У ВОЙНАХ XV – XVII СТАГОДДЗЯЎ

Познія беларуска-літоўскія і польскія хронікі паведамляюць, што шмат якія паходы крымскіх татараў тут жа запыняліся нашымі продкамі. Для найбольш яркага прыкладу можна нагадаць вядомую **бітву 1506 г. пад Клецкам,** дзе Міхал Глінскі разбіў войска крымскага хана і вызваліў з палону 40 тысяч чалавек.

Для таго каб бараніцца, гарады Беларусі вылучалі спецыяльную вайсковую конную «старожу», якую нанімалі за грошы (частку платы давала і воласць). «Старожа» размяшчалася ў паўднёвых гарадах Бярэсці, Пінску, Мазыры і ў Лоеве, дзе быў вядомы «Татарскі брод». Менавіта там цераз Дняпро перапраўляліся татары на Беларусь. Там і стаяла «старожа» з воінаў Магілёва, Гомеля, Чачэрска, Рагачова, а таксама некаторых іншых гарадоў Палесся, Падняпроўя, Пасожжа. Гэта была пастаянная пільная служба, якая вартавала бяспеку нашай шматпакутнай зямлі.

Трэба сказаць, што ў гэты час крымскія ханы пачынаюць заключаць саюз з Маскоўскай дзяржавай. І тут нельга не сказаць пра тое, што сарамліва прапускаецца ў нашай гісторыі: аб вельмі складаных адносінах паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай, якая пасля Кулікоўскай бітвы пачынае выпростваць свой магутны стан і падбіраць пад уладарную руку суседнія дробныя княствы. Фактычна пачынаецца суперніцтва за права аб'ядноўваць у сваю дзяржаву ўсходнеславянскія землі. Гэта вельмі добра разумеў К. Маркс, які ў артыкуле «Сценька Разін» пісаў: «Тады было дзве Русі: Русь Літоўская і Маскоўская. І яны паміж сабой змагаліся за прыярытэт». Нашы гісторыкі адлюстроўваюць тыя падзеі трошкі інакш: быццам бы бессаромныя літоўскія феадалы захапілі былыя землі Кіеўскай Русі і турбавалі маскоўскіх князёў, што хацелі сваю вотчыну вярнуць. Але і ў Маскве тады разумелі, што з часоў Кіеўскай Русі шмат вады ўцякло, на той тэрыторыі ўтварыліся новыя народы, якіх яны самі называлі тады «літвінамі».

І вось, каб злагодзіць сітуацыю, вялікі князь Аляксандр, які правіў у Вялікім княстве Літоўскім (з 1492 г. па 1506 г.), вырашыў пасватацца да дачкі маскоўскага князя Васілія III Алены. На наша шчасце, летапісы збераглі і памастацку апісалі гэты факт, які адбыўся ў 1495 г.

Баяры, што паехалі ў сваты ў Маскву, самога князя, безумоўна, узяць з сабой не маглі, бо ён дзеяч дзяржаўны і адлучацца з краіны надоўга не мог. Але для таго, каб паказаць, які прыгожы ў іх малады князь, павезлі сваты, як пішуць хронікі, партрэт. Аляксандра «алейнай работы». На маскоўскім двары іх прынялі вельмі ветліва. Пачаліся перамовы, якія чаргаваліся з багатымі доўгімі застоллямі. Нарэшце Васілій III сказаў: «Добра, пакажыце мне таго, за каго будзем аддаваць дачку». Сваты прынеслі партрэт. І князь Аляксандр на ім, паводле летапісу, быў «лікам гож, вусам чоран, бровы ў разлёт». І ўсе баяры прыгаварылі: «Годится». Пасля гэтага пачынаюцца зборы князёўны да ад'езду ў Вільню.

І вось шматлікія вазы́ вясельнага паязду вязуць маладую, вялізарны пасаг, варту, святароў, баяр у Вільню. Ва ўсіх местах (гарадах), праз якія рухаўся картэж Алены, стралялі з гарматаў, народ вітаў маладую княгіню, крычаў: «Слава, слава! Віват, віват!»

Падкрэслю, што гэта адбывалася ў канцы XV ст. Ехалі праз Дуброўну, Оршу, Віцебск, Полацк. Адначасова нельга не адзначыць дасведчанасць, якая была ў вялікага князя Маскоўскага пра тое, што рабілася на Беларусі. Васілій III папярэджваў дачку Алену: «Яко приедешь в Витебск и поедешь поклониться святому Благовещенью (галоўны храм горада, XII ст.— *М. Т.*), знай, что мост через реку недобр, порушен». Вось як тады пільнавалі адзін аднаго.

Такім чынам адбыўся шлюб паміж вялікім князем Аляксандрам Казіміравічам і дачкою князя Маскоўскай дзяржавы Васілія III Аленай. Нарэшце дзве суседнія дзяржавы парадніліся. Здавалася б, войны павінны скончыцца. Але не, Беларусь з яе багатымі гандлёвымі гарадамі, урадлівымі землямі, лясамі і пушчамі не давала спакою суседу. Адзін толькі Полацк чаго быў варты: прыгожы старажытны град, з яго магутным вірлівым таржышчам і 40 тысячамі жыхароў. Як тут не спакусіцца?

Зноў пачынаюцца паходы, то з боку Пскоўшчыны, то са Смаленшчыны. Адбіваліся яны даволі паспяхова. Гэтыя няўдачы раззлавалі Васілія III, які аб'явіў сваю ваенную дактрыну: «Доколе конь мой будет ступать, а меч сечь, не дам спокоя Литве». Сказаў і слова сваё стрымаў.

**З 1503 г. па 1533 г. працягваліся гэтыя войны.**

Нават дачка маскоўскага князя, Алена, не вытрымала і напісала бацьку, каб спыніў свае бясконцыя паходы на

землі Беларусі. «От твоих людей,— пісала яна бацьку,— упад великий сталея, городы и волости пожжены, а иные позаседаны и бесчисленный люд в полон поведён».

Пасля смерці вялікага князя маскоўскага Васілія III (1533 г.) маскоўскія баяры (пры малалетнім Іване IV) працягвалі ваенныя дзеянні. У час вайны **1534—1537 гг.** войскі Вялікага княства Літоўскага ў саюзе з крымскімі татарамі двойчы беспаспяхова нападалі на Чарнігава-Северскія землі, вызвалілі захоплены раней Гомель. Рускія войскі ваявалі каля Віцебска, Полацка, Браслава, Крычава, Радамлі, Мсціслава, Магілёва. У 1536 г. яны ўзялі Старадуб, адбіты ў 1535 г. войскамі Вялікага княства Літоўскага. У выніку мірных перамоваў у лютым 1537 г. было заключана перамір'е на 5 гадоў. Руская дзяржава захавала заваяваныя Себеж, Завалочча, а Вялікае княства Літоўскае — Любеч і Гомель. У 1542 г. перамір'е было прадоўжана на 7, а ў 1549 — яшчэ на 5 гадоў.

У час гэтых паходаў, акрамя даніны, абавязкова браліся і палонныя. Працавітыя рукі заўсёды былі патрэбны па абодва бакі мяжы. Гэтая традыцыя захавалася аж да сярэдзіны XVII ст.

**У 1558—1583 гг. Вялікае княства Літоўскае было ўцягнута ў Лівонскую вайну.** Няўдачы ў ёй вельмі ўскладнілі ўнутранае становішча княства. Польскія феадалы і каталіцкае духавенства выкарысталі гэтую складаную сітуацыю Вялікага княства Літоўскага, каб аб'яднаць яго з Польшчай. У 1569 г. была заключана Люблінская унія, у выніку якой Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў адзіную федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

**У 1654 г. паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай пачалася вайна, якая працягвалася да 1667 г.**

У час яе Беларусь страціла больш чым *кожнага другога* свайго жыхара. Вайна гэта вялася з зацятасцю і адзначылася лютымі бітвамі, характэрнымі для феадальнай пары. Наша гістарыяграфія, у адрозненне ад аб'ектыўнай у сваёй аснове дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі, нямала папрацавала над тым, каб прытарным ялеем пакрапіць, прыгладзіць, прыпудрыць тую страшную вайну. З мэтай яўна кан'юнктурнай гэтая вайна яшчэ нядаўна называлася «барацьбой беларускага народа за ўз'яднанне з Расіяй». Тут спрацоўваў «комплекс» украінскага ўз'яднання («тыя ўз'ядналіся, а мы чым горшыя?!»). Але гісторыя, вялікая ву-

чыцелька наша, захавала такую колькасць фактаў, якія аніяк не абмінуць сумленным гісторыкам.

Па-першае, патрабуе пераасэнсавання ацэнка гэтай вайны. Яна была чыста заваёўніцкай з боку Рускай дзяржавы і мела сваёй канчатковай задачай завалодаць Польскім тронам. «Праваслаўны момант», так званае «вызваленне адзінаверных братоў» — гэта не болей, чым зачэпка (праўда, вельмі ўдалая), якую царызм і ў пазнейшыя часы, аж да канца XVIII ст., умела выкарыстоўваў у сваіх імперскіх інтарэсах. Гэта, дарэчы, у свой час адзначыў у працы «Знешняя палітыка рускага царызму» Ф. Энгельс.

Па-другое, за выключэннем Магілёва, непадрыхтаванага да вайны з-за недаканчанасці абарончых забудаванняў, і Копысі, насельніцтва якой было адпаведна распрапагандавана манахамі Куцеінскага манастыра, ні адзін горад на Беларусі, нават малы, без бою не здаўся. Насуперак вядомаму меркаванню-штампу, што гарады Беларусі баранілі «польска-літоўскія феадалы і шляхта», на сценах іхніх замкаў стаялі простыя мяшчане, сяляне навакольных вёсак і, канечне ж, галоўная вайсковая сіла — рыцарства-шляхта. Шляхта мясцовая, беларуская, чым, дарэчы, Беларусь адрознівалася ад Украіны, дзе ўся шляхта была чужая, польская.

Прычына зацятай абароны гарадоў Беларусі была перш за ўсё ў тым, што ўсе мяшчане, згодна з артыкуламі магдэбургскага права, абавязваліся стаяць на сценах гарадоў са зброяй у руках і бараніць свой дом, сваю сям'ю, свой горад, якому кожны прынёс прысягу на вернасць, натуральна, і прысягу свайму каралю ці князю-ўладальніку горада. Той, хто парушаў прысягу,— караўся «горлам», г. зн. асуджаўся на смяротную кару. У сваю чаргу, рускі цар загадаў сваім ваяводам жыхароў гарадоў, якія ўпарта бараніліся, «побивать сколько милосердный Бог помощи подаст».

Каб не быць галаслоўным, прыведу некалькі прыкладаў. Абарона Віцебска працягвалася 14 тыдняў, з сярэдзіны жніўня да 22 лістапада. Хто ж процістаяў 20-тысячнаму царскаму войску і ўкраінскім казакам? Перш за ўсё — гэта мяшчане, аб'яднаныя ў 8 «соцень» (баявыя адзінкі гарадскога апалчэння — «сотні» — маглі налічваць і 200—300 чалавек); па-другое, шляхта Віцебскага павета; па-трэцяе, вялікая колькасць сялян наваколля (іх было больш за ўсіх у горадзе). Гэта яны катэгарычна адмовілі цару ў прапанове здаць горад, і, відаць, не толькі таму, што баяліся парушыць прысягу, а, пэўна, таму, што

ніякіх ілюзій наконт свайго будучага лёсу не мелі. у адказ на гэта 24 кастрычніка 1654 г. цар загадаў ваяводзе Шарамецеву В. К., які штурмаваў горад, наступнае: «Над Витепском промышлять всякими обычаи и будет в Витепске мужики застоятца, нам, великому, государю не добьют челом и города Витепска не здадут, а вам будет нашими ратными людми дойдет время от Витепска отступать, и вы бы послали в Витепски уезд и весь выжечь без остатку».

Такой была рэакцыя цара на паводзіны сялян «хрестиянския веры», якія баранілі свой край і не даваліся ў царскую няволю. Што зрабіў царскі ваявода пасля таго, як галодны горад не вытрымаў генеральнага штурму, слабанярвовым слухаць не раім: ад суровай расправы загінулі не толькі ўзброеныя мужчыны (хаця частка шляхты здалася і ўцалела), але былі забіты і жанчыны з «малымі груднымі дзецьмі, старыкі і старухі, што знаходзіліся ў багадзельнях, пасечаны без усякае міласэрнасці».

З Д у б р о ў н ы, якая мужна баранілася да лістапада 1654 г., было вывезена ў палон да апошняга чалавека ўсё насельніцтва.

Жыхары С у р а ж а, захопленага ў лютым 1655 г., учынілі пераварот і трымаліся да жніўня 1656 г., пасля чаго былі ўсе ўзяты ў палон. Іх усіх, «до одного человека», адправілі ў «Понизовые города». Сярод іх было ўсяго 35 гайдукоў-драгунаў войска Вялікага княства Літоўскага, якіх саслалі ў «Закамскую черту». Горад увесь быў спалены, а замак разабраны і сплаўлены па Дзвіне для адновы Віцебскага замка.

Горад М с ц і с л а ў, буйны ваяводскі цэнтр Усходняй Беларусі, быў абложаны 18 ліпеня 1654 г. войскам князя Трубяцкога А. Н., якое налічвала 18 200 чалавек.

Замак быў «добыт» пасля многіх штурмаў. Прычым у ходзе аблогі загінула жыхароў і рознай «сбежи» з усяго ваяводства каля 15 тысяч. Ваявода дакладваў цару, што «Божиею милостию, а его государевым... счастьем город Мстиславль приступом взяли и высекли». Аднак пэўная колькасць жыхароў у горадзе ацалела. Восенню 1658 г. яны зрабілі пераварот і «селі» ў асаду, якая доўжылася да красавіка 1659 г. Здаўшыся з-за адсутнасці правіянту і вады (для чаго раней быў нарыхтаваны лёд і зграбаўся з дахаў снег), мсціслаўцы ў жніўні 1660 г. паўтарылі пераварот. Але здолелі пратрымацца толькі да кастрычніка. Пасля гэтага ваяводы атрымалі царскі загад: мяцежны Мсціслаў «выжечь і розорить без остатку». Апошнія 46 ча-

лавек жыхароў «с женишками и детишками» былі вывезены праз Вязьму ў Яраслаў. З тае пары нашчадкаў цудам ацалелых мсціслаўцаў, што ўратаваліся ад такой страшнай вайны, завуць «мсціслаўцы-недасекі».

# *Міхась ЧАРНЯЎСКІ*

## НА СЛАЎНЫМ ПОЛІ ПАД КЛЕЦКАМ

К канцу 15-га стагоддзя для беларуска-літоўскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага наступілі цяжкія часы. Вызваліўшыся ад татара-мангольскай няволі ўзмацнела Вялікае княства Маскоўскае і пачало наступ на сваіх суседзяў, у тым ліку і на беларускія землі.

А тут да маскоўскай пагрозы далучылася крымска-татарская.

Татары-крымчакі ў Крыме і на прылягаючай тэрыторыі Прычарнамор'я ўтварылі агрэсіўнае Крымскае ханства. Галоўным іх заняткам былі грабежніцкія паходы ў прылеглыя земляробчыя краіны, дзеля захопу багацця, а таксама палонных, якіх прадавалі ў турэцкую няволю.

Першай спусташальныя татарскія напады адчула Украіна. Вылюдніўшы і зрабаваўшы Сярэдняе Падняпроўе, крымскія ханы ў канцы стагоддзя свае хцівыя позіркі кіруюць за Прыпяць, дзе разбагацелае мясцовае жыхарства ўжо больш двух стагоддзяў не знала чужацкай навалы.

У 1497 годзе крымчакі ўпершыню пранікл і на Беларусь і зруйнавалі Мазыршчыну. З гэтага часу і ажно да 1527 года, калі татары ўяўлялі найбольшую пагрозу, яны зрабілі 12 буйных і дробных набегаў на Беларусь. Крымчакі распачыналі паход у канцы лета — пачатку восені, калі быў ужо сабраны ўраджай. Іх загоны, што налічвалі ад соцень да некалькіх тысяч лёгкаўзброеных вершнікаў, рухаліся на поўнач водападзеламі рэк. Дасягнуўшы вызначанага месца, яны станавіліся лагерам-кошам і, рассыпаўшыся на меншыя загоны, спусташалі блізкае і далёкае наваколле. У Крым вярталіся са здабычай, ведучы палон-ясыр, гонячы захопленую жывёлу. Напады рабіліся імкліва і на нечаканых кірунках, каб мясцовае насельніцтва не паспе-




Крымска-татарскія напады канца 15 — пачатку 16 стст.
1 — Чорны шлях; 2 — Кучманскі шлях; 3 —Мураўскі шлях; 4 — Валошскі шлях.

ла зарганізавацца і даць адпор. Найбольш цярпелі ад рабаўнікоў сельскія жыхары. Гарады ж, калі яны былі добра ўмацаваныя, звычайна вытрымлівалі аблогі стэпавікоў, якія не ўмелі штурмаваць сцены і вежы.

Вынішчыўшы край, нарабаваўшы здабычы, захапіўшы шматтысячны палон, крымчакі нярэдка без страт і перашкод вярталіся ў сваю зямлю. Асабліва такое здаралася, калі беларускае і ўкраінскае ваярства было занятае змаганнем з маскоўскай агрэсіяй. Аднак летапісцы падаюць і шэраг прыкладаў, калі нашы продкі паспявалі згуртавацца, сабрацца з моцай і вострай шабляй каралі стэпавых драпежнікаў.

Паказальным у гэтых адносінах быў 1506 год.

У другой палове лета сыны крымскага хана «царэвічы» Біці і Бурнаш з шматтысячнай конніцай уварваліся на Поўдзень Беларусі і, па завядзёнцы падзяліўшыся на загоны, пачалі спусташаць край. Якраз у гэты час вялікі князь Аляксандр учыніў быў сойм магнацтва і шляхты ў Лідзе. Не паспела разгарнуцца праца сойму, як прыйшлі трывожныя весткі, што татары ўжо каля Наваградка. Аляк-



Беларускія пешыя ваяры першай паловы 16 ст.

сандр, паралізаваны пасля інсульту, не мог узначаліць адпор. Прызваўшы да сябе паноў — раду,— ён усклаў ваеначальства на гетмана Станіслава Кішку. Сябе ж загадаў аднесці ў Вільню пад абарону нядаўна узведзеных муроў.

А час паспешваў да рашучых дзеянняў. Крымчакі пераправіліся праз Нёман, рассыпаліся па Лідчыне і, як піша летапісец: «ваявалі цэрквы божыя, і двары вялікія, і весі зажыгалі, і людзей імалі і забівалі». Удзельнікі сойму, а таксама баярства-шляхта з блізкага і далёкага навакolля, ды і ўсе, хто мог валодаць шабляй, сабраліся разам, рыхтуючыся да адпору ворагу. Невялікі загон выправіўся на разведку і сустрэў недалёка ад Ліды татар. У кароткай сечы крымчакі былі разбітыя. Гэты першы, хоць і невялікі, поспех акрыліў войска, і яно конна рушыла да Наваградка. Тут запыніліся на тры дні, збіраючы падмогу з гарадоў, сёл і баярскіх двароў. Акрамя таго, трэба было разведаць, дзе



Беларускі ваяр-вершнік. Паводле інвентара 1537 г.

заляглі кошам асноўныя татарскія сілы, дзе яны звілі сваё часовае разбойніцкае гняздо. Лёгкія загоны разгарнуліся па ўзгорыстай Навагрудчыне. І вось пад Гарадзішчам, што на палове шляху ў кірунку цяперашніх Баранавіч, ваяры Юрыя і Андрэя Неміровічаў захапілі шасцёх крымчакоў. Палонныя доўга не ўпарціліся: сыны хана з асноўным войскам стаяць пад Клецкам, і многія загоны яшчэ не вярнуліся з рабункаў у кош.

Адслухаўшы малебны, вечарам 4 жніўня, у панядзелак, войска выправілася з-пад сцен Навагрудскага замка. На гэты час яго набралася 10 тысяч вершнікаў.

Ішлі на паўднёвы ўсход. У Асташыне заначавалі.

А на раніцу прымчалі да войска на ўзмыленых конях баяры з недалёкіх двароў — уцякалі ад татараў. Рассыпацца войску па краі, лавіць і вынішчаць групкі рабаўнікоў не мела сэнсу. Трэба было цаляць і біць у самы асяродак ворагаў. Таму, не адхіляючыся, працягвалі шлях — на Цырын, Паланечку, Ішкальдзь, міналі зглішчы беларускіх вёсак і мястэчак. За Ішкальдзю авангард нагнаў даволі вялікую татарскую сціжму ў паўтысячы вершнікаў, абцяжараных здабычай і палонам. І толькі невялікі гурт крымчакоў выратаваў жыццё, уцякаючы праз раку Ушу каля

Крутога Берага. Недабіткі прыбеглі да Клецка, несучы вестку аб набліжэнні беларускага войска.

Перад Молевам, у вёсцы Ліпа, ваяры заначавалі зноў. А на раніцу выявілася, што гетман расхварэўся. Ды так, што не мог сесці на каня. Трэба было тэрмінова шукаць выйсце, бо Клецк і татары былі ўжо за нейкіх 15 кіламетраў. Тады буйнейшыя феадалы нарадзіліся і аб'явілі, што гетманам на час бітвы павінен стаць маршалак дворны Міхайла Глінскі, трыццацішасцігадовы энергічны і амбітны князь.

Войска пашыкавалася ў баявыя парадкі — гуфы — і рушыла да Клецка, гатовае да бою. Ішлі асцярожна, бо кожную хвіліну можна было чакаць наскоку імклівай татарскай конніцы. Да абеду дасягнулі Краснага Ставу на Лані. З прыбярэжнага ўзгорка стала бачна, што за ракою ўжо стаяла прыгатаваная да бітвы арда.

Напачатку ўсчалася перастрэлка праз раку, якая доўжылася тры гадзіны. Тут перавага была на баку нашых ваяроў. Бо яны мелі не толькі лучны бой, але і агнястрэльную зброю — гарматы і ручніцы. Пад такой аслонай абапал ставовых грэбляў удалося загаціць дзве пераправы. Аднак напачатку выявілася няўзгодненасць у беларускім войску. Яго правы фланг паспяшаўся першым перабрацца на клецкі бераг. Заўважыўшы гэта, татары кінулі на яго лепшых вершнікаў, якія ўдарылі на яшчэ не разгорнутыя шыхты. Склалася крытычная сітуацыя, пачалі гінуць пад стрэламі і шаблямі людзі. Тады Глінскі загадаў паскорыць пераправу войска левай рукі, якое і ўдарыла ўпоперак татарскіх палкоў. Загартаваная ў ранейшых баях з маскоўцамі, закутая ў жалезныя баявыя строі, баярская конніца прабіла, прасекла крымскія шыхты і раздзяліла іх папалам. Апраўілася войска і правай рукі і націснула на татар з паўднёвага боку. Наступ быў такі нястрымны, што крымчакі ўжо не думалі аб сечы. Адзінае, што заставалася ўцалелым — паратунак уцёкамі. Як сведчыў летапісец: «Князь Міхайла жэ са ўсім войскам гнал за німі, імаючы і забіваючы да ракі Цэпры. І как прыбеглі татараве ка Цэпрэ, тагда мала не ўсе в рацэ патанулі, так многа татар і коней іх в рацэ, балоце было, яко літва (вялікакняскія ваяры — М. Ч.) пераяжджалі на конях і пешы перэхажывалі па мёртвых целесах татарскіх і коней іх». Уцекачоў, што ўратаваліся разам з «царэвічамі», пераймалі і нішчылі каля Слуцка, Петрыкава і на Украіне. Толькі жменька іх дабралася да Крыма.




Шлях беларуска-літоўскіх войскаў ад Ліды да Клецка.

Вярнуўшыся з-за Цэпры, войска Глінскага, завалодаўшы татарскімі скарбамі і вызваліўшы шматтысячны палон, яшчэ некалькі дзён стаяла пад Клецкам, высякаючы татарскія загоны, што вярталіся ў кош з рабункаў.

Уражаны разгромам лепшых сваіх сіл крымскі хан Менглі-Гірэй тэрмінова распачаў перамовы з Вялікім княствам аб замірэнні. І хоць і пазней Беларусь часам цярпела ад татарскіх нападаў, але інтэнсіўнасць іх наступу прыкметна спала. Клецкая перамога мела вялікае значэнне ў айчыннай гісторыі. Слаўны чын нашых продкаў застаўся не толькі ў пісьмовых крыніцах, але і ў людской памяці.

# *Юрый БОХАН*

## НА ГРУНВАЛЬДСКІМ ПОЛІ

За сваю гісторыю зямля Беларусі зведала шмат спусташальных войнаў. Адной з самых працяглых была барацьба з нямецкімі рыцарамі-крыжакамі, якая цягнулася больш за дзвесце гадоў. Два нямецкія рыцарскія ордэны — Тэўтонскі і Лівонскі ўзялі ў жалезныя абцугі Беларусь і Літву, якія аб'ядналіся на працягу XIII — XIV стст. у адзіную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае. Гэтыя два стагоддзі нашыя продкі вялі амаль бесперапынныя войны, адбіваючы шалёныя атакі ганарлівых крыжакоў і пакрываючы сябе неўміручай славай. У 1386 г. для больш паспяховага супрацьстаяння агрэсару Вялікае княства Літоўскае ўступіла ў саюз з Польшчай, якая таксама цярпела ад крыжацкіх нападаў. Польскі кароль, якім у 1386 г. стаў вялікі князь Літоўскі Ягайла, разам з гарадзенскім і берасцейскім князем Вітаўтам, што з 1392 г. займаў вялікакняскі трон, пачаў падрыхтоўку да рашучай вайны з Тэўтонскім, найбольш магутным на той час крыжацкім ордэнам. Вайна, атрымаўшая ў далейшым назву Вялікай альбо Прускай, пачалася ў 1409 г. Галоўнай прычынай канфлікту з'явілася змаганне за ўплыў у паўночна-заходняй частцы Вялікага княства Літоўскага — Жмудзі, якая ляжала паміж землямі Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў і была неабходна крыжакам для злучэння іх тэрыторыі.

Пасля першага этапа вайны, які праходзіў досыць вяла, у канцы чэрвеня 1410 г. сумеснае войска Вялікага княства і Польшчы рушыла ўглыб зямель Тэўтонскага ордэна, дзе і сустрэлася ля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг з крыжацкім войскам. Менавіта тут адбылася славутая бітва, што паклала канец магутнасці Тэўтонскага ордэна.

Падышоўшы на поле бітвы прыблізна адначасова, раніцай 15 ліпеня і заўважыўшы адзін аднаго, супрацілеглыя бакі пачалі разгортваць свае баявыя парадкі. Войскі Ягайлы і Вітаўта сталі трыма расцягнутымі лініямі ў лясістай і балоцістай мясцовасці, маючы ззаду сябе раку Маршу і Лаўбенскае возера. Правае крыло займалі сілы Вялікага княства Літоўскага, левае — палякаў. У тыле кожнага крыла размяшчаліся абозы. Непадалёк ад іх знаходзілася стаўка Ягайлы, якому належыла галоўнае кіраўніцтва аб'яднанымі сіламі.



Крыжакі.

Крыжацкае войска падзялялася на тры вялікія аддзелы. Першы, на чале якога стаяў маршал Прусіі Фрыдрых фон Валенрод, заняў месца насупраць войска Вялікага княства. Левы фланг яго прыкрывала паселішча Таненберг. Справа, насупраць польскага войска, размяшчаўся другі аддзел, які ўзначальваў камандор Конрад фон Ліхтэнштэйн. Трэці, самы моцны аддзел, знаходзіўся ў рэзерве каля паселішча Грунвальд. На чале яго стаяў вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнінген. Тут жа размяшчаўся крыжацкі абоз.

Войска крыжакоў колькасна саступала аб'яднаным войскам Вітаўта і Ягайлы: яно складалася з 51 харугвы (палка), кожная з якіх выступала як аўтаномная баявая адзінка і будавалася звужанай калонай — клінам. Апроч рыцараў Ордэна, у крыжацкім войску знаходзіліся добраахвотнікі з Германіі, Францыі, Англіі, Італіі і іншых еўрапейскіх краін. У той жа час сілы саюзнікаў налічвалі 90 харугваў, 40 з якіх прывёў на поле бітвы Вітаўт. Сярод іх былі Трокская, Віленская, Гарадзенская, Ковенская,

Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Наваградская, Берасцейская, Ваўкавыская, Драгічанская, Мельніцкая, Крамянецкая, Старадубская, Мсціслаўская і іншыя харугвы, а таксама невялікі татарскі атрад саюзнага Вітаўту хана Джэлал-ад-Дзіна.

Па сваіх баявых якасцях і ўзроўню ўзбраення крыжацкае і польскае войскі былі прыблізна роўнымі. І ў тых і ў другіх аснову складала цяжкаўзброеная рыцарская кавалерыя. Мелася яна і ў Вялікага княства Літоўскага, аднак у цэлым войска Вітаўта было ўзброена горш як за крыжацкае, так і за польскае. Асабліва гэта тычылася лёгкіх татарскіх вершнікаў. У абодвух варагуючых бакоў мелася агнястрэльная зброя, як ручная (ручніцы), так і гарматы (бамбарды). Гарматы крыжакоў размяшчаліся наперадзе ўсіх баявых парадкаў; ручніцы меліся ў кожнай баявой лініі.

Першымі закончылі пабудову свайго войска крыжакі. Неўзабаве пасля гэтага было завершана шыхтаванне сілаў Вітаўта. У той жа час Ягайла праявіў нерашучасць: польскі фланг разгортваўся марудна, а сам кароль у гэты адказны момант слухаў абедню. Калі б не прыкрыцце з боку гатовага да бою войска Вялікага княства Літоўскага, крыжакі мелі б выдатную магчымасць атакаваць саюзнікаў і дабіцца лёгкай перамогі. Толькі пасля таго, як тэўтонскі магістр, стомлены доўгім чаканнем, паслаў да Ягайлы і Вітаўта сваіх герольдаў, якія ў досыць абразлівай форме выклікалі іх на бой, польскі кароль даў сігнал да наступлення.

Бітву пачала перадавая лінія фланга Вітаўта і далучаныя да яе татары Джэлал-ад-Дзіна. Асыпаўшы непрыяцеля градам стрэл, яны рушылі ў атаку. Крыжакі зрабілі спробу адбіць яе артылерыйскім агнём. Аднак дрэнна наведзеныя гарматы білі занадта высока, таму Ордэну нічога не заставалася, як кінуць супраць ваяроў Вялікага княства гонар свайго войска — цяжкую рыцарскую кавалерыю.

Калі войскі сутыкнуліся, то, па словах сярэднявечнага храніста, узняўся страшэнны шум і грукат ад ламаўшыхся коп'яў і ўдараў аб даспехі, нібыта рушылася нейкае агромністае збудаванне, а рэзкі лязгат мячоў людзі дакладна чулі на адлегласці некалькіх міляў. Удар ваяроў Вялікага княства быў настолькі імклівы, што ім спачатку ўдалося пацяснiць крыжакоў і нават адкінуць іх за лінію ўласнай артылерыі. Для ўратавання сітуацыі тэўтоны мусілі пера-



1a

2a

Ваяры Вялікага княства Літоўскага.

кінуць сюды частку сіл са свайго правага фланга, якія пакуль што не ўступіў у бой. Лютая сеча цягнулася каля гадзіны, пасля чаго сілы Вітаўта пачалі павольна адкочвацца назад. Першымі не вытрымалі лёгкаўзброеныя татары, якія змагаліся на самым правым фланзе саюзнага войска. Верныя сваёй улюбёнай тактыцы, яны рэзка кінуліся наўцёкі, каб, пасля спыніўшыся, абстраляць праціўніка з лукаў і зноў вярнуцца ў бітву. Аслабленыя татарскімі ўцёкамі, харугвы першай лініі Вялікага княства ўжо не маглі супрацьстаяць спрактыкаваным заходнім ваякам і таксама пабеглі, альбо паляглі пад крыжацкімі мячамі. Выстаялі толькі тры палкі — Смаленскі, Мсціслаўскі і Полацкі, на чале якіх стаяў мсціслаўскі князь Лінгвен Сымон, ды і тое два з іх былі цалкам пасечаны.

У гэты адказны момант Вітаўт кінуў у бой сваю другую лінію, якая затрымала крыжакоў і ўратавала войскі саюзнікаў ад магчымага разгрому. Аднак змагацца з рыцарамі Ордэна толькі сіламі Вялікага княства азначала б дамагацца перамогі коштам існавання беларуска-літоўскага войска. Таму Вітаўт асабіста звярнуўся да Ягайлы і запатрабаваў увесці ў бой польскі фланг, каб адцягнуць на сябе хоць тую частку крыжакоў, якая заставалася ў правым крыле Ліхтэнштэйна. Толькі пасля гэтага першая лінія палякаў рушыла ў атаку.

Аднак уступленне ў бой было для палякаў няўдалым. Нягледзячы на тое, што частка рыцараў Ліхтэнштэйна была яшчэ раней перакінута на левы фланг, што канешне ж аслабіла правае крыжацкае крыло, тэўтоны пачалі цясніць польскія шыхты і нават ледзь не захапілі вялікі каралеўскі сцяг. Сітуацыя выправілася толькі пасля ўступлення ў бітву другой лініі палякаў. Напружаная барацьба адбывалася і на левым крыжацкім фланзе, супраць якога Вітаўт скіраваў сваю трэцюю, апошнюю лінію. Цяпер ужо саюзнікі не мелі сіл у рэзерве апроч трэцяй лініі польскага крыла.

Увядзенне ў бой свежых войскаў пераламіла ход бітвы на карысць саюзнікаў. Крыжакі пачалі адкочвацца да свайго абозу. Толькі 16 харугваў рэзерву, у якіх знаходзіліся лепшыя рыцары захаду Еўропы, маглі ўратаваць іх ад паражэння. Сам вялікі магістр Ульрых фон Юнінген павёў гэтыя харугвы ў атаку. Асноўны ўдар крыжацкага рэзерву быў скіраваны ў самы цэнтр фронту саюзнікаў, паміж польскага і літоўска-беларускага флангаў. Цаной нечалавечых намаганняў фронт быў прарваны і частка крыжакоў

выйшла ў тыл саюзнага войска непадалёк ад таго месца, дзе знаходзілася стаўка назіраўшага за бітвай польскага караля. Нягледзячы на спробы палякаў схаваць месцазнаходжанне Ягайлы і нават прыспусціць малы каралеўскі сцяг, адзін з крыжакоў заўважыў караля і нават памкнуўся атакаваць яго, але быў забіты.

Крыжакі былі ўпэўнены ў сваёй перамозе. Яны нават заспявалі свой пераможны гімн. Але ў гэты момант на іх рушылі рыцары трэцяй польскай лініі. Да іх далучылася сялянская пяхота, якая ахоўвала абоз, і татары, што паспелі вярнуцца на месца бітвы. З двух бакоў на харугвы Юнінгена ўдарылі таксама тыя сілы Ягайлы і Вітаўта, якія ўжо разбілі крыжацкія аддзелы Валенрода і Ліхтэнштэйна. Войска Тэўтонскага ордэна было абкружана з усіх бакоў; пачалося бязлітаснае знішчэнне. Загінуў сам вялікі магістр, якога просты пехацінец-драб забіў ударам рагаціны ў шыю.

Тая частка крыжакоў, якая пазбегла акружэння, шукала паратунку ва ўцёках, аднак мала каму ўдалося пазбегнуць палона альбо смерці. Некаторыя спрабавалі схавацца ва ўмацаваным абозе, але ён быў узяты штурмам. Акрамя ўсяго іншага, на крыжацкіх вазах былі знойдзены ланцугі, у якія рыцары спадзяваліся закаваць палонных. У рукі пераможцаў трапіла багатая здабыча, шмат знакамітых рыцараў і ўсе сцягі Ордэна.

Паражэнне ў Грунвальдскай бітве сталася крахам Тэўтонскага ордэна, крахам, пасля якога ён ужо не здолеў аправіцца. Нейкі час яго рыцары яшчэ турбавалі землі Вялікага княства Літоўскага, але цяпер гэта былі не тыя грозныя ваякі, барацьба з якімі патрабавала каласальнага напружання сілаў дзяржавы. Далейшая гісторыя Ордэна — гэта гісторыя яго імклівага заняпаду. Змаганне беларуска-літоўскай дзяржавы з крыжацкай агрэсіяй было завершана...

## *Анатоль* ГРЫЦКЕВІЧ

### БІТВА ПАД ОРШАЙ

Ужо ў XIV і XV стст. адбываліся амаль пастаянныя канфлікты паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускім (а з 50-х гадоў XV ст. і Жамойцкім), або Беларуска-Лі-

тоўскай дзяржавай, і Маскоўскім вялікім княствам за панаванне ў землях Русі і іх палітычнае і дзяржаўнае аб'яднанне або пад эгідай Масквы, або пад эгідай Вільні. У другой палове XV ст. значная частка земляў Русі была аб'яднана ў Маскоўскай дзяржаве Івана III. Гэты працэс працягваўся і ў першай чвэрці XVI ст. У канцы XV — XVI ст. адносіны паміж навастворанай Рускай дзяржавай і Беларуска-Літоўскай былі вельмі напружаныя. Дыпламатычная барацьба паміж імі за палітычны ўплыў у Еўропе і за валоданне землямі былой Кіеўскай Русі суправаджалася ваеннымі канфліктамі. У канцы 1512 г. пачалася новая маскоўска-літоўская вайна.

Непасрэднай зачэпкай для пачатку новай вайны паміж Расейскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім і Рускім быў напад крымскіх татараў на расейскую тэрыторыю, які ўзначалілі сыны крымскага хана, саюзніка караля польскага і вялікага князя літоўскага і рускага Жыгімонта Казіміравіча. Гэтыя напады крымскіх татараў вызначылі рашэнне вялікага князя маскоўскага і ўсяе Русі Васілія III пачаць вайну. У снежні 1512 г. маскоўскае войска рушыла да беларускай крэпасці Смаленска. Але штурм горада вынікаў не даў, і Васіль III з войскам вярнуўся ў Маскву, папярэдне разрабаваўшы смаленскія сёлы і захапіўшы ў палон іх жыхароў.

Маскоўскія ваяводы ў гэты ж час правялі рэйды глыбока на тэрыторыю Беларусі — у раёны Оршы, Друцка, Барысава, даходзілі да Менска, Віцебска, Браслава. Былі спалены пасады Кіева, атакаваны Полацк і Мсціслаў. Урэшце адступілі і гэтыя войскі.

Другая кампанія маскоўскай арміі супраць Беларуска-Літоўскай дзяржавы пачалася ўлетку 1513 г. Новая аблога Смаленска таксама была беспаспяховай. Зноў разрабаваўшы ваколіцы горада, вялікі князь Васіль Іванавіч загадаў сваёй арміі вярнуцца ў Маскву (лістапад 1513 г.). У гэты ж час з Вялікіх Лукаў да Полацка са сваімі палкамі хадзіў князь Васіль Шуйскі і разрабаваў ваколіцы Полацка. Няўдача рускіх войскаў была выклікана прыбыццём на тэатр ваенных дзеянняў войска Вялікага княства Літоўскага, якое было ўзмоцнена наёмнымі сіламі з Польшчы — 10 тысячамі конніцы і 2 тысячамі пяхоты. Армія Вялікага княства Літоўскага і польскія войскі пад камандаваннем гетмана найвышэйшага літоўскага — князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага атрымалі шэраг перамог, выгнаўшы маскоўскія палкі з-пад Віцебска і Полацка. Расейскія

войскі вымушаны былі адступіць і ачысціць Смаленскую зямлю. Да пачатку лістапада 1513 г. яны адышлі на сваю тэрыторыю.

Трэцяя кампанія пачатковага перыяду вайны характарызавалася лепшай падрыхтоўкай расейскай арміі. 16 траўня 1514 г. пачалася аблога Смаленска маскоўскімі войскамі, якія мелі 300 гармат. Некалькі штурмаў горада было адбіта гарнізонам на чале са смаленскім ваяводам Юрыем Андрэевічам Салагубам. Рускае войска панесла вялікія страты. Тады князь Міхаіл Львовіч Глінскі, які яшчэ ў 1508 г. перайшоў з Вялікага княства Літоўскага да Васіля III і якому Васіль III абяцаў Смаленскае княства, падкупіў многіх военачальнікаў, якія перадалі горад вялікаму князю маскоўскаму і ўгаварылі жыхароў горада капітуляваць. Капітуляцыя Смаленска адбылася 30 ліпеня 1514 г. Смаляне атрымалі права або выехаць у Вялікае княства Літоўскае, або перайсці ў падданства вялікага князя маскоўскага. Юрый Салагуб і некаторыя людзі выехалі ў Беларуска-Літоўскую дзяржаву. Частка жыхароў Смаленска ўсё ж была выселена ў цэнтр Рускай дзяржавы.

Пасля захопу Смаленска Васіль III загадаў 80-тысячнаму коннаму войску накіравацца ў глыбіню тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Яно прасоўвалася да Оршы і Друцка, а потым на Віленскім напрамку. Гэтым войскам камандавалі ваяводы — баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын, князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца (продак князёў Галіцыных), прамы па мужчынскай лініі нашчадак Гедыміна. І хоць фармальна галоўным камандуючым быў І. А. Чаляднін, князь Булгакаў-Голіца быў самастойны ў кіраванні сваімі палкамі. Насустрач маскоўскім баярам і іх палкам з Вільні праз Менск і Барысаў выйшаў са сваім войскам кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі Жыгімонт Казіміравіч.

Расейскія палкі таксама былі накіраваны да Мсціслава. Вынікам гэтага паходу быў пераход мсціслаўскага князя Міхаіла Іванавіча Заслаўскага на бок Васіля III. Такую ж прысягу прынялі жыхары Крычава і Дуброўна.

Кароль Жыгімонт сабраў войскі абедзвюх дзяржаў: феадальнае апалчэнне Вялікага княства Літоўскага на чале з гетманам, вялікім літоўскім князем Канстанцінам Іванавічам Астрожскім — 16 тысяч вершнікаў, 14 тысяч польскіх коннікаў, 3 тысячы наёмнай польскай пяхоты, а таксама дробныя феадальныя атрады з Малой Польшчы і шляхціцы — добраахвотнікі з Вялікай Польшчы. Усяго

каля 2,5 тысяч вершнікаў. Паводле больш дакладных звестак М. К. Любаўскага, які спасλаўся не на хронікі і летапісы, а на польскія архіўныя дакументы, польскай конніцы і пяхоты было не больш як 4 тысячы, бо значная частка польскіх коннікаў і жаўнераў-пехацінцаў засталася ў Берасці. У беларуска-літоўскім войску былі апалчэнні ўсіх ваяводаў і княстваў на чале са сваімі князямі. Была і артылерыя, але колькасць гарматаў невядомая. 4 тысячы ваяроў Жыгімонт I пакінуў сабе ў Барысаве, а астатнюю, найбольшую частку войска (больш за 30 тысяч чалавек), пад агульным камандаваннем князя Канстанціна Астрожскага накіраваў да Оршы.

Рускі гісторык С. М. Салаўёў адзначаў, што ў маскоўскіх ваяводаў было 80 тысяч войска, а ў князя Канстанціна Астрожскага — не болей за 30 тысяч. Гэтыя лічбы прыводзяцца як у рускіх летапісах, так і ў звестках іншаземцаў. Такія ж яны ў хроніках М. Стрыйкоўскага і А. Гваньіні. Згаджаюцца з гэтымі лічбамі і вайсковыя гісторыкі XX ст.

Першы бой паміж беларуска-літоўскім войскам і польскімі атрадамі, з аднаго боку, і маскоўскімі войскамі, з другога, адбыўся на левым беразе Бярэзіны пры пераправе цераз раку войска князя К. Астрожскага. Папярэдне К. Астрожскі правёў артылерыйскую стральбу з гарматаў і гакаўніц (пішчаляў), нанёсшы страты непрыяцелю. Гэтая бітва адбылася 27 жніўня 1514 г. Падчас бою некалькі рускіх палкоў было разбіта. На наступны дзень авангард арміі К. Астрожскага нанёс паражэнне рускім атрадам у баі над ракою Бобр і 1 верасня 1514 г. дасягнуў ракі Друць. Тут атрады Івана Багданавіча Сапегі нанеслі паражэнне тром маскоўскім палкам. Было забіта некалькі соцень чалавек, шмат узята ў палон.

Тады галоўны маскоўскі ваявода Іван Чаляднін з усімі сваімі войскамі адступіў назад за Дняпро і выбраў для наступнай бітвы добрае месца на левым беразе Дняпра. Тут паміж Оршай і Дуброўна ля ракі Крапіўны і размясцілася маскоўскае войска — на ўзгорках каля вёсак Пугайлава і Рукліна, злева ад лесу на рацэ Дняпро ля вёскі Рукліна, пакінуўшы свабодную прастору для непрыяцеля ў лукавіне Дняпра на яго левым беразе каля Оршы. Менавіта ў гэтым месцы І. А. Чаляднін планаваў даць генеральную бітву гэтай кампаніі, а можа, і ўсёй вайны, разбіць меншага больш чым удвая па колькасці непрыяцеля, захапіць палонных і скончыць вайну.

7 верасня 1514 г. войска Астрожскага наблізілася да Дняпра ў раёне Оршы. І ён таксама вырашыў даць бітву, нягледзячы на большую чым удвая перавагу маскоўскага войска. Князь разлічваў на некалькі фактараў: свой камандны вопыт у шматлікіх бітвах, веданне праціўніка, з якім раней змагаўся (а ў 1500 г. нават быў у яго палоне), баявы вопыт свайго войска, удасканалены ў частых баях з крымскімі татарамі, патрыятызм беларускіх вояроў, якія баранілі сваю зямлю ад спусташэнняў маскоўскіх войскаў. Канстанцін Астрожскі, заклікаючы сваіх рыцараў да бою і перамогі, спасылаўся на іх праваслаўныя пачуцці, бо большасць у войску складалі праваслаўныя беларусы.

Наблізіўшыся да месца, дзе ўжо знаходзілася маскоўскае войска, К. Астрожскі вырашыў не рызыкаваць, бо пераправу цераз раку пільнавалі конныя атрады ворага. Не жадаючы фарсіраваць раку пад стрэламі маскоўскіх лучнікаў, гетман К. І. Астрожскі правёў тут дэманстрацыйны манеўр, намагаючыся паказаць І. А. Чалядніну, што пераправа беларуска-літоўскай арміі адбудзецца менавіта тут. Таму Канстанцін Іванавіч Астрожскі пад заслонай сваіх жаўнераў пераправіў у гэтым месцы толькі некалькі тысяч коннікаў уброд. Гэтая пераправа была зроблена на вачах у галоўных расейскіх ваяводаў, якія бяздзейнічалі, чакаючы, што будзе перапраўляцца ўсё войска і тады можна будзе на. ім ударыць. А ўжо ўвечары Астрожскі перасунуў па віцебскай дарозе ўсё сваё войска крыху на поўнач і спыніўся на правым беразе Дняпра.

Уначы з 7 на 8 верасня 1514 г. К. Астрожскі загадаў пабудаваць цераз Дняпро ў гэтым месцы два пантонныя масты. Яны былі зроблены са шчыльна заканапачаных і звязаных паміж сабой пустых бочак. Для пераправы скарысталі плыты і лодкі з суцэльным насцілам з плеценага чароту, каб колы гарматаў не грукалі. У балоцістых мясцінах ля ракі зроблены гаці з паваленых і звязаных дрэваў. Конніца войска князя Астрожскага пераправілася цераз Дняпро па вузенькім бродзе аршанскай крэпасці або ўплынь, страціўшы пры гэтым толькі аднаго конніка, які патануў. Пасля па двух пантонных мастах на працягу ночы была пераpraўлена ўся пяхота і артылерыя войска Вялікага княства Літоўскага і Рускага ў раён вёскі Пашына. Галоўны маскоўскі ваявода І. А. Чалядзнін даведаўся пра гэтую акцыю са спазненнем. Іншыя ваяводы раілі яму напасці на частку беларуска-літоўскага войска і знішчыць яго, карыстаючыся колькаснай перавагай. Аднак Чаляднін

не згадзіўся, адказаўшы ім, што нават пасля разгрому гэтай часткі літоўскага войска застанецца яшчэ другая ягоная частка, да якой могуць далучыцца іншыя войскі Вялікага княства Літоўскага, што было б небяспечным для маскоўскай арміі. Ён меркаваў, што ў выпадку бітвы з усім войскам К. Астрожскага можа стаць магчымым знішчыць непрыяцеля цалкам або, абкружыўшы, пагнаць яго аж да Масквы. А пасля перамогі можна будзе заняць усю Літву.

Бітва ў полі на беразе Дняпра, за пяць вёрст ад Оршы, адбылася 8 верасня 1514 г. Астрожскаму былі падначалены іншыя палкаводцы, якія прызнавалі ягоны вайсковы вопыт і аўтарытэт. Лёгкай беларуска-літоўскай конніцай камандаваў падчашы літоўскі і ваявода гарадзенскі Юрый Мікалаевіч Радзівіл, наёмным войскам з Польшчы — кашталян бецкі Януш Свярчоўскі, надворным каралеўскім войскам і атрадамі паноў — Войцех Сампалінскі. Усе яны мелі вялікі баявы вопыт у бітвах супраць крымскіх татараў.

У рускім войску галоўным ваяводам быў Іван Чаляднін, другім самастойным ваяводам быў князь Міхаіл Булгакаў-Голіца. Чаляднін паставіў раніцай усё сваё войска ў баявы парадак у тры расцягнутыя лініі. На флангах — конныя атрады, каб падчас бою яны зайшлі ў тыл ворагу. Наперадзе стаяў полк перадавой стражы. У цэнтры — маскоўскі вялікі полк, па фронце, шырынёю 5 кіламетраў, на правым фланзе — полк правай рукі, на левым, каля вёскі Рукліна,— полк левай рукі. Маскоўскае войска выступала пад белым сцягам. На пагорку ў цэнтры, за вялікім палком, стаяў полк тылавой стражы (рэзерв). Бітва адбывалася на полі ў тры кіламетры ўздоўж Дняпра, за 200—400 метраў ад берага ў першай фазе бітвы і за тры з палавай кіламетры ў другой ягонай фазе. У глыбіню абодвух франтоў поле бою таксама складала прыблізна тры кіламетры. Пры гэтым трэба адзначыць, што не ўсе войскі займалі гэтую прастору. Частка іх уводзілася ў бой паступова. Як бачна на карціне «Бітва пад Оршай» (напісана каля 1520 г., знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве), шэрагі ваяроў былі шчыльныя, як таго патрабавала тагачасная вайсковая тактыка.

Усе маскоўскія палкі былі конныя. Цяжкіх гармат маскоўскія войскі не мелі, бо вялікі князь Васіль III загадаў пакінуць іх у захопленых замках. Але, як сведчыць М. М. Карамзін, «агнястрэльны снарад» у рускім войску быў. Галоўны ваявода Іван Андрэевіч Чаляднін

расцягнуў свае сілы таму, што яны ўдвая перавышалі аб'яднаныя сілы Беларуска-Літоўскай дзяржавы і Польшчы. Ён хацеў акружыць праціўніка, разбіць яго і скінуць рэшткі разбітых палкоў у Дняпро. Таму маскоўскае войска расцягнулася па лініях, і стварылася магчымасць перарваць іх. Але адзіны сапраўдны кіраўнік у расейскім войску адсутнічаў, бо Іван Чаляднін быў толькі фармальным галоўнакамандуючым, а кожны з галоўных ваяводаў камандаваў сваім палком асобна. Гэта паўплывала на ход і вынікі бітвы пад Оршай. Адбілася на ходзе бітвы і тое, што ў расейцаў не было артылерыі, што яны, заспакоеныя сваёй колькаснай перавагай, былі ўпэўненыя ў перамозе над непрыяцелем. Таму маскоўскія галоўныя ваяводы і ваяводы меншага рангу своечасова, падчас бітвы, не заўважылі небяспекі, а калі яна выявілася, то ўжо было позна.

Літоўска-беларускія і польскія атрады занялі свае пазіцыі па абодвух баках яра, які ішоў ад вёскі Пугайлава да пераправы цераз Дняпро. Яны сталі паводле свайго старога баявога звычаю. Наперадзе знаходзіліся два конныя палкі (гуфцы) беларуска-літоўскай і польскай конніцы на чале з К. І. Астрожскім і В. Сампалінскім. Паміж імі стаяла пяхота са стрэльбамі і пішчалямі. У другой лініі зноў стаялі два палкі беларуска-літоўскай конніцы на чале з Ю. Радзівілам і польскай — на чале з Я. Свярчоўскім. На правым і левым крылах гэтага войска стаялі па тры дапаможныя (рэзервовыя) палкі беларуска-літоўскай і польскай конніцы, якія складаліся з лёгкаўзброеных харугваў. На краі правага крыла саюзнага войска паставілі пад аховай лесу ва ўкрыцці ўсе гарматы і частку пяхоты з рушніцамі (пішчалямі, самапаламі). Увогуле беларускае і польскае войскі былі сцягнутыя ў моцныя і згрупаваныя атрады, гатовыя прабіць расцягнутыя лініі ворага.

Як сведчыць карціна «Бітва пад Оршай», К. І. Астрожскі быў апрануты ў баявое адзенне з шабляю ў каштоўных ножнах. Падчас бітвы беларуска-літоўскае войска выступала пад дзяржаўным сымбалем Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — чырвоным сцягам з сярэбранай выявай Пагоні і выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам. Гетманскі сцяг быў блакітнага колеру. З аднаго боку на ім была Пагоня ў чырвоным полі, з другога — абраз святога Станіслава. Асобныя паны мелі ў атрадах (дружынах) свае сцягі. Так, на той жа карціне ў руцэ аднаго з вершнікаў можна разгледзець чырвоны штандар з выявай герба Радзівілаў — трох паляўнічых ражкоў.

У кожнага з беларускіх вершнікаў, паводле карціны «Бітва пад Оршай», у руцэ была доўгая дзіда з белым сцяжком — вымпелам, уздоўж якога пасярэдзіне праходзіць адна вузкая чырвоная палоска, якая перакрыжоўваецца бліжэй да дрэўца другой чырвонай палоскай. Гэта прадвеснік нашага гістарычнага бел-чырвона-белага сцяга.

А 9 гадзіне раніцы ў пятніцу 8 верасня 1514 г. «на рожество Пресвятыя Богородицы» войска князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага ўжо было пастаўлена ў баявых парадках на поле бітвы. Як заўсёды гэта рабілася, перад бітвай святары з абодвух бакоў адслужылі малебен за перамогу. Пры гэтым трэба нагадаць, што ў беларуска-літоўскім войску, таксама як і ў маскоўскім, за перамогу маліліся праваслаўныя святары. У Беларуска-Літоўскай дзяржаве была свая, не залежная ад маскоўскага мітрапаліта, праваслаўная царква. І Астрожскі, між іншым, быў праваслаўным. У атрадах ягонага войска маліліся і ксяндзы, бо ў войску было нямала і каталікоў, не кажучы ўжо пра польскія атрады.

Абодва крылы маскоўскай арміі адышлі крыху далей ад астатняга войска, каб потым акружыць ворага з тылу. Галоўныя ж маскоўскія сілы засталіся ў баявых парадках у сярэдзіне поля, а некаторыя атрады нават прасунуліся крыху наперад, каб выклікаць ворага на бой. Пасля гэтага пачаліся «гарцы» — асобныя паядынкі паміж вершнікамі з абодвух бакоў, каб заахвоціць астатніх ваяроў да бою. Іван Чаляднін выкарыстаў гэты час для больш адпаведнай расстаноўкі сваіх войскаў. Пасля кароткай нарады з ваяводамі і невялікай прамовы да войска Астрожскі загадаў конным палкам вольна рушыць наперад. Гэтае прасоўванне наперад маскоўскія ваяводы палічылі сігналам да дзеяння. Затрубілі трубы, ударылі бубны. Сцягі і прапорцы (сцяжкі) распусцілі да бою. На левае крыло беларуска-літоўскага войска быў накіраваны полк правай рукі на чале з князем Міхаілам Іванавічам Голіцам. Асобныя атрады Чаляднін паслаў на флангі, каб зайсці ў тыл ворагу. Мэтаю атакі было акружэнне, а потым і знішчэнне беларуска-літоўскага войска ўвогуле. Конніцу маскоўскага ваяводы сустрэлі беларуска-літоўскія рыцары на чале з самім Канстанцінам Астрожскім, якія, як сведчыць аўтар хронікі М. Стрыйкоўскі, далі мужны адпор маскоўскім вершнікам. Астрожскі звярнуўся да свайго войска з заклікам ісці наперад. Адбіўшы атаку непрыяцеля, беларуска-літоўскія ваяры, якія атрымалі падмацаванне, пачалі самі

наступаць. Конніца Сампалінскага, праскочыўшы галопам перад фронтам беларуска-літоўскага палка, што стаяў у цэнтры, нанесла ворагу ўдар па фланзе. Польскія коннікі з доўгімі дзідамі валілі з коней маскоўскіх ваяроў. Храніст распавядае, што ў паветры свісталі стрэлы, чуўся звон шабляў, што скрыжоўваліся ў бітве, гучалі стрэлы з агнястрэльнай зброі. Полк Сампалінскага складаўся з цяжкай кавалерыі, адпаведна ўзброенай, з моцнымі даспехамі. Коннікі набіралі тэмп, уразаліся ў шэрагі маскоўскага войска. Князь Міхаіл Булгакаў-Голіца атрымаў падмацаванні і ўзнавіў шэрагі свайго фронту. Маскоўскія сілы пачалі другую атаку. Беларуска-літоўскія рыцары ўстаялі. Але нечакана яны расступіліся, і вораг апынуўся перад пяхотай. Пяхота, страляючы з рушніц (пішчаляў), збіла з коней шмат маскоўцаў. Шэрагі маскоўскага палка памяшаліся. У гэты момант Канстанцін Астрожскі павёў у контратаку свой галоўны полк, перад тым ён звярнуўся да рыцараў: «Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!» (Яму было 54 гады). Скачучы на кані перад коннікамі, Астрожскі казаў ім пра ўжо недалёкую перамогу і трыумф, што непрыяцель ужо «млее». Ён заклікаў «мілых братоў» аднавіць мужнасць у гэтай хвілі: «Цяпер будзьце мужамі, няхай кожны адновіць дзельнасць, бо шэрагі непрыяцеля паблыталіся ўжо. На нашым баку стаіць сам Бог і дадае нам з неба абарону». Астрожскі заклікаў усіх ісці смела ў бой за ім, бо ён першы ставіць сваю галаву ў ахвяру і першы ідзе ў атаку на ворага з шабляй у руцэ, каб шаблю акрывавіць. Ён напомніў рыцарам пра слаўныя бітвы іх продкаў і каб яны чуліся сынамі сваіх бацькоў. Асаблівасці гэтай прамовы, перададзенай польскім хроністам М. Стрыйкоўскім, паказваюць, што яна была сказана па-беларуску. Гэтая прамова славутага палкаводца псіхалагічна ўздзейнічала на беларуска-літоўскіх воінаў. Яны рушылі ў атаку.

Пачалася жорсткая бітва. Канстанцін Астрожскі, ездзячы на кані і размахваючы булавой, зноў заклікаў сваіх мужных рыцараў да наступу. Беларускія і польскія рыцары збівалі ворага дзідамі і рубілі мячамі. Урэшце маскоўская конніца Булгакава-Голіцы была зламана, разбіта і ў беспарадку кінулася наўцёкі. Беларуска-літоўская кавалерыя ўварвалася ў другую лінію расейскага войска. Разам з ёю дзейнічала і цяжкая польская конніца. Яны гналі рэшткі расейскага палка правай рукі і, даганяючы, забівалі няздольных ужо весці бой.

Нягледзячы на цяжкасці палка М. Булгакава-Голіцы, Чаляднін са сваімі асноўнымі сіламі на дапамогу яму не прыйшоў. Храністы, летапісцы і гісторыкі тлумачаць гэткія дзіўныя паводзіны Чалядніна суперніцтвам паміж маскоўскімі галоўнымі ваяводамі і жаданнем кожнага з іх атрымаць перамогу самастойна.

Яшчэ раней галоўны ваявода маскоўскі баярын Іван Андрэевіч Чаляднін накіраваў свой полк левай рукі ў наступ на супрацьлеглае, правае крыло войска Канстанціна Астрожскага. Аднак наступ гэты быў не вельмі моцны і выконваўся нерашуча. Гэта дало магчымасць беларуска-літоўскай і польскай лёгкай кавалерыі на працягу доўгага часу адбіваць атакі маскоўскага войска на гэтым флангзе, а асноўнай масе беларуска-літоўскага войска ўдарыць па палку Голіцы. Тым не менш Чаляднін нават не кінуў на свой правы фланг ні вялікі (галоўны) полк, ні полк тылавой стражы, ні нават атрады перадавога палка, што адышоў у пачатку бітвы на другую лінію. Чаляднін не пераходзіў у рашучы наступ, чакаючы моманту, калі ў бой супраць палка левай рукі ўцягнуцца (пасля перамогі над палком Булгакава-Голіцы) конныя атрады К. Астрожскага, В. Сампалінскага і харугвы лёгкай беларуска-літоўскай кавалерыі. Вось тады з дапамогаю сваіх свежых сілаў, лічыў ён, можна будзе адным моцным ударам разбіць непрыяцеля. Такім чынам, войска Вялікага княства Літоўскага і Рускага і польскія палкі, далучаныя да яго, білі свайго праціўніка па частках.

Урэшце Івану Чалядніну здалося, што ён перамагае ў бітве. У нейкі момант бітвы ён убачыў, што беларуска-літоўская і польская конніца перад ім спыніла свае контратакі, па загаду К. Астрожскага пачала адступаць, а потым зусім кінулася ўцякаць. Маскоўскія ваяры дачакаліся жаданай перамогі і пачалі праследаванне. Тады Чаляднін кінуў у бой усе свае сілы. Але ў пэўны момант, недалёка ад лесу і кустоў у тыле беларуска-літоўскай і польскай арміі, адступаючы, конніца падзялілася на дзве часткі, якія хутка скочылі ўбок. Уся бязладная маса маскоўскіх вершнікаў аказалася перад артылерыяй і пяхотай, што былі ў кустах на ўскраіне лесу і ўжо даўно падрыхтаваліся да аднаго моцнага залпу. Маскоўская кавалерыя была расстраляна не толькі пасля першага залпу, але і пасля далейшых стрэлаў гарматаў і рушніц (пішчаляў). Маскоўскія атрады панеслі вялікія страты ў людзях і конях. Гэтая вайсковая хітрасць, якую прымяніў Астрожскі яшчэ ў біт-

ве з крымскімі татарамі 28 красавіка 1512 г. каля Вішняўца на Украіне, і была пераломным момантам бітвы. Пасля расстрэлу гарматамі лавіны маскоўскага войска ў яго шэрагах пачалася паніка, і яно кінулася наўцёкі.

Такім чынам, ужо ўцякалі рэшткі абодвух флангаў расейскай арміі. Вось тут і пачалося праследаванне іх. Пасол германскага імператара да вялікага князя маскоўскага Васіля III — барон Сігізмунд Гэрбэрштэйн, які наведаў у Вільні на пачатку 1517 г. (калі ехаў у Маскву) палонных І. А. Чалядніна і М. І. Булгакава-Голіцу і размаўляў з імі пра бітву пад Оршай — расказвае ў сваіх запісах пра разгром расейскага войска: «Літоўцы, наўмысна адступіўшы да таго месца, дзе ў іх былі схаваныя гарматы, накіравалі іх супраць маскавітаў, якія насядалі, і паразілі іх заднія шэрагі, што выстраіліся ў рэзерве, але занадта скучаныя, унеслі замяшанне ў іх шэрагі і рассеялі. Так нечаканы баявы прыём прывёў маскавітаў у жах, бо яны лічылі, што ў небяспецы знаходзіцца першы рад, які б'ецца з ворагам; прыйшоўшы ў замяшанне і лічачы, што першыя шэрагі ўжо разбітыя, яны кінуліся наўцёкі. Літоўцы, разгарнуўшыся і накіраваўшы ўсе свае сілы, пераследавалі іх, гналі і забівалі. Убачыўшы гэтыя ўцёкі, адступілі і абодва рускія флангі. Толькі ноч і лясы спынілі гэтае вынішчэнне». (Цыт. па: Герберштейн С. Записки о Московии).

М. Стрыйкоўскі таксама прыводзіць жахлівыя дэталі гэтых уцёкаў. Спачатку Чалянін спрабаваў угаварыць сваіх коннікаў затрымацца, але яго ўжо ніхто не слухаў. Адны ўцякалі ў лясы, другія — у балоты. А беларуска-літоўскія і польскія вершнікі гналі іх і забівалі. Параненыя крычалі ім: «Добей!», а другія: «Не сечи голову!». Кроў забітых была не толькі на палях, але і сцякала ў раку Крапіўну, вада ў якой стала крывавай. А. Гваньіні вобразна адзначыў, што рака Крапіўна паміж Оршай і Дуброўна з-за вялікай колькасці трупаў замарудзіла свой бег. Шмат расейцаў падчас уцёкаў патанула ў рацэ. М. Бельскі распавядае, што бітва цягнулася аж да захаду сонца. Беларуска-літоўскія коннікі працягвалі праследаванне ажно да васьмі літоўскіх міляў (г. зн. на 60 кіламетраў). Адны з беларуска-літоўскіх вершнікаў вярнуліся назад апоўначы, другія нават назаўтра. З сабою яны вялі вялікую колькасць палонных.

І расейскія гісторыкі гавораць пра заканчэнне гэтай бітвы. Так, М. М. Карамзін у «Истории государства Российского» адзначыў: «Літоўцы ніколі не атрымлівалі

такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне; целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўна... Мы страцілі трыццаць тысяч воінаў: ноч і лясы выратавалі астатніх». Толькі ў Смаленску ўцекачы змаглі адчуваць сваю бяспеку. Дарэчы, і С. М. Салаўёў таксама прыводзіць лічбу — трыццаць тысяч загінуўшых маскоўскіх воінаў. Польскія храністы даюць іншую лічбу. М. Стрыйкоўскі гаворыць, спасылаючыся на звесткі маскоўскіх палонных, што на полі бою і на розных месцах падчас уцёкаў засталося больш за сорак тысяч забітых расейцаў, акрамя тых, што патанулі ў Крапіўне; таму мала іх выратавалася. М. Бельскі назваў лічбу — сорак тысяч «Масквы» забіта ў гэтай бітве. Хроніка літоўская і жамойцкая лічбаў не прыводзіць. У ёй гаворыцца: «всю Москву наголову побили ■ настарших воевод их поймали...». Але расейскія гісторыкі спасылаюцца на ліст караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Казіміравіча да лівонскага магістра з навіной пра гэтую перамогу.

Страты маскоўскага войска палоннымі перавышалі пяць тысяч чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы маскоўскія І. Чаляднін і М. Булгакаў-Голіца, 8 вярхоўных ваяводаў, 37 начальнікаў меншага рангу, 2 тысячы дзяцей баярскіх і больш за 2 тысячы іншых воінаў. 20 тысяч трафейных коней і палова вайсковага абозу былі паразданы пераможцам. Сярод вайсковых трафеяў былі ўсе маскоўскія сцягі і агнястрэльная зброя.

Трыумф князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага і ўсяго войска Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага быў поўны. Гэта для іх было рэваншам за паражэнне на рацэ Ведраш у 1500 г.

Як сведчыць М. Бельскі, страты саюзнага войска Канстанціна Астрожскага былі невялікія. Загінулі толькі чатыры знатныя паны, сярод іх Ян Збароўскі і Слупіцкі, а рыцараў — каля пяцісот чалавек. Колькасць людзей простага паходжання ён не прыводзіць. М. Стрыйкоўскі нагадвае, што ў войску літоўскім і польскім загінулі чатыры паны і знатныя шляхціцы, а простых жаўнераў і шляхты крыху болей за чатырыста. Затое ў гэтай трагедыі было шмат параненых.

На наступны дзень пераможцы святкавалі сваю заслужаную перамогу. Быў адслужаны праваслаўны малебен «чэсць святой Тройцы і на хвалу Пана Бога» і каталіцкі малебен. Падчас урачыстага абеду, на які прыведзены

палонныя ваяводы, Канстанцін Астрожскі павіншаваў сваіх ваяводаў, ротмістраў і рыцараў з перамогай. Потым, 3 снежня 1514 г., кароль польскі і вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Жыгімонт Казіміравіч наладзіў у Вільні ўрачысты прыём у гонар князя К. Астрожскага і рыцараў-пераможцаў.

Усіх палонных ваяводаў, вайсковых камандзіраў і 380 баярскіх дзяцей адаслалі ў Барысаў да караля і вялікага князя Жыгімонта Казіміравіча. Палонных «простага стану» разабралі шляхта і жаўнеры, каб асадзіць у сваіх маёнтках. Дзесяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні і іншых гарадах, крэпасцях, гаспадарскіх дварах і валасцях Вялікага княства Літоўскага. Расейскі ўрад не цікавіўся сваімі палоннымі суайчыннікамі. Сам вялікі князь Васіль Іванавіч заявіў, што для яго «той, хто трапіў у палон,— мёртвы». Іван Андрэевіч Чаляднін памёр у Вільні ў 1516 г. М. І. Булгакаў-Голіца і князь Іван Сямёнавіч Селяхоўскі вярнуліся на радзіму толькі ў 1552 г., дзе Булгакаў-Голіца памёр манахам пад імем Іона праз два гады.

Пасля бітвы пад Оршай К. І. Астрожскі са сваім войскам пайшоў да Смаленска здабываць горад, аднак час ужо быў страчаны. Маскоўскія ваяводы ўмацавалі горад. Ды і беларуска-літоўскае войска намагалася перад зімой разысціся па дамах.

Адразу пасля бітвы Дуброўна, Мсціслаў і Крычаў перайшлі на бок вялікага князя Жыгімонта. Ваенныя дзеянні прынялі зацяжны характар без буйных баёў. Потым, у наступныя гады, вайна зноў вялася на тэрыторыі Беларусі, зноў рускія ваяводы і войскі рабавалі насельніцтва, знішчалі людзей, палілі гарады і вёскі. Урэшце, пасля доўгіх перамоваў у 1520—1522 гг. у Маскве 9 верасня 1522 г. было заключана перамір'е на 5 гадоў. Смаленская зямля заставалася ў руках Маскоўскай дзяржавы. Паводле ўмоваў перамір'я, палонныя, узятыя ў 1514 г. у бітве пад Оршай, заставаліся ў Вялікім княстве Літоўскім.

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. стала вядомай ва ўсёй Еўропе. Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Жыгімонт Казіміравіч абвясціў пра перамогу рымскага папу і ўсіх буйных гасудароў Еўропы. Ён падараваў нават некаторым з іх некаторых палонных, захопленых у бітве пад Оршай. Германскі імператар дзеля саюзу з Васілём III вярнуў яму 14 палонных дваран. На стагоддзі захавалася памяць пра гэтую слаўную перамогу і на Бела-

русі. І толькі ў XX ст. беларуская савецкая гістарычная навука зрабіла ўсё, каб людзі пра яе забыліся...

Калі князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі вярнуўся ў Вільню, то ён зрабіў багатую фундацыю (уклад) царкве Свята-Духаўскага праваслаўнага манастыра ў падзяку Богу за дараваную яму пад Оршай перамогу «над непрыяцелем і супастатам праваслаўнай царквы» — вялікім князем маскоўскім. У памяць гэтай фундацыі звонку была прымацавана мармуровая дошка з надпісам па-беларуску пра фундацыю К. І. Астрожскага ў гонар Аршанскай перамогі. Каля 1520 г. невядомы мастак, хутчэй за ўсё ўдзельнік бітвы пад Оршай, намаляваў карціну, якая лічыцца першай у батальным жывапісе Усходняй Еўропы.

Бітва пад Оршай пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Перш за ўсё яе аднатавалі сучасныя ёй хронікі і летапісы. У Валынскім кароткім летапісе была змешчана «Пахвала князю Астрожскаму». Пахвала складаецца з апавядання пра літоўска-маскоўскую вайну, пра перамогу пад Оршай і з пахвальных слоў гетману Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Канстанціну Іванавічу Астрожскаму. Увесь тэкст пахвалы суправаджаецца прыкладамі і цытатамі з Бібліі, прыкладамі са старажытнай гісторыі. Астрожскі ў пахвале параўноўваецца з біблейскім героем Авіем, сынам Раваама, які, ваюючы з дзесяццю каленамі Ізраільскімі, за адзін дзень забіў пяцьсот тысяч моцных людзей. А Астрожскі за тры гадзіны пабіў восемдзесят тысяч масквічоў. Пахвала Канстанціну Астрожскаму заканчваецца слаўленнем караля Жыгімонта і князя К. І. Астрожскага: «Великославному господарю Жикгимонту Казимировичу буди честь и слава на веки, победившему недруга своего великого князя Василиа московского, а гетману его, вдатному князю Костянтину Ивановичу Острозскому дай Боже здоровье и щастье вперед лепшее как ныне, побил силу великую московскую, абы так побивал силную рать татарскую, проливаючы кров их бесурменьскую».

В. Ластоўскі ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» адзначыў, што гэтае слаўленне К. І. Астрожскага ў «Пахвале» нагадвае рытмічную будову слова пра паход Ігаравы.

З таго ж часу захавалася беларуская народная песня пра перамогу пад Оршай:

Ой, у нядзельку параненька
Узышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам,
Па-над Сялецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае парады зазываюць,
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
А ні з поля, а ні з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі.
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы:
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў.
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці;
А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку невялічку праклiналі:
«Бадай ты, рэчка, сто лет
высыхала,
Як нашая слава тутака прапала;
Бадай высыхала да скачэньня
сьвету,
Што нашай славанькі ўжо нету».
Слава Воршы, ўжо ня горша
Слаўся, пан Астрожскі.

Такім чынам, бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Яна цалкам упісваецца ў агульны шэраг гераічных перамог беларуска-літоўскага войска на працягу некалькіх стагоддзяў падчас існавання самастойнай, незалежнай і моцнай дзяржавы Беларускага народа — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы).

## *Уладзіслаў* СЫРАКОМЛЯ

### ПЕСНЯ ПАХОДУ ЛІЦВІНАЎ

Вось шуміць наш лес якраз:
Князь у бой паклікаў нас;
Узмацнімся сёння духам,
Заўтра хваляй пусцім юху —
Дык у добры час!

Смела, косю, йдзем у бой!
Добры ты таварыш мой!
Вораг ёсць не для прыязні,
Гаспадар — не для баязні,
Смела, мужна стой!

У мурах схаваўся лях,
Ды ў ягоным сэрцы страх;
Ляха тога мы за хвілі
І змаглі і паланілі,
Здабылі мы гмах!

Знаю немцаў добра сам,
Бо красуняў многа там;
Немца мы ў крыві ўтапілі,
Прыгажуняў захапілі —
Застануцца нам!

Як пайшлі мы далей зноў
Аж да гданьскіх да муроў —
Як напалі мы знянацку,
Спалатнеў тут вой крыжацкі:
Іх ліецца кроў.

*1855*



# *Мікола ГУСОЎСКІ*

## ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА

*(Урыўкі з паэмы)*

Конныя ўроссып пусціліся. Бачыш, як змейка
Выгібам справа і злева бярэ яго ў клешчы,
Крыкі, галёканне; ржанне трывожнае коней —
Зараз, назад павярнуўшыся, прыме атаку
Ў лоб, і тады — сцеражыся! Не збочыш за дрэва —
Станеш ахвярай. Хоць кожны і смелы і спрытны,
А не пашчасціць — загіне і дужы і мужны.
Гнацца з гайнёю на шпаркім кані па раўніне
Следам за воўкам ці лісам — не тое што ў пушчы
Гнацца за зверам, дзе ўсякае трапіцца можа:
Недзе калода гнілая, барсучыя язвы,
Там буралом або пні, што прыкіданы снегам,
Тут балаціна замёрзлая — і не зляквешся,
Як цераз грыву буланага рынешся потарч.
Лапкі яловыя, скажам, ці суччa сухое —
Яўныя пасткі, а зваліўшся — болей не ўстанеш:
Зубр не маруда — наскочыць, прапора рагамі
І аж на дуб недзе труп твой крывавы закіне.
Цудам, здаецца, схінуўся яздок ад удару,

Міма пранеслася бурая маса з сапеннем.
Раптам — круты паварот і скачок вокамгненны —
Быў чалавек і не войкнуў — няма чалавека.
О, калі б мне тут, адкінуўшы дробязь дэталяў,
Толькі галоўнае ўспомніць аб гэтым страшыдле,
Цяжка прадбачыць,
дзе б кропку знайшла мнагаслоўнасць
І да памераў якіх набрыняла б паэма?
Досыць таго, што расказана, каб меркаванні
Збегліся ў вывад: забойная гэта забава —
Проста шалёная прыхамаць князя-вар'ята,
І не адмые нявіннай крыві венцаносец
З лаўраў сваіх паляўнічых і ратнае славы.
Выдумка гэта карэннем сваім пранікае
У княжанне Вітаўта ў годы найвысшага ўздыму
Княства Вялікалітоўскага; нат і тады ўжо
Сілам яе падупалым патрэбен быў подзвіг.
Вось і зрабіў тады князь у сваіх уладаннях
Лагер ваенны ў кожным паселішчы ў пушчах,
Дзе рыхтаваў свае раці да бітваў наступных.
Ён паміж войнамі ў шапку не спаў і дружыны
У схватках са зверам у лесе прывучваў змагацца
Так, як і ў бітвах з татарамі, і гартаваў іх
Сілу і дух у нягодах няспынных паходаў.
Ён, двуадзіны ў асобе вялікага князя —
Факельшчык войнаў са слабым, а з дужым
анёл-міратворца —
Ставіў аголены меч свой, як слуп пагранічны,
Перад нашэсцямі ворагаў з поўдня і ўсходу.
Нават татарын, пакорліва ўнурыўшы голаў,
Лук свой зламаны яму аддаваў і тлумачыў,
Што, спаганяўшы ясак каля вотчын літоўскіх,
Сам станавіўся пачварнай здабычай літвінаў.
Браў у разлік толькі тых уладарцаў, якіх ён
Ставіў на княства па ўласнаму выбару. Нават
Грознай Ардзе мог прыцыкнуць —
знай меру, татарын!
Як знакаміты багаццем і сілай Масковіі землі,
Усё ж і яны прымірэння прасілі з літвінам.
Турак з Таўрыды заўсёды цюкі падарункаў
Вітаўту слаў, прыхаваўшы свой клопат таемны,—
Як бы задобрыць, улесціць і гнеў не наклікаць
На галаву сваю з боку Літоўскай дзяржавы...

*

Доблесць такая сталела ў лясах і па вёсках.
Славы сястру, яе песцілі ў годы княжэння
Грознага Вітаўта ўсюды на землях дзяржавы.
Кожны дзядзінец пры замках, груды між балотаў —
Гэта пляцы і пляцы для вайсковых заняткаў.
Мірны перыяд між войнамі быў перадышкай,
Каб адпачыць, падвучыцца і, страты пакрыўшы,
Рушыць у новы паход. На такіх табарышчах
Толькі і чуеш, як стрэлы спяваюць, і лукі
Суха на згібах скрыпяць, нібы хваляцца ўголас:
«Бачыш, якія нястомныя рукі, якая ў іх сіла!»
Выган пры вёсцы, і там ад відна да сутоння
Носяцца коннікі з гіканнем цугам па кругу,
Шабляй і стрэламі цэляць у вешкі. Часамі
Хтосьці падкіне свой зношаны брыль ці кучомку,—
Некалькі стрэл упіваецца ў шапку на ўзлёце.
Падае ўніз і — пад ахі і рогат прысутных —
Борзды наезнік падловіць падранка на піку.
Трапны стралок, а такіх дзяцюкоў было безліч.
Змеціўшы ключ жураўліны пад воблакам дзесьці,
Зложыцца з лука, спакойна прыцэліць і зрэжа
Роўна крыло ў важака, не крануўшы стралою
Нават і пёрка на целе — такая дакладнасць!
Птушку — няхай на вадзе, ці на дрэве, ці ў небе —
Цэллю лічылі сапраўднай, і ўсе здабывалі
Гэту дзічыну ў балотах, барах, на азёрах.
Многія неслі здабычу магутнаму князю
Як падарунак (у нас яшчэ чыншу не зналі).
Жыць па старым запавеце: «Не ўкрадзеш у пушчы —
Грэх не адпушчан» — лічылі ў народзе за гонар.

З першай парошкай гурты паляўнічых і лоўчых
З княжацкіх вотчын у лес шыбавалі на ловы.
Звера ўздымалі цюгаканнем, свістам і гамам,
Гналі загонам пад стрэлы, мушкеты і дзіды.
Дзіка давесці па следу, мядзведзя бярлогу
Высачыць храбра — будзённая, звычная справа.
Што ў ёй такога! Падымецца раптам мурашнік,
Гурбу звярнуўшы наўзбокі, і ўздымаецца дуба
Буры смактун, зараве, і зацыкаюць стрэлы.
Кінуцца нат не паспее, як нехта ражнішча
Проста ў пахвіну наставіць — і грузная туша,

Бачыш, асела. Цяпер між вушэй — булавою,
Вось і гатоў. А бывала яшчэ не такое —
Конныя скачкі на спрытнасць, накшталт перагонак.
Слаўная забаўка, школа для мужных і смелых!
Цэль вызначалі за сотняю стадый, і кожны
Удзельнік саперніцтва рваўся на сівым тарпане
Першым адолець дыстанцыю. Цэлыя вёскі
Гналіся ў скачках, бо першынства вырвецца ў масе.
Вось па чарзе табунамі галопам узялі,
Лётам лятуць — толькі тупат ды грывы па ветры.
Чуткі скакун гаспадарскі намёк разумее
З першага знаку, і бачыш, як ён вокамгненна
Спіну падставіў. Ты вокам зміргнуць не паспееш —
Скочыў сусед на суседа: змяняліся коньмі.
Толькі і згледзіш, як стрэл апярэнні з калчанаў
Накрыж жахнуліся; коннікі ж з гіканнем зніклі.
Гонкі такія наладжвалі ў цёмныя ночы
З мэтай, каб мужны ахвоты паддаў баязліўцу,
А баязлівец, не бачачы страху, раўняўся.
Усім пераможцам давалі прызы, а з няўдалых
Кпілі гуртом і падносілі браціну з рэдзькі.
Многа цяжэйшай была закладная, хто першы
Уброд на кані пераедзе раку без абходу
Плыні падводнай, віроў і трыснёгаў на тонях.
Ветраным днём, калі ў повень вялікія воды
Хвалямі коцяць на бераг, з'язджалася к рэкам
Моладзь вярхом паказаць сваю смеласць стыхіі.
Звычаем конных было: і калчаны, і лук свой
Звязваць у вузел з адзеннем, каб, недзе
на грыве
Сіўкі свайго ці буланага добра ўмасціўшы,
Строму рачную праплыць і сухімі даставіць.
Боская воля! Нібы на вадохрышча колісь
Боўтнулі з берага голыя людзі на конях.
Бачыш — плывуць, пахаваўшыся ў плыні па шыі,
Толькі чутно, як пафыркваюць коні, а хлопцы
Недзе ўжо боўтаюць побач. Угледзішся — праўда:
Правай рукой учапіліся ў грыву, а левай
Горнуць, грабуць пад сябе белагрывыя хвалі.
Плёсу ж канца не відно і з паўмілі да мелі.
Гэтым таксама былі ўзнагароды, і першы
Першую дачу асушваў са срэбнага кубка,
Кубак жа браў на ўспамін. Не міналі нікога.
Зведаўшы смаку нягод на зямлі і на водах,

Воін брадоў і мастоў не шукаў, а звычайна
З ходу пускаўся з канём у раку, беражліва
Зброю трымаючы ў вузле, гатовы да бою.

*1522*

## ПЕРАМОГА НАД ТУРКАМІ

*У 1524 годзе, праз год пасля з'яўлення ў друку «Песні пра зубра», у Кракаве выйшла ў свет асобным выданнем другая паэма Міколы Гусоўскага «Перамога над туркамі». Як сведчаць даследчыкі, гэтае выключна рэдкае выданне захавалася да нашага часу толькі ў адным экземпляры. На адвароце тытульнага ліста кніжкі значылася поўная назва паэмы — «Аб перамозе святлейшага князя і гаспадара Сігізмунда, божай міласцю караля Польшчы, Вялікага княства Літоўскага, Русі, Прусіі і інш. над разбойніцкімі войскамі турак, атрыманай нечакана з дапамогай наспех сабранага апалчэння, гэтак жа хутка напісаная песня Міколы Гусоўскага». Мяркуючы з тэксту твора, у ім расказваецца пра адзін з набегаў турэцка-татарскіх полчышчаў на Польшчу і Вялікае княства Літоўскае. Паэт пісаў свой твор па свежых слядах падзей, пра якія ён добра ведаў ад жывых удзельнікаў вайны. Называючы перамогу над туркамі «дзіўным цудам», Гусоўскі падкрэсліваў, што рашаючую ролю ў ёй адыгралі простыя сяляне, якія мужна і самаадданa абаранялі сваю зямлю ад іншаземных захопнікаў.*

*Апошнія гады жыцця Мікола Гусоўскі правёў у Кракаве, далёка ад тых мясцін, дзе нарадзіўся і вырас. Але ён не забываў аб радзіме. У сваім творы пра перамогу над туркамі паэт, мусіць, нездарма паказаў і «літоўскага» воіна, які вяртаўся з поля бою як пераможац. Памёр Гусоўскі рана. Ужо ў 1524 годзе, калі стваралася паэма «Перамога над туркамі», ён жаліўся якраз на сваю жорсткую хваробу: «Верце, калі перашкодай цяжкая хвароба не будзе...» Пра яе піша ён і ў канцы твора.*

*Усё сваё кароткае жыццё Гусоўскі імкнуўся «радасці песню вам спець». Ён хацеў праўдзіва расказаць пра гераічнае мінулае свайго народа, паказаць яго сілу і веліч.*

Верце, калі перашкодай цяжкая хвароба не будзе,
Я паспрабую яшчэ радасці песню вам спець.

Каб адышло маё сэрца хутчэй ад пакут нечуваных,
Каб ачуняла душа, каб не ўсяляўся адчай.
Песняй сваёй бы хацеў я збавіцелю ўдзячнасць прынесці,
Сэрцам гарачым яму выказаць шчыра хвалу!
Ён жа рукой уладарнай заўжды бараніў нас ад гора,
Хоць і не ўсе перад ім варты мы ласкі такой.
Ён міласэрны, спагадны, ахвотна грахі адпускае.
Мы — усе дзеці яго, ён нас не хоча караць.
Мы не змаглі ацаніць яшчэ розумам нашым папраўдзе,
Што адбылося ў той дзень, як жа так сталася ў нас,
Што перад войскам варожым воінаў жменька малая
Выступіць толькі магла — хіба ж не сорамна нам?
Нашы даспехі дагэтуль яшчэ ўсе прыбіты да сценаў —
Ворага дома тады мы не чакалі зусім.
Страшная вестка да нас прыляцела стралою раптоўна,
Жахам халодным вайны нас пранізала яна:
Туркі — іх раць не злічыць,—
быццам хмары, на нас наляцелі.
Грозны нахабны чужак раптам прарваўся да нас.
Доўга не верылі мірныя людзі тым чуткам заўчасным,
Вестку-бяду пасланцы шлюць — і адзін, і другі.
Кроў ледзянела ад гэтага. Сэрцы шчымелі ў трывозе.
Змрок навакол пагусцеў. Душы ўсе страх ахапіў.
Позна пачулі бяду. Клічуць збірацца, ісці ў апалчэнне!
Людзі ў адчаі маўчаць. Роспач застыла ў вачах.
Ды ўсё ж у сэрцах іх вера жыла да дзяржаўнага трона:
Выбавіць з гэтай бяды ён дапаможа, кароль.
Ён жа — апора! Надзея з'явілася: трэба змагацца,
Думаць, як мір зберагчы. Мужнасці хваля расла.
Вера мацнела ва ўсіх: смельчакоў падбярэ ўсемагутны,
Сілу сатрэ чужакоў, зброю іх знішчыць ушчэнт.
Тут жа ён рыцараў клікнуў, што пры двары яго служаць.
Коннікаў клікнуў — яны выканаць здольны загад.
Верную моладзь гукнуў гэтаксама ён: «Коней сядлайце!
Вораг ідзе ўжо на нас, час нам збірацца ў паход!
Жменькай маленькай у бой
з чужаком уступаць небяспечна —
Ворагаў зможа пабіць грозная сіла адна.
Войска чужынца пакуль не чапайце — граміце абозы,
Каб абяссіліў хутчэй ворага голад і страх.
Бітву адразу пачнём, калі сілу збяром баявую,—
Стрэлы варожую рать будуць навокал касіць.
Лёс свой прадбачце, разумнымі, мужнымі будзьце заўсёды!
Сіла расце ўжо. Цяпер толькі б ударыць хутчэй!

Здзейсніць астатняе ўсё даручаем свайму грамавержцу.
Неба збавенне пашле, шчасце ў часіну нягод!»
Слова такое пачуўшы, нібы ажыло наша войска,
Рвецца ў бой найхутчэй — ворагаў лютых караць!
Воі да сёдлаў спяшаюць. Ніхто з іх пазніцца не хоча.
Ехаць далёка яшчэ, сцёбаюць коней сваіх.
Кракаў пакінулі, Львоў — больш варот гарадскіх не
пабачыш.
Коні нястрымна імчаць, скачуць і ноччу, і ўдзень.
Кліч падбадзёрвае вояў, адзін памагае другому,
Сілу і гарт прыдае слова свайго караля.
Воям старым цяжкавата, вядома, у доўгім паходзе,
Толькі ж рукамі яны моцна сціскаюць мячы.
Час, не ляці! Пачакай, супыні ты свой бег нестрыманы,
Роўная войску чужых хай наша вырасце раць!
Горад сустрэў іх маўкліва. Стаміліся воі ў дарозе.
Хутка чужынцы сюды чорнаю хмарай прыйшлі.
Здраднік сказаў ім, што ў горадзе пуста, няма абаронцаў.
Ткнуліся ж толькі — іх стрэў з горада стрэлаў віхор!
Воям у крэпасці цесна. Ганьба сядзець тут, у сценах!
Выйсці б у поле хутчэй! Верны сыноўскі парыў:
Рынулі ў грозную бітву, сабраўшы магутную сілу!
Зломлены вораг — такой стрэчы ён тут не чакаў:
«Добра відаць, што не так пойдзе ўсё».
Не ўтрымаліся туркі!
Страх іх атрады спыніў. Дзе ж ваяўнічы той дух?
Боязь засады чужынца скавала: «Каму можна верыць?
Здрада, ці нас абвялі: крэпасць хавала сваіх».
Спешна назад павярнуў ён, з пустымі рукамі, ганебна
Раці такой адступаць: блізка здабыча ж была!
Вораг узяўся цяпер спусташаць нашы вёскі і нівы,
Гоніць з сабою людзей — ногі іх пухнуць ад пут.
Многія леглі навекі ў лясах векавых ды балотах.
Іншыя ледзьве ідуць — чуюцца стогны і плач.
Раптам зняверaным неба паслала з-за вала збавенне:
Воі прыспелі якраз, рвуцца сваім памагчы!
Воям бягуць на падмогу, нацэліўшы зброю, сяляне,
Валам і з вёсак бягуць — ворага б выгнаць хутчэй.
Толькі не проста сялянам з войскам адборным змагацца —
Каб біць лаўчэй чужака, ў лес уцякаюць яны.
Дзёрзкія вылазкі робяць адсюль на чужынца знянацку.
Край у пажарах увесь — вораг лютуе наўкол.
Свечкамі ўспыхваюць хаты, заходзяцца вёскі ад плачу.
Рукі хапаюць мячы, ды яшчэ ў сіле чужак.

Маці аплаквае дзетак, муж жонку сваю не знаходзіць,
    Нехта аж енчыць ад ран: лепш бы прыходзіла смерць!
Гвалцяць чужынцы дзяўчат-прыгажунь бессаромна,
    Аж раздзірае душу крык іх жахлівы паўсюль.
Бачыць і бацька, як гінуць у страшных пакутах дачушкі.
    Як жа такое трываць? Лепей памерці хутчэй!
Вырадкі жонцы цяжарнай клінок у жывот усадзілі!
    Кроў ледзянее ва ўсіх, хто хоць убачыў той здзек.
За катаванні такія Бога паўсюль праклінаюць:
    Як жа ён мог дапусціць гэтакі жах на зямлі?
З ім і ўсіх іншых святых зневажаюць і ганьбяць таксама —
    Як яны ў цяжкія дні не памагаюць людзям?
Чуюцца ўсюды дакоры, што люд свой забылі святыя:
    Продкі ж для іх узвялі храмы паўсюль, алтары.
Бацька ад гора збялеў, кленчыць: «Я Магамету паверыў!
    Супраць Хрыста паўстаю, Рымам распят ён даўно!
Хай бы вярнуў Магамет маіх родных, украдзеных сілай.
    Без дарагіх я памру, больш мне не ўбачыць святла!
Ведаў яшчэ і раней я: ты лепш, чым Хрыстос, упраўляеш.
    Хочацца ведаць, скажы, хто прад такім устаіць?»
Шырыцца ў сэрцы сялян абурэнне, насмешкі, нявер'е,
    Боль нечуваны, праклён, лаянка чуюцца скрозь.
Лютых захопнікаў моцнымі ўдарамі людзі знішчаюць.
    Дымных пажараў віхор іх апаляў у баях.
Сілай малой абаронцы разбілі варожае войска!
    Бог ім у бітве памог — так зразумелі цяпер.
Полымя гневу не стыне, у рыцарскім сэрцы бушуе,
    Вораг пабіты бяжыць, чуе пагібель сваю.
Турак, якія ўцякаюць, пагоні спыніць немагчыма.
    Каб не набухла рака, што берагоў не відно,
Каб не спыніла балота, злачынец уцёк бы агідны.
    Тут ён часова засеў, зноўку пачаў наступаць!
Рыссю пад'ехаў важак наш да войска, каб раць
                                        падбадзёрыць.
    Шляхта сышлася наўкруг, слухае раду яго.
Гучныя словы прамоўцы нікога з сялян не натхнілі,
    Грозна натоўп зашумеў, хорам крычаць у радах:
«Слоўцаў прыгожых даволі! Калі мы пачнём наступленне?
    Боль нашы сэрцы гняце, хай ён і сілу нам дасць.
Войска сабралі мы ўжо, трэба на ворага рушыць,
    Хай жа труба загучыць, знак нам да бою падасць,
Мігам падымемся мы на той голас зазыўны ўсе разам,
    Першымі кінемся ў бой і разаб'ём чужакоў!»
Мусіць, паклікала сэрца — з натоўпу праціснуўся воін.

«Бі ў барабаны!» — на бой ратнікам кліч ён падаў.
Грымнулі трубы, паветра напоўніўшы жудасным гулам.
Войскі — у бойку пайшлі, кроў палілася ракой!
Раці сышліся на полі, і целы клубкамі спляліся.
Хто пераможа цяпер? Бог адзін можа сказаць!
Хіба не так у шаленстве ільвы разрываюць казулю,
Прагнучы мяса глытаць, пуза пустое набіць?
Хіба не так і ваўкі ашалелыя гоняцца зграяй,
Статак спыняюць яны і на кавалкі ірвуць?
Толькі з такою карцінаю можна разню параўнаць мне,
Слова бяссільна парой жахі засведчыць усе.
Доўга з абодвух бакоў ярасць байцоў клекатала.
Бітвы канец падышоў, сціх і звон сталі, і крык.
Кроўю чужынцаў забітых набраклі шырокія нівы,
Вораны будуць ляцець, псы будуць бегчы сюды.
А пераможца, здабычай вялікай, даспехамі горды,
Турак са схоў усіх цягне, каб тут жа дабіць.
Многа чужынцаў, якія ўцякалі, рака праглынула,
Многа ўцалела ваяк, ногі збавенне далі.
Польскае войска, напомню табе — узваж свае дзеі:
Богу мы ўдзячнасць нясём, славіць яго нам павек.
Каб захацеў хто перамогу нашаму войску прысвоіць,
Як бы ён змог даказаць: важных прычын не было.
Туркі шалеюць, ад ран і ад панікі месца не знойдуць:
Страх іх вялікі скаваў і адагнаў найдалей.
Нашу пагоню заўважыў чужак на бязлюдных раўнінах,
Воінаў жменьку — не раць — вораг адолець не змог.
Душы насільнікаў страх ахапіў, іх зламала трывога.
Кроплямі ў сэрца ім Бог страх і адчай усяляў.
Хто аб тым знае: прыносіць няўдзячнасць няшчасце
народу?
Туркі нашэсцем сваім не запалохаюць нас!
Паніка. Вораг бяжыць, адступае. А я ў сваёй песні
Згадваю бітву, і мне сорам: апеты не ўсе
Подзвігі. Ведаць бы вояў усіх, хто тут загінуў.
Часу ў мяне не было, доўга не мог я чакаць.
Цяжка было, пісаў адзін дзень, звестак пра ўсё не хапала,
Колькі было тых баёў, як там змаганне ішло?
Я не даведаўся, ці падлічылі забітых чужынцаў.
Ведаю толькі адно: страшная бітва была.
Ворагі, што ад мяча ўберагліся, былі пакараны.
Воін літоўскі сцягі як пераможца панёс.
Хвораму, мне расказаць падрабязна пра ўсё немагчыма,

Я паўтараю усё, што да пасцелі дайшло.
Не дакарай жа мяне ты, чытач, калі недзе я схібіў:
Моцна хвароба гняце, мусібыць, лёс мой такі.

## *Алесь НАЎРОЦКІ*

### НЕКАЛЬКІ ЗГАДАК

На Белай Русі — зямлі маіх продкаў — непадалёку ад гарадка Мір на захадзе серабрыцца Уша, трохі далей — Сервеч. Недзе на сярэдзіне між гэтымі рачулкамі, прытокамі Нёмана, узвышаецца валун. За больш чым мільён гадоў пяць разоў распаўзаліся па Еўропе ледавікі, шліфуючы і пераціраючы абломкі горных парод, спуджваючы статкі мамантаў і насарогаў, выворваючы глыбокія даліны, пакідаючы пасля сябе азёры, рэкі і валуны.

Апошні вюрмскі ледавік амаль не закрануў Гродзеншчыну. Значыць, валун, што ўзвышаецца між рачулкамі, занесла перадапошняе Вялікае абледзяненне, якое было трыста тысяч гадоў таму, калі змрочныя пушчы маўчалі: валасатыя рукі яшчэ не замахваліся крамянёвай сякераю і не высякалі дубіны.

Чаго толькі не бачыў гэты трохметровы кавалак Скандынавіі на сваім вяку!

Бачыў ён нема разяўленых ад спалоху і здзіўлення маіх продкаў, што асцярожна падсоўваліся да хвоі, у якую толькі што грымнула з неба нешта сляпучае, вогненнае, тое, ад чаго чырвона трашчаць і абвугліваюцца сукі і галіны, што прыемна грэла.

Мінаюць тысячагоддзі, а валун камянее на адным і тым жа месцы, і чалавек, ідучы, апіраўся і апіраецца аб яго, скідваючы са сваіх плячэй то кавалак мамата, то кошык з балотнай рудой, то рыбацкую сетку, то мяшок мукі. Хто ведае, магчыма, які-небудзь князь і яго дружыннікі, вяртаючыся з паходу, раздзьмухвалі пры ім гарачае вуголле, смажылі медзвяжаціну, а пасля вячэры спалі, палажыўшы галовы на сёдлы.

Валун не скажа нам пра гэта.

Але вось некалькі згадак:

## ТРЫНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

*1263 год.*

Іскрыцца раса вакол і ціўкаюць птушкі. Пад гулкі тупат насустрач Даўмонту, што прыгнуўся ў сядле, ляціць зялёнае галлё хвой.

Дзён колькі таму Міндоўг, вялікі князь Вялікага Літоўскага княства, паслаў Даўмонта разам з войскам за Дняпро. На адным з прывалаў, калі забулькала ў катлах пшонная каша, Даўмонт украдкаю адвязаў ад хвоі свайго каня, ускочыў на яго і прышпорыў назад, у зусім процілеглы бок. Конь нясе яго назад — да Літвы, да Кернова, дзе на кургане, на беразе Віліі, узвышаюцца зубчатыя сцены замка.

Мінулым летам у гэтым замку памерла жонка Міндоўга. Даўмонт на пахаванне не паехаў, а паслаў туды сваю Алісу. Як-ніяк яго жонка Аліса была сястрою нябожчыцы. Як перадалі потым Даўмонту — жрацы доўга і слёзна славілі княгіню ў малітвах, нарэшце паднялі яе на плечы, панеслі ў поле і апусцілі ў падпаленае ламачча, куды паляцелі рэчы нябожчыцы, і таксама лапы мядзведзя, каб было ёй чым лезці на гару, калі бог пакліча на споведзь. Як перадалі потым Даўмонту — за памінальным сталом, дзе ўсе елі моўчкі, дзе жрэц спяваў малітву і кідаў пад стол яду, каб падсілкавалася душа нябожчыцы, захмялелы Міндоўг, седзячы побач з яго жонкаю Алісай, непрыкметна апусціў сваю валасатую руку на Алісіна калена. Фурман з таго пахавання прыехаў дадому адзін — без Алісы. Ашпараны навіною Даўмонт сарваў са сцяны меч і, як стаяў, амаль голы, кінуўся да каня, але на ім ён так і не дамчаў: спуджаны воўкам конь скінуў яго на паўдарозе... Даўмонт месяцы два не мог ступіць нагою, скрыгатаў зубамі і ў мёртва апусцелым пакоі крамсаў мячом адзінае, што асталося ад жонкі,— Алісін куфар.

Да замка Міндоўга ён прыдыбаў тады трохі ахалоджаны, але ўсё ж стражнікі ля замкавай брамы пакасіліся і адшпілілі ад яго пояса меч. Насустрач свайму былому мужу на высокі ганак харом выйшла Аліса, трымаючы на ланцугу прыручанага здаравеннага мядзведзя. Яна кінула яму ўсяго тры-чатыры словы і, як бы апраўдваючы сябе, падхапіла на рукі маленькага сына Міндоўга. Мядзведзь бразгаў перад ім ланцугом і шчэрыў зубы. Даўмонт пастаяў, потым моўчкі павярнуўся і панёс свой гонар да замкавай брамы. Яго аклікнулі. З вышыні замкавай вышкі

трохі весела, але разам з тым і вінавата, галёкаў яму Міндоўг: маўляў, пачакай, будзь госцем, пагаворым. Даўмонт толькі адвярнуўся моўчкі. Ля замкавай брамы яму аддалі яго меч.

Усё гэта вельмі жыва прыпомнілася зараз Даўмонту ў сядле. Пад конскія капыты бягуць бясконцыя павароты дарогі, лясны халадок студзіць абпаленыя сонцам шчокі. Далёка Даўмонту да Літвы. Недзе ў керноўскім замку Міндоўг соладка разводзіць пальцамі свае доўгія вусы: ён жа паслаў яго, Даўмонта, на вайну, а з вайны вяртаюцца не ўсе.

Абапал дарогі бягуць насустрач каню алешыны і грабы, ды перабягаюць часам дарогу зайцы.

Далёка Даўмонту да таго замка, дзе ў адным з пакояў за сталом Міндоўг дастае, мабыць, з чатырохвугольнай падстаўкі акаваны золатам тураў рог і налівае ў яго віно і падае Алісе — яна ж весела ўзмахвае рукамі, але, урэшце, паддаецца на ўгавор і нясмела губамі дакранаецца да напоўненага рога. Няўжо гэта тая ж самая Аліса? Няўжо гэта яна на цёмнай пляцоўцы замкавай вежы аднойчы знянацку гарэзліва падкралася ззаду да яго, затуліўшы яму далонямі вочы, а ён не разгубіўся і адпомсціў ёй тады пацалункам?

Даўмонт на міг аж прыжмурвае вочы, ахоплены гэтай згадкаю, потым прышпорвае каня. Ашалела ляціць насустрач зялёнае галлё.

Хоць і баяцца Міндоўга тэўтонскія рыцары, якіх ён смажыць на агні ў гонар свайго бога Пяркуна, але гэта яшчэ не значыць, што яго баяцца ўсе...

Хоць і зламаў ён хрыбет татарам ля Крутагор'я, але гэта яшчэ не значыць, што ён можа зламаць хрыбет усім!

Гэта яшчэ нічога не значыць, думае Даўмонт, і прышпорвае каня.

Хутчэй бы даскакаць да перакіднога моста керноўскага замка!

Ён бы, Даўмонт, прыстаўшы на страмёнах, на ўсім скаку пераляцеў бы праз той мост, праз тыя зубчастыя сцены! Пераляцеў бы разам са сваім мячом, які так лёгка вырываецца з ножан!

Імчыцца на кані Даўмонт. Зялёнае вецце хвошча па яго грудзях.

Раптам нешта велізарнае, каменнае зачарнела наперадзе.

Даўмонт спыніўся, саскочыў з сядла і, шэпчучы клятву, прыпаў ілбом да таго велізарнага і каменнага...

Гэта быў валун.

## ЧАТЫРНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

*1382 год.*

Пад нокание фурмана двое коней бягуць па дарозе. На заднім сядзенні воза, на пругкім ахапку сена, задумалася саракагадовая Бірута.

Доўгая дарога, бясконцыя балоты, гаі, хвойнікі... Жоўтае і чырвонае лісце трапеча абапал.

Міжволі ўспамінаецца Біруце напаўзабытае цвіценне белых акацый, сярод якіх адзін з рыцараў, стройны юнак, у кальчузе, у шлеме, стаў перад ёй, шаснаццацігадовай Бірутай, на калені і папрасіў, каб яна, Бірута, дазволіла яму напісаць яе імя на сваім шчыце. Як успыхнулі яе шчокі і вушы ад тае просьбы! Мінуў месяц. Аднойчы ёй прынеслі шчыт таго рыцара — пашчапаны, з плямамі крыві... Бірута паклялася: ні на адно чужое плячо яна болей не схіліць сваю галаву! З таго моманту яна стала вайдзялоткаю (жрыцай). Жыць яна пачала ў цёмным лесе, у каменным храме. Там, ля багіні Праурымы, акружанай высокімі сценамі, разам з другімі, такімі ж, як яна, вайдзялоткамі — пры белай сукенцы, пры зялёным фартушку са званочкамі, пры зялёным дубовым вянку на галаве — яна дзяжурыла, падкідаючы паленцы свяшчэннага дуба ў Зніч — вечны агонь. Аднойчы выйшла Бірута за агароджу ў лес — раптам з-за хвоі высунулася постаць таго рыцара. Не можа быць! Паленцы выпалі з рук Біруты. Праўда, прыгледзеўшыся, Бірута расчаравалася... Хаця якое падабенства — можа, так захацелі багі... Хударлявая постаць юнака — з чорнай бародкаю, з лукам за плячыма — неадступна потым стаяла ўваччу. Біруце хацелася, каб паленцы яшчэ хоць раз выпалі з яе рук і балюча ўдарылі па назе.

Глыбокай поўначчу з трэскам разляцеліся дзверы храма. Незнаёмцы пры чорных масках уварваліся ў адпачывальню вайдзялотак. Пылалі паходні, тупалі дзесяткі ног. Жылістыя рукі таго юнака падхапілі сонную Біруту і вынеслі яе за каменныя сцены ў лес.

Ах, якая ж яна, Бірута, была дурненькая! Гэта ж так прыемна аддаць сябе ва ўладу гэтых рук, сядзець у Кейсту-

та на каленях, ляжаць з ім на мядзведжых скурах у цяньку пад дубам, калі ён скідвае сваю сарочку і адшпільвае пояс з кінжалам, ручка якога ўсыпана дыяментамі... Гэта ж так пацешна падкідаць угору сынка Вітаўта!

Трохі пасівелі ад тых часоў валасы ў Біруты. Літоўскім князем стаў Ягайла — пляменнік Кейстута. Свайго дзядзьку Ягайла прыкончыў залатым шнурком, сарваным з дзядзькавай адзежы, а Біруціну радню перасаджаў на калы і палажыў на дубовыя плашкі пад вострыя сякеры. Сама ж Біруга паспела ўскочыць у фурманку і крыкнула фурману: «Паганяй!»

І вось двое коней пад нокание фурмана бягуць па дарозе. Ужо даўно адарвалася Біруга ад пагоні, але ўсё ж не-не ды азірнецца часам назад: ёй так і здаецца, што з-за тоўстага камля выскачыць Ягайлава пагоня, схопіць яе. А ты ж была вайдзялоткаю? Ты ж давала клятву не выходзіць замуж? Могуць, схапіўшы, ёй так сказаць. А ты хіба забыла, што робяць з тымі, хто парушае клятву? Біруга ўяўляе, як, па загаду Ягайлы, яе за парушэнне клятвы хапаюць, зашываюць у скураны мяшок разам з камянямі, кошкай, сабакам і змяёй, потым прывозяць у тым мяшку да Нёмана на дзвюх чорных каровах і блёхаюць у ваду.

Фурман, не драмі! Фурман, не шкадуй пугі і конскіх сцёгнаў!

Драбней і драбней затахкалі капыты, больш напорыста пабеглі асіны колеру таго вострага ляза, што паднята над Біруцінай раднёй.

Коні праскочылі забалочаную лагчыну... Пратарахцелі па ламаччы... Прашлэпалі па ручаі... Аб'ехалі кусты арэшніку...

Фурман, не драмі! Фурман, яшчэ раз страсяні лейцамі!

Цэлы дзень ляскаюць колы па карэннях... Здаецца, пагоні ніякае няма. Марудна паўзе на ўзвышак воз. Што там чарнее на ім?

Хай трохі ачахнуць коні.

Біруга саскаквае з воза.

Яе малітву слухае прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

# ПЯТНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

*1411 год.*

Андрэй ідзе з войска дадому, успамінае бацьку, што з раніцы да вечара прастойвае на каленях з долатам, абкіданы смалістымі стружкамі, а потым выдзеўбаныя і свежа прасмаленыя чаўны цягае да зарослага сітняком берага, дзе гулліва ўсплёскваюць шчупакі. Ідзе Андрэй, і хочацца яму хутчэй дабрацца да тых стружак, да рыбацкіх сетак... Калі сцямнее і заквакаюць жабы, ён пераскочыць суседскі пляцень, падкіне сабаку хлебны мякіш, пачэша вуха яму і засвішча. На ягоны свіст шаргануцца дзверы, выбежыць гнуткая, як вербалозіна, Кася. Пад плёскат вёслаў, седзячы ў чаўне, яна будзе, як і раней, сварыцца, бо ў яго, Андрэя, пацалункі шалёныя. Эх, а як будзе слухаць Кася, калі ён раскажа ёй пра Грунвальдскую бітву... пра Грунвальдскае поле з узгоркамі, з адзінокімі дубамі, дзе на абочыне лесу, яшчэ добра не абсушаныя пасля начных бліскавіц, пасталі ў тры рады ратнікі з прывязанымі да кальчуг пучкамі саломы, пасталі пляччо да пляча, сціскаючы дзіды, сякеры, мячы, і між радамі прагарцаваў вялікі князь Вітаўт на кані, і харугвы, паслухмяныя яго загаду, пастроіліся клінам, і лепш узброеныя воіны выйшлі наперад... Як будзе слухаць Кася, калі ён, Андрэй, раскажа, як насупраць іх на санцапёку, бліскаючы бранёю, з вышыні закаваных у латы коней, праз вузкія шчыліны надзетых на галовы жалезных гладышак на іх узіраліся рыцары, з салодкім прадчуваннем, што іхнія капыты ўтопчуць яго, Андрэеву, галаву, разам з другімі галовамі ў чырвоную лужыну... Эх, Кася, каб толькі ты бачыла, скажа, абдымаючы яе ў лодцы, Андрэй, каб толькі ты бачыла-чула, як затрубілі трубы, як усе заспявалі гімн, як бабахнулі нямецкія пушкі, як прасвісталі каменныя ядры і як пачалася бітва — як затрашчалі і пачалі ламацца дзіды, як заляскалі мячы, як забразгалі сякеры — гром, скрыгат, енк... і як дрогнула было правае крыло нашага войска, і як пабеглі былі нашы ў балота, і як сам Вітаўт, збялелы, дарэмна размахваў перад уцекачамі мячом і крычаў... і як Смаленскія харугвы, што стаялі ў цэнтры...

Ідзе Андрэй... Хістаюцца сонечныя плямы і цені хвой на пяску. Ломячы рагамі кусты белай чаромхі, збоку прабег лось, і Андрэй мацней сціснуў рагаціну на сваім плячы.

Хутка ён, Андрэй, будзе расказваць Касі пра вечар,

калі ўлёгся густы пыл бітвы і ў паветры стаяў пах крыві... пра ордэнскіх рыцараў, што ў белых — з чорнымі крыжамі — плашчах падалі з плачам на калені... пра іхнія павозкі, з якіх ён, Андрэй, выкідваў ланцугі...

Ідзе Андрэй і спыняецца... За паваротам дарогі звіняць падвешаныя да дуг бомы... Звіняць бліжэй і бліжэй...

Андрэй збочвае... Хай вазок праплывае міма... І раптам, бываюць жа нечаканасці на свеце, знаёмы голас:

— Андрэй!

Фурман прытрымлівае лейцы. У вазку, у вышытай сінімі васількамі сукенцы, Андрэй пазнае... Касю і падбягае да яе. Адкуль ты? Куды? Чаго? Колькі ж гэта лет-зім мы з табою не бачыліся? Кася, а ты слова, што давала мне, помніш?

І толькі тут заўважае Андрэй слёзы на Касіных вачах.

— Можа, памёр хто?

— Не, ніхто...— замагільным голасам адказвае яна.

— Ну дык чаго ж ты?

Касін дрыжачы голас, і тое, што яна паведаміла Андрэю, і слёзы яе — усё гэта адбылося ліхаманкава — нібы кінуў хто Андрэя ў халодную ваду.

— Як? Не можа быць! Цябе прадалі другому князю? — рагаціна выпала з рук Андрэя.

— Не суджана быць нам з табою, Андрэйка...

Фурман узмахнуў лейцамі, і воблака пылу пакацілася за коламі вазка.

За бярэзнікам замерлі бомы... Што рабіць? Зараз жа, зараз жа павярнуць назад і ісці аж у Вільню! Аж да самога Вітаўта! Упасці перад ім, напомніць яму, што гэта яго, Андрэева, рагаціна выбіла з сядла ў часе бітвы аж самага вялікага магістра ордэна Ульрыха фон Юнгена... Напомніць яму, што гэта ён, Вітаўт, падарыў яму свой кінжал.

І Андрэй ударыў рагацінаю ў прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

## ШАСНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

*1560 год.*

Траскучы агонь абвуглівае сцены, клубы дыму выпаўзаюць з акон двухпавярховага дома, бушуе полымя, грыміць і абвальваецца дах разам з кроквамі. Натоўп мужыкоў, сціскаючы сякеры, нажы і косы, усё яшчэ пазірае...

Няўжо праз ахопленыя полымем дзверы не выскачыць сам гаспадар гэтага дома? Няўжо ён — у жоўтых з залатымі шпорамі ботах — не ўпадзе перад іхнімі лапцямі на калені? Не будзе цалаваць аборы на іхніх лапцях?

Абвалілася сцяна, і Даніла, адзін з мужыкоў, пабрыў па чыста падмеценай алеі, спыніўся перад статуяй жанчыны, якая, выйшаўшы з вады, выціралася ручніком... Даніла хацеў плюнуць — цьфу, паскудства! — але нешта яго ўстрымала... Нешта ёкнула ў яго сярэдзіне... Статуя была падобна на яго жонку Марту... Жонка хадзіла ў панскі двор з дайніцаю, але чамусьці вярталася дадому з чыстымі, як сыр, рукамі і пахла нечым далікатным, чаго ён, Даніла, зроду не нюхаў. Мужыкі пачалі з Данілы падсмейвацца. Няўжо праўда? Даніла пачаў сачыць за жонкаю. Аднойчы, перад тым як ісці даіць кароў, Марта палезла на вышкі, выцягнула з сена празрыстую, нібы вытканую з паветра, сарочку... Значыць, мужыкі мелі рацыю...

Даніла трушком пабег па алеі, яшчэ раз ірвануў дзверы альтанкі — пуста... Няўжо ён не знойдзе ЯГО і не праткне віламі ЯМУ глотку? За сябе. За жонку Марту. За ўсіх, хто сціскае сякеры і косы.

Усюды буяла зелень. Даніла ўлавіў: нешта як бы заварушылася і кашлянула ў густым маліінніку... Наставіўшы вілы, ён ступіў туды... І раптам белая кашуля ледзь не з-пад самых ног яго падскочыла і шмыгнула ўбок. Ён! Пан! Хутка-хутка замільгалі, уцякаючы, жоўтыя, з залатымі шпорамі, боты... Ах, гад! Засвістаў у Данілавых вушах вецер, засцёбала па каленях бадылле... Вось-вось вастрыё яго віл увап'ецца ў белую кашулю з залатымі шлейкамі... Кашуля шмыгнула паўз дуб... Даніла таксама шмыгнуў паўз дуб... Кашуля затрашчала па вербалозніку... І Даніла — па вербалозніку... Кашуля прабегла па кладцы праз канаву... Кладка вузкая, зялёная... Даніла паслізнуўся і блёхнуўся ў гразь... Калі ён падняўся і азірнуўся, звінеў угары жаўранак і мелка дрыжала жылка над брывом... Прыглядаючыся, ці не шасне дзе-небудзь трава, ці не трэсне сучок, Даніла ступіў наўгад... Наперадзе яго зноў шмарганулася тая ж кашуля... «Зноў гад уцячэ!» Даніла шпурнуў наўздагон вілы... Яны прасвісталі паўз кашулю і ўторкнуліся ў грудок зямлі... і ў той жа міг вілы падхапіў пан і павярнуўся да Данілы... Зараз ужо трохзубая Данілава зброя ў панскіх руках і была нацэлена на яго, і ён міжволі, бачачы налітыя крывёю вочы, ступіў крок назад... назад... назад... Вастрыё як бы раздумвала, што рабіць,

і зрабіла крок на яго... на яго... на яго... Даніла рвануў наўцёкі... За яго спіною трашчала галлё, чуўся тупат панскіх ног, і ён адчуваў толькі, як вось-вось тры загноеныя зубы ўвап'юцца... увап'юцца... ніжэй лапаткі... ніжэй лапаткі... у шыю... у шыю... Але, здаецца, тупат ног адстае ад яго спіны... адстае... адстае... Вось яго ўжо і не чутно...

Падгіналіся ад слабасці калені, Даніла, задыханы і ўспацелы, папраставаў на дарогу і прыпаў грудзьмі да прыдарожнага каменя.

Гэта быў валун.

## СЕМНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

*1649 год.*

Эміля ўжо сабралася ў Мір, у замак да сваіх суседзяў, і перад дарогаю, чакаючы, калі ў пакой зойдзе сын і аб'явіць ехаць, прысела ў крэсла. Пяць гадзін хуткай язды з начлегам на паўдарозе трэба было нейк перагараць. Узяць ці не ўзяць з сабою любімую кошку? Яна б, Эміля, ніза-вошта не думала б пра паездку, але сын дзён пяць таму як вярнуўся з войска Януша Радзівіла, і яна не асмелілася сапсаваць яму святочны настрой. Не асмелілася, хоць ездзіць зараз небяспечна.

З люстра, апраўленага ў пазалочаную раму, Эмілі падміргвае яе авальна-падпухлы твар, якому масаж яшчэ вяртае маладосць. Ах, як хутка ідуць гады! А ўсяго ж трыццаць гадоў таму яна была цвёрда ўпэўнена, што не будзе пудрыцца. Здаецца ж, зусім нядаўна гарэлі ў бронзавых кандэлябрах свечкі, блішчаў паркет, плавалі рознакаляровыя шары, і яна, успацелая пасля мазуркі, выплывала на тэрасу і ныраля ў свежы вецер. Ёй была даспадобы тая цвёрдасць, з якой пад гукі музыкі ў белай пальчатцы далонь Юзэфа — сябра яе мужа — лажылася ёй на плечы. Трыццаць гадоў таму чыста падмеценая алея з вязаў вывела Эмілю і Юзэфа да альтанкі, і яна, помніцца, тады падумала, што муж заўсёды ў такі час з паляўнічым рогам, падвешаным да пояса, з гайнёю сабак вяртаецца дадому паўз гэтую альтанку, і таму, калі Юзэф прапанаваў ёй зайсці і пасядзець у альтанцы, яна адчула, што між імі нешта павінна здарыцца, спалохалася і адмоўна заківала галавою. Як сутаргавата сціснуў Юзэф галінку акацыі, аж з пальца яго, падрапанага вострым шыпам, капнула кроў.

Перад развітаннем яна, Эміля, не вытрымала, падняла тую галінку і тым жа шыпам драпанула і свой палец.

«Навошта вы так?» — папытаўся ён.

«Хай не толькі вам баліць»,— адказала яна і, адчуваючы, як чырвань залівае ёй шчокі, запрасіла прыехаць яго паслязаўтра...

Паслязаўтра! О, якое гэта было страшнае слова!

Раней, калі муж са стрэльбаю і ў чобатах, скураныя халявы якіх ледзь не абцягвалі сцёгны, звесіўшыся з сядла, даваў перад ад'ездам ёй строгі наказ не забываць пра яго любімага сабаку, які нешта прыхворваў, яна, Эміля, толькі кусала вусны і выцірала вочы.

Але зараз, думаючы пра тое паслязаўтра і адчуваючы ў цёплай пасцелі ля мужа зябкі халадок, яна сказала яму:

«Нешта ты на паляванні даўно не быў».

«Чаму, мая Эмілька, я ж толькі што вярнуўся з лесу»,— здзівіўся муж.

«Ты знаеш, я хачу, каб у нас замест вешалак усюды былі ласіныя рогі»,— падахвоцілася Эміля.

«Так і быць! Паслязаўтра па ласёў!» — ускрыкнуў радасны муж.

Сталася так, што муж неўзабаве памёр, а Эміля нарадзіла сына. Праз дваццаць гадоў, сустракаючы спасцярожлівы сынаў позірк, яна палахліва хавала ад яго партрэт Юзэфа, але сын прысачыў партрэт, пазнаў сябе ў ім, і здагадаўся пра ўсё, і папытаўся ў яе пра тое, што змусіла яе пачырванець...

Ах, як хутка ідуць гады!

Эміля яшчэ раз зірнула ў люстра. Так бы, здаецца, усю сябе абкалола тымі шыпамі акацый, каб толькі на міг вярнуць Юзэфа і альтанку.

— Кіса, Кісанька мая,— паклікала Эміля.

Шэрая кошачка паднялася з аксамітнай падушачкі, скокнула гаспадыні на калені, потым на плячо.

Эміля заплакала, нават пусціла слязу.

Кошачка жалобна мяўкнула, пачала суцяшаць сваю карміцельку — лапай гладзіць яе па валасах, па шчацэ...

— Ах ты, суцяшальніца мая! — засмяялася Эміля.— Вазьму цябе з сабою, а?

— Мама, едзем! — у пакой зазірнуў яе сын, падпаясаны залатым слуцкім поясам з падвешанай на перавязі левай рукою. «Выліты Юзэф,— падумала яна.— Недзе там, у Міры, у замку, панначка Ядзя чакае не дачакаецца яго... Так, так, гады ідуць... Трэба ехаць...»

Эміля паднялася.

Праз хвілін дваццаць па дарозе мякка кацілася каляска, і жоўтае бярозавае галлё плыло ёй насустрач.

— Сынок, ты ж мне так і не расказаў, як было ў цябе з рукою? — папытала Эміля.

— Ударыў адзін паўстанец,— адказаў сын.

На міг Юзэф-малодшы ўспомніў, як пасля бітвы пад Лоевам яны рассядлалі ўзмыленых коней і ён зачыніўся ў пуні з маладой сялянкаю, і трэба ж такому здарыцца: яна не ўшанавала яго мужчынскае ласкі, пачала кусацца, крычаць, а потым узмахнула цэпам — і давялося пасля таго ўзмаху ўзяць на перавязь руку...

— Чым ударыў?

— Мячом,— нейк нясмела адказаў сын.

— Гэта ж болей года як цябе не было,— успомніла Эміля.

Каляска праскочыла па дрогкім мастку, трое мужыкоў агалілі кудлатыя галовы, і Эміля прызадумалася, ці змагла б яна з'есці, як ядуць яны, хлеб з сушанай гнілой дубовай кары і з мякіны...

— Так, год не быў...— задумліва пацвердзіў сын.

Уздоўж дарогі плыло зарослае асакою балота. Пад мяккае падрыгванне колаў мільгалі ўспаміны ў Юзэфа-малодшага: вось ён з вогненным кулём саломы падпальвае стрэхі ў горадзе Тураве... вось ён з высачэннай вежы замка ў Мазыры скідвае на абледзянелыя камяні казацкага атамана Міхненку... вось у Бабруйску на завостраны кол пасадзілі казацкага атамана Паддубскага, і атаман, сабраўшы апошнія сілы, канаючы, плюнуў яму ў твар...

Уздоўж дарогі бяжыць то хвойнік, то бярэзнік.

— Зірні, мама, які вялікі камень пры дарозе!..

Эміля зірнула і войкнула: трое мужыкоў, якія вельмі ж былі падобныя на тых, што агалялі галовы, выскачылі з сякерамі з-за каменя.

— Стой! — грымнуў адзін з іх і тузануў дзверцы каляскі.

— Не чапайце кошкі мае! Не чапайце! — толькі і паспела крыкнуць Эміля.

Кошкі, вядома, ніхто не зачапіў. Яе толькі адпіхнулі локцем убок. Яна адбеглася на абочыну дарогі, і тут пачула жудасныя ўскрыкі свае гаспадыні... Што такое? Насядзеўшы трохі, кошка падкралася да каменя... Яе гаспадыня з сынам ляжалі тварамі ўгору ў крыві. Кошка жалобна замяўкала і пачала лапкай гладзіць, суцяшаць сваю

гаспадыню, ёй усё здавалася, што яе гаспадыня вось-вось падымецца і засмяецца.

Маўкліва пазіраў на ўсё гэта прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

## ВАСЕМНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

Ідзе Паўночная вайна Расіі і Швецыі. Некалі шведы будуць разбіты, будзе прасечана акно ў Еўропу, і Пётр Першы ўскочыць на святочны, устаўлены вінамі, стол і будзе танцаваць на ім і распяваць песні. Усё гэта будзе некалі, а зараз 1706 год, нізенькія і крывыя халупкі мястэчка Мір, заінелыя каўняры і бароды, рып палазоў па снезе, і Насця, паціраючы то адну, то другую шчаку, пазірае ў снежнае поле, дзе роўным, у чатыры шарэнгі, строем адбіваюць цвёрды крок рускія салдаты і пакрыкваюць унтэр-афіцэры. Недалёка ад казармы строй салдат рассыпаецца. Нейкая сіла цягне Насцю ўзірацца ў іх зялёныя кафтаны, чорныя вуглаватыя капелюшы, у іх чорныя вусы і доўгія валасы, што падаюць ледзь не на плечы. Аднойчы сіні драгун, што гарцаваў на кані, сарваў з пляча ружжо і прыцэліўся ў яе. Канечне, жарт, але яна войкнула і шмыгнула за вароты пад дружны салдацкі рогат. Прыадчыніўшы весніцы, калі смех аціх, Насця ўбачыла, як да драгуна падляцеў салдат са сціснутымі кулакамі... Насцін заступнік, хударлявы і стройны хлопец, на другі дзень пасля гэтае сутычкі падышоў да яе, папытаўся, як зваць, і сам назваў сваё імя, потым паведаміў ёй, што ён дваранін і з цягам часу будзе унтэрам, але, па загаду іхняга цара, ён спачатку павінен цягнуць лямку салдата. Пагаварыць Насці добра не ўдалося, бо з хаты высунулася яе маці і загадала ёй таўчы проса ў ступе. «Я ж натаўкла ўжо»,— заўпарцілася была Насця, але, убачыўшы, як маці прытопнула на яе нагою, абарвала гаворку і паклыпала ў хату. Не, яна зусім не разумее маці... Чаму яна павінна асцерагацца гэтага двараніна? Хіба ён будзе шпагаю калоць не шведа, а яе? Ён жа такі прыветлівы, так ласкава паціскаў ёй далонь. Не, яна зусім не разумее маці...

Насця бачыць, як салдаты купкамі стаяць ля казармы, а вунь і той дваранін: ён таксама заўважае яе і вітае яе паднятай угору шпагаю... Вось ён падыходзіць да яе.

— Маці ваша дома? — пытаецца.

— Што, вам паклікаць яе? — з радаснай гатоўнасцю ўслужыць яму адказвае яна, і ён чамусьці хмурнее пасля яе адказу і зубамі шчыпле свой вус.

— Ды не...— ён перамінаецца з нагі на нагу.

Нейкі момант яны пазіраюць адно на аднаго і смяюцца. І Насця дазваляе яму расказваць пра сябе і дакранацца да свайго пляча, адчуваючы, як гэта мала, безнадзейна мала і што вось-вось высунецца з хаты маці і зноў пакліча яе таўчы проса...

Прайшло больш года. Бяздзетны шляхціц Зыгмусь, гарбаты і нізкі, расчырванелы ад чаркі, грукае кулаком па стале — «У мяне зямлі — во!» — і лезе да Насці са сваімі расольнымі губамі, і Насця змушана цалавацца з ім. Нічога не паробіш, змушана.

Насціна маці таксама падвыпіла і ўсхліпнула:

— Не ўберагла я цябе, дачушка... А салдат ёсць салдат.

У калысцы, падвешанай да столі, заплакала Насціна малое...

28 верасня 1708 года. Рускія палкі ідуць у атаку на шведаў ля вёскі Лясной. Грымяць пушкі, трашчыць ружэйны і пісталетны агонь, ламаюцца шпагі, акрываўленыя палашы і коннікі падаюць пад капыты... О, каб ведала Насця, хто мёртвым зваліўся з каня!

Але Насця, канечне, гэтага не ведае. Чапляецца павуцінне за крывавыя каліны абапал дарогі. Яна і Зыгмусь плятуцца па сцежцы. Ён добра пад чаркаю і ўпарта мямліць адно, што ён, Зыгмусь, з ёю, Насцяю, будзе рабіць што захоча, і просіць яе, каб яна нахілілася да яго і падставіла яму свае губы. Насця азіраецца, ці няма паблізу каго з людзей, і нахіляецца... Нічога не зробіш, змушана, бо хто яе, акрамя Зыгмуся, возьме з дзіцём...

— Ты не глядзі, што н такі малы. А я, можа, вышэй от за гэтага чорта...— гаворыць Зыгмусь і паказвае на прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

## ДЗЕВЯТНАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

Атлусцелы і куцы — у зялёным мундзіры і чорным трохвугольным капелюшы — Напалеон, чалавек, якому амаль усе імператары і каралі Еўропы падстаўлялі свае

аголеныя галовы і віскалі ад захаплення, калі ён паблажліва паляпваў іх па спіне,— прыжмурыўся ў падзорную трубу: маршалы яго на чале сваіх карпусоў перапраўляліся на ўсходні бераг Нёмана.

10 ліпеня 1812 года непадалёку ад Міра ў зялёнае жыта ўбілася карова. Панскі пастух Мікола кінуўся з дубчыкам следам. Аборка з яго лапця развязалася, зашлёгала па густой траве, заскакала па сцежцы, пераскочыла праз канаву. Аборка блыталася і вужылася следам...

У гэты міг проста на Міколу ляцелі ўзнятыя шаблі, разяўленыя конскія морды і паласатыя грудзіны коннікаў...

Мікола рвануўся, каб выбегчы з-пад тысячы капыт, ад якіх задрыжала зямля... За нейкую патырчаку зачапілася аборка, і ён упаў.

Ён апрытомнеў, і яму захацелася агледзецца, дзе ён і што з ім. Вакол была нясцерпна балючая цемра, і ён раптам здагадаўся, што цемра была не ад таго, што стаяла ноч. Нешта слізкае, перамешанае з пяском ён адцёр са шчок і, усё яшчэ спадзеючыся на лепшае, асцярожна пальцамі дакрануўся да слізкіх, балючых і, мабыць, зусім пустых вачніц, ад якіх зараз пачыналася гэтая невыносная пякучая ноч. Чаму капыты не ўдарылі яго ў якое-небудзь другое месца? Чаму іменна сюды? І няўжо праўда, што ён зараз да самага скону павінен рукамі абмацваць сябе і тую велізарную, вогненную і чорную яму, у якой ён апынуўся?

Мікола ступіў у гэтую яму... Першы крок... другі... трэці... Потым ён задзёр угару свой твар і прыслухаўся: награецца твар ад сонца ці не? Шчокі нагрэліся — значыць, стаяў дзень. Дзень, якога ён не бачыць.

Чорная бездань, па якой ён пабрыў, то мякка шастала, то сцёбала па яго калашынах, то чвякала пад лапцямі, то зярніста і вусата тыкалася яму ў далоні. З чорнай вышыні ўсё тое, што было і тады, калі ён жыў у іншым свеце, ціўкала, шчабятала і срэбна пералівалася.

Нечакана ён зачапіўся за нешта і ўпаў. Што б гэта магло быць? Ён абмацаў грыву, капыты і сядло на спіне...

Ён брыў навобмацак і, спатыкаючыся, шмат разоў абмацваў то капыты, то сёдлы, то хвасты, то рукі, то шаблі... Недзе блізка нехта стагнаў... Далей адсюль! Далей!

Ён прыслухаўся: чуваць гаворка, смех, паасобныя выкрыкі. Але гаворка нетутэйшая, панская. Мікола неаднойчы разводзіў на палянцы панам вогнішчы і чуў панскую мову і нават ведаў з гэтае мовы слова «мерсі». Ён узрада-

ваўся: вось-вось да яго падбягуць паны. Што з табою, Мікола? Доктара хутчэй! Доктар яго абгледзіць, і тады...

Ён ужо чуе трэск падпаленага ламачча, панскія галасы і рогат... Закудахкала кура, і нехта з тупатам прабег следам за тым кудахканнем. Недзе мэкнула авечка, але ляснуў стрэл, і мэкання больш не было чутно. Ад свежага паху смажаніны, якую, відаць, елі, у Міколы закружылася ў галаве. Панскія галасы нейк адразу ж змоўклі, значыць, ён, Мікола, наблізіўся да панскага вогнішча так, што яго заўважылі і апазналі...

Зараз, зараз яго перавяжуць, напояць, накормяць...

І раптам яго штурханулі ў плечы, ён захістаўся і ледзь не ўпаў... Вакол рагочуць? Што ж гэта такое? І чаму ён усюды натыкаецца на тыя ж вогнішчы з чужой гаворкаю? І чаму яго адусюль адштурхоўваюць?

— Божа мой, Мікола, што з табою? — пачуў ён раптам жончын голас. І ў наступны міг мяккія жончыны рукі абвілі яго. Так, гэта яна. Вось нават ён абмацвае на шыі яе тыя маністы, што падарыла ёй некалі пані.

— Бяжым хутчэй адсюль! — жонка схапіла яго за руку, і яны пабеглі. Але адбегліся яны недалёка, ззаду затупалі нечыя ногі, потым яго адпіхнулі, і ён толькі пачуў, як трэснула жончына кофта, як яна пачала адбівацца ад некага: «Пусціце мяне! Пусціце!» З растапыранымі рукамі ён кінуўся на невядомага ворага...

Апрытомнеў ён і пасля гэтага разу. Падняўся і пабрыў. Балючая чорная бездань стукалася аб яго то сукамі і карою дрэў, то абшаствала яго лістамі, то прыпякала ў лоб...

Ён стаяў з працягнутай рукою і маліў у гэтай бездані скарынку хлеба і глыток вады... Праз некалькі дзён, чуючы непадалёк панскую гаворку, ён, знясілены, апусціўся ля нечага цвёрдага, абмацаў яго і здагадаўся, што гэта камень.

Гэта быў валун.

## ДВАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

*1942 год.*

Сцяпан выйшаў на ўскрай бярэзніку, сунуў руку ў кішэню кажуха, саграючы цяплом далоні шурпатую паверхню лімонкі. Ён ішоў якраз той сцежкаю, на якой летась ляжала двое шаснаццацігадовых партызанаў: іх накрылі

сонных на хутары, і, перш чым завезці і кінуць тут, фашысты — па ўзросту бацькі тым дзецям — паскручвалі калючым дротам ім рукі і ногі, павыколвалі штыкамі вочы, паадразалі вушы і насы і павырэзвалі на спіне зоркі.

Сцяпан пастаяў, паазіраўся... Цішыня. Усё нібы вымерла. Вунь тая крайняя хата, у якую ён баіцца зараз зайсці. Пустуе яна ці не? Учора ж людзей ачапілі аўчаркамі, аўтаматчыкі пагналі на станцыю... Што, калі ён заявіцца ў гэтую хату, а да яго так і не кінецца на шыю пяцігадовы сын? Той сын, якога ён садзіў на плечы некалі даўным-даўно, садзіў і нёс праз увесь усеяны сінімі званочкамі луг... Пустуе хата ці не?

Клубы марознае пары вырываліся з рота, шчокі заходзіліся так, нібы з іх таркай злузвалі скуру.

Ён перавёў дыханне ля прыдарожнага каменя.

Гэта быў валун.

* * *

Ляжыць валун, а паўз яго праходзяць і праходзяць людзі — то басанож, то пры лапцях, то пры чаравіках, то пры чобатах; пазіраюць, праходзячы паўз яго, то з-пад хусткі, то з-пад кепкі, то з-пад вушанкі; затрымліваюць на ім свае позіркі — хто на міг, хто на хвіліну, хто на болей; і ён, валун, чуе людскія гаворкі, уздыхі, шэпты, малітвы, клятвы, змовы, плач, смех...

Ляжыць валун, а паўз яго праходзяць стагоддзі і тысячагоддзі. Ляжыць? Хаця не... Па амаль кругавым шляху бяжыць ён разам з Зямлёю, каб аббегчы за год Сонца.

Як нешта адвечнае ўзвышаецца валун, але калі падумаеш, што на тым месцы, дзе ўзвышаецца ён, было некалі мора, потым горы, потым зноў мора, потым зноў горы, потым зноў... зноў...— калі падумаеш пра ўсё гэта — адчуваеш, як мала адпушчана пражыць нават гэтаму валуну, як хутка нават ён растворыцца ў бязлітаснай бездані... Але калі тое будзе? Будзе тое няхутка, а зараз да гэтага валуна, ля якога пабывалі і Даўмонт, і Бірута, і Андрэй... прытуліўся спіною яшчэ адзін чалавек — Алесь.

Пра яго я і хачу расказаць.

# *Уладзімір* КАРАТКЕВІЧ

## ПАЛЯШУК

> **Виновники мятежа и вообще лица, содействующие ниспровержению правительственной власти в крае, должны быть, для примера другим, судимы и наказаны немедленно по всей строгости полевого уложения; собирание излишних фактов... лишь усложняет и замедляет делопроизводство.**
>
> *З загаду графа Мураўёва*

### I

— Ты ведаеш, што ты падлягаеш расстрэлу? — спытаў стаяўшага перад ім чалавека капітан Румянцаў.

Той змаўчаў. Стаяў прама, неяк дзіўна выцягнуўшыся, і толькі вочы яго з затоеным сумам сачылі за пушчай, куды яму ўжо не было шляхоў.

Увосень 1863 года частка коннага загона Чэнгірэя, моцна патрапаная ў безупынных сутычках з інсургентамі, была, па спецыяльнаму загаду штабканцылярыі, размешчана на адпачынак у глухім палескім сяле. Толькі-толькі адгрымелі раскаты паўстання, і хоць сам «дыктатар» яшчэ не быў схоплены і нават ніхто не ведаў, ці ў Вільні ён, але ўсё ўжо суціхала, дабіваліся апошнія чырвоныя загоны, няшчасныя, зацкаваныя людзі хаваліся па лясах.

Край дагараў, і разам з тым выпаўзала на свет тое, што раней старанна хавалі: здрада, падлога і мярзотны жах. Усе падонкі людства пачалі сваю мышыную вазню ля гожага нават зараз трупа Паўстання. Махровымі кветкамі ўзраслі лжывыя даносы, шантаж, правакацыя. Спуджаныя бюргеры выкладвалі з кішэняў столькі грошай, колькі жадаў агаворшчык, абы толькі потым, пры вобшуку, не знайшлі дзесьці ў доме альбо сараі падкінутай зброі.

Усю мярзоту, што звычайна хаваецца па самым дне людское душы, саромячыся падняць галаву, выцягнулі зараз стуль і выставілі для агульнага агляду і прыпадаблення, і капітан Румянцаў, які заўсёды быў сумленным ваякам, пачаў казаць за гарэлкаю:

— Дзярмо. І палячочкі, і гэтыя вашы, паручык Ратч, палескія вылюдкі. Ды, калі праўду казаць, дык і мы такія




Усяслаў Чарадзей. *Работа мастака Э. Агуновіча.*



Кокнэсэ. Рыцарскі замак на месцы былой рэзідэнцыі князя Вячкі.
*Фота С. Панізніка.*



Лідскі замак. *Малюнак Я. Драздовіча. 1929 г.*

Юрка Станкевіч і Сяргей Шупа каля руінаў Крэўскага замка.
*Фота С. Панізніка.*



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі
Жыгімонт Ваза (1566—1632).




Бітва з татарамі.









Выявы збройнага рыцара на гербе Пагоня з беларуска-літоўскіх манет канца XV — сярэдзіны XVI стст.



Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст.
*З гравюры М. Цюндта 1568 г.*



Баярын Вялікага княства Літоўскага (XVI ст.).



Кастусь Каліноўскі.
*Малюнак Пётры Сергіевіча.*



Сцэна са спектакля Е. Міровіча «Кастусь Каліноўскі».



Міхайла Грамыка.



Вацлаў Ластоўскі.



Цішка Гартны.



Кузьма Чорны
з беларускімі партызанамі. 1943 г.



Цётка (Алаіза Пашкевіч).



Уладзімір Караткевіч. Прага, 1973 г. *Фота С. Панізніка.*



За вольную Беларусь.



Разведчыкі 20-й механізаванай брыгады 1-й танкавай арміі.
На пярэднім плане — малодшы лейтэнант С. Усціменка.





Сустрэча праз гады і адлегласці. *Фота С. Панізніка.*



Партызанскае пабрацімства.

ж, калі яшчэ не горшыя. «Душыцелі». Няма чаго казаць, гожая для вялікай Расіі справа.

У адзін з апошніх дзён «баб'яй восені», калі лясы пачалі, пасля працяглага бязветрыя, страхаць на зямлю залаты дождж лісця, а ночы былі асабліва цёмнымі — нехта падпаліў стайню і склад з амуніцыяй і зброяю. Надвор'е стаяла ветранае і сухое, і таму ўсё пагарэла датла. Пасілілі каравул, але праз дзве ночы нехта падкінуў у пакой Румянцаву і паручыку Барзіловічу па змяі. Румянцаў «выкруціўся толькі цудам», а паручык памёр, хоць лекар, якога прывезлі з горада, прыпальваў яму ўкус нейкім белым камянём.

І вось тады салдаты, абшукваючы ваколіцы сяла, выпаралі з нейкай нары пад карэннямі старога дрэва палешука. Ён быў данельга брудны, з амаль бязвусым тварам, і таму цяжка было станоўча сказаць, стары ён ці малады. Нізенькі, у нязменных поршнях і кажуху, з голаю галавою, ён стаяў перад афіцэрамі, шчыльна сціснуўшы сківіцы. Выцягнутая з-за паяса сякера і старая стрэльба, а таксама вагніва і крамень у скуранай торбачцы былі ўлікамі.

— Ты хто такі? — спытаў яго Румянцаў.

— Паляўнічы.

— А хто цябе ведае ў акрузе?

— Ведаюць звяры маю кулю.

Румянцаў пасміхнуўся нервова. Гэты дзікун раздражаў яго.

— Ну, а можа, ты ведаеш, хто падпаліў на сяле будынкі і кідаў да нас, у вокны, змей.

— Не, не ведаю.

— А хто ж ведае?

— Ведае цёмная пушча, неба, хмары, а той, што зрабіў,— усё адно не скажа.

— Чаму?

Палашук змаўчаў. Ён па-ранейшаму глядзеў на неба, і губы яго слаба рухаліся. Румянцаў паглядзеў на яго і сказаў паручыку Ратчу:

— Вось вам, прыхільнікам історыі, добры абразчык. Першабытны жыхар лясоў, ух, фанатычная морда, каб была ахвота паскудзіцца...

Ратч з сваімі жаноцкі прыгожымі вачыма адказаў:

— Гэта не фанатызм, гэта — звычайная абмежаванасць і жывёльная тупасць. У гэтых маіх імшарах патрыятызм і нянавісць да нас пакуль што з'явіцца не могуць. Можа, гэта й не ён падпаліў наогул.

Румянцаў раззлаваўся:

— Ну, ён ці не ён, патрыятызм гэта ці звычайны бандытызм, а я яго расстраляю. У наступны раз не будзе павадна іншым бадзяцца са зброяю ў недазволеных месцах. Шабаш!

І ён разануў далонню па паветры, быццам паказваючы, што няма чаго далей валаводзіцца. Палешука адвялі ў пуню, пакуль паны-афіцэры пераапрануцца і нап'юцца чаю з ромам. Гэта цягнулася амаль што цэлую гадзіну, і ўвесь гэты час паляшук спяваў нейкія, зусім не жаласныя спевы хрыплым голасам, падобным да лаю сабакі. Першым прыйшоў за ім Ратч і пабачыў: паляшук сядзеў, забіўшыся ў кут, і з цемры блішчэлі яго вочы. Ратч спытаў:

— Чаму гэта ў цябе песні такія гнеўныя?

— Мужчынскія,— адказаў паляшук і зноў заціх.

Ратчу падабаўся гэты дзікун, нягледзячы на тое, што гэта была жывёла, тупая і выраджаючаяся з кожным пакаленнем. Бачная была ў гэтай жывёле нязломнасць. Калі паляшук глядзеў на пушчу — Ратчу здавалася, што гэта арол, пасаджаны ў клетку, пазірае на высокія, залітыя сонцам горы. Там шмат часу трымаецца святло, а тут, па лагчынах, ужо ляжыць цемра і імгла, і ніколі ўжо не прашумець яму на верхавінах магутнымі сваімі скрыдламі. Ратч любіў селяніна сваіх беларускіх абшараў, пакорнага, рэлігійнага, набітага забабонамі да мазга касцей і, разам з тым, моцнага, вытрымлівага. Вось зараз ён, вядома, сумуе, што загіне без сабаравання.

— Ты ў якога бога верыш? У уніяцкага альбо праваслаўнага?

— Чаго?

— Ну дзе твой бог: у касцёле ці ў царкве?

Паляшук зітхнуў і адказаў упэўнена:

— А нашто бога саджаць у каменную будку? Бог у кожнай былцы, і ў лясах, і ў багне — паўсюль.

«Нейкі палітэізм»,— падумаў паручык.

Ззаду Ратча затрашчаў барабан: падыходзілі салдаты.

Справа ўжо йшла к вечару. Стаяў шэры кастрычніцкі дзянёк, і хоць раннія маразы ўжо скончыліся — яны падтачылі лісце, і яно валілася зверху чырвонымі варахамі, і лес безупынна шалахцеў, прыгавароны да страты.

Чорныя галіны дрэў асабліва ярка вымалёўваліся на гэтай чырвонай казцы, а ліст ляцеў наўскасок, ляцеў, ляцеў.

Паляшук ішоў, аточаны чатырма салдатамі, і нешта

мармытаў сабе пад нос. Твар яго часам уздрыгваў, і на ім з'яўляўся нейкі дзіўны празрысты выраз, амаль дзіцячы па яснасці. Калі ўжо амаль падышлі да месца расстрэлу — ён ненарокам пакінуў у калюжы адзін поршань, але не заўважыў гэтага і пайшоў далей. Нага хутка пачырванела ад холаду, і Ратчу было непрыемна глядзець на гэта. Зусім скалелы ад холаду Румянцаў сказаў палешуку, калі яго паставілі да дуба:

— Ты б памаліўся хоць.

Паляшук паслухмяна пачаў казаць наступнае:

— Матка боска заступніца... I свенты Осіп і свенты Мікола, станьце маім ворагам у глотцы колам. Заступіцеся за мяне і зямлю маю... Усіх сумуючых...

Відаць, ён нават не ведаў малітваў і паўтараў тое, што чуў калісь без усялякага сэнсу. Ратч зарагатаў:

— Што гэта ён такое вярзе?

— Не бачыш — дурань,— адказаў Румянцаў.

А маленькі брудны чалавек усё казаў:

— Зассі іх у багну, не дай ім сонейка пабачыць... Дай хлеба астаўленым. Свенты Осіп і свенты Мікола... Калі не будзеце, як дзеці...

На гэтым месцы ён запнуўся, паўтарыў «як дзеці», і як быццам толькі тут дайшло да яго тое, жудаснае, што з ім збіраюцца рабіць, бо ён раптам паў на калені і заплакаў:

— Не забівайце!.. Паночкі, не забівайце! Я вам грошай дам, шмат грошай!..

Румянцаў наліўся чырванню і закрычаў:

— Падыміся! Трус! Нічтожаства!

Палешука сілком паставілі да дрэва, але раптам Ратч сказаў задумліва:

— Скуль у яго могуць быці грошы? Можа, гэта іхні жонд прыхаваў тут частку свайго скарба?

— Мажліва,— ажывіўся Румянцаў.— Што ж, паспрабуем.

І зноў пакрочыў перад імі паляшук. Ісці давялося ўсяго хвілін пяць. Ля сухой асіны з развілкаю ён торкнуў пальцам у зямлю:

— Тут.

Салдаты пачалі рыць зямлю, Румянцаў з Ратчам пільна сачылі за імі, і вось урэшце салдацкі штык стукнуў аб нешта. Гэтае нешта ўбачыла святло божае ў выглядзе невялічкай драўлянай скрынкі.

— Не, жондаўскім гэта быці не можа, Мала. Відаць, яго асабістае,— сказаў Ратч.

А Румянцаў прыбавіў:

— Вось падлы. А кажуць: галеча. Галеча галечаю, а грошы хаваюць.

Скрынку расчынілі, і адтуль пасыпалася на жоўтую кастрычніцкую траву палешукоўскае «багацце». Асноўную частку скарбу складалі нейкія чатырохкутныя чорныя раменьчыкі.

— Пятроўскія раменныя грошы,— сказаў Ратч і плюнуў.

Былі тут шчарбатыя, ззелянеўшыя грашы, а найболей таго палушкі, збітыя капейкі з лішаямі, адна «Янава галоўка».

— Дык што ж ты мне кажаш, трасца тваёй матары,— падступаў да палешука Румянцаў.

— Грошы, шмат грошай... Можна купіць... Не трэба.

— Э, ды чаго з ім размаўляць,— твар Румянцава зморшчыўся.— Стаў яго да дрэва і канчай размову.

Тагды паляшук зразумеў, што ўсё адно яго не адпусцяць і кончаць тут, ля гэтай сваёй скарбніцы і выцягнуўся, нават здаўся вышэйшым па росту.

— Гэта я падпаліў,— сказаў ён.— Вы мяне заб'еце, але я сваё імя перадаў іншаму, і ён вас таксама падпаліць і заб'е, бо кроў бедных людзей... І вы прыйшлі ў гэты лес, не паклаўшы хлеба на пень, і ён вас не выпусціць адсюль. Вы тут памрэце, бо вы кепскія людзі, і я вас сапсаваў.

І чым больш ён гаварыў, тым больш Ратч ставаў упэўненым чамусьці, што паляшук ні ў чым не павінны. А Румянцаву прыйшло ў галаву, што асуджаны саскнарнічаў у апошнюю хвіліну і не паказаў ім сапраўднай скарбніцы. Ён падумаў трохі (паляшук стаяў ля дрэва і маўчаў, толькі вочы яго з-пад брудных, навісшых на вочы касмылёў глядзелі з нянавісцю) і сказаў палешуку:

— Купі сабе жыццё.

— Мне не трэба жыцця,— адказаў жорстка і холадна паляшук.

Грымнуў залп.

## II

Калі паны-афіцэры пакрочылі ўпярод, а знявечанае пякельнай пакутай цела палешука зарылі,— адзін з салдат сказаў каротка:

— Эх, паны, на такога бядака грошы пакваліліся.

А другі прадоўжыў:

— А я ўпэўнены, што, калі б там хоць дваццаць сапраўдных рублёў было — яго б выпусцілі жывым. Вось чаго грошы варты... Кажуць, палячышкі, палешукі, а мне здаецца, што калі паны на такое здатны, дык нам з гэтых палешукоў прыклад браць трэба, а не біць іх.

Абярнуўся да ямкі і нагою асцярожна ссыпаў туды грошы:

— Можа, хто падбярэ.

Ратч і Румянцаў ледзь адышлі ад месца страты, як у гушчары нехта варухнуўся. Абодва прыглядзеліся: ля самай дарогі стаяла нейкая жанчына ў лахманах, з змрочным тварам, падобным на твар заморанай разумнай жывёліны. Двое дробных дзяцей трымаліся за яе падол, трэці вісеў у нейкім лянтуху за плячыма. У яе былі сурова нахмураныя бровы і глыбока праваліўшыяся вочы, якія глядзелі некуды ў бок паляны. Пачуўшы трэск галіны пад нагою капітана, яна знікла, як быццам праваліўшыся праз зямлю.

— Гэтай што яшчэ патрэбна? — спытаў Ратч.

— Не ведаю.

Адышлі далей, ззаду паказаліся салдаты, і раптам Ратч, які напружана думаў аб гэтым, стаў.

— Стойце! — закрычаў ён.— Бож-жа ж мой! Здаецца, я пачынаю разумець... Вось чаму ён так прасіўся.

Быццам у падмацаванне яго слоў ззаду, з паляны, пачуўся пранізлівы крык. Ён быў падобны адначасова і на вой, і на лямант смяротна пакутуючага чалавека.

— Што гэта? — спытаў Румянцаў, усё яшчэ не разумеючы.

— А то,— адказаў Ратч з крывою пасмешачкай.— Жанчына, ваўчыха ці, можа, яшчэ што.

Румянцаў зразумеў, уцягнуў галаву ў плечы і амаль пабег да сяла.

На сцежцы, на шляху ляжаў поршань палешука, вада яшчэ не наліла яго з коптурам, і ўнутры плаваў жоўты асінавы лісток.

І толькі тут Ратч зразумеў усю непапраўнасць зробленага.

А на паляне лямантавала жанчына, і ў голасе яе адчуваўся такі адчай, такая безнадзейнасць, што здавалася, уся зямля напоўнена ім і болей нічога не засталося на яе абдзёртых, жабрацкіх абшарах.

Вечарам яны смяротна перапіліся. Ратч узняўся і кінуў Румянцаву ў твар абвінавачванне:

— Вы гэта зрабілі ад злосці. Ганарыцеся сваёй сумленнасцю, а самі жадалі абакрасці гэтага бедака.

— А чым вы за мяне лепшы? — адпарыраваў Румянцаў.

Ратч зваліўся на лаву і зарыдаў п'янымі слязьмі. Румянцаў ірвануў каўнер мундзіра:

— І гэтак паўсюль. У мяне пад Калугаю тое ж бачу ў вачах хамскіх. Хутка яны схопяцца за сякеру, і тагды... Мы тут апошнія госці, няпрошаныя на ўсёй зямлі, ненавісныя, прадрачоныя.

А Ратч рыдаў, і праз рыданне чулася:

— О, як яны нас ненавідзяць!.. О, як яны нас ненавідзяць!.. Як жахліва, як халадна нам жыць на зямлі!

Над хатамі раўла навальніца, сыпала дажджом на загубленае ў лясах сяло, чорнай сажай крыла ўсё навакол, і ў яе плачы чуўся і перадсмяротны стогн, і лямант кабеты, і грамавы рык народнай крыўды і помсты.

## *Наталля* АРСЕННЕВА

### ПРЫСЯГА

Беларусь!
Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня зьгінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс твой расьцьвілы
супраць Чорнае Моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!

## ПЕСЬНЯ КАЛІНОЎЦАЎ

Палыном і быльлём парасьлі нашы нівы,
як ні б'емся, ні гнёмся над імі у крук,
плён адвеку чужынцы зьбіраюць, ня дзіва,
што канае народ твой і ты,
Беларусь!

Але годзе!
Мы ўстанем!
Ціхім раньнем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе
возьмем волю сабе і табе,
Беларусь!

Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята
на змаганьне за сьвята для мазолістых рук,
за зямлю для аратых,
і за сонца у хатах,
за увесь твой народ, за цябе,
Беларусь!

Дык ударма, як гром, дык лінем навальніцай,
дык праб'емся ж крыніцай
з-пад зямлі угару,
каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-каласіцца
наш загон і бязьмежжы твае —
Беларусь!

Гэй, сьмялей,
гэй, далей,
не лякаймася сьмерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць.
Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
але ты будзеш жыць і расьці,
Беларусь!

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых!

Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы, штодзённай, шэрай,
На хлеб штодзённы, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць — дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот!
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

# *ЦЁТКА*

## ПРЫСЯГА НАД КРЫВАВЫМІ РАЗОРАМІ

Быў цёплы асенні дзень. Нівы ціха адпачывалі пасля летняй працы. Цёмны лес шаптаўся ў глыбокай задуме. Буслы тужліва ляцелі на вырай.

Гэтага дня, маркотны і згорблены пад цяжкаю хмараю невясёлых дум, ледзьве-ледзьве поўз стары Мацей у поле.

— Галава баліць, рук не зняць,— бурчэў ён, падцягваючыся.— Дзяцей дагадаваўся, а адпачыць некалі і няма за кім.

Так ён сам сабе жаліўся.

Праўда, у Мацея было трое сыноў: аднаго ўзялі ў войска, другі паехаў да Пецярбурга шукаць хлеба, трэці пайшоў за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкаю і дзвюма малодшымі дзяўчаткамі астаўся ў хаце на сваёй гаспадарцы.

Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо не тыя,— а рабі і рабі, працуй без канца... Мардасовічу — за лён, Бізуноўскаму — за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы штодзень на адработках, так што сваё, хоць і вузка, але і то лында, і то няхват часу ў пару засеяць. Вось і цяпер,— суседзі ўжо даўно пасеялі і пабаразнілі, а Мацей толькі першы дзень выйшаў на сваё і то быў хворы. Аднак, перамагаючы сябе, насыпаўшы жыта ў хвартух, напляваў у жменю, чарпануў зярнят і са словамі «радзі, божа» сыпануў зерне на чорную глебу.

Зярняты замільгацелі на раллі. А Мацей стаяў з пасалавеўшымі вачыма і шаптаў: «Не магу... Надта ж галава баліць і сон морыць».

І, не ўкладаючыся і не пасцілаючыся, ён, як стаяў, так і лёг, так і заснуў...

Спаў, як пласт, упоперак загона з раскінутымі рукамі. Ліцо было бледна, губы чорныя ад смагі; дыхаў ён часта і з якімсьці хрыпам. Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вот-вот раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае.

Мацей спаў і сніў. Сніў ён, што сабралася моц народу на яго ніве: былі там і маладыя, і старыя, і мужчыны, і кабеты, і дзеці — у розных апратках, і ўсе крычалі:

— Вузка! Цесна! Мала!

А Мацею здавалася, што і ён сам стаіць пасярод гэтага народу, і што ўсе чакаюць, што і ён сам, Мацей, скажа, і што вот-вот к яго сэрцу падыходзіць нечы жаль, і што ён таксама пачынае крычаць:

— Вузка! Цесна! Мала!

Аж, здаецца, выбягае сам сусед Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацней ад Мацея:

— А скуль узяць? Скуль дастаць? Кажы, скуль?..

Тады захістаўся народ і зароў:

— Глядзіце, во прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта наша!..

А Астап:

— Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, дворнае,— ні я, ні вы не маем права... Не дадуць, паб'юць...

Вось далей здаецца Мацею, што з цьмы народу выходзяць яго тры сыны: парабак дворны, салдат і работнік пецярбургскі — і становяцца на калені і прысягаюць громка, ясна, паволі:

— Мы дамо! Мы — сіла! Мы — права!

Мацей абліваецца потам, сэрца яго б'ецца... І здаецца яму, што ўсё гэта спавіў туман: толькі разоры стаяць, поўны крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваныя далоні... І раздаецца ціха ясны голас:

— Мы — сіла! Мы — права!..

*1906*

## ВЕРА БЕЛАРУСА

Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет божы шырай глянем,
Век напіша нам закон.
Не чарнілам на паперу,
Дзесь ў архівы не здае,—
Ён збірае поту меру
І на ніву нашу лье.
Землю поіць — яна родзе
Сок ў зярнятах нам на хлеб.
Спажываем, і ў народзе
Штось як шэпча: «Ўставай, слеп!»
Веру, братцы, ў нашу сілу,
Веру ў волі нашай гарт:
Чую агонь ў нас — не брыну,
Бачу, братцы, мы не з карт,
Мы не з гіпсу, мы — з камення,
Мы — з жалеза, мы — са сталі,
Нас кавалі у пламенні,
Каб мацнейшымі мы сталі.
Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць пута!

*Кастрычнік — лістапад 1905*

# *Міхайла* ГРАМЫКА

## МЕНСКАЯ ВЕЖА

Стаіць яна, вежа-званіца, у асяродку старога горада, што шаволіцца пад ёй сваімі вулкамі і прысадамі. Пануе яна над афарбаванымі цаглінамі муроў, над шматкаляровымі дахамі, нават над птушынымі гняздоўямі, нашто ўжо — апошнімі паверхамі гарадскога жыцця...

Трэба высока ўскінуць вочы, каб пабачыць галаву гэтага Самсона-волата.

А ля ног яго руляцца спрытныя стварэнні, руляцца пешма і конна, ганяюцца на самабегах-аўто, на самакатах-коніках...

Раніцай па ўсіх кірунках-сцежках выбіваюць брук тыя, што твораць жыццё, і тыя, што плятуцца ў хвасце яго, тыя, што сустракаюць першую вясну кахання, і тыя, што апіраюцца на апошні кій свайго доўгага шляху — вераб'і і буслы-настаўнікі; сакалы з вострымі дзюбамі і кіпцямі...

Вось праляцеў на аўто адказны працаўнік, які чытае ў вачах натоўпу таксама лёгка, як і ў апошнім нумары газеты; вось прайшоў гурток работнікаў з кляўцамі ў руцэ, з агнём будучыні ў зрэнках...

Спяшаецца засесці за канцылярскі стол марна пекная дзяўчына на высокіх абцасах... Прайшоў у друкарню пясняр, каб наглядаць за выйсцем маладых твораў, унукаў яго натхнёнага гукання... Прасмяяліся міма слухачы і слухачкі, што нікога не слухаюць, апрача голасу маладога жыцця.

Прайшоў дарогу другі пясняр і спыніўся з першым, і стаяць яны ля вежы-званіцы, абодва звычайныя з выгляду і нязмераныя яшчэ ў творчай працы... Стаяць яны, ці гавораць, ці не гавораць, а толькі часам узнімуцца думкай пад вежу і аглядаюць адтуль жыццё...

Памалу, як дзед, прайшоў у свой камісарыят другі адказны працаўнік з поглядам спакою і прыгатаванай кожнаму рады ў сініх вачах...

Чырвоны коннік нёсся па вуліцы і круць — звярнуў каля вежы...

Яшчэ падбавіла мурашкаў-людцоў. Высокі, сутулы, шырокім крокам прайшоў сярод іх чалавек. Куды ён? Ці спяшаецца кінуць каму ў вочы праўду, ці спыніць няўмелую руку? А мо гукне з катэдры нечаканае слова, каб напомніць аб тых, што яшчэ не дацягнуліся да менскае вежы?..

Надойдзе якое Новае Свята, пойдуць міма вежы-званіцы шэрыя хвалі, а над галовамі іх — Чырвань прызываў і сцягаў... Чырвань прызываў і сцягаў — караблі бурнага мора...

У гарышчы гэнае вежы ходзіць укруг вартаўнік; ён здаецца маленькім. Увесь горад, стары горад працы, барацьбы, голасу і жартаў — як на далоні. Пільным вокам пасочыць ён праменні ўсходу-заходу, поўначы-поўдня... Пара вачэй неўздраманых сочыць там уверсе, на вежы. Спакойна працуе ў дні супрацоўнік, і маці можа спачыць ля

дзіцяці ўначы, бо ведаюць вежу яны і на ёй пару вачэй вартаўнічых.

Толькі ўбачыць ён дым ці смурод у паветры, пачуе — рантам ударыць у бом, выкіне галы-сігналы або токам запаліць ліхтарні... І зашаволяцца людзі ўнізе; медзяныя шлемы апрануць; коні трывалыя ўзнуздаюць, і вось ужо да валкі гатовы: гасіць стыхію варожасць.

* * *

Высіцца вежа над мурамі, вышэй і вышэй... Угару, здаецца, расце... Здаецца, хмаркі палошчуць сцяг яе, сцяг працы-змагання.

Акалічныя вёскі, што хаваюцца яшчэ ў пушчах, як і тыя, што агаліліся сярод узворанага поля, бачаць гэтую вежу са сцягам і кіруюць на яе барозны бліскучых плугоў. Маладзіца, што перасекла ўпоперак дзедзіну раллю, павязала голаў хусткай таго ж колеру, як і сцяг той на вежы.

Сівы дзед, канчаючы да захаду працу-сяўбу, зняў звыклай рукою шапку і зірнуў на вежу-сцяг.

Вясковы настаўнік у часе навучання выводзіць на дошцы літары сцягу, а вучні срэбным хорам спяваюць прызывы.

Стаіць нерухома менская вежа. Гэта хмаркі-здарэнні плывуць над яе верхавінай, а здаецца тым, што ўнізе, нібы гэта яна шавяльнулася ў хмарах.

І сочыць той вартаўнік па ўсіх кірунках-праменнях.

Яшчэ вышэй узнімаецца вежа.

Мімаволі глядзяць на яе гарады, што ляжаць па Віліі і Нёману: углядаюцца ў сцяг, у галы-сігналы і слухаюць бомаў. І слухаюць Вільня і Коўна і нават чэская Прага:

«Злучайцеся вы, пралетары, што мову і тую згубілі! Уся ваша маёмасць — вы самі. Што засталося ў вас, апроч гэных рук, якія вы прымушаны прадаваць тым ці тым гаспадарам сваім? Што засталося ў вас, апрача думак-хмарак, што гоняць вятры з боку ў бок? Што засталося ад хат вашых, апрача комінаў, а наўкол іх будуюцца асаднікі?

Што засталося ад пушчаў вашых — пні спарахнелыя з грыбамі-порхаўкамі!

Злучайцеся! — гукаюць сігналы менскае вежы. — Бо адсюль відаць далей, як з вашых балконаў-гарышчаў, а ветры даносяць да менскае вежы смурод пажарышчаў далёкіх!

Чаму раздзьмухае вас, як насенне непатрэбнае? Чаму не рассявае вас рука сейбіта, каб узняцца збожжам працы і яднання?

Дзе бацькаўшчына ваша, пралетары Віліі і Нёмана? Вы знойдзеце яе толькі тады, як здолееце карыстаць з працы рук сваіх. Вы знойдзеце яе — калі пераплавіце званы модлаў вашых у вострыя мячы змагання, а пацеркі на руках вашых ператворыце ў мазалі на руках вашых, каб не балюча было трымаць стрэльбы... Хай чарадуецца ў руцэ аловак вашых газетных спрэчак з сякерай, што павінна зарубаць насечкі-помнікі на пнёх павысечаных пушчаў...» Так гудзе з гары менская вежа-званіца, што вырасла ў асяродку старога горада. Яна вырасла, каб запанаваць над цаглінамі муроў, за якімі сядзелі пралетары, пакуль не знайшлі сваёй бацькаўшчыны.

Трэба высока ўскінуць вочы, каб угледзець голаў-сцяг гэтага волата рэвалюцыі і пабачыць ля сцяга свядомага пралетара!

*1923*

## НАШАЯ КРОЎ

У нас, крывічанаў,
Халодная кроў,
Пакуль не захопіць
Да краю любоў.

Як з нашага неба,
З вачэй не цячэ.
Сароміцца думка:
Вось-вось уцячэ!

Валоссе — як жыта,
Як золак — наш твар,
Пакуль на палудзень
Не ўзыдзе стажар.

Мы самі, як хвойкі,
Бярозкі ў гайку:
Стаім ані чутны
Ў зацішным цяньку!

Калі ж захапленне
На сэрца найдзе,—
Не знойдзецца вогнішчаў
Гэткіх нідзе!

Не воблачкаў сталкі,
А гром-перуны
Па небе, па вочках
Пракоцяць яны.

Гайкі ды бярозкі,
Як пушчы, гудуць,
Аж страшна бывае
Туды зазірнуць!

Тады ўжо «тутэйшых»
Ані не пазнаць,
Як папараць-кветку
Збяруцца шукаць.

Тады ўжо шукаем
Не кветкі адной,
Але чалавечае
Праўды усёй!

Шукаем і верым,
Што знойдзем яе,
Ў шуканне ўкладаем
І душы свае...

І сэрца і грудзі,
Як дрыгва, дрыжаць.
Тады выпадае
І нас распазнаць!

Судзіце ж, браточкі,
Пра нашую кроў,
Пакуль не захопіць
Да краю любоў!

*1924*



## *Якуб КОЛАС*

### НЕ БЯДУЙ!

Не бядуй, што сонца нізка,
Што прыходзіць нудны дзень,
Не бядуй, што восень блізка
І на дол кладзецца цень.

Не бядуй, што снег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!

Будзе час, і снег растане,
Прыйдзе зноў да нас вясна,
Ветла з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што звіслі хмары,
Што нам сонца не відаць,

Не бядуй, што ўноч пажары
Сталі неба залівадь,—

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,— жыцце залатое
Будзе ў нашай старане.

*1907*

## *Янка* КУПАЛА

### МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны узняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

І ў час буры, нягод і вялікіх надзей
Зацвіла, расцвіла даўгажданая,
І крыніцай жывой над айчызнай сваей
Паплыла, пацякла неспыняная.

Паплыла, пацякла з светлай казкай жыцця
Полем, лесам, гарой і далінаю...
З свойскіх кветак-пралесак — карона твая,
Ўся сама — ясната лебядзіная.

Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягонняшні ўперад ісці не пыніш
І глядзіш смела ў будучнасць тайную.

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.

Ад мяжы да мяжы, ад канца да канца
Абнаўлення павевы расходзяцца,

Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.

Ўжо не так тапары у зялёным бары
Хвойкі валяць зімой маразянаю,
Ўжо не так касары ад зары да зары
Летам звоняць касой адкляпанаю.

Значан гарт у руках, чутна песня без слёз,
Грудзі славы надзеяй калышуцца,
Ў кнігі новы закон ёмка пёрамі з кос
Наўсяды людзьмі новымі пішацца.

Расцвітай жа, ўзнімай на арліных крылах
Душы, сэрцы і думы заспаныя,
Вызывай, выклікай на вялікі прасцяг
Сілу, ведзьмай-пятлёй не чапаную.

Высылай, рассылай на край свет пасланцоў,
Як з гнязда сакалінага сокалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,
Хай грымяць весткай добраю ўвокала.

Годзе ў полі, ў лясах ты, старонка, і так
Сіратой начавала забытаю,
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,
Косці вецер тачыў непакрытыя.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі:
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

*1911—1912*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

З зямлёй і небам звязывае мяне ніць —
Неразарваная веквечна павуціна:
Зямля мяне галубіць, як вернага сына,
А сонца мне душу не кідае туліць.

Яшчэ ў калысцы я навучыўся з песень сніць
Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах:

Што роднай нівы я мільённая часціна,
Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць.

Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе без злосці,
Узрос з яе й чужых з яе не скінуў косці,
Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.

І калі здзекуецца нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай здзекаваецца ён маей,
Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

*1915*

## ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Я зноў заснуўшую было жалейку
Бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць светлых, звонкіх думак-слоў,
Ці гладка пойдзе песня-дабрадзейка?

І пачынаю йграць з трывогай нейкай,
Хоць песня як і з даўных б'е часоў,—
Звініць, як вецер паміж верасоў,
І ўперагонкі рвецца з салавейкай.

А ўсё ж як тамка сваякі-суседзі
Яе паймуць, хацелася бы знаць,—
Ці баслаўляць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?

Адно, снуючы з сумам па праследдзі,
Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе,
Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!

*1918*

## СВАЙМУ НАРОДУ

Табе, народ мой, згібнуты ў аковах,
З-пад сэрца песню гэтую пяю,
І, ускрашаючы мінуўшчыну нанова,
Выказваю цяперпічыну тваю.

Сягні ў даўно заснуўшыя сталецці,
Заслону дзён уцёкшых адхілі
І глянь, як сёння твае жывуць дзеці,
Як ты жывеш на прадзедаў зямлі.

Дняпро і Сож, Дзвіна, Вілля і Нёман
Шмат могуць што у памяці збудзіць,
Ды пушчы Белавежскай сумны гоман —
Паслухай толькі, што ён гаманіць.

Тваймі рукамі ўзнесены замчышчы,
Глянь, зарастаюць дзікім палыном,
Па сцен астатках вецер дзіка свішча,
Як бы пяе памінкі быўшым днём.

Пяе аб тым, як гэтыя байніцы
Край сцераглі на захад і на ўсход,
Як з поўначы разбойны чужаніца
Не мог замчыскавых скрышыць варот.

Ты жыў, ты панаваў у краі родным,
Сцярог ад чужака й законы укладаў;
Звон вечавы сход склікаваў народны,
І сход аб шчасці Бацькаўшчыны дбаў.

Сягоння ўсё спіць і зрастае зеллем,
Сцярэч свой край няма ні сцен, ні рук;
Званы вячовы змоўклі, анямелі,
Ў ярме сагнулі людзі плечы ў крук.

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь свежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-Бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часці, на кускі.

Сыноў тваіх рассеяў па ўсім свеце,
Як птушак ястраб з гнёздаў разагнаў;
Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці
Сярод магіл шукаюць і канаў.

І мерцвякоў знаходзяць... А жывыя...
Як мерцвякоў пагляд іх і жыццё,
Праклёны толькі шэпчуць векавыя
Ды вечнае чакаюць небыццё.

Упаў народ. Змарнеў народ, забыўся,
Як Бацькаўшчыну, як яго завуць;
Як падарожны без пуцця, знябыўся,
Як сірата, якой нідзе заснуць...

Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань і глянь, як ззяюць скрозь вагнішчы,
Як носяцца ўсясветных змен віхры,
Як на старога быту папялішчы
Цвет зацвітае новае зары!

Паўстань, народ! Для будучыны шчасце
Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;
Не дайся ў гэты грозны час прапасці,—
Прапашчых не пацешыць шчасцем свет.

Сваю магутнасць пакажы ты свету,—
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты...
Цябе чакае маці-Беларусь!

*1918*

## *Андрэй ЗЯЗЮЛЯ*

### НІКОЛІ

Над гонар і славу, над чары кахання
Народную справу і перакананне,
Што розум дыхтуе, заўсёды я волю —
Ня здраджу ніколі.

Хай хмара павісне над соннай зямлёю,
Хай гора прыцісне жалезнай рукою,
Я роднае мовы ня кіну ў нядолі —
Ня здраджу ніколі.

Бушуе хай бура, віхор хай злуецца,
Хай вецер панура завые на рэчцы,
Я роднага краю, што рвецца да волі,—
Ня здраджу ніколі.

Хай гром з перунамі грыміць і страляе,
Маланка агнямі хай бліскае, ззяе,
Свайго я народу бяз хлеба і волі —
Ня здраджу ніколі.

Хай срэбра, дукаты мне сыпяць пад ногі
І скажуць: багаты будзь, кінь род убогі,
Я плюну з пагардай, народу ж і волі —
Ня здраджу ніколі.

Да самага скону, усякім прымусам
І сіле прыгону скажу: Беларусам
На век астануся, сваей ўласнай волі —
Ня здраджу ніколі.

## *Алесь САЛАВЕЙ*

### ТРЫЯЛЕТ

Мой бел-чырвона-белы сьцяг —
Зямлі мае краса і слава!
Імкненьне ейнае і справа,
Мой бел-чырвона-белы сьцяг —
Барвовы шляк зары крывавай.
Нябёсаў гладзь, палёў прасьцяг —
Мой бел-чырвона-белы сьцяг —
Зямлі мае краса і слава!

# *Уладзімір ЖЫЛКА*

* * *

Я — грамнічная свечка прад богам.
Ціхай, ціхай згараю малітвай
За блакітную к небу дарогу,
За ўзрунелыя зелена рытвы.

Усемагутны! Вось сэрца паэты —
За народ Твой Крывіцкі ахвяра!
Дым кадзільны — жар вершаў — прад светам
Узнашу да Цябе па-над хмары.

Ў бездарожжы зблудзілі глыбока,
Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы...
Не адмоў нам паслаці прарока
З цвёрдай верай і словам агнёвым!

Цішу досвіткаў цьмяных
Абуджаю жальбою вялікай:
Расчашы Ты сівізну туману,
Празіяй жыватворным Аблікам!

Да Цябе уздыхаюць са мною
Капытом здратаваныя нівы,
На аблогах — бадыльнік з лазою
І чарот па-над ставам шумлівы;

Уздыхае кароўка-худоба,
І авечка на голым папары,
І каняка схіляе з жалобай
Галаву пад нязмерным цяжарам.

Узгляніся!.. Злітуйся над ніцым!..
Маё гора ўсёды, усёды:
Мае слёзы — у дажджах навальніцы,
Мае енкі — у стогне народу.

І туга мая — з ветрам на полі,
Мая смага — гаючай крыніцы:
Няхай будзе і праўда, і воля,
Твая Воля на роднай зямліцы!

*1927*

## *Казімір СВАЯК*

### ГІМН РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Зямліца прошласці ціхой,
Крывавай спісана рукой,
Айчызна — Маці — Беларусь,
  Цяжкі лёс Твой.
Паклон з трудом Тваей дружбе,
Паклон за волю барацьбе,
Айчызна — Маці — Беларусь,
  Паклон Табе.
Жалосна плача песнь Твая
І Бога моліць, слёзная,
Айчызна — Маці — Беларусь,
  Ты родная.
...Ідзе вось ясная пара,
Праўду свеціць нам зара,
Айчызна — Маці — Беларусь,
  Гарой, жыва!

## *Гальяш ЛЕЎЧЫК*

### МЫ ЖЫВЁМ НАДЗЕЯЙ...

Хай марозны вецер завывае жудка,
Хай старонку родну снегам занясе,—
Мы жывём надзеяй! Хутка ці не хутка —
Радасныя весткі час нам прынясе!

Хай імгла зямельку ў путы спавівае,
Хай цямнее сонца з бураносных хмар,—
Мы надзею маем: край наш прычакае —
Лепшу долю дасць нам бог і гаспадар!

Хай пануе ліха, цяжкія пакусы,
Хай бяда прыцісне, чмуцяць махляры,—
Ў нас жыве надзея! Будуць беларусы
Бедаваць, цярпець ўжо толькі да пары!

## *Макар* КРАЎЦОЎ

### МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
на вольны родны свой прастор,
хай воля вечна будзе з намі,
а гвалту мы дамо адпор,

Няхай жыве магутны, смелы
наш беларускі родны дух,
штандар наш бел-чырвона-белы,
пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасце і за волю
народу слаўнага свайго,
браты, цярпелі мы даволі,
на бой усе да аднаго.

Імя і сілу беларуса
няхай пачуе й бачыць той,
хто смее нам нясці прымусы
і першы выкліча на бой!

Браты, да шчасця мы падходзім,
хай гром грыміць яшчэ мацней,
ў крывавых муках мы народзім
жыццё Рэспублікі сваей.

## *Янка* КУПАЛА

### З публіцыстыкі 1919—1920 гадоў

### ЯК У КАЗЦЫ

Даўно было — мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей,— як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы — дрэговічы, крывічы і палачане.

Важны быў гэты народ, і паміж суседзямі меў ён доб-

рую песню і праўдзівае паважанне. З далёкіх заморскіх старон — з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі — шоўкам, бісерам, янтаром ды іншымі драгацэннымі скарбамі. Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся... Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным; навет калі выхадзілі з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не знали, а яшчэ астаўлялі ў хатах над абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных — гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.

Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не аднаго бога мелі, а некалькі і прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ. Аўтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты-вешчуны — старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя. Не было, праўда, узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных,— былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры багам прамудрым. Просты быў народ, і крывадушыць не ўмеў ён у веры сваёй. Ведаў толькі, што найлепей гаварыць з небам, гледзячы ў неба, не зачыняючыся ў ніякія словы будоўлі.

А хто хаваецца ад сонца, у таго на душы цёмна.

А чыстае, відаць, сумленне мелі прадзеды нашы.

Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі; не разумелі, як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго. Дзівіліся, бо госці заезджыя былі веры іншае і звычаёў гэткіх у сябе не мелі.

Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя: прывезлі яны новага Бога, Бога з крыжам. Не хацелі спачатку прымаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды налачане ад іх не адставалі, а пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога; адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся і народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць

нядобрыя варожбы выражалі. Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць, тысячы з медзі літых званоў хвалу яму разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка, і яшчэ далей, ажно на край свету.

А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу. Жывуць, як даўней жылі,— у песнях, казках, былінах, і чакаюць... чакаюць на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-прарокаў златавустых.

Ці дачакаюць калі?

К-а.

Час. «Беларускае жыццё», № 4,
10 ліпеня 1919 г.

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА

Надовечы Беларуская Вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў афіцэраў, дактароў і інш. з тэй прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.

З гэтага бачым, што войска беларускае будзе, хоць яно павінна было ўжо даўно быць.

Мы бачым, што нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію. Гэтыя арміі ўжо змагаюцца за незалежнасць сваіх дзяржаваў, змагаюцца стойка і з верай у лепшую будучыну.

А мы, беларусы,— праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай бацькаўшчыны,— мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець сваё войска, якое бараніла б нашы межы ад чужой навалы.

Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.

Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічання магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.

Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым

пяском. Сеялі свае спрацаваныя косці на полі чужацкім.

Гібнулі, не ведаючы, за што і за каго гібнуць.

Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.

Нават рэвалюцыя 1905 года не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі. Таксама, як пры Мікалаях першых дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генералам.

І беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў...

Чакаў і прычакаў... 1917 года.

Бухнула ў Расіі рэвалюцыя. Рынуў царскі пасад. Пасяліся воклічы ўсялякіх свабод і «незалежнасцей». Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.

І вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.

Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на зямлю польскую, стварыла пакладзівы для цяперашняй польскай арміі. На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам — з бальшавікамі і дзянікінцамі.

Былі спробы тады стварыць і беларускую армію. І яна была. Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г. д. Але што ж? Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію. Генералы Керанскага іначай на гэта не глядзелі.

А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і з усякімі незалежнасцямі.

Беларускага войска не стала. Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г. д., як і за даўных царскіх часоў.

У адказ на гэта беларуская моладзь пайшла ў «зялёную армію». Яна інстынктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.

Само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона.

Войска беларускае павінна быць, і яно будзе.

Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі. Цяперашнія пабеды дзянікінаў, калчакоў, юдзенічаў над бальшавікамі — гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.

Польшча, каторая ў сваім часе кінула кліч: «за вашу і нашу волю», каторая і цяпер кажа суседнім народам, што хоча з імі жыць «як вольны з вольным, роўны з роўным», гэта Польшча павінна даць беларусам магчымасць бараніць свае гранічныя слупы войскам беларускім.

Мы не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа. Час і жыццё грамадзянска-палітычнае пакажуць гэта.

Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.

К-а.

Газ. «Беларусь», № 6 (33),
26 кастрычніка 1919 г.

## ТОРЖЫШЧА

Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе, і не было больш-менш вялікшага — ці то палітычнага, ці то навучнага здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.

Але ішлі дні, месяцы, годы, сталецці.

Усё змянілася. Змяніліся варункі жыцця, змянілася праўда людская.

І што ж мы бачым сягодня?

Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую. Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура — з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?

Таргуюцца за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.

Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай. Ды гэта ж, людзі мае, гразь і балота такое самае, якога не было навет на Усходзе, у рабочай Маскоўшчыне за часоў Івана Грознага.

І куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проці-антанты і вам падобныя?

Вы стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы; пасля, каб гэту вайну прадоўжыць для гэтых самых кішанёвых спраў, выкінулі вы лозунг, што ваюеце за вызваленне народаў; ну, а далей, калі пачалі трашчаць і падаць вашы крывавыя троны і кароны, што вы сказалі?

Вы аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць.

Так, значыцца, ваша ўсходняя і заходняя культура адплацілася за тыя мільёны ахвяр, што палеглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы.

Вам трэ было, панове, адным будаваць вялікі Захад (спекулянцкі), а другім — вялікі Усход (таксама спекулянцкі). Вы ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха-золата.

А цяпер вы ўсе — і з Захаду, і з Усходу — усе кідаеце аблудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленне нявольнікаў, за самаазначэнне народаў...

Дык скажэце, дзе тое ваша «вызваленне»?

Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў.

Вашы словы аб вызваленні другіх — гэта насмешка з нявольнікаў бяссільных, што ніякай сілы ў сабе не маюць.

Дык не кідайце ж вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх першынствах. На хварбованых лісох даўно ўжо людзі пазналіся.

Вы таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.

Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці — ці то заходняй, ці то ўсходняй.

К-а.

Газ. «Беларусь», № 27 (54),
20 лістапада 1919 г.

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г. д.— усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, навет можна і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна, і незалежнасць гэтых дзяржаваў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак. Так ці йначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне.

А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.

Чаму гэта так?

Беларускі народ самабытны — гэта прызнаюць ужо навет і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю — маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

А гэта вось чаму.

Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак — Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.

Для адбудавання вялікай Польшчы «ад мора да мора» трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.

Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.

А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.

Што яна павінна такой стацца, за гэта гавораць яе мінуўшчына, яе цяперашчына.

Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было

і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў. Але разбяром па парадку.

Пасля уніі з Польшчай Вялікага Літоўска-Беларускага княства, калі беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краю,— гэта культура пачала выціскацца польскім панаваннем. Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца ўсяго свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую. Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру. Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадзянства і служылі, і прадавалі сябе, свой народ, сваю бацькаўшчыну.

Так было і так ёсць заўсёды. Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацьяў слабейшых на здзек і паняверку.

І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.

Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі. Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі. Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна. Беларускае баярства сталася чужацкім на сваёй беларускай зямлі. Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі, і сягодня яны паміж сабой нічога супольнага не маюць. Двор глядзіць на селяніна, як на «люд рускі», як на быдла, над каторым можна толькі стаяць з бізуном аканомскім, а вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю ды йшчэ здзекуецца над ім самім.

Пасля уніі з Польшчай прыйшла на Беларусь апека маскоўская. Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць «маёнтак». Але аб беларусу-селяніне, аб беларусу-грамадзяніне ніхто і не падумаў.

Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандармская нагайка.

Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы, [illegible] на лепшае нічога не змянілася. Маскоўскі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзеў на беларуса як на «скот» (той — як на «быдло»). І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё

беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.

І адны, і другія глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на «крэсы», то як на «окраину», і больш нічога.

А беларус стагнаў і стагнаў.

З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе.

І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, ды і шмат іншага дабра. К таму ж, на лік мы народ вялікі — каля 12 мільёнаў. Гэта не тое, што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!

Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?

Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць.

К-а.

Газ. «Беларусь», № 33 (60),
28 лістапада 1919 г.

## ДУМКА ЗА ДУМКАЙ

### ВЯСНА Ў ПРЫРОДЗЕ І «ВЯСНА» НАРОДАЎ. НАСЛЕДНІКІ ВАЙНЫ. ГУТАРКІ АБ МІРУ

Прыйшла вясна, вясёлая, пявучая, цвітучая. Калісь у гэты час выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў свежую раллю, трывожачыся аб заўтрашнім дні. Ён ведаў, што гэта зерне ўзойдзе, закрасуе, заспее. Не патопчуць яго без пары чужыя ногі, не зломіць яго чужая рука. Цяпер не тое. Шэсць год вайны, вайны цяжкай, безупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой — гэткі змірны, лагодны,— і яго шчырую веру ў лепшую долю. Шостую вясну ўжо ён сее так безнадзейна, не ведаючы — хто яго сяўбу жаць будзе. Чакае перамен, а перамены няма і няма.

Беларуская доля такая ўжо, што і гаварыць не варта. Вось хоць бы тая «вясна» народаў, аб якой так шмат яшчэ

і цяпер гамоняць. Мо якому народу і прыйшла гэта вясна, але беларускі народ гэта «вясна народаў» так усё абмінае. Чаму так? Ці ж беларускі народ — гэткі вялікі і гаспадарны — не заслужыў на тое, каб і для яго бацькаўшчыны закрасавала? Ці ж ён, вякі ваюючы для славы і магутнасці сваіх суседзяў, не варты быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасці для самаго сябе, для свайго краю?

К-а.
Газ. «Беларусь», № 129,
18 чэрвеня 1920 г.

# *Сяргей ПАНІЗНІК*

## РАЗАМ З АБУДЖАНАЙ ПАМЯЦЦЮ

З рэпрэсіраванай гісторыі, страсаючы ржу няволі, паўстаюць перад намі Падзеі, Постаці. Вяртаюцца для духоўнага ўжытку забароненыя творы. Вы, шаноўныя чытачы, пазнаёміўшыся з тэкстамі гэтага зборніка, можа, і не здагадаліся, што не так даўно не рэкамендавалася перадрукоўваць верш М. Багдановіча «Пагоня», згадваць імя і творы Н. Арсенневай... Вы мо і не ведаеце, якія ганенні вызнаў адзін з аўтараў гэтае кнігі П. Бітэль, якія катаванні сцярпеў К. Чорны... А рэпрэсіраваны М. Грамыка так і памёр у выгнанні. У страшных пакутах прайшлі апошнія хвіліны жыцця Ц. Гартнага. Хацеў скончыць жыццё самагубствам Я. Купала... Прымітыўна проста — ад кулі ў патыліцу — адышоў у лепшы свет В. Ластоўскі...

Толькі на двух імёнах са згаданага шэрагу я спыню сёння вашую чытацкую ўвагу. Першая згадка называецца так:

### «ДАЙЦЕ МНЕ ЎЛІЦЦА Ў АГУЛЬНЫ ТОК ЖЫЦЦЯ!»

Мінск. 1981 год. Супрацоўнікі Беларускага тэлебачання ўпрасілі Міколу Хведаровіча запісацца на відэамагнітафонную стужку. Пажылыя людзі асцерагаюцца спякотнай студыі, празмернага накалу асвятляльнікаў. Таму мы ўсе так дружна ўздыхнулі, калі закончыўся запіс вершаў, дзядзька Мікола выцер успацелы лоб і пераможна, з уласцівай яму хітрынкаю, паглядзеў на ўсіх з вышыні тэлеві-

зійнага «трону». Любіў ён пажартаваць, пасмяяцца. І дзіўна было глядзець у іскрыстыя дабрадушныя вочы, ведаючы пра яго лёс. Пагартайце пісьменніцкі даведнік, пачытайце пра Міколу Хведаровіча. Якія там «цнатлівыя» словы біяграфіі стаяць пасля лічбы «1937»! Цытую: «Затым жыў за межамі Беларусі. З 1956 г. зноў жыве ў Мінску».

Добра, што «зноў жыве». Добра, што «яшчэ жыве». Не, мы не пачулі ад дзядзькі Міколы жудасных падрабязнасцяў з амаль дваццацігадовага пакутніцкага шляху многіх з яго пакалення. Пра тое, як ён зграбаў у жменю лагерныя вошы і еў іх, агаломшаны памарачальным прыступам крайняга галоднага знясілення, гаварылі другія, якія таксама «жылі за межамі» і па сёння жывуць па-за нашымі ўяўленнямі аб 30—40—50 гадах. Ён толькі паўтарыў легенду пра апошнія дні Цішкі Гартнага, калі той паміраў у Пячэрскай (бліз Магілёва) псіхлячэбніцы. Быццам Змiцер Хведаравіч Жылуновіч — Цішка Гартны, каб перапыніць свае пакуты, удушыў сябе, уставіўшы ножку бальнічнага ложка сабе ў горла...

— Не верыце — знайдзіце ўрача, якая лячыла яго ў Пячэрску,— і назваў яе прозвішча.

Можа, праз месяц пасля тэлеперадачы Міколы Хведаровіча не стала. Цяжкі груз пражытага забраў ён з сабою на той свет, не надрукаваўшы ні радка, каб вытлумачыць сваю біяграфію, пазначаную датамі ў даведніку: 1937—1956 гг. Ды і ці можна было назваць жыццём той разбежак часу?

Згадка Міколы Хведаровіча пра Цішку Гартнага і трагедыю ў Пячэрску мяне проста апякла. Справа ў тым, што пасля школы я вучыўся ў Магілёве на фельчара. Вучэбную практыку праводзіла наша група і ў Пячэрску, у той лячэбніцы, дзе закончыліся дні першага старшыні беларускага савецкага ўрада і аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры. Блукаючы па Пячэрску, можа, я ступаў на яго магілу?

Гэта ў Магілёве ў 1910 годзе Цішка Гартны пісаў:

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць,
Між лясоў, паміж гор, праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць.

Дзе раскінуліся шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны,—
Песні — долі людской адгалоскі,
Песні — жальбы загнанай душы.

Я люблю гэты вобраз бясконца,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру мо у гэтай зямлі.

*(«Роднай Краіне»)*

Як бачым, суровы лёс так і распарадзіўся, безмагільная смерць падсцерагла яго ў дубровах Пячэрска.

Талін. 1986 год. Дапамог выпадак. Ураджэнец Асвеі, пісьменнік Генадзь Героднік, які пасля вайны жыў у Эстоніі, спраўляў у лютым сваё 70-годдзе. Яго жонка, Агнеса Барысаўна, і была той лекаркай, пра якую расказваў Мікола Хведаровіч.

— Я вывучала Цішку Гартнага ў школе,— ціха расказвала Агнеса Барысаўна.— Таму, калі ў нас паявіўся такі пацыент, стала не па сабе. Але памагчы Цішку Гартнаму мы, урачы, ужо не маглі. Ускрыццё паказала, што ён пакутаваў ад кістознага перараджэння нырак...

— Чым вам запомніліся яго апошнія дні?

— Ён, як толькі бачыў каго-небудзь, выкрыкваў: «Дайце мне ўліцца ў агульны ток жыцця!», «Дайце мне ўліцца ў агульны ток жыцця!».

Вярнуўшыся з Таліна, перагарнуў томік вершаў Цішкі Гартнага. У 1911 годзе ён у Магілёве пісаў:

Многа працы ў мяне —
Хоць ўсю пору працуй!
Грэй жалеза ў агне,
Вымай з горна і куй...

Рукі знаюць настрой,
Молат ўслушны ка мне,
На ўсё жыцце цяжкой
Працы хопіць ў мяне.

*(«Каваль»)*

Цяжкой працы, распачатай першымі адраджэнцамі, аказваецца, хопіць і нам, нашчадкам аўтара Маніфеста, якім абвяшчалася ўтварэнне «Савецкай Беларускай Незалежнай Рэспублікі».

— Да змогі! Да змогі! Да змогі! — заклікаў усіх працаўнікоў у 1919 годзе недалёка ад Магілёва, у Смаленску, Змітро Жылуновіч.

Паспрабуем паўтарыць гэты кліч і мы сёння, у час Дабудовы ўсяго таго, што не паспелі, не змаглі зрабіць

Цішка Гартны, тысячы і тысячы падобных яму барацьбітоў за Беларускую Ідэю.

Самая глыбокая студня — забыццё. Паспрабуем падняць на святло хоць некалькі кропель з нявысахлай, на наша шчасце, крыніцы Цішкі Гартнага.

На жаль, перад уваходам у гарады няма скрыжаляў, на якіх былі б пазначаны імёны, даты, вартыя людской памяці. Таму толькі дзякуючы пошукам я даведаўся, што Цішка Гартны два разы быў у Празе чэшскай: у 1925 і ў 1927 гадах.

У 1925 годзе Янка Купала, Цішка Гартны і Міхась Чарот прыбылі туды па запрашэнні таварыства «Чэхаславакія — СССР». Адбылася сустрэча і з міністрамі-эмігрантамі Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчана ў сакавіку 1918 года, але юрыдычна так і не прызнаная ні Германіяй, ні Польшчай, ні краінамі Антанты, а толькі Украінай, Чэхаславакіяй, Літвой, Латвіяй... Перагаворы вяліся з Крэчэўскім, Цвікевічам, Зайцам, Пракулевічам, Захаркам аб ліквідацыі БНР, вяртанні эмігрантаў у Мінск.

У Празе на той час вучылася многа беларускага студэнцтва (урад Чэхаславакіі выдаваў стыпендыі для моладзі з акупаваных белапалякамі тэрыторый Беларусі і Украіны). Янка Купала, Цішка Гартны і Міхась Чарот сустракаліся з прадстаўнікамі беларускай эміграцкай моладзі. Многія з іх вярнуліся ў Савецкую Беларусь. Дастаткова нагадаць, напрыклад, таленавітага паэта Уладзіміра Жылку, які ў БССР быў рэпрэсіраваны.

Згадку пра пабыўку 1927 года можна знайсці ў часопісе «Кмен» (1927): «Беларускія пісьменнікі ў Празе». Чэшскі паэт Ёзэф Гора піша пра чатырох гасцей Прагі: Янку Купалу, Цішку Гартнага, Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага. «Цішка Гартны,— згадвае Ё. Гора,— які нарадзіўся ў 1887 годзе ў Капылі Мінскай губерні,ганарыцца, як і ўсе астатнія, сваім сялянскім паходжаннем. У 12 гадоў пасвіў чужы статак, быў гарбаром, хутка вызначыўся як сацыял-дэмакратычны змагар, пачаў з вершаў, выявіў сябе ў журналістыцы, за што пры царызме меў толькі праследванні...»

Але варта вярнуцца нам з Прагі ў Гродна, дзе апошнія гады жыў былы сябра «Саюза студэнтаў-грамадзян БССР», выпускнік Пражскага політэхнічнага інстытута інжынер Мікола Шыманка (1901—1986). Ён нарадзіўся на Пружаншчыне, працаваў настаўнікам, зведаў бела-

польскія турмы. Знаўся з Б. Тарашкевічам, Р. Шырмам. У Чэхаславакіі падружыўся з Янкам Купалам, Цішкам Гартным. Супрацоўнічаў з чэхаславацкай камуністычнай прэсай, за што восенню 1931 года быў высланы з краіны, вярнуўся ў Савецкую Беларусь. «Увесь час працаваў у лясной прамысловасці»,— не без горкай усмешкі сказаў мне пры спатканні Мікалай Піліпавіч, бо адразу ў БССР быў рэпрэсіраваны. Але сёння з вуснаў М. Шыманкі — толькі пра Цішку Гартнага: «Цішка Гартны ў той памятны 1927 год дамовіўся з тагачасным дырэктарам аднаго з пражскіх выдавецтваў пісьменнікам Вацлавам Капліцкім аб выданні кнігі «Анталогія беларускай паэзіі». У перакладчыкі Адольф Чэрны мне параіў запрасіць прафесара Францішка Ціхага, які ў тыя часы жыў і працаваў у Браціславе. У час падрыхтоўкі гэтай анталогіі і завязалася між мною і Ціхім шчырая дружба. Апрача сябра з Браціславы перакладаць згадзіліся Ёзэф Гора, Яраслаў Сэйферт...

На пачатку 1931 года я з вялікімі цяжкасцямі сабраў пераклады і перадаў рукапіс будучай анталогіі Вацлаву Капліцкаму. Матэрыялаў набралася на кнігу ў старонак 150. Аднак мой арышт у Празе, турма на Панкрацы, а потым і высылка за супрацоўніцтва з камуністамі перашкодзілі мне давесці справу да канца і выканаць даручэнне Цішкі Гартнага. Толькі пераклады некалькіх вершаў былі надрукаваны ў чэхаславацкіх газетах і часопісах. Рукапіс жа анталогіі, мабыць, трапіў у архіў тагачаснага выдавецтва «Покрок».

Калі я вярнуўся ў Мінск і аказаўся без жытла, на першым часе мяне прытуліў Цішка Гартны. Таму на аснове ўласных уражанняў і назіранняў змагу сказаць, што ў гісторыі беларускай культуры цяжка знайсці падобнага чалавека, які б так шчыра, душэўна клапаціўся пра росквіт і пашырэнне роднага беларускага слова, узбройваўся здабыткамі літаратур іншых народаў. За гэтую любоў да роднага слова адзін з так званых пісьменнікаў будзе потым здзекавацца над Цішкам Гартным, што ён з «самім» Мясніковым асмеліўся гаварыць па-беларуску.

А там, у Празе, ён ніводнага дня не мог спакойна пасядзець, адпачыць. Усё бегаў, ездзіў, абы толькі не прамінуцца з чэшскім выдаўцом, пісьменнікам, культурным дзеячам».

Закончыць гэтыя нататкі пра 32-гадовага старшыню Часовага Рэвалюцыйнага Рабоча-Сялянскага ўрада Бела-

русі, 40-гадовага акадэміка АН БССР хацелася б згадкаю пра помнік, вуліцу ці плошчу Цішкі Гартнага ў Мінску. Але гэта ўсё наперадзе. Зміцер Хведаравіч яшчэ ўвальецца ў агульны ток жыцця.

## РУПЛІВЕЦ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Гэтую кнігу мы ўпотай шанавалі, яе «расцягвалі» на цытаты нашыя вучоныя, не беручы абзацы ў чужаслоў (двукоссе), не называючы імя рэпрэсіраванага, а значыць, навечна забароненага В. Ластоўскага і ягоную найвялікшую працу — «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі».

23 студзеня 1938 г. у сталінскіх катавальнях быў фізічна знішчаны яшчэ адзін сын Беларусі — чалавек высокіх памкненняў, светлага розуму, незвычайнага таленту. Гісторык, публіцыст, літаратуразнаўца, празаік і паэт... І ўсё гэта — у адной асобе. Творчае гарэнне пераносіў Вацлаў Юстынавіч і на грамадска-палітычную дзейнасць (сябра Беларускай Сацыялістычнай Грамады, прэм'ер-міністр Рады Беларускай Народнай Рэспублікі), і на навукова-арганізатарскую (акадэмік і неадменны сакратар Беларускай акадэміі навук).

На вялікі жаль, поўнасцю прысвяціць сябе літаратурнай і навуковай працы яму не было дазволена тым рэжымам, у які ён паверыў, вярнуўшыся ў 1927 г. з Коўна ў Менск. Праз тры гады В. Ластоўскі быў асуджаны за так званы нацыяналізм на далёкую ад Бацькаўшчыны ссылку. І апошняй кропкай ва ўсіх яго памкненнях служыць Беларускай Ідэі была сталінская куля.

Канешне ж, сваю энцыклапедыю — «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна, 1926 г.) ён рыхтаваў на працягу ўсяго папярэдняга вольнага жыцця. Упершыню мне пашчасціла пагартаць яе ў Львоўскай навуковай акадэмічнай бібліятэцы ў 1965 г. У Львове творы рэпрэсіраваных беларускіх аўтараў не былі пад замком «спецхрана», і я мог без аглядкі і постраху канспектаваць і пераздымаць старонкі кнігі. У бібліятэцы ва ўсім спрыялі ўкраінскія прыяцелі. Гэта толькі ў казарме факультэта журналістыкі Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча я мог чуць за сваёй спіной віжавое дыханне ідэалагічных ланцужнікаў.

Так пасля кніг І. Свянціцкага, Я. Карскага падступіўся я і да «Гісторыі... » В. Ластоўскага — першай энцыклапедыі беларусаў (яе лічу трэцяй па важнасці для нас кнігай

пасля «Бібліі» Ф. Скарыны, Статута Вялікага княства Літоўскага). А потым пашчасціла ў адзін з канікулярных прыездаў на Беларусь і займець у сваё карыстанне — яе мне падаравалі ў Жодзішках. Паводле даўніх звычаяў, на пераплётнай старонцы быў пакінуты ўладальніцкі надпіс лацінкаю: «Hetu knihu apraviŭ Hipalit los z Bielkišak k/Sviга u 1933 hodzie».

Калі «Гісторыя...» В. Ластоўскага будзе перавыдадзена, яна стане не толькі настольнай кнігай, а і даверчым дакументам на ўзор дыпламатычных і юрыдычных. Па ёй будуць азначаць абсягі нашае культуры і глыбіню радовішчаў беларускае нацыі.

Такі лёс В. Ластоўскага: 55 гадоў жыцця і яшчэ 55 гадоў чакання ўваскрэшання; нарэшце мы можам смела, шчыра, свабодна выказаць яму, рупліўцу Бацькаўшчыны, свае пашанотныя словы. А я — як свайму земляку з Мёршчыны, дзе калісьці чуліся галасы Генрыха Дмахоўскага, шматлікіх пераемнікаў няўтомнага графскага роду Лапацінскіх, Віктара Жаўняровіча, Генадзя Цітовіча, суседа Язэпа Драздовіча...

Разам з абуджанай Памяццю не пасне ў капцах, не зарасце зеллем і зямля, на якой узгадаваліся сейбіты Адраджэння.

З радзімы, з аснежанай і панішчанай былой сядзібы Ластоўскіх, прывёз я дадому некалькі яблыкаў, знойдзеных пад змёрзлаю дзічкаю... У нас такую гаркоту завуць пальнюкамі...

Вось гэты яблык
пальнюком завецца:
быць лепшым, як хацеў бы, не ўдаецца.
Раз ты пальнюк — на полі табе быць...
(Мо пальнюкоў-пакутнікаў забыць?)
У дзікім полі — прах іх; з ім — і суць.
Што ж, пальнюкам імёны не даюць.
Былі і семкі з правам на сям'ю
(а я ж — пальнюк: гняздзечка не саўю).
Так выціснула з нашага жытла
паўнацы
паўдурка памяла.
Мне кажуць: катаў нельга пакараць.
Каля Крамля ім суджана ляжаць,—
хто агаляў уверх
на сто гадоў
зямлю маю ад сакаўных пладоў.
Здаецца, праваліўся б маўзалей,
прыняў бы дзічку скамянелы глей:
няхай бы птушкі — душы ўсіх ахвяр —
збіралі белы
пальнюкоў пажар.

# *Цішка ГАРТНЫ*

## НА РУІНАХ

### I

Цягнік падыходзіў к станцыі Зябы, ход яго памаленьку сціхаў.

Несцер Грэбень ляжаў на верхняй лаўцы ў вагоне і думаў. У галаве збіраліся розныя думкі і ўспаміны аб тым, што ён бачыў і перажываў, пачынаючы ад дзіцячых гадоў і да апошняга часу. Выразней усяго ўставалі перад ім вобразы перажытага за доўгія гады вайсковае службы: спачатку ў царскай арміі, а потым у Чырвонай. Перад ім прамігнулі: царская вайна з усімі сваімі страхамі, першая і другая рэвалюцыі, паўстанскія атрады, вайна з Калчаком, Дзянікіным, Юдзенічам і, урэшце, з Урангелем. Усяк здаралася. Шмат разоў жыццё вісела на валаску. Тухла вера ўбачыць бацькоў, брата, сястру. Што рабілася там, у яго краіне, Несцер толькі дагадваўся з тых кароткіх і няпэўных чутак, якія вычытваў з газет ці даставаў выпадкова ад таварышаў. Весткі гэтыя адрыўна, патрошку далятаўшыся да яго, казалі, што там далёка, на бацькаўшчыне, дзеецца нешта страшнае, што немаведама, ці застануцца жывымі бацькі, сваякі.

Кожны раз, дастаўшы свежую вестку з Беларусі, Несцера ахапляла жаданне вырвацца на які час з войска і наведаць сваю краіну, але ён не хацеў дзеля гэтага выкарыстаць нячэсны спосаб — прыкінуцца хворым ці стаць дэзерцірам. Не! Несцер быў чэсным чалавекам і чэсна адданым справе рэвалюцыі салдатам. Думаючы аб доме і бацьках, ён чакаў гэткага выпадку, калі можна будзе без усякай шкоды для свае часці выпрасіцца дамоў. Такі выпадак падышоў у той час, як Чырвоная Армія аслабаніла Крым ад Урангеля і іх полк супыніўся у Севастопалі, каб далей несці мірнае жыццё. У адзін дзень Несцер напісаў заяву паліткому і копію камандзіру і праз нейкі час дастаў паўтарамесячны водпуск. З якою радасцю ён сабраўся ў дарогу! Яго не палохалі ўсе клопаты далёкага пераезду, не задумваўся ён і над тым, ці ўдасца яму наогул дастаць удому тую душэўную суцеху, да якой ён так доўга прагся...

Звязаўшы клункі, Несцер ушчапіў іх на плечы і пай-

шоў на вакзал. І як толькі сеў у вагон, зараз жа пачаў выбражаць сабе ўсе падрабязгі свае наступнае стрэчы з бацькамі, братам, знаёмымі. У яго галаве мімавольна паўсталі пытанні: а што там удому? Як жывуць бацькі? Мо ўжо забылі мяне... А мо ўжо іх няма? Столькі часу не быў ён там! А колькі розных дзеяў начаўплося там за гэтыя гады! Гэта ж свет мог перакруціцца ўверх галавою...

## II

Чым бліжэй Несцер пад'язджаў да роднага месца, тым болей і болей забірала яго нейкая трывожнасць, перамешаная з салодкасцю ўцехі, з адчуваннем цеплаты спаткання, з прыемнасцю пабачыць родную глебу пасля доўгай разлукі. Бацька і маці, мабыць, старэнькія цяпер — нявыказна абрадуюцца і з абслезенымі вачыма кінуцца цалаваць, абнімаць, будуць уміляцца. Бо не жарты — цэлых сем гадоў іх не бачыў — усё служыў ды служыў у войску. Праўда, у першыя гады службы Несцер шмат пасылаў лістоў дадому: стараўся паведамляць бацькоў аб сабе, суцяшаць іх весткамі. Але, мяркуючыся з тым, што яму толькі разоў тры ўдалося дастаць на іх адказ, ён вылічваў, што яго лісты не даходзяць дадому ці дома, мабыць, нешта нядобрае здарылася. Далей прычыну таго, што бацькі не адпісвалі на яго лісты, Несцер бачыў у тэй агульнай завірусе, якая ўзнялася з пачаткам царскае вайны. Гэта яго непакоіла і наводзіла на розныя думкі. «Хто яго знае, што магло стацца з бацькамі, жывучы каля фронту,— думаў Несцер,— немцы наступаюць, тысячы і дзесяткі тысяч уцекачоў бягуць з краю куды вочы глядзяць. Сотнямі мруць штодня. Ці ж не магло стацца, што і мае бацькі рушылі з месца і па дарозе дзе-небудзь згінулі? А калі не сталася так, то ці мала іншых здарэнняў траплялася за гэты час? І немцы, і паны, і балахоўцы... Разбоі, здзекі. Чаго добрага — і бацькі папалі ў лік гэтых ахвяр. Столькі часу такога буйнога, неспакойнага і трывожнага жыцця! Што найду я цяпер дома? Хто з родных яшчэ жывы, а хто памёр? Калі жывы, то ці ёсць у іх які-небудзь прытулак і ці там ён стаіць, дзе яго калісьці я пакінуў?»

Скрозь радасны настрой і вясёлае пачуццё, якія ахапілі Несцера, упарта прабіваліся ўсе гэтыя сумныя пытанні. Ахоплены імі, Несцер пачуваў сябе ў нейкім надзвычайна маркотным становішчы, нудзеў і невыразна глядзеў на ўсё тое, чым жыў да гэтага часу і да чаго імкнуўся.

людзям. Нашае няшчасьце ў тым, што край наш не абладае ні годным да будовы каменьнем, ні капальнямі мінералаў, а з гэтай прычыны адзіным годным да будовы матэрыялам было дрэва, нашы мастацкія будоўлі былі драўляныя, малатрывалыя. Нашы пісаныя памятнікі не на камянях высякаліся, але на бяроставых пластках былі крэсьляны, яны лёгка запаляліся і гнілі. Скажыце, каб у Егіпце, Індыі, Вавілоне была драўляная культура, то ці ведалі б мы сягоньня штоколечы аб ёй? Не.

— Маеце слушнасьць,— сказаў памешчык. Нашы продкі перажылі стадзію высокай культуры. Як довад магу прывясьці, што дагэтуль сярод нашага простага народу, які поўтысячы лет ходзіць у чужым ярме, дагэтуль маюцца ўласныя назовы важнейшых нябесных знакаў. Напрыклад, гвязду Вэнэру дасягоньня сяляне называюць «Чагір». Пад найменьнем «Чагір» фігуруе Вэнэра ў Супрасльскім календары XVIII ст., дзе аб ёй гаворыцца: «Гвезда Чагір між усімі гвездамі 10 месц у кождым месяцы мае, а па трыкрот прыходзіць на кождае месца, кождага месяца». Вялікую Мядзьведзіцу называюць «Стажарамі»; Плеяды — «Сітцом», або «Вуціным Гняздом»; Арыонаў пояс — «Кігачамі»; тры гвязды, каля Млечнай Дарогі, называюць «Прахамі», або «Жалезны Абруч»; у галаве Млечнай Дарогі знаюць «Касьбітаў», а саму Млечную Дарогу называюць «Вайсковым Станам». Назоў гэтых захавалася многа. А што гэта знача? Гэта знача, што быў калісь час, калі ў нас працьвітала астралёгія, глыбокае знаньне якой зьяўлялася прывілеямі клясы вучоных, але была адначасна, мабыць, ведай, дасупнай для ўсіх станаў.

Тут яго перапыніў стары чыноўнік, кажучы:

— Сярод маіх сабраньняў меў я карціны кніг, пісаных на бяросьце, незразумелымі знакамі, падобнымі да рунічнага пісьма. Я маю данныя цьвердзіць, што т. зв. Ятвягі ня былі асобным племем, як памылкова ўтрымліваюць, а гэта ёсьць названьне клясы сьвятароў паганскіх часаў. Тых зорнікаў і зораведаў, а па-цяперашняму астраномаў, якія адначасна былі і клясай сьвятароў, духоўнікаў. Прашу зьвярнуць увагу на падобнасьць паняцьця ўложанага ў словы «ятвяг» і «жрэц». Там і тут да ўтварэньня слова ўзята паняцьце яды — жорці, есьці. Выйдзіце з гэтага пакою на рынак і спытайце, дзе прадаюць ядомыя рэчы? Усякі вам адкажа: у ятках. У старапольскай мове жэртва

называецца «objata», ізноў-такі тое самае паняцьце яды ўложана ў слова. Наш селянін дагэтуль кажа на страву «ятво», славянскае — яство, яства. Па-польску пішацца «Jadzwingowie», дык і тут ёсьць карэнь «яд», яда...

У даўныя часы паміж словамі: «ятвяг» і «жрэц» была акурат такая рожніца, як у цяперашнім нашым разуменьні паміж словамі «сьвятар» і «жрэц». Для ваюючага і нішчачага ўсё паганскае хрысціянізму ўсе старой веры і сьвятары, і грубыя шаманы, і варажбіты — былі агульна пагарджанымі жрэцамі. Гэта староверная, з высокай культурай інтэлігенцыя брыдзілася змагацца забойствамі з новай верай і эмігравала ў глухія пушчы на пагранічча староверной і аднавернай з імі Літвы. Як іх там тропілі і нішчылі, немаль штогод, палячы будоўлі і выразаючы людзей, сьведчаць ужо расійскія і польскія летапісцы. Разам з тым, калі загінулі ятвягі, загінула і старая дахрысьціянская наша культура.

Тут ізноў узяў слова «Падземны Чалавек».

— Я там ня ведаю, якое названьне насілі сьвятары дахрысьціянскіх часаў. А што яны займаліся астраноміяй — гэта пэўнае. Ваша, хіба ведаеш,— зьвярнуўся да мяне,— Богінскае возера? Цікавы закутак! Уся ваколіца поўна старога жыцьця. На возеры ёсьць паўвостраў «Богіна», а таму «Богіна», што там былі знамянітыя бажніцы. У канцы возера ідуць валатоўкі бронзавага веку, на пяшчыстым урочышчы; гэта мейсца — жалю, смутку, па-нашаму — могілкі — носіць найменьне Жаль-Бор. На востраве, яшчэ да скасаваньня паншчыны, трымаўся высокі капец, у сярэдзіне каторага была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ў сярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень. Капец гэты ўзарвалі маскалі ў часе польскага паўстаньня, думаючы, што гэта нейкая крэпасьць. Там, у Богіне, ёсьць такжа падземныя ходы, як і ў нас, пад Верхнім Замкам, у сярэдзіне гары. Старая вера і старая культура не загінула. Кажуць людзі, а хто ж ведае, ці ёсьць у гэтым хоць кропля праўды, пад Верхнім Замкам, за магілай невядомага валадара, ёсьць склады з багацьцямі вялікімі. Кажуць, у абход абшырнай грабніцы, направа, ёсьць мураваны праход, крокаў 60 даўжыні, і праз яго ўходзіцца ў сховы са старымі кнігамі. Часьцю пісаны яны на дасочках, часьцю на бяроставых пластках. Зложаны кнігі ў кованых серабром скрынях, у сярэдзіне абітых скурай. З гэтай кніжні пракавечнай ёсьць ход у скарбец... Толькі дужа страшна ісьці там.

Голас яго абарваўся спазмай у горле, ён сам неяк згарнуўся ў крэсьле, а вочы застыглі, бытцам угледжаны ў няведамую даль.

На момант спынілася размова, а пазьней, памалу, перашла на знамянітую полацкую бібліятэку, якой, здабываючы Полацак, у 1572 гаду шукаў Іван Грозны і не знайшоў. Якую даручаў папа Грыгор XII Поссэвіну знайсьці і пераслаць у Рым. Усе аднагалосна ўтрымлівалі, што бібліятэка гэта была тады добра схавана і, сягоньня, ёсьць недзе ў падземных полацкіх лёхах. Іван Іванавіч расказаў, што ўласнымі вачамі чытаў, у старых мэтрычных кнігах, у архіве вітабскай лютаранскай кірхі, запіс на белягу аб тым, што ігумен Бельчыцкага манастыра, перад аблогай гораду Масковіяй, злажыўшы ўсе манастырскія скарбы і кнігі, паплыў уніз Дзьвіны, каб захаваць усё гэта ў падзямельлях Верхняга Замка. Старык чыноўнік вылічаў, якія кнігі маюцца ў захаванай бібліятэцы.— А найперш есьць там, казаў ён, летапісь полацкага княства, пісаная рукой св. Ефрасініі, праўдзівы экзэмпляр «Повесьці временных лет», бо, дахаваўшыся да нашых дзён, копіі пераблутаны і далёкі ад арыгіналу, далей — уласнаручныя пісаньні братоў Кірыла і Міфодзія, Візантыйскія хронографы і г. п.— Памешчык сказаў: — васільяне ведалі, дзе захавана бібліятэка, але баючыся, каб яе не забралі езуіты і ня зьнішчылі, хавалі мейсца яе знаходжаньня ў сакрэце.

Гутарка зацягнулася да позняй ночы.

Развітаўшыся, мы разыйшліся кожды ў свой бок.

Мой пакой у гасьцініцы быў на другім паверсе, і акно выходзіла ў сад, за якім на мураваным доме красаваўся агаловак коміну ў кшталце кароны. Полацкія старажылы кажуць, што даўней больш было гэткіх аздобных комінаў у горадзе, з часам яны выveліся, і я пашкадаваў у душы заміраньню роднай старасьвеччыны. У стылю агалоўка было нешта неўхватнае, што напамінала мне стыль нядаўна бачанага мэдалю, які паказываў «Падземны Чалавек». Ці ж бы рэшткі стылю яшчэ жылі? Я пахінуў галаву на абраменьне акна і задумаўся. Перада мной, у фантазыі, стаў расьці стылёвы горад з аграмаднымі, дзіўнымі будоўлямі...

## II

Першы мой сон стрывожыў ціхі стук у акно. Я ўскочыў з ложка і, падышоўшы, пабачыў у акне вусатае аблічча «Падземнага Чалавека». Ён даваў мне знакі рукамі, каб

адчыніць яму акно, пры чым клаў палец на вусы, даючы гэтым знак, каб я не нарабіў гоману.

Калі акно было адчынена, ён сеў на падаконьнік, зажыў з сярэбранай табакеркі і пачаў гаварыць шэптам:

— Я даўно ўжо ведаю ход у схаваную бібліятэку, але сам ня рухаў яе і нікому не паказваў, маўчаў, баючыся, каб не заграбілі ў нас і гэта наша апошняе багацьце. Адзявайцеся, пойдзем! Я ўзяў з сабой сьвечку, ліхтарню і ўсё патрэбнае.

Німа што казаць аб тым, як хутка я быў апрануты і гатовы ў дарогу.

Мы сышлі па драбіне ўніз, аднясьлі яе ў старану і паклалі на зямлі, а самі цішком вымкнуліся з брамы і ськіваліся ў старану Верхняга Замка. Мінут за дваццаць мы былі на месцы. На гарэ, у старану Дзьвіны тады стаялі яшчэ руіны замковых будынкаў, у якіх да 1839 году месьціўся васільянскі, уніяцкі манастыр.

Замак быў, як апавядаюць, зруйнаваны ўсяго толькі ў 40-х гадах. Сьпярша па загаду цара Мікалая I з яго зьнялі медзяны дах і адправілі ў Пецярбург на будову Ісаакіеўскага сабору, а пазьней нехта ці запарушыў няўмысна, ці мо ўмысна падпаліў будынак. Пасьля пажару — ён больш паўсталецьця пакінуты быў на руйнаваньне сіламі прыроды. Урэшце руіны, каля 1913 году, прадаў расійскі Урад нейкаму маскалю падрадчыку на цэглу, які, разабраўшы шацоўныя муры, сплавіў лайбамі цэглу ў Рыгу.

Але тады, калі мы ўходзілі ў будынак, часьць яго, а найменна, левы вугал у ніжнім паверсе, меў яшчэ цэлыя скляпеньні. Мы пацёмку дабраліся да вялікай вуглавой, у скляпох, салі, сьцены якой і столь былі пакрыты старымі фрэскамі, месцамі асыпаўшыміся, месцамі сьцертымі і павыдзіранымі. Справа, між двох атворын ад дзвярэй, была круглая ніша да самага памосту.

— Во, тут, ход у падзямельле,— сказаў мой павадыр і пачаў рукамі адгартаць насыпаны на добрага поў-аршына груз. Супольным высілкам мы ачысьцілі дно нішы, якое было зроблена з аднэй, у квадратовы мэтр, камяннай пліты.

— Гэта дзьверы,— сказаў «Падземны Чалавек» і, засунуўшы ў шчалугу, між камяняў, загнуты жалезны прут, з высілкам павярнуў яго. Нешта глуха храснула, і пліта, аднэй стараной, пачала апускацца ўніз. Адкрыліся вітыя мураваныя сходы, якімі мы, пры слабым сьвятле «сьля-

пой» ліхтарні, пачалі зыходзіць уніз. Калі нашы галовы зраўняліся з канцом павісшай пліты, то пліта сама сабой паднялася ўверхі, зашчоўкнулася пры помачы прыладжанага да яе мэханізму.

— Акром мяне, з жывых, ніхто не ведае аб гэтым ходзе. Ты другі будзеш ведаць аб ім і перадасі патомным. Але перш чым увайсьці ў тайныя ходы, у якіх нашы празорлівыя прадзеды захавалі ня толькі свае культурныя, але і вялікія матэрыяльныя багацьці, ты павінен даць абяцаньне злажыць прысягу на вечную тайну.— Казаў стары ўрочыстым голасам, з націскам на кождым слове.

Я высказаў сваю згоду, і ён рушыў далей. Ішлі мы мінут дзесяць вузкім, з пачарнеўшымі сьценамі ходам, маючым многія павароты, але ўсьцяж пахіляючымся ўніз. На адным з паваротаў мой павадыр стрымаў мяне, кажучы:

— Памятай, пасьля сёмага вугла ёсьць запастка. Перад намі, уровень цэглянаму памосту, была на сажань даўжыні і ва ўсю шырыню ходу ўпраўлена ў памост дубовая дашка.

— Гэта дашка на вяртугу ўстроена, хто ня ведае, ступіць на яе, то і зваліцца ў глыбокі калодзезь, а дашка сама сабой стане на месца. Пры гэтым, хочучы паказаць, як гэта адбываецца, ён націснуў палкай на канец дашкі, і тая віхнулася ўніз, адкрываючы чорную пропасьць скрытага пад ёю калодзезя. Праваднік патрымаў гэты рухомы мост, а мне загадаў выцягнуць засунутую за жалезныя скобкі, збоку мураванай студні, дашку, паклаўшы якую на мост, мы перайшлі на другі бок яго і схавалі дашку ізноў, з другой стараны.

Прашоўшы некалькі крокаў, мы знайшлі ў сьцяне нізкія чорныя дзьверцы, за якімі была рухомая сьценка, адсунуўшы якую, увашлі ў даволі абшырны пакой з мураванымі лавамі каля сьцен і высокім падмуркам пасярэдзіне, на каторым стаяла старасьвецкая труна, знаная яшчэ данідаўна мейсцамі на Беларусі пад назовай «корсту». Гэта — тоўстая калода з высечаным у сярэдзіне дуплом, у якое клалі нябошчыка; верх закрывалі плашкай ад такой жа калоды. У асабліва важных здарэньнях, хаваючы багатых або заслужаных людзей, корст пакрывалі смалой і «берасьцілі», г. зн. густа спаясывалі доўгімі паяскамі бяросты ўсю труну, як бандажам, а наверх шчытна акручывалі яшчэ добра прасмоленымі вяроўкамі. Гэтак прыгатаваны корст мог соткі гадоў ляжаць у зямлі, не паддаючыся буцьвежы. Гэткія корсты бачыў я раней, калі адной вясны

Дзьвіна падмыла старое магілішча і вада то зносіла ўніз, то прыбівала да берагу іх, а селяне вылаўлівалі, каб нанова закапаць у зямлю.

— Гэта корст, у якім ляжыць той, хто дабудаваў гэтыя ходы,— сказаў мне праваднік.— Тут ты і зложыш прысягу, п на знак датрыманьня слова пацалуеш у чало гэтыя шацоўныя астанкі.— Пры гэтым ён запаліў тоўстую, як добрая бэлька, васковую сьвячу, што стаяла ў канцы труны. Кнот трашчэў і дыміў, але памалу ўгарэўся, і я пабачыў на труне зробленую ў акружнасьці надпісь глаголіцкімі літарамі. Надпісь гаварыла:

«Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і дэманаў пяці, моцай слоў тайных, на пілнаваньне давечнае ўвязаў тут. Хай унасячага сюды прапусьцяць, а на вынасячым споўніцца слова».

Мы адкрылі корст, і маім вачам паказаўся забальзамаваны нябошчык з густой сівой барадой, адзеты ў злотатканую павалоку. Ляжаў ён крыху на правы бок павернуты, адна рука яго была пад галавой, другая ляжала на пазлацістым паясе; левая нага крыху паднята ў сагнутым калене. Выглядала, што гэта не нябошчык, а заснуў старац з шэра-папелястым аблічам.

«Падземны Чалавек» сказаў мне стаць у нагах, а сам стаў каля галавы на ступеньках падмурку. Ад руху, калі ён праходзіў, закалыхалася полымя сьвечкі, і мне здалося, нябошчык зьмігнуў вачыма.

Сярод неапісанай цішы прагучэлі ўрачыстыя словы формулы прысягі, якую чытаў мне праваднік з узятага з-пад галавы нябошчыка зьвітку пэргаміну.

Словы былі так урочысты, закляцьці так страшныя, акружэньне так незвычайнае і нечаканае, што мне закружылася галава. Мой праваднік таксама стаўся бледны і ўвесь дрыжэў. Раптам ён, як бытцам аступіўшыся, зваліўся ўніз, адначасна падсьвечнік з грокатам рынуў на памост, гасячы сьвячу. Запанавала непраглядная цемень і ціш. Я пачаў клікаць яго. Глухое маўчаньне ды нягулкае эха былі адзінай адповедзьдзю на мой кліч.

Сьвігавіцай праз мысьль прабеглі страшныя абразы з легенд і запраўдных здарэньняў, а такжа той факт, што пры мне няма серчыкаў. Я чуў, што ў гэтай нямой цішы і чорнай, да болю ў мазгах, цемні, пад ураджаньнем сьвежага страсеньня нэрваў, знаходжуся на самым рубе да ўтраты прытомнасьці. У мазгах інстынктыўна і распачліва пачала біцца адна-адзіная думка: трэба быць спакойным,

трэба быць спакойным! Я чуў, разумеў, што цяпер адзіны ратунак у захаваньні спакою. І як люнатык з працягнутымі наперад рукамі пашоў у старану, шукаючы бачаных мной пад сьценамі мураваных лавак.

Я сеў на лаўку і пачаў глыбока ўдыхаць паветра. У вушах звaніла цішына, пры якой чыканьне гадзіньніка ў кішэні чулася як рытмічны ход паравой машыны, ды глухое тутненьне крыві ў шыі і сісках. Як доўга я сядзеў — зьмяркаваць нельга, магла гэта быць адна мінута, як і цэлая вечнасьць.

Урэшце надумаў пайсьці шукаць майго праваднiка і пры ім серчыкаў і ліхтарні. З гэтай мэтай я зсунуўся з лавы і папоўз на руках і каленях к сярэдзіне. Хутка нашчупаў падмуроўку, на якой я нідаўна стаяў, і папоўз кругом яе, бо ня мог зьмяркаваць, з якой стараны знаходжуся. За другім паваротам рука натрапіла на нешта мокрае і клейкае. Я падумаў, што гэта кроў, што недзе тут блізка ляжыць мой праваднік, і асьцярожна выцягнуў руку наперад, якая наткнулася сьпярша на масыўны мэталічны падсьвечнік, а пасьля на людзкое цела. Я падаўся яшчэ бліжэй, шукаючы рукі. Пульс ня біўся, галава яго была мокрая і сьцюдзёная. У бакавым кішані курткі яго я нашчупаў серчыкі і з радасьцю хапіўся паліць іх, але рукі мае былі мокрыя і дрыжалі, серчыкі ламаліся або толькі давалі іскры. Перапсаваўшы штук з дзесяць, я спахапіўся, што іх у скрынцы няшмат, і сілай волі стаў пастрымліваць сябе, каб не псаваць болей дарэмна. Высілак над самім сабой даў найлепшыя вынікі; з увагай выняты серчык і пацерты аб скрыначку загарэўся, асьвятляючы страшэнны абраз: перада мной ляжаў наўзнач мой праваднік з разьбітай і акрываўленай галавой. Ад правага вока і да вуха зіяла страшэнная крывавая рана. Сернік дагарэў і згас. Цяпер я толькі заўважыў, што, акром сернікаў, у мяне больш німа нічога. Куды паставіў праваднік ліхтарню, якую згасіў пасьля таго як запаліў сьвечку, я не заўважыў. Сернікаў было ўсяго толькі некалькі ў скрыначцы, і я пастанавіў ужыткаваць іх з мудрай асьцярожнасьцю. А дзеля гэтага ізноў папоўз па памосьце. Па доўгіх шуканьнях была знайдзена і запалена ліхтарня. Пры сьвятле ліхтарні я сцьвердзіў сумны факт сьмерці майго праваднiка. Ён такі запраўды аступіўся, зыходзячы і падаючы, ударыўся віском аб востры выступ падстаўкі ліхтарні, якую цягаром свайго цела абярнуў.

Паднімаючы цяжкі ліхтар, я заўважыў на ім унізе

надпіс: «Обьятопрыімчэ, прыймі другога с чары тайн піўшага».

### III

Прачытаўшы дзіўную надпісь, я стараўся ўцяміць яе значэньне; і мне здалося, што яна напамінае на права, пануючае ў гэтых падзямельлях. Ці ж бы «Падземны Чалавек», згодна гэтаму праву, павінен быў за раскрыцьцё мне тайны заплаціць сваім жыцьцём? Аднак факты гаварылі, што ён стаўся «другім піўшым з чары скрытай веды». Мяне агарнула забабонная багавейлівасьць да акружаючых мяне мураў і рэчаў. Я пачуўся агорнутым з усіх старон таёмнымі, сьвядомымі сваіх чынаў, сіламі. І гэтыя цёмныя пракаветныя сьцены, і чорны дубовы корст з астанкамі невядомага мне, аднак безумоўна геніяльнага духа, і гэта таёмная надпісь, і, урэшце, труп малавядомага, аднак, чамусьці, мне блізкага і дарагога чалавека, апутывалі душу тысячамі кволых, але цягучых ніцей, невядомых мне тайнаў. А, галоўнае, я быў тут, у гэтых лабірынтах, адзінай жывой істотай. Я абярнуўся, каб яшчэ раз глянуць на мілае старэчае аблічча «Падземнага Чалавека». І якое ж маё было зьдзіўленьне, калі я яго ня ўбачыў на зямлі, дзе момант таму назад ён ляжаў. Гэта апошняе страшэнна стрывожыла і парушыла мяне да апошніх глыбінаў усей маёй істоты. Я яшчэ больш пачуўся бязпомачным і бязрадным у путах невядомага. Уражаны новай тайнай, я, шукаючы свайго праваднікa, падняў уверх ліхтарню, аглядаючы склеп, але нідзе не было цела, якога я шукаў. Затое я толькі цяпер заўважыў, што памяшчэньне, у якім я знаходжуся, мае трохкутную форму, трылук якой, звужаючыся, зыходзіўся ўверсе высокім скляпеньнем. Мне прыпомнілася чытанае некалісь апісаньне славянскай сьвятыні ў Рэтры, якая была збудавана трыбочнай фігурай, як і сама сяліба пры ёй, якая мела з трох старон агароду і тры брамы: на ўсход, поўдзень і поўнач. Спомнілася мне адна дыскусія ў кружку маладзёжы і як паважаны вучоны, які быў сярод нас, даводзіў тады, што таксама ў трыкутную фігуру была будаваная слаўная, апеяная Гомэрам, Троя, што ўсе бажніцы, ці то «багоды» старой славянскай веры, пасьвячоныя Найвельшаму, бацьку багоў, зваліся Троямі. Але хутка мысьль мая вярнулася ізноў да майго незавіднага палажэньня ў гэтых скляпох. І я толькі было прыняў у сабе пастанову вяртацца назад тэй самай дарогай, як,

раптам, нешта скрыгнула за мной. Пахопліва абярнуўшыся назад, я ўбачыў разсунутую сьцяну, і паміж двох яе палавіц, на асноведзі аксаміста-чорнай цемры праходу, чалавечую постаць у белай вопратцы і ў белым, мітрападобным, клабуку на галаве. Я стаяў як амярцьвелы і пэвен быў, што гэта галюцынацыя. А, тым часам, белая постаць з павагай пачала да мяне набліжацца. Узіраючыся разшыранымі вачамі на яе, я, з нямалым зьдзіўленьнем, распазнаў аблічча Івана Іванавіча. Першым маім водрухам было выразіць сваю радасьць і падзяліцца пnative пераджытымі трывогамі, але ён, як бытцам згадаўшы маю мысьль, урачыстым падняцьцем рукі стрымаў мой парыў, кажучы:

— Не нарушай павагі месца гэтага мовай сваіх турбот. Хадзі за мной!..

І мы моўчкі сьціраваліся ў праход, з якога выйшаў Іван Іванавіч. Ён ішоў наперадзі, а я за ім. Цяпер я толькі разгледзіў, што белая яго вопратка была ў форме доўгай, шырокай кашулі з шырокімі пурпуровымі шлякамі на падале і рукавох; клабук быў таксама падбіты зьнізу, на адваротах брыля, пурпуровай тканінай. Ішлі мы разьмеранай, роўнай ступою, лукавыгібістым шырокім праходам, на сьценах якога меліся павяўшыя ад часу малюнкі і нейкія надпісі, акружаныя арнамантамі. Памост быў заложан з чатырохкантовых камянных плітаў. Гэтак у маўчаньні прайшлі мы ня менш 200 крокаў, калі, урэшце, сталі перад глухой сьцяной, якой канчаўся праход.

Іван Іванавіч падняў руку ўверх і ляскай, на якую апіраўся, моцна націснуў на разэтку над круком, упраўленым у скляпеньне. Глухая сьцяна, перад якой мы стаялі, спярша дрыгнула, а пасьля пачала звольна апускацца наперад, і перад намі адкрылася круглая саля, сьцены і столь якой пакрыты былі рысункамі, а памост мазайкай. Саля была саўсім пустой, толькі з правай стараны, пры сьцяне, стаялі тры камянныя седзішчы.

— Во, тут, на гэтых сьценах,— пачаў Іван Іванавіч,— забразавана істота нашай старой веры, якая апіралася на траістасьці ўсяго існуючага. Уверсе — выабражаны сілы нябесныя, усярэдзіне — жыхары зямлі з іх турботамі, унізе — загробны сьвет з яго валадарамі і жыхарамі. Кожды з гэтых сьветаў, паводле старой навукі, распадаўся ў свой чарод на тры істотныя характары. Усе сыстэмы рэлігійныя, ад пачатку істнаваньня ў чалавецтве сьвядомай мысьлі і прызнавалі гэту траістасьць рэчаў. Халдэо-Вавілонскія сьвятары,— якія за многа тысячалецьцяў да

нас слылі лепшымі ў сьвеце астраномамі, лепшымі пры гэтым знаўцамі матэматыкі, без якой немагчыма астраномія, і да гэтага старэйшымі носьбітамі веды людзкой,— у лік сваёй Тройцы ставілі багоў Ану, Эа і Бела. Ану — гэта валадар гвяздзістага неба, першародны, старэйшы, бацька багоў. Эа мудрэйшы, лепшы з багоў, прасьвяціцель і праваднік усяму сьмяротнаму. Бела — сын Эа, каторы вывеў зямлю з цемры і хаосу, аддзяліў адны ад адных усе постаці і адмены, з каторых злажыўся сьмяротны сьвет, якім мы яго цяпер знаем. У Індыі Тройцу складаюць Брама, Вішну, Шыва; функцыі, прыпісаваныя асобам гэтай Тройцы, тыя ж самыя, што і ў халдэйцаў. Ня чужа было і грэцкай мысьлі паняцьця траістасьці сілы, уладаючай сьветам, чым галоўна цікавілася школа платонікаў, ад якіх догма Тройцы перанята была хрысьціянствам.

Пасьля гэтага ўступу Іван Іванавіч падняў руку ўверх, паказуючы на малюнак, і казаў:

— Пасярэдзіне скляпеньня бачым мы тут тры постаці славянскай, а — лепей — Дака-Гецкай Тройцы. Першая з іх ёсьць Найвельшы (Optimus) бацька багоў, ня маючый найменьня. Імёны, даваныя яму рознымі народамі: Баг, Бог, Дэос, Дзевае, Готт, Элёгім, Аллах-Адонай, гэта ўсё яго прыметнікі, як і нашае «Найвельшы», бо імяні яго тут нельга вымовіць. Чэсьць яго ў нашым народзе сягае ў вельмі глыбокую мінуўшчыну. Можна сказаць, што большасьць грэцкіх мітаў цесна зьвязана з нашымі прашчурамі Гетамі, з якімі на берагах Дунаю Грэкі вельмі рана сатknуліся і, наўзаемна, дзяліліся тайнамі веды. Навет наш сягоньняшні край быў вядом грэкам у той час, калі тварыліся ў іх першыя міты. Відаць гэта з Гамэра і іншых паэтаў старой Грэцыі, асабліва ж з аповясьцяў аб Апаллоне і сыну яго Фаетоне, якую аповесьць перадаў нам пекным вершам рымлянін Віргілій; з мітаў аб Прамэтэю, Арфэю, Эскуляпе і інш. От жа ў старагрэцкіх пісьменнікаў знойдзем, што славяне верылі ў загробнае жыцьцё і па сьмерці сваёй мелі надзею бытаваць разам з Зямельчыцам, рэлігійным рэфарматарам, які жыў за 600—650 гадоў да Нараджэння Хрыста.

Другая асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая Халдэю-Вавілонскаму Эа, індускаму Вішну — гэта Правечны Кон, які даў усяму жывому законы жыцьця, назначыў кон, долю і акрэсьліў канец, скон. Як і ўсе багі, Правечны Кон меў многа розных эпітэтаў, якія няведамі прымаліся

часам за яго ўласныя імёны. Да гэткіх імён яго належыць: Прова, Права, Тур. У аднэй старадаўнай саксонскай кроніцы маюцца малюнкі стараславянскіх багоў, з часаў хрышчэньня славянаў, між імі рысунак стода з подпісам «Prouo». Гэты рысунак сьведчыць, як хрысьціянскія апосталы таго часу былі пранікнуты мазаізмам ды вавілонскімі харубамі і шайтанамі, а як мала ведалі тое, што нішчылі. Бо Кон-Прова-Тур ня меў стодаў: яму пасьвячаліся сьвятыя дубы і гаі. У гэткія месцы, абгароджаныя і маючыя двое наўсупроцьных варотаў, схадзіліся, у канодныя дні, старшыны народу праўляць суды. У здарэньні калі каго прасьледавалі, мог скрыцца ў загароду, хоць бы ён быў ворагам, яго ніхто ня сьмеў крануць: бо права, праўда не на перавазе фізычнай сілы, ані на гвалце грунтуецца.

Трэцяя асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая вавілонскаму Белу і індускаму Шыве, ёсьць Сіціўрат, Сіва. Халдэйцы лічылі Бела богам апраметнай, царства вечнай цемры, дому: «у які ўсе ўходзяць, але скуль ніхто не выходзіць». Індусы Шыву называюць «мсціцелям». Цікава пры гэтым адмеціць адну асаблівасьць, гэта тое, што індусы аддавалі чэсьць Шыве — Ішвары ў мясцовасьці Рудры, а славяне — Рэтры. І каб мы ня ведалі аб тым, што Дака-Гецкія міты праз грэкаў сягалі да Вавілоніі і Егіпту з аднэй стараны, а да Індыі з другой,— то можна было бы падзіўляць нязвычайную прыпадковасьць у сазгуччы.

У санскрыце маецца эпітэт даваны Шыве — «Гары», які вельмі сходзен з нашым Яры, Ярыла, Яравід. Сымвалам Сіціўрата (жыцявароту) — Ярылы быў нязгасны агонь Жывец, Жынч, Зьніч (зьнікомы), які меў свае вечныя аўтары паўсюдна, куды сягала вера славянская. Летапісі ўпамінаюць аб такіх вечных агнях у Вільні, Вялікім Ноўгарадзе, а ў заходных славянаў у Жніне, Гнезьне і Жуліне на Паморры. Усюды, дзе істнуюць або істнавалі першыя хрысьціянскія сьвятыні, пасьвячоныя прароку Ільлі, яны былі будаваны на мясцох вечнага агня. Бо Ільля заступаў у пачатках хрысьціянства Ярылу. Цэрквы такія былі ў Менску, Вітабску, Смаленску, Полацку і другіх гарадох. Сьвятары, служыўшыя «Яраму», называліся — вядунамі, вядачамі, вятачамі, вяцьвягамі, бо яны прарочылі будучае. Ніхай ня дзівіць, што сіле мсьцівай надаваўся эпітэт белага, яркага. Гэта дзеля ўласкаўленьня яго. Бо ж дагэтуль па старой памяці народ называе агонь — багач, цяпло, сьвятло, каб ня ўкваліць грознай сілы. У мысьль гэтага страшны Лясун носіць эпітэты — Дабрахот, Зялун; а чорны балот-

ны дух «Бялун», «той», «гэты» і, пад уплывам ужо навейшага сьветагляду,— «нячысьцік».

Сіле першапрычыннай «Найвельшаму» належна пашана ад усяго жывога. Ён асновапаложнік, ён той, аб каторым пяе браман у сваіх гімнах:

Я носьбіт і дарога, сьведка і князь,
Айчызна, прыяцель, прытулак;
Першапрычына і цэль і стасьць рэчэй,
Я і захоўнік і вечнае семя.

Калі Орфэй, які быў з народаў Гетаў, сяліўшыхся пад той час у Фракіі, нанёс у Грэцыю навуку аб адзіным Найвельшым, то Грэкі пыталі аракула, што такое бог, якога прапаведуе Орфэй? І аракул назваў Найвельшага: сьвятлом (rad), мысьлю-словам (logos) і крыніцай жыцьця (pnema), якія імёны азначаюць — адзіную першапрычыну, сьвятло духа, радасьць бяз мучэньня, першакрыніцу веды, увенчаную вышэйшай праўдай.

Правечны Кон даў права, закон людзям, зьвярам, птахам, полазам, рыбам, расьлінам і наагул усяму, што жыве, родзіцца і памірае. Устаноўленыя ім законы вечны і непарушны. Галоўнае месца ў нашым краю, дзе складалі яму чэсьць, быў Тураў і мясцовасьць Скрыгалава, недалёка ад Турава, дзе дагэтуль захаваліся рэшткі так званых цыклёпічных будоўляў у форме аграмадных камянных блёкаў. Сымвалам справядлівасьці ў славянаў лічыўся белы бык — тур.

І хоць даўным-даўно забылі нашы людзі старых багоў, але Палеская (горадзенская) зямля дагэтуль мае ў сваім гэрбе тура, сымвал Правечнага Кону..

Пад гэтай Тройцай бачым мы ніжэй сем асоб з іх сымваламі: гэта ёсьць сем галоўных сіл, уладаючых сьветам. Першая — Кон, Конязь і яго сымвал сонца; другая— Княжыч або Месяц з сымвалам сваім — месік у маладзіку; трэцяя — Ярыла і сымвал яго гнязда Марс, чацьвертая — Радзігост і яго сымвал гвязда Мэркуры; пятая — Пярун-Грамавік; шостая Грамавіца і яе сымвалы гвязда Вэнэра і Пташка зязюля; сёмая — Лада, Ладон і яго сымвал гвязда Сатурн. Кождай з гэтых сямёх асоб пасьвячаны адзін дзень тыдня, аб чым сьведчаць рунічныя надпісі пад кождай асобай. Нядзеля — соўнік, панядзелак — месіч, аўторак — ярэц, серада — радаўнік, чэцьвер — пярунец, пятніца — громніца, субота — ладзіч. Ніжэй гэтых сямёх асоб маецца дванаццаць сымвалаў, азначаючых 12 знакаў Зодзіяка, а пад імі чатыры ветры, бытуючыя на чатырох

канцох зямлі: Усток, які сухасьцю тхне; Ірэй, прыносячый цяпло; Сутон, навяваючый хмары і дождж; Сівер, прыносячый сьцюжу.

Сярэдні шлях малюнкаў завіраў у сабе сцэны з жыцьця людзей, зьвяроў, птахаў, рыб, расьлінаў і іншых на зямлі, паветры, у вадзе з іх пераменамі і бытам.

У самым нізе было выабражана царства сьмерці, дом вечнай цемры з яго жыхарамі. На першым пляне былі дзьве галоўныя фігуры: Люцец, Люты (Pluto), або Кашча Бязсьмертны ў яго жана — Марва. Першы выяўляў сабой худую з вострымі людзкімі рысамі і злымі вачамі пачвару, другая — мела старэчую жаночую галаву, на якой замест валасоў зьвіваліся сыкучыя зьмеі. Яе мясістае тулава апіралася на чатырох лапах і заканчалася драконаўскім хвастом. Па-за гэтымі галоўнымі постацямі віднеліся пачварныя духі краіны сьмерці і безканечны лік бледных людзкіх постацей.

Мазайка памосту пакрыта была сымволічнымі знакамі, значэньня якіх я ня знаў і не адважыўся спытаць аб іх.

— А цяпер,— сказаў Іван Іванавіч,— каб пасунуцца далей у лабірынты, нам трэба сесьць у гэтыя крэслы.

## IV

Ачараваны веліччу абразоў, разьвінутых Іванам Іванавічам, я спытаў яго:

— Чаму ж усё гэта занялала, чаму забыта?

І Іван Іванавіч сказаў:

— Гэрадот апавядае, што паўночныя краіны Эўропы былі найлюднейшымі пасьля Індыі. Паўночныя народы, якіх звалі Гіпэрбарэйцамі, займаліся шавецтвам, скацежніцтвам і ратайствам. Знали рамёслы і асабліва любаваліся ў вызнаньні прыроды, а дзеля гэтага былі носьбітамі высокай веды. З берагу Гэрадотаўскага мора, цяперашняга Палескага краю, паходзіў вялікі індускі рэфарматар — Рама. Олен-гіпербарэец вывеў з поўначы калонію вучоных, якія сталіся ў Грэцыі кастай сьвятароў і асновапаложнікамі чэсьці Апалона і Дзіяны ў Дэласе. З поўначы, са славяна-гецкай зямлі, прыбыў у Грэцыю Арфэй, заснавец гарадоў, вучыцель мастацтва і рамёслаў. З поўначы прынёс Прамэтэй сьвятло, за што быў няміласэрна пакараны.

Прамэтэй, першы цывілізатар Грэцыі, прыкаваны за гэта да каўказскай скалы, паводле слоў Эсхілеса, жаліўся: «Багі, мне дзеецца крыўда! Паслухайце, што я даканаў

дзеля сьмяротных. Дзякуючы мне са зьвярат, якімі былі, сталіся людзьмі. Сьляпыя, глухія, як мары, яны туляліся без правоў і ладу, ня ўмелі будаваць дамоў, пячэры былі ім адзіным прытулкам, цягнулі жыцьцё няпэўнае; не разрожнівалі часу і пор году. Я першы навучыў іх пазнаваць ход гвёздаў, навучыў іх знакаў пісьма, знакаў лічэньня, абдарыў іх памяцьцю, маткаю муз, навучыў іх лавецтву. За што ж карае мяне завісны Зэўс? Ці ж бы за сьвятло зблiжаючае людзей да багоў?!»

Грэцкія пісьменнікі самі сьведчаць, што жыўшыя на поўнач ад іх паўночныя народы занясьлі ў Грэцыю ня толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сыстэму, навукі і ўмеласьці. Славянскія народы, як прыкладам, Курэты, Квірыты, ужывалі рунічнага пісьма задоўга да прыбыцьця ў Грэцыю фэніцыянскага Кадмуса. Іхнія будоўлі напаміналі цыклапічныя, адзначаючыся нязвычайнай трываласьцю. У першых іхніх сялібах, прыкладам на горах Алімпійскіх, Гэліконскіх і Пандэйскіх, насамперш зараджаецца рэлігія, музыка і філасофія, якой пасьля славілася Грэцыя. Згэтуль выходзіць Апалон, які займаўся тут пастырствам. Арфэй (orfeos — цёмны), праўдападобны сьляпы, як Гамэр, сваёй вымоўнасьцю аблашчываў дзікіх зьвяроў і лагодзіў дзікасьць тубыльчых барбараў. На чароўны, акудны гуд яго ліры палі зьмяняюцца ў гарады (грэцкае: горад — paleis). Ален, Тамарыс і Лінэй, таксама як Арфэй, сваімі прамовамі скланяюць тубыльцаў пакінуць людзкія ахвяры багом, а, здаецца, і вырачыся людаедзтва.

Але ёсьць народы, як і паасобныя людзі, празначаныя быць ня толькі мэссыямі чалавецтва, але і яго адкупіцелямі. Да гэткіх належыць народ Гетаў з усімі яго галінамі. І мы бачым: Прамэтэя за яго дабрадзействы, выказаныя людзям, расьпялі на каўказскай скале. Арфэя разьдзерлі пьяныя, папаўшыя ў шал, кабеты. Фасьційскія Пэлазгі за недаверства паганізму былі забіты грэкамі і патоплены ў моры. Троя, славянская сяліба між грэкаў, абурана Грэкамі. Урэшце Грэкі, падбіўшы сваіх даўных вучыцялёў і цывілізатараў, нішчаны, стараліся іх зьняславіць перад гісторыяй, няслушна прыпісваючы ім нялюдзкія абычаі і чараўніцтва.

Перш чым стаўся носьбітам веды і задаўся мэтамі мэсыянізму, народ Гетаў павінен быў прайсьці сам рад унутраных перэабражэньняў і рэформ.

Першым рэфарматарам быў Зарада. Да яго істнавала

ў Гетаў супольнасьць кабет і маёмасьці. Народ займаўся толькі лавецтвам. Ён навучыў рамарства і завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў, раз кождага году. Штогодна меў права муж зьмяніць жонку і жана мужа. Дзень гэты быў названы Купальлем, дзеля таго, што ў гэты дзень павінны былі кандыдаты на жанідзьбы адбыць ачышчэньне праз агонь і купаньне ў вадзе. Кождая пара магла мець сваю ўласнасьць і аддзяліцца ад грамады. Ніхто ня мог карыстацца чужой працай. Кожды пілнаваў ладу ў сваёй сямьі і дома быў поўным сувэрэнам. За крыўды, зробленыя суседу, караў сход суседзяў. Але семьі пачалі множыцца, і бацькі, мала-памалу, устанавілі патрыярхат, не абмежаную нічым уладу галавы сямьі над усімі семьянамі. Прычым патрыярхі няахвотна выпушчалі каго-колечы з сямьі і семьі разрасталіся да 100—200 душ. Уласнасьць у семьях сталася сямейнай уласнасьцю, або, іначай кажучы, уласнасьцю патрыярхіі, як і ўсе кабеты сямьі. Пайшло агульнае нездаволеньне.

У гэтым часе абъявіўся другі рэфарматар Багавей, які высунуў на першы плян касту сьвятароў. Апавешчана была сьвятарская дыктатура; зямля, як належачая да Бога, была аддадзена на ўласнасьць галоўнай сьвятыні, а з яе раменьня патвораны былі па ўсім краю правінцыянальныя сьвятыні. Усе жыхары, і бацькі і дзеці, павінны былі нараўне працаваць для багоў і сьвятынь. Як найсьвяцейшая праца была палічана праца ратарская. Сымвалам яе ўстаноўлен быў белы бык, які атрымліваў асаблівую пашану пры сьвятынях. Пры гэтым ладзе хутка ратар сам стаўся паніжан да безгалосай скацежыны, за якую думае гаспадар. Каб патушыць нарастаючую рэвалюцыю, сьвятары пайшлі на ўступкі: прызналі роўнае права з сабой галовам родаў. Утворан быў духоўна-арыстакратычны ўрад, які, прыкрываючыся воляю багоў, выдаваў ад іх імені свае загады, маючы, перш за ўсё, на мэце свае карысьці. Гэта тройца — духавенства, старшыны і багі — моцна і надоўга селі на карку рэшты народу. Але ў гэтым часе пачалі адбывацца напады суседніх качавых народаў, абарона ад якіх вытварыла, мала-памалу, трэцьці стан — вайсковы. У суполку — багі, сьвятары, старшыны,— павінны былі быць прынятымі і вайскоўцы.

Калі мы прыгледзімся да зьместу нашых народных казак, то гэту гісторыю мы знайдзем там перададзеную ў сымвалах. У сялянскай сямьі, прыкладам, родзіцца якінебудзь Кацігарошак, найсільнейшы за ўсіх, якія істнуюць

сілачы ў сьвеце. Падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і, памалу, дабірае сабе яшчэ двох, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабой змову, каб загубіць яго і закідаюць у бяздонную, бязвыходную пропасьць. Але Кацігарошак раней-пазьней дабываецца з пропасьці і, пасароміўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над сьветам, якому дае спакой і шчасьце.

Пад панаваньнем старшын і духавенства, змацаваным вайскоўцамі, ратары ў грэцкай сымболіцы прыбіраюць постаць аднавокага цыклопа, а пазьней дурнога і сьляпога Паліфэма.

Але яшчэ не канец на гэтым. Чужаземцы, прыйманыя сьпярша як госьці, пачалі паняваліваць славянскія народы і, памалу, абяртаць у сваіх нявольнікаў. Вышэйшыя клясы, арыстакрацыя і духавенства, зьліліся з пануючымі прыходцамі.

Тут мы маем такую самую гісторыю, як і ў Італіі, дзе, за многа гадоў да заснаваньня Рыму, жыў высокакультурны народ Этрускі. Чужаземныя дружыны паняволілі іх, абярнулі ў сваіх нявольнікаў і, пераняўшы ад іх культуру, ачарнілі Этрускаў перад гісторыяй як дзікіх і нічога ня вартых людзей. Аб дзівах мастацтва, промыслаў і навук, аб стане высокае асьветы ў Этрускаў мы сяголеньня даведываемся толькі з раскопак іхніх магілішч і гарадзішчаў. Цывілізацыя Этруская загінула ў войнах прыходцаў з мясцовым жыхарствам. А пасьля, за часаў Сцыльлія, безміласэрна, разам з выдатнейшымі мясцовымі людзьмі, былі нішчаны ўсякія помнікі этрускай культуры, іх кнігі і творы іхняга генія. І этруская культура заняпала навекі. Рым пакрыў яе маўчаньнем або сыпаў лаянкай і зьнявагай.

Пад ударамі чужазэмскіх наезднікаў заняпала і наша культура, а асабліва ў часе хрышчэньня норманамі славянаў.

Трэба памятаць, што міфалогія многіх народаў нічога супольнага з тэасофіяй ня мае, як прыклад можа служыць лацінская міфалогія. Лічу патрэбным гэта зазначыць дзеля таго, каб стала відней, што з нашай міфалогіі належыць да тэасофіі, а што зьяўляецца толькі сымвалам пройдзенай народам гісторыі.

Ёсьць апавяданьне аб Сатурне, што за яго панаваньня быў на зямлі век залаты. Сатурн — бог патрыцыяў. Легенду гэту, ведама, улажылі патрыярхі, спамінаючы сваё даўнае і безгранічнае панаваньне. І дармо некаторыя хочуць бачыць у гэтым пэсымізм клясычных народаў, якія,

кладучы сьпярша век залаты, пасьля сярэбраны, медзяны, урэшце — зялезны, хацелі бытцам зазначыць, што — чым далей, тым горш на сьвеце. Не, гэту гісторыю трэба паставіць у саўсім другую плашчыню.

Сатурн пачаў есьці сваіх дзяцей.

Гэту басьню выдумала ўжо каста сьвятароў, сьпіскуючы супроць усеўладнага патрыярхату. Устаноўлены лацінскімі сьвятарамі пазьнейшы лад аддаваў уладу ў рукі багатых сямей, «абдарыў старшых братоў правам боскім і людзкім» «jus pater» (згэтуль Юпітэр), крыўдзячы і вызуваючы з правоў малодшую, ратарскую брацьцю. Утварыліся патрыцыі (паны) і плебэйцы (мужыкі).

Патрыцыі тонуць у збытках і раскошах, плебэй у заплату і падзяку за крывавую працу мае бізуны і розгі. І, вось, у лацінскім багабайніцтве апавядаецца, што Вэнэра, жонка плебэйскага Вулкана, стала задавацца патрыцыянскім Марсам. Вулкан, ня могучы зьнясьці гэткай зьнявагі, абвівае сьпячых — Вэнэру і Марса — сеткай, падложанай пад іх, і выкідае іх на сьвятло, каб яўным ужо сталася, што плебс змаўляецца і бязкарна пасягае на правы патрыцыяў. Гэта быў дакор, зроблены Апалону, вартаўніку права. Увесь Алімп устрывожаны. Апалон памярцьвёў са зьнявагі. Адны багі сьмяюцца, а другія выказуюць злосьць і абураньне. Юпітэр страшліва загрымеў quos ego!.. Бачучы, аднак, прыгожую Вэнэру гэтак зьняважанай, кажа: — «Годзі ўжо ён... На Вулкана німа спосабаў — quem ego!.. За мяшаньне ў маю спрэчку з Юнонай у справе наданьня правоў плебэям нядаўна так пхнуў яго я нагой на зямлю, што аж нагу ён зламаў».

У трудным палажэньні Юпітэру аж галава трашчыць. Як пагадзіць нязгоду ў народзе пры ўсёўзрастаючых дамаганьнях чэрні, пры заўзятай упорчывасьці патрыцыянскіх багоў?

«Вулкан і Мэркуры ня даюць мне спакою ад таго часу, калі Марса з Вэнэрай удалося прылавіць у сетку».

«Чатырох нас,— кажа Мэркуры.— Стань Найвышэйшы па нашай старане, і народная справа будзе выграна».

«Найвышэйшай рады багоў не перагаласуем, шэсьць галасоў супроць пяці»,— адказаў Юпітэр.— «Што рабіць? Галава трашчыць, што рабіць! Тут мяне рве, ствару Мінэрву. Вулкан, валі молатам у галаву во тут, тут!»

Вулкан выпаўняе загад. А калі, спужаныя відовішчам бацькаўбійства, багі зьбягаюцца, бачуць: нованароджаную багіню, узброеную ад ног да галавы, выходзячую з патылі-

цы Юпітэра. Вось і багіня — Мінэрва.

«Плебэйцы дапамінаюцца правоў»,— кажа Мэркуры.

Сталі галасаваць. Шэсьць супроць шасьці!

«Мне належыцца падвойны голас!» — крыкнуў Юпітэр.

І справа народу была выграна.

«Дык занясі ім зямельнае права!» — крыкнуў Юпітэр.— «Сам пагавару я з Юнонай, і думаю, што яна дазволіць такжа права вольнай жанідзьбы».

Мэркуры, які спаўняў абавязкі пачтара, панёс весьць на зямлю.

І плебэйцы атрымалі правы людзкія і цывільныя. А ўсё гэта сталася вынікам не перасьцераганьня правоў бажкамі, залётнасьцю Вэнэры і праз папусьціцельства Юпітэра,— тлумачылі сьвятары.

Мэркуры, бог купецтва і прамысловасьці, носіць сьвіту нараспашку, служыць усім, хто плаціць: багом і людзём, небу і зямлі. Апякуецца зладзеямі і ашуканцамі.

Пад яго апекай вырастае новая арыстакрацыя — грашовая. У рады яе ўваходзяць усе, кім апякуецца Мэркуры. І на правы для гэтага стану багі ад імені сваіх кліентаў, патрыцыяў, павінны былі згадзіцца.

Не глядзя на тое, што даўно па-свойму рашыў Юпітэр зямельнае права, права гэта да сягоньня несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кожны народ не станецца гаспадаром у сваім краю, пакуль кожды, хто палівае сваім потам загон, ня будзе праўным, прызнаным і ўсьвячоным правам яго ўладаром.

Гэты ж час ужо недалёк!

## V

У гэты момант, калі, скончыўшы гутарку, прымоўк Іван Іванавіч, а я аддаўся размышляньню, нас акружыла маўклівая ціш, скрозь каторую зьнекуль стаў даходзіць да вуха ціхі харальны сьпеў. Спярша гэты сьпеў быў такі ціхі, што зьліваўся з тутненьнем сэрца і крыві ў жылах. Але, у меру таго як я, натужаючы свой слух, услухаўся, ён усё рос, і ўрэшце набіраў штораз больш выразістасьці. Калі сьпеў гэтых многіх галасоў стаў набліжацца, я пытаюча глянуў на Івана Іванавіча.

— Гэта пяюць нашы старцы...— сказаў ён спакойна.

— Як! Дык хіба ж гэтыя падзямельлі заселяны людзьмі? — здзівіўся я.

— Так. Жыцьцё ў гэтых падзямельлях ідзе старое, даўняе. Вам жа хіба не прыходзілася чуваць ад народу дый чытаць у так званай этнаграфічнай літаратуры аб праваліўшыхся гарадох, царквох, манастырох. Хіба ж Вы ня чулі аб нявідомым гарадзе Багоцку, во тут, каля Полацка? Другі такі горад, што каля Гомеля, апісаў расійскі пісьменьнік пад найменьнем Кіцяжа. На землях, якія ў апошнія часы, у да Крывіцкую эпоху засялялі Готы, гэткія гарады істнуюць...

Я зьдзіўленна ўзіраўся на Івана Іванавіча і сам ня ведаў, што аб усім гэтым судзіць, гэтак было ўсё чутае і бачанае нязвычайным для майго разуменьня, што я павёў рукой сабе па абліччы, каб пераканацца, ці ўсё гэта не галюцынацыя, ня сон... Але чоў мой мяне не ашуківаў...

Іван Іванавіч пры гэтым устаў і, адчыніўшы дзьверы ў сьцяне, павёў мяне доўгім і шырокім праходам, аж урэшце мы апынуліся ў вялікай і сьветлай салі. Не было там ні сьвечак, ні лампаў, сьвятло як бытцам само сабой стаяла ў салі. Сьцены былі запоўнены ўсякімі кнігамі і зьвіткамі рукапісаў. Падышоўшы да аднэй з паліц, Іван Іванавіч зьняў пэргамінны рукапіс, кажучы:

— Во гэта сьведчаньне падарожнага, які бываў у нашым краю, за некалькі вот лет да арабскага пісьменьніка Масудзі, які яго сьведчаньне асобным разьдзелам (маруджа 62) са старых кніг упісаў у свае кнігі. Тут мова аб гарадох і сьвятынях славянскіх. Руін гэтых гарадоў і сьвятынь цяперашняя археолёгія не знаходзіць на зямельнай паверхні, бо яны дзіўнай умеласьцю старабытных нашых інжынераў апушчаны ў глыб зямлі, як вось і гэта наша сьвятыня, у часьці будынкаў якой мы цяпер з Вамі знаходзімся. У гэтай кнізе вось што аб ёй напісана:

«З гэтых сьвятынь адна пабудавана на гарэ, гэта дзіва сьвету, а як кажуць знаўцы, прыклад архітэктуры і разпарадкаваньня рожнаякага каменя, ужытага да гэтай будоўлі. Сабраны там дарагія каменьні нявыказанай цэннасьці, а такжа знакі, паказуючыя будучыну».

— Усё, што тут напісана, шчырая праўда! — казаў Іван Іванавіч, складаючы кнігу.

— Цяпер жа я пайду на момант да нашых старцаў, а Вы агледзьце радчайшую ў сьвеце бібліятэку.

— Прашу Вас, скажыце, хто гэта такія старцы і як яны жывуць тут?

— Гляньце на гэту салю,— сказаў Іван Іванавіч,— вы тут ня ўбачыце нідзе ніякіх прылад да асьвятленьня,

а ў салі сьветла і цёпла. Гэта таму, што сьцены гэтай салі пакрыты элементам, падобным да радзія, з якога пабудавана сонца. Пад гэтым сьвятлом і расьліны і людзі могуць жыць бяз ушчэрбку для свайго здароўя. Гэты элемент тут ужыты як масса да тынкаваньня сьцен, акром сьвятла і цяпла мае яшчэ другія дзействы: хто знаходзіцца заўсёды пад уплывам яго сьвятла, не падлягае старасьці, якая паходзіць ад звапненьня кроваточных начыньняў у людзкім арганізме. Пад уплывам гэтага сьвятла вапна ня можа ў арганізме зацьвярдзеваць, а дзеля гэтага чалавек застаецца назаўсёды ў адным веку, а як вынік гэтага, не падлягае сьмерці. Мы з Вамі цяпер знаходзімся на глыбіні каля тысячы мэтраў ад паверхні зямлі, і аднак жа Вы аддыхаеце лёгкім паветрам, гэта таму, што элемэнт гэты, які завецца «гетынам», мае ўласьцівасьць, пахлынаючую лішкі кіслых газаў. Вось жа старыя вучоныя, зыйшоўшы з поля дзікага змаганьня на зямлі, жывуць тут, працуючы над навукай і ўмеласьцямі ў сваіх абшырных і добра абстаўленых бібліятэках і лабараторыях. Працуюць, чакаючы часу, калі ім прыйдзецца ізноў выйсьці да свайго народу. Адным з важнейшых адкрыцьцяў, якія імі тут зроблены, ёсьць «крывін», пры помачы якога кождую рэч можна разлажыць на першапачатковыя высхады і з першапачатковых высхадаў зложыць любую рэч. Прыкладам: з высхадаў паветра і вады можна вытварыць камень, золата, хлеб, тлушч і, наадварот, кождую рэч можна пераняніць у другую. Прыкладам той жа брукoвы камень можна зьмяніць у хлеб ці золата, у паветра ці любога смаку сталовае масла. Бо першапачатковы высхад ва ўсім ёсьць адзін і той жа, залежыць толькі ад таго, які надаецца кірунак руху яго праатомам. Гэтае вялікай вагі адкрыцьцё, зробленае нашымі старцамі, разьвяжа на зямлі сацыяльнае пытаньне... Пытаньне пракорму людзей.

У гэты момант недзе здалёк пачуўся званок і Іван Іванавіч, падаўшы мне на разьвітаньне руку, выйшаў у праход, які пачынаўся з левай стараны салі, сказаўшы:

— Вам, аматару кніг, думаю, маркотна тут не будзе.

Я, не трацячы часу, стаў разглядаць кнігі. Аддзел бібліятэкі, у якім я знаходзіўся, складаўся з помнікаў старасьвецкіх — арабскіх, грэцкіх, індускіх і егіпецкіх пісьменьнікаў. Аграмадныя фаліянты, пісаныя на пэргаміне і шоўкавых тканінах, залягалі ўсе сьцены; унізе, каля сьцен, у дубовых, абіваных сярэбранай бляхай скрынях, разложаны былі зьвіткі, пісаныя на рожных мовах. З пля-

ну бібліятэкі, які быў выabражаны на мармурнай дашцэ, сярод салі, відаць было, што аддзел славянскіх кніг знаходзіўся ў трэйцяй салі, ідучы налева. Я пасьпяшыў туды.

У гэты момант нейкі·лёгкі бытцам звон угарэ зьвярнуў маю ўвагу. Я падняў галаву і ўбачыў, што са сьцяны выступае масыўны камянны блёк, у кшталце столу, з глыбокімі ўнізе выімкамі. На стале быў разстаўлены цэлы рад жоўтага мэталю, сталёвых міс, а на іх разложаны сьвежыя фрукты і закускі, пасярод жа красавалася бутэлька са старкай. Падыйшоўшы да стала, я ўбачыў картку, пісаную рукой Івана Іванавіча, гэткага зьместу:

«Паважаны дружа. Усё, што знайдзеце на гэтым стале, толькі што прыгатавана пры помачы высхаду «крывін». Спробуйце, ці годна да ўжытку. Ваш Іван Іванавіч».

Я сеў пры стале і ў часе яды пераканаўся, што пададзеная закуска вызначалася вялікім кулінарным мастацтвам. Пячэня была гарачая і сочная з прыемным водарам дымляніны; фрукты мелі дзіўную сьвежасьць; старка цягнулася з бутэлькі як аліва і разыходзілася па арганізме хвалямі прыемнага цяпла.

Перакусіўшы, я сьціраваўся ў славянскі аддзел бібліятэкі. Багацьце, якое я тут убачыў у зьвітках і фаліянтах, проста не паддаецца апісаньню. Тут я бачыў ня толькі фаліянт полацкай летапісі, пісанай рукой княжны Еўфрасініі, але летапісі шмат ранейшых пэрыёдаў істнаваньня нашага народу. Убачыў сабраньне навукі Зямельчына, якое складалася з чатырох кніг, разьбітых, кождая на семдзесят два разьдзелы. На зьмест кнігі злажыліся: маральнае права, цывільнае і дзяржаўнае права, гісторыя народу і анталёгія лепшых тагачасных літэратурных твораў. Цэлы аддзел бібліятэкі складаўся з кніг, пісаных глаголіцай, якая, як я тут пераканаўся, была шмат старэйшай, бадай на добрую паўтысячу лет, славянскай граматай, знакі якой разьвіліся з славянскіх герогліфаў. Старэнна апрацаваныя табліцы развіцьця пісьменных славянскіх знакаў паказвалі ня толькі перамены ў формах знакаў, але давалі адначасна і хроналёгічныя данныя, з якіх відаць было, што пачаткі пісьменнасьці славянскай трэба аднясьці на канец чацьвёртага тысячалецьця перад нашай эрай. Цікава было сьлядзіць па гэных табліцах, як з людзкой фігуры (рысаванай у герогліфах поўнасьцю) вытварыўся знак «аз» — я, нашае цяперашняе вялікае А, у каторым з людзкой постаці асталіся ўнізе толькі дзьве палкі, а ў па-

пярэчцы памяць аб рысаваным калісь паясе. Як цьвёрда трымаўся цэлыя тысячалецьці знак зьмяі і дахаваўся да нашых часаў у славянскай літары «зело», а так жа знак жука, у літары — ж, які сяганьня яшчэ напамінае сабой кузурку. У аддзеле архітэктуры бачыў я дзіўнай прыгажосьці стылёвыя будоўлі так званага «гецкага» стылю. У аддзеле пісьменнасьці хрысьціянскіх часоў з асаблівай пашанай пераховываліся тут рукапісы першых хрысьціянскіх апосталаў Кірылы і Міфодзія, аб якіх трэба аднак на аснове пачэрпнутых мной у бібліятэцы данных сказаць, што хоць яны запраўды пераклалі святое пісьмо на славянскую мову, але ў пісьменнасьці славянскай, так званымі кірылаўскімі літарамі, на добрых чатыры сталецьці іх папярэдзілі рожныя хрысьціянскія сэктанты, а перад усім манахійцы, паўлікіянцы і мэссальянцы. Усе гэтыя сэктанты пісалі грэцкімі літарамі па-славянску, дапасоўваючы іх да славянскай мовы. І пераклад кананічных кніг на славянскую мову папярэдзілі розныя сказаньні, як прыкладам: «Сказаньне аб Адаме», «Кнігі Эноха справядлівага», «Сказаньне аб Ламэху і Мэльхізэдэху», «Запаветы дванадцаці патрыярхаў», «Пасланьне Абраама да Хрыста», «Евангельле Хамы», «Евангельле Нікадымава» і шмат іншых.

Урэшце, змучаны праглядам кніг, я надумаў абыйсьці бібліятэку і з гэтай мэтай выйшаў у другую салю, а з другой у трэцюю і гэдак далей. Прайшоўшы дзесяткі два саль, напоўненых кнігамі, я апынуўся перад глыбокай нішай, у якой была памешчана фігура чалавечая з бліскучымі вачамі. У меру збліжаньня да яе вочы фігуры што раз ярчэй сьвяцілі, прычым чулася ў іх нейкая прыцягаючая сіла. Калі [redacted] быў на адлегласьці мэтраў дзесяць ад фігуры, [redacted] ўжо ня меў сілы стрымаць сябе, нешта незразумелае, непаборнае цягнула наперад, і высілкам усей волі я ня мог спыніць сябе, каб ня ісьці далей. Фігура была з жоўтага мэталю, утрая большая ад натуральнага чалавечага ўзросту. Ад сіняватага бляску сьвятла вачэй фігуры, які быў скіраваны прост у мае вочы, я чуў, як цела маё млела. У гэты момант фігура правай рукой ударыла тры разы ў шчыт, які быў у яе на левай руцэ. Аглушаючы патройны гук дарэшты спараліжаваў мяне, і я ўтраціў прытомнасьць.

## VI

Калі я адкрыў вочы, то ўбачыў, што ляжу ў гатэлі на сваёй пасьцелі ў адзежы. Праз акно ярка сьвяціла сонца

і двумя агністымі стаўпамі клалася на памост перад маім ложкам.

У гэты момант нехта пастукаў у дзьверы.

— Але! Прашу! — сказаў я.

Адчыніліся дзьверы, і я ўбачыў на парозе «Падземнага Чалавека». Ён падышоў да мяне і, паздароваўшыся, сеў пры ложку. Глянуўшы на яго, я ўбачыў шырокую блізну на левай шчацэ, ад вуха да падбародка. Мне зразу ўспомнілася падзямельле, і я ўскочыў з ложка. Стары глядзеў нейкім цьвёрдым, сталёвым поглядам мне ў вочы. Гэты погляд наводзіў на мяне нейкі забабонны страх, і я зноў сеў на ложку.

Стары моўчкі пачаў капацца ў падысподным кішані сваёй спанцэркі і па нейкім часе выняў адтуль даволі пакомканы канвэрт, падаючы які, мне сказаў:

— Гэта вось вам цэдулка ад Івана Іванавіча.— Я пасьпешна схапіў канвэрт і, разьдзершы яго, дабыў запіску, у якой было напісана:

«Паважаны дружа. Заўтра мае імяніны, а сягоньня вечарам сьвята Купальле. Загляньце вечарком, пагаворым ізноў аб мілай старасьвеччыне. Стол я прыгатаваў паводле сваіх рэцэптаў. Спробуйце, ці годна мая кулінарыя да ўжытку. Ваш Іван Іванавіч. Полацак. 23 чэрвеня».

Я хутка глянуў на сьцяну, дзе вісеў адрыўны каляндар, там віднелася дата 20 чэрвеня. Гэта быў дзень, калі я прыехаў у Полацак і вечарам гасьціў у Івана Іванавіча.

— Якая сягоньня дата? — спытаў я «Падземнага Чалавека».

— А, якая ж, тож ведама — 23 чэрвеня.— Адказаў ён, пасьміхаючыся.

— А калі я ў вас быў?

— Тож вы заўчора былі ў нас, у аўторак, а сягоньня мы маем, дзякаваць Богу, чэцьвер, заўтра будзе пятніца, Святога Яна.

Голас «Падземнага Чалавека» здаўся мне нейкім скрыпучым, уплываючым на нэрвы, як пілаваньне па зялезу.

Мяне агарнуў ізноў забабонны страх, і я пастараўся чым хутчэй пазбыцца госьця. На адходным, замест звыклых слоў пры развітаньні, ён сказаў:

— Мы яшчэ ўбачымся.

Астаўшыся адзін, я прыпамінаў абраз па абразе ўсё мной бачанае, ад часу павароту дамоў з гасьціны ад Івана Іванавіча.

Не, я ня сьніў. Думаў, перадумываў і ізноў прыходзіў

да пераконаньня, што ўсё гэта было на яве, усё гэта было рэальнасьцю. «Можа, я пераблутаў даты»,— гануў я і, каб пераканацца, выняў з кішані запісную кніжку. Так, праўда: выехаў я з Вільні вечарам 19 чэрвеня, раніцай дваццатага быў у Полацку. Я пазваніў.

Калі прыйшоў нумарны, я спытаў яго, якая сягоньня дата.

Перш, чым адказаць на пытаньне, ён хутка загаварыў:

— Добра, што вы, паніч, вярнуліся, а то ўчора прынясьлі Вам тэлеграму, а як Вас не было, то я ня ведаў, што рабіць з ёю. Дата ж, панічыку, сягоньня дваццаць трэцяя. Але дзе гэта вы, паніч, бавілі так доўга? Як мне сказалі, што вы выехалі ў госьці, то я, прызнацца, і не прыбіраў.— І ён заклапоціўся каля ўмывальніка.

— Хто табе сказаў, што я выехаў у госьці? — спытаў я парывіста.

— Ды ж, во, гэты самы, што быў цяпер у Вас, панічыку, «Падземнік», як яго ў нас называюць.— А пасьля ён спахапіўся і борзка пабег па тэлеграму.

Тэлеграма была з дому: «Прыяжджай назад першым поездам, важныя справы»,— пісалася ў тэлеграме. Я крэпка занепакоіўся, бо, выяжджаючы, ніякіх «важных спраў» не правідзілася. Што там? Хвароба? Няшчасьце? Чаму не сказана, якія там справы?

І, гэтак раздумываючы, я пачаў складаць свае рэчы. Пасьля сеў і адпісаў Івану Іванавічу на яго запросіны, што з прычыны клічучай дамоў тэлеграмы ня буду ў яго на імянінах, і, пажадаўшы яму ўсяго лепшага, закончыў лісток.

Таго ж дня, позным вечарам, быў я ўжо дома. Аказалася, ніякіх важных спраў дома не было і ніхто з дамовых мне тэлеграмы не высылаў. Хоць на белягу выразна было памечана: «Выслана з Вільні, прынята ў Полацку».

У ранічнай газэце, 24 чэрвеня, я прачытаў тэлеграму з Полацка гэткага зьместу: «Учора, 23 чэрвеня вечарам, памёр мясцовы полацкі археолёг і гісторык Іван Іванавіч».

# «ПАКЛЯНЁМСЯ ЛЮБІЦЬ НАШ КРАЙ!..»





# *Кузьма ЧОРНЫ*

## РАСПЛАТА

Непадалёку ад горада М. ёсць вёска Максімаўка. Калі гэтую вёску займалі немцы, адзін з пажылых людзей гэтай вёскі перажыў асабліва страшнае гора.

У гэтага чалавека была адзіная дачка. Дзяўчыне было семнаццаць год. Калі немцы ўварваліся ў вёску, дзяўчына з бацькам былі дома.

За вёскай яшчэ ішоў бой, а ў самой вёсцы гітлераўская салдатня і афіцар'ё пабеглі па хатах і дварах шукаць сабе спажывы. Дзяўчына хавалася ў садзе за домам, і яе заўважылі эсэсаўцы. Удвух пабеглі яны да дзяўчыны, затрымалі яе і схапілі за рукі. Не выпускаючы яе з рук, яны пачалі грызціся паміж сабой за дзяўчыну, і, нарэшце, слабейшы ўступіў месца здаравейшаму, але сам не пайшоў далей, а ціхом схаваўся за вуглом.

Той, што астаўся з дзяўчынай, пачаў біць яе кулакамі, бачачы, што яна стараецца вырвацца ад яго. Калі дзяўчына не магла ўжо вырывацца, эсэсавец яе згвалціў і, задаволены сабой, пайшоў у хату шукаць яды. Дзяўчына ляжала ў садзе, не могучы падняцца. У гэты час да яе падышоў той, што стаяў за вуглом. Бой за вёскай заціх. Была цішыня. Немцы шнырылі па хатах. Бачачы, што дзяўчына ледзь

жыве, эсэсавец выстраліў у яе, і яна кончылася. Эсэсавец пайшоў у хату і ўбачыў таго, другога, які ўжо напіхаў свае кішэні і ранцы хлебам і сырам.

Дзяўчынін бацька стаяў у гэты час каля парога. Гэты ціхі чалавек, які калісьці прайшоў франты старой вайны, які сам калісьці спрабаваў смак ран і ўсіх ваенных бядот, быў цяпер разгублены. Ён не ведаў, што рабіць. Яго госці з ім не гаварылі. Наадварот, адзін немец так паглядзеў на яго, што ён зразумеў, што цяпер ён тут, у сваёй уласнай хаце, лішні. Ціхом выйшаў ён у сенцы.

Чалавек думаў, што немцы нагаспадараць у яго хаце і пойдуць, і тады ён зноў увойдзе ў яе, і ўсё можа пайсці звыклым парадкам. А пакуль ён пайшоў у сад прыхавацца. Вельмі можа быць, што гэты чалавек у гэты момант яшчэ не асмысліў усяго, што адбываецца. Гэта быў просты чалавек, не вельмі пісьменны. Усё на свеце ён расцэньваў з пункту погляду таго, які ён сам.

Адным словам, чалавек гэты быў сын свайго народа і сваёй зямлі, дзе жывуць і пашана да чалавека, і спачуванне чужому гору, і літасць, і праўда, і справядлівасць, і адкрытая душа, і сэрца.

Чалавек падышоў у садзе да старой яблыні і ўбачыў, што там ляжыць яго Насця, прастрэленая ў грудзі і з пасінелым тварам. Кусцік зялёнай травы прымяўся пад яе мілай, слаўнай галавой.

Усё стала вядома без слоў. Чалавек у адзін момант зразумеў праўду. Не, не чалавек гітлераўскі салдат! Не чалавек гітлераўскі афіцэр! Не чалавек гэты паганы чужынец, што прыйшоў таптаць нашу зямлю!

Можа, мінут тры стаяў чалавек над сваёй няшчаснай Насцяй, а пасля кінуўся бегчы ў паплавы за садам. Прабегшы крыху, ён вярнуўся і пабег назад. Неўзабаве ён зноў быў каля сваёй Насці. Але ўжо не стаяў над ёю. Ён узяў накошанай нядаўна зялёнай травы, якая ляжала за малліннікам, і накрыў цела сваёй Насці.

Чалавек выбег за вёску і азірнуўся. Проста перад ім пачыналася вясковая вуліца, а на вуліцы ён убачыў скопішча салдатні. І тут з чалавека сплылі рэшткі бяздум'я. Бездапаможна ён азірнуўся, быццам чагосьці шукаючы вачыма. Яму не прыйшло да думкі, што немцы могуць па ім страляць, калі заўважаць яго. Ён стаяў адзін на апусцелых паплавах. Нічога не знайшоўшы вачыма навокал сябе, чалавек сумна пайшоў далей, быццам абыякавы да таго, што яго зараз заб'юць немцы. Але раптам закончаная

думка заўладала ім. Ён кінуўся на зямлю і папоўз. Цяпер ён бярог сваё жыццё для вялікай мэты. Жыць! Жыць, бо жыве непараўнаная ні з чым нянавісць, народжаная з вялікай, як свет, любві да няшчаснай пакутніцы Насці.

Мінут дзесяць поўз чалавек. І раптам убачыў: перад ім ляжыць мёртвы чырвонаармеец. Гэта быў кулямётчык, які быў забіты ў часе нядаўняга бою за вёску. Каля чырвонаармейца, прыхаваны за невялікім насыпам, стаіць гатовы к стральбе кулямёт. Чалавек рынуўся к кулямёту. Ён пачаў устанаўляць кулямёт, ссунуты са свайго месца. Пасля перакаціў кулямёт наперад, бліжэй к першым вясковым загарадзям. Ён ляжаў перад кулямётам на знойдзеным новым месцы, адкуль, падняўшы галаву, мог бачыць вуліцу і ўсё, што на ёй рабілася.

І раптам яго кулямёт пачаў работу. Ён біў проста ў нямецкае скопішча. Прайшло некалькі мінут, пакуль ашаломленыя немцы, сярод якіх упала многа раненых і мёртвых, пачалі страляць у бок невядомага свайго ворага. Чалавек выявіў адзін супроць іх. Немцы стральбой папсавалі кулямёт. Чалавек споўз убок, дапоўз да вядомых яму глінішч, счакаў там, пакуль усё зноў прыціхла, і папоўз далей. Праз гадзіну ён увайшоў у лес, дзе знайшоў сваіх людзей. Усе яны былі паміж лініяй нашай абароны і немцамі.

Расказвалі, што вечарам таго самага дня група мужчын перайшла ў другі лес, а праз некалькі дзён каля тых месц партызанскі атрад грозна заявіў аб сабе фашыстам.

## *Якуб КОЛАС*

### ГОЛАС ВЕТРУ

Зашумеў на лад суровы
Вольны вецер, сонца сын,
З родных ніў, з палёў, з дубровы
Шмат нясе ён мне навін.

А навіны невясёлы:
Паліць вораг нашы сёлы,

Топча нівы, сенажаці,
Няма літасці к дзіцяці,

Ні к жанчыне, ні к старому,
Забірае скарбы з дому,
Ненаедны, злы і люты,
Чыніць здзекі і пакуты.

Нелюдзь, вырадак шалёны
Кроўю піша цьмы законы
Для няволі, гора, згубы.
Звер нямецкі шчэрыць зубы.

Ды прыціх мой родны вецер,
Шэпча мне, змяніўшы тон:
«Не сумуй, браток: як смецце,
Вольны люд змяце палон.

Не сагнуў ён спіны, шыі,
Зброю ў рукі ўзяў ізноў,
На дарогі баявыя
Ён павёў сваіх сыноў.

Росіць вораг кроўю чорнай
Багуны і верасы,
І гамоняць непакорна
Беларускія лясы.

Не зламаць народнай сілы
Дзікім ордам у баю,
А я ім на іх магілах
Марш хаўтурны прапяю».

*1941*

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Я чую голас несціханы —
Зямля мая мяне заве
І кроіць сэрца мне на раны,
Звініць, як звон касы ў траве.

І шум дібровы, і стогн пушчы,
І рэк усхліп, і плач крыніц,

І немы зрок балотнай тлушчы
Нясуць мне весць пра чужаніц.

Я бачу постаці тэўтонаў —
Халодны твар, звярыны від.
Не знае жалю, ні законаў
У сталь закованы капыт.

О, каб я меў такія рукі,
Зямля, абняў бы я цябе,
Каб сцішыць гора твае, мукі
І сілу даць у барацьбе!

Зямля мая, мая краіна!
Я чую твой прызыўны звон.
Прымі ж хоць слова твайго сына —
Не доўгі будзе твой палон.

Шумяць гняўліва твае пушчы,
Трасуцца помстаю бары,
І дзень твой хмурны зрок расплюшчыць —
Ёсць у цябе багатыры!

*1941*

## АБАРОНЦАМ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

У кожны міг, у кожны час
Душою, сэрцам я між вас,

Браты мае, байцы-сябры,
Зямлі святой багатыры!

Вялік прастор, шырок прасцяг —
На сотні міль пралёг ваш шлях.

На тым шляху і ўдоўж, і ўшыр
Бурліць смяротны бой, як вір.

Тэўтон-бандыт, фашыст-удаў
Бандытаў полчышчы нагнаў.

Ды пад навалай чорнай цьмы
Галоў сваіх не хілім мы.

І ўсё, што ў нас святога есць —
Радзіма, воля, слава, чэсць,—

Мы пранясём праз гром, агонь,
Варожых сіл раскрышым бронь.

Другіх дарог нам больш няма,
Сыноў жа цьмы агорне цьма.

Байцы-сыны, сябры, браты!
Мы выпаўнім наш доўг святы

І над раскутаю зямлёй
Узыдзем яснаю зарой.

Няхай нам свецяць сонца, дзень,
А ворагаў агорне цень!

*1941*

## *Змітрок БЯДУЛЯ*

* * *

Ці ведаеш зямлю арлоў — людзей магутных?
Ці ведаеш ты дні віхораў і агня?
Ці ведаеш ты сказ аб волатах пакутных?
Ці ведаеш ты спеў аб вечным ззянні дня?

Ці чуў ты часам быль аб сэрцах аб мяцежных?
Ці чуў ты гімнаў кліч аб шчасці на зямлі?
Ці чуў ты гул грымот аб гордасці бязмежнай?
Ці чуў ты пра байцоў, што за цябе ляглі?

## ПРЫЙДЗІЦЕ...

Прыйдзіце вы, добрыя... Вечна кахаючы,
Шчасце вы свету даруйце!
І гора-нуду і пракляцце ахвяраю
Вашай руйнуйце!..

Прыйдзіце вы, светлыя... Днём сямісонечным
Наша жыццё атуляйце!
І цені магільныя з ночнай паганшчынай
Ветрам пускайце!..

Прыйдзіце вы, шчырыя, сэрцам адкрытыя...
Праўда хай служыць вам мэтай!
І гніль фарысеяў і хітрасць распуснікаў
Счэзнуць са свету!..

Прыйдзіце вы, моцныя, бурамі званыя...
Ворагам гібель грыміце!..
І з нашай дарогі сыдуць злыя шкоднікі...
Хутка прыйдзіце!..

# *Леанід ГАЎРЫЛАЎ*

## ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
І на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
Сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы,
І плыве, як васільковы пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
На вачах любімых, па губах.

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны зараніцы,
П'юць расу палеткі на зары,—
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
І на воды пала цішыня,
І дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня.

*1941*

## *Мікола СУРНАЧОЎ*

### ПАХОДНАЯ

Нам яшчэ, магчыма, давядзецца
Піць ваду балотную з канаў,
І не хутка мірна усміхнецца
Рог вясёлкі паміж росных траў.

Нам, магчыма, лёс пасуліць многа
Непрадбачных і звычайных спраў,
Баявую не адну дарогу,
На якой смерць часта сустракаў,

На якой не зацвіце маліна,
Кветкі сохнуць, стогнуць крумкачы
І, як здань, зямлі маёй дзяўчына
Плача горка, косы ірвучы.

*Паўднёвы фронт*

### ПАШТОЎКА

Калі змаўкаюць мінамёты
І цішыня атуліць лог,
Я дастаю паштоўку, што ты
Прыслала з бацькаўскіх дарог.

Размыта ўся дажджамі марка,
Злінялі словы ад вады,
Але ж у слове кожным ярка
Цябе я бачу праз гады.

Вось ты праходзіш полем роўным,
І аддае табе паклон
Высокі, вечна непакойны
Зялёны прыдарожны клён.

Ты на зямлі асірацелай,
На папялішчах родных сёл,
Ідзеш-брыдзеш хадой нясмелай,
І слёзы сыплюцца на дол.

Але я зараз добра знаю:
Мы звернем край свой у баю.
Таму штодня сябрам чытаю
Паштоўку блеклую тваю.

*1941. Бранскі фронт*

## РАЗДУМ'Е

І цішыня, і стогн глухі,
І сэрца ачарсцвела быццам,
І хочацца на грунт сухі,
Нібы на ложак, апусціцца.

Мацнее бой, і ты з штыком
Ідзеш наўпрост да перамогі,
І, можа быць, сустрэне дом
Пасля вайны зусім нямногіх.

І, можа, я, як ветэран,
Паду на жоўклыя пракосы,
І да маіх гаручых ран
Нахіляцца спагадна лозы.

Не гэта нас турбуе! Што ж? —
Без перамогі свет не мілы.
Калі не я, жыць будзе ўсё ж
Зямля, што нас з табой расціла.

*4-ты Украінскі фронт*

## СОН

Мне сёння сніліся суніцы,
Сцяжынка праз густы хмызняк
І дзераза, што хутка віцца
Пачне ў імхах і так і сяк.

І луг мурожны, і прысады
Вакол варшаўскае шашы
Шапталі мне: «Цябе мы рады
Сустрэць ад шчырае душы».

І так заўжды перад вачыма:
Густы хмызняк, разбег дарог...
Такою я цябе, Радзіма,
У дні суровыя збярог.

*1944*

# *Аляксей КОРШАК*

## ПАРАНЕНЫ

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе ў кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
Пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
Злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і блізкае
У астатні раз.
Меншыцца яно, маланкай бліскае,
Пачарнела ўраз.

Дзесьці плача кнігаўка... Ці маці...
Мама, бліжай сядзь.

Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
Галавы не ўзняць.

Што ж ты не прытулішся, матуля?
На мяне хоць глянь,
Гіне сын героем твой ад кулі,
Каб квітнела рань.

Што з табою? Плачаш? З воч блакіту
Цэлы лівень слёз.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцэ ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май,

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што і ў бітве лёг
За прыгожы родны край азёрны,
За вясну ў палёх.

*1942*

## *Алесь МІЛЮЦЬ*

### СЫНОМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Хто чуе доўг і абавязак сына
Перад Табой, Радзімая Краіна,
На Твой алтар ва ўсёй яго красе
Няхай свае ён сілы прынясе...

Каб мог у кожным часе й намаганні
Служыць Табе з любоўю і адданнем,
А будзе трэба, за Цябе ізноў
Аддаць усё жыццё сваё і кроў...

І веру я, што з нашых шэрых хатаў
Не будзе больш прадажных рэнегатаў.
А знойдзецца дзе ўжо які прыблуда,
Яму ў цябе не будзе месца ўсюды...

*Скорычы, 13.V.1942*

## *Змітрок* АСТАПЕНКА

* * *

Паклянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся, што ў нашыя сэрцы
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці.

Мы у гэтым кляліся калісь —
У гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
Клятвы нашыя мусяць спагнацца.

Той, хто вырас на гэтай зямлі,
Хто ўсмактаў яе цяжкія сокі, —
Ведай: час і пара надышлі
На геройства, на подзвіг высокі.

І цяпер, калі грому гармат
Кулямёт падпявае па-брацку,
Ўспомні брата забітага, брат,
Ўспомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
Як баёў і нягоды выснову —
Ненавіснага ворага твар,
Ненавісную ворага мову.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас паглядае.
Ў нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

*6/XII 1943*

## *Валянцін ТАЎЛАЙ*

### МАЛОЙ СЯСТРЫЧЦЫ

Пакуль, сястрычка, падрасцеш
і шлях пратопчаш свой жыццёвы,—
на памяць вывуч гэты верш,
які складаю шчырым словам.

Не зразумееш мо мяне —
пішу табе яго навырост.
Я знаю: гэты дзень міне,
з якога верш сягоння вырас.

Магчыма, толькі ён адзін
і астанецца жыць на памяць,
як рэха дальняе гадзін,
што сэрца мне гнятуць і раняць.

Тады, сястрычка, ўспамяні
усіх, хто з бою не вярнуўся,
каб намі высненыя дні
зноў паплылі над Беларуссю.

*Ліда, 23 лютага 1943*

### РАНАК ПЕРАМОГІ

Мы цябе выглядалі з-за шэрых руін,
воблік светлы твой снілі начамі ў астрогах
і тужылі тугою магіл і краін
па табе, залатая вясна перамогі.

Нашы дрэвы, і кветкі, і дзеці, і сны
летуцелі даўно аб табе недацветам,—
аніразу яшчэ так пакутна вясны
не чакаў чалавек, покуль свет гэты светам.

Вочы дым выядаў, лісце вянула дрэў,
апякалі зямлю і душчу бліскавіцы.
Чорным полымем ранак вясновы гарэў,
рассыпалася ў попел гарачы травіца.

І тады — успаміны халодным асцём,
як запалы нянавісці, ўпіліся ў сэрца —
кожны кінуцца мог за Радзімы жыццё
і ўзарвацца гранатай над крокамі смерці.

Выбухалі і песні і сэрцы, як тол.
Смерць, губляючы косці, назад адпаўзала
праз магілы ахвярныя нашых братоў,
праз руін гарады, цені сёл і вакзалаў.

Мы, як гнеў, неадступныя, следам ішлі,
задыхаліся ў ярасных бітвах, пагонях,—
і астаўся за намі дым родных сяліб
і вайной узараныя родныя гоні.

Чорным саванам клалася злая зямля,
што ў пяшчэрах сваіх смерць таіла спрадвеку
і атрутай паіла калоссе ў палях,
а нянавісць радзіла, як хлеб, чалавеку.

Праклялі яе нашы гарматы наскрозь —
ад Мазурскіх азёр да самога Берліна,
покуль сонечным ранкам, няўмольным, як лёс,
не ўвайшла наша помста на Унтэр-дэн-Ліндэн.

Кожны з нас тады лёгка, глыбока ўздыхнуў.
Задзівіліся ўсе: ціхі гэтакі ранак...
І пазналі яе, залатую вясну,
аж занылі ад радасці даўнія раны.

*Мінск, 9 мая 1945*

# *Анатоль* ІВАНОЎ

## СОНЦА НАД СОПКАМІ

Пагоднай жнівеньскай раніцай сорак пятага на маньчжурскім аэрадроме Ляаянь, які зусім нядаўна быў адбіты ў японцаў, прызямліўся лёгкаматорны самалёт «ПО-2». З крыла досыць спрытна саскочыў на зямлю старшына Стасюк. На выгаралай гімнасцёрцы паблісківаў ордэн Айчыннай вайны, медалі «Партызану Вялікай Айчыннай вайны» і «За баявыя заслугі». Паправіўшы рэчавы мяшок за спіной і разгладзіўшы абвіслыя сіваватыя вусы, старшына дзелавіта сказаў пілоту:

— Ну, бывай здаровы! Дзякую, што падкінуў!

Пілот махнуў рукою, маўляў, няма за што дзякаваць, і парулів на стаянку, а Стасюк пакрочыў да прысадзістага доміка на ўскраіне аэрадрома, дзе размяшчаўся штаб батальёна аэрадромнага абслугоўвання, а карацей — БАА.

На абветраным, загарэлым твары старшыны свяцілася ўсмешка. Мінна-сапёрнае аддзяленне, якое ён узначальваў, у тэрмін закончыла размініраванне аэрадрома Таадзінь, і, да ўсяго, ён прывёз выхаванцу часці Міколу Рыжыку радасную навіну: яго залічылі ў сувораўскае вучылішча, што нядаўна адкрылася і не дзе-небудзь, а ў самой Маскве. Нарэшце-такі збылася хлапчукова мара.

Калі ў штабе дывізіі старшыне сказалі, што самалёт сувязі даставіць яго ў Ляаянь, а адтуль павінен вылецець у Таадзінь выхаванец Мікола Рыжык для далейшага следавання ў Маскву, у яго закалацілася сэрца. І ад радасці, і ад смутку. Амаль тры гады поплеч ваявалі яны з Міколам: спачатку ў партызанах, потым на фронце. Прывыклі адзін да аднаго, параднілíся, можна сказаць. А цяпер настаў час расстання. Вось і сумна.

Але і радасць вялікая: праклятай вайне не сёння, дык заўтра канец. Што можа быць лепш для Рыжыка, чым сувораўскае вучылішча? Чалавекам стане. Афіцэрам. З сапраўднай баявой закваскай. Глядзіш, і ён, Андрэй Гаўрылавіч, дажыве да таго дня, калі на плячах Мікалая Пятровіча Рыжыка заблішчаць золатам афіцэрскія пагоны.

З пачуццём радасці і смутку падыходзіў Андрэй Гаўрылавіч Стасюк да жалезабетонных капаніраў — падобных на гіганцкія купалы самалётных укрыццяў. Пад нагамі

шапацеў дробны гравій, які пакрываў лётнае поле. А за полем, быццам зусім недалёка — здаецца, працягні руку,— сінелі пакатыя ў гэтай мясцовасці маньчжурскія сопкі. Адтуль даносіўся гул артылерыйскай канананады: нашы войскі дабівалі разбітую японскую Квантунскую армію, якая яшчэ не паспела капітуляваць.

Старшына параўняўся з крайнім капанірам і спыніўся. Ён заўважыў аўтамашыну-бензазапраўшчык, і побач з ёй — у зашмальцаваным камбінезоне Міколу Рыжыка. Са штучнай строгасцю аклікнуў:

— Выхаванец Рыжык!

Мікола павярнуўся на голас, нешта сказаў шафёру і, радасны, кінуўся да старшыны:

— Дзядзька Андрэй, вярнуліся!

Куды гэта варта, каб на вачах у радавога, шафёра-запраўшчыка, баявы выхаванец баявога старшыну дзядзькам называў! Вайсковая субардынацыя, яна што, хіба не для ўсіх? Стасюк крышку адхіліўся, сурова насупіў бровы, збіраючыся зрабіць выхаванцу вымову, ды Мікола сам заўважыў сваю памылку і выцягнуўся ў струнку:

— Са шчаслівым вяртаннем, таварыш старшына!

— Дзякую, таварыш выхаванец!

Вось пасля гэтага можна, вядома, і абняцца, і пацалавацца. Што адразу і было зроблена. Не выпускаючы Міколу з абдымкаў, старшына шапнуў яму на вуха:

— Эх, Міколка, якую навіну я прывёз! Танцаваць табе да ўпаду.

— Якую, дзядзька Андрэй? — загарэўся Мікола і адразу ж папраўіўся: — Якую навіну, таварыш старшына?

— Не-е,— замахаў галавою Стасюк,— пацярпі. Пойдзем зараз да камандзіра, там і даведаешся.

Але нікуды яны не пайшлі. Камандзір БАА падпалкоўнік Радзівонаў сам крочыў да іх. Загадаўшы Міколу заставацца на месцы, старшына пайшоў насустрач камандзіру, узяў пад казырок і пачаў дакладваць, што аэрадром Таадзінь размініраваны і што начальнік раёна авіяцыйнага базіравання перадаў вусны загад рыхтаваць БАА да перакідкі на аэрадром Таадзінь.

— Падрабязнасці і тэрміны будуць паведамлены шыфроўкай,— закончыў дакладваць Стасюк.

— Зразумела,— чыркануў нешта алоўкам у блакноце Радзівонаў.— Іншых загадаў няма?

— Ёсць, таварыш камандзір. Ён датычыць нашага выхаванца Мікалая Рыжыка.

— Вось як! Дакладвайце!

— Камандзір дывізіі загадаў перадаць, што выхаванец Мікалай Рыжык залічаны ў сувораўскае вучылішча. Загадана даставіць яго ў Таадзінь на самалёце, на якім прыляцеў я. А адтуль Рыжык... прабачце, выхаванец Рыжык будзе адпраўлены ў Маскву. Вось і прадпісанне.— Старшына выняў з нагруднай кішэні гімнасцёркі запячатаны канверт, падаў камандзіру. Радзівонаў адразу ж разарваў яго, хутка прачытаў прадпісанне і павярнуўся да Рыжыка:

— Мікола, хадзі сюды. Ведаеш, якую навіну прывёз табе старшына Стасюк? Ты залічаны ў сувораўскае вучылішча. Ад душы віншую.

Хлопчык разгублена пазіраў то на камандзіра, то на старшыну. Па ўсім было відаць: у гэтую хвіліну ён і сам не ведаў, радавацца такому шчасцю ці шкадаваць, што трэба расставацца з таварышамі, з батальёнам, які даўно стаў для яго родным домам. Але потым вочы яго павесялелі, на вуснах засвяцілася ўсмешка.

— А я вярнуся, таварыш падпалкоўнік,— прамовіў ён.— Вывучуся і абавязкова вярнуся.

Ці шмат часу патрэбна салдату, каб сабрацца ў далёкую дарогу?! Не мінула і гадзіны, як усё было ўкладзена ў паходны рэчавы мяшок. Повар Косця Сырыца сунуў туды апроч сухога пайка дзве бляшанкі свіной тушонкі і пачак галет, а старшына Стасюк — плітку шакаладу, раздабытую ў лётчыкаў: спатрэбіцца ў дарозе. Калі зборы былі закончаны, старшына Стасюк, Косця Сырыца і яшчэ двое салдат з узвода спецмашын, дзе лічыўся Мікола, пайшлі праводзіць яго да самалёта. Там ужо стаяў падпалкоўнік Радзівонаў, размаўляў з лётчыкам. Акінуўшы хлопца з галавы да ног прыдзірлівым позіркам, камандзір строга спытаўся:

— Выхаванец Рыжык, а дзе ваш аўтамат?

— Старшыне роты аддаў,— сарамліва прамовіў Мікола.— Навошта ён мне зараз...

— Пакуль вы на вайне, без зброі нельга. Вазьміце аўтамат з сабою. Здасце ў Таадзіне.

Мікола сцягнуў з плячэй мяшок, перадаў яго Косцю, а сам памчаўся да казармы. Калі вярнуўся з аўтаматам у руках, камандзір пахваліў яго і сказаў:

— Вось цяпер іншая справа.— Ён зняў з рукі гадзіннік, працягнуў яго расчырванеламу хлопцу.— Вазьмі на памяць... Вучыся добра і не памінай нас ліхам, калі станеш генералам!

Мікола хацеў падзякаваць камандзіру, але замест гэтага раптам усхліпнуў. Падпалкоўнік абняў яго, пацалаваў.

— Ну-ну, супакойся...— прамовіў дрыжачым голасам. І, пэўна, каб схаваць хваляванне, павярнуўся да лётчыка.— Вам, таварыш капітан, наказ: даставіць нашага выхаванца Рыжыка па назначэнні.

Лётчык, усміхаючыся, адказаў у тон камандзіру:

— Будзьце спакойныя, таварыш падпалкоўнік, не ўпершыню генералаў вазіць!

Усе, хто чуў гэта, так і пакаціліся ад смеху: ай ды Рыжык, ай ды генерал! Мікола і сам рассмяяўся. А калі садзіўся ў самалёт, старшына яшчэ раз нагадаў яму:

— Пішы, Міколка, не забывай!

Хлопчык у адказ памахаў рукою.

Лётчык запусціў матор. Праз хвіліну-другую самалёт лёгка адарваўся ад зямлі, пачаў набіраць вышыню і хутка растаў у гарачай смузе.

Вяртаючыся з аэрадрома, старшына Стасюк думаў пра Міколу Рыжыка. Цёплыя гэта былі думы, харошыя. Моцна палюбіўся старшыне Мікола. Употай нават марыў усынавіць яго пасля вайны. Свае два дарослыя сыны загінулі: адзін у партызанах, другі на фронце. Дома засталася толькі жонка. Вось Мікола і быў бы ім за сына. Але сказаць яму пра гэта ўсё не было выпадку. Так і паляцеў Рыжык. «А можа, гэта і лепш, што я не сказаў яму,— думаў Андрэй Гаўрылавіч.— Навошта нагадваць хлопцу, што ён сірата?!»

І успомніўся яму адзін франтавы эпізод. Каб не Мікола, ляжаць бы яму цяпер у сырой зямлі.

Здарылася гэта на 1-м Беларускім фронце, у роднай Беларусі. У той дзень бой скончыўся толькі пад раніцу. Нямецкая група, што выходзіла з акружэння, была разбіта. Асабовы склад батальёна аэрадромнага абслугоўвання, які прымаў удзел у тым баі, радаваўся. Толькі яму, сівавусаму старшыне, радасць была не ў радасць: ён ляжаў на плашч-палатцы паранены ў абедзве нагі і, стрымліваючы сябе, ад нясцерпнага болю скрыгатаў зубамі.

Адправілі яго ў шпіталь на санітарнай машыне: фельчар сядзеў у кабіне з шафёрам, а ён з Міколам ехаў у кузаве. Хлопцу як санітару дазволілі суправаджаць яго. Шпіталь знаходзіўся кіламетраў за сем, за ракою. Шафёр імчаўся што было сілы, каб не натрапіць пад варожую бамбёжку. Ад штуршкоў на разбітай лясной дарозе ў старшыны аж іскры сыпаліся з вачэй. Вось-вось павінен быў

скончыцца лес, а далей, да самай ракі,— накатаная дарога. Аднак да пераправы яны не даехалі. Толькі выскачылі з лесу, як пад заднім колам нешта ляпнула і машыну развярнула ўпоперак дарогі. Мікола высунуўся з акна, запытаўся:

— Што там? Міна?

— Якая табе міна! — пачуўся сярдзіты голас фельчара.— Шына лопнула, праклятая!

— Мяняць будзеце?

— Добра было б, дык няма запаскі,— прабурчаў шафёр.

Тут фельчар выскачыў з кабіны, прыгледзеўся да кола.

— Т-так, гісторыя...— прамовіў ён.— Давядзецца параненага на насілках несці да пераправы, а там знойдзем машыну.

Але шафёр не згадзіўся:

— Э-эх, паехалі так! Як-небудзь дацягнем.

І яны рушылі з месца. Наперадзе над ракой узнімаўся попельна-чорны дым. Гэта сапёры палілі дымавыя шашкі, каб схаваць пераправу ад варожай авіяцыі.

Калі да ракі заставалася некалькі соцень метраў, у небе з'явіліся фашысцкія самалёты. Зямля задрыжала ад разрываў бомбаў. Шафёр рэзка затармазіў і высунуўся з кабіны:

— Хутчэй злазьце з машыны!

Ды раптам пачуўся голас фельчара:

— Зварочвай назад у лес!

— Позна! Накрыюць раней, чым даедзем да лесу,— запярэчыў шафёр і, адчыніўшы дзверцы, махнуў рукою на кусты, што раслі за дарогай, у лагчыне: — Туды насілкі, хутчэй!..

Фельчар не пярэчыў. Ён і шафёр схапілі насілкі і пабеглі ў кусты. Фашысцкі штурмавік прамчаўся над самай дарогай. Калі развярнуўся для другога заходу, насілкі ўжо стаялі ў кустах, прыкрытыя веццем. Абстраляўшы санітарную машыну, сцярвятнік пайшоў яшчэ на адзін заход. Ён, вядома, бачыў чырвоныя крыжы на машыне, але ўсё ж вырашыў дабіць яе канчаткова. Шафёр не вытрымаў, закрычаў:

— Адганю сваю старую ў лагчыну, там замаскірую.— І ён, прыгнуўшыся, пабег да машыны. Фельчар — за ім.

— Трэба санітарную сумку забраць!

Гэта каштавала абодвум жыцця: бомба прамым пападаннем накрыла машыну ў той самы момант, калі шафёр сеў за руль, а фельчар палез у кузаў. Ды тут Мікола заўва-

жыў другую небяспеку. Губы яго задрыжалі, і ён ціха прамовіў:

— Дзядзька Андрэй, немцы! З-за пагорка лезуць. Пэўна, ірвуцца да пераправы.

— Дапамажы мне сесці, Міколка,— папрасіў старшына. Прыўзняўшыся, ён убачыў, як фашысты на машынах і пеша акружалі пераправу. «Зразумела,— падумаў старшына,— наперад ім ходу няма, назад павярнулі». І запытаўся: — Міколка, а дзе аўтаматы?

— У машыне засталіся,— са скрухаю ў голасе адказаў хлопец, здагадаўшыся аб намеры старшыны дорага аддаць сваё жыццё.— Дзядзька Андрэй, а што, калі нам падацца да ракі ды на той бок?

Адказаў ён не адразу. Нейкія секунды думаў: рака хоць і нешырокая, але да яе яшчэ далекавата, ды і як ён, паранены ў ногі, паплыве? Нарэшце прамовіў:

— Не, Міколка, пустая гэта справа, цяжка мне,— і, вывальваючыся з насілак, запатрабаваў: — Бяжы хутчэй, ратуйся, а я мёртвым прыкінуся, можа, пранясе...

Хлопец аж прысеў ад абурэння:

— Вы што, таварыш старшына! Каб я ды кінуў вас! Не бываць гэтаму!..

Зразумеўшы, што пераканаць выхаванца нельга ды і не час, ён папрасіў:

— Тады, Міколка, паглядзі, ці няма дзе непадалёку акопа альбо канавы. Туды папаўзём ды схаваемся.

Хлопец прыўзняўся на калені, агледзеўся. На шчасце, за некалькі дзесяткаў крокаў ад яго ён сапраўды ўбачыў штосьці падобнае на закінуты акоп.

— Ёсць, дзядзька Андрэй! — усклікнуў ён і без лішніх слоў пасунуў яго паясны рамень падпахі і пацягнуў. Чапляючыся рукамі за пажоўклую траву, падцягваючыся, ён сяк-так дапамагаў хлопцу. Выбіўшыся з сіл, Мікола некалькі разоў тыцкаўся тварам у зямлю, пераводзіў дыханне ды зноў цягнуў.

Быццам праз тоўстую каменную сцяну старшына чуў гул машын, аўтаматныя чэргі, крыкі гітлераўцаў. Потым усё некуды адступіла. Ачуўся, калі хлопец, расчырванелы ад напружання, спрабаваў уцягнуць яго ў акоп. І тут шэрым туманам зноў зацягнула вочы... «Канец!» — прамільгнула ў галаве... Калі апрытомнеў, расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабою справа гліняную сцяну, злева — таксама, а над галавою — пахмурнае неба. Побач Міколка сядзіць, усміхаецца.

— Ачуліся, дзядзька Андрэй? — запытаўся хлопец.

— Здаецца, так. Выходзіць, дапаўзлі да акопа?

— Ага! — радасна адказаў Мікола.— Але ж далей пакуль ходу няма. Незразумела, што робіцца на берагах: дзе нашы, дзе немцы. Каля пераправы ўсё яшчэ ідзе бой... Дзядзька Андрэй, нам трэба тут пабыць да цемначы. Тады я змайструю плыт і мы пераправімся на другі бераг да сваіх.

— Нічога не выйдзе з гэтага,— запярэчыў старшына.— Не памочнік я табе, а ты сам плыт не змайструеш. Плыві адзін, а я цябе тут пачакаю. Дабярэшся да нашых, прывядзеш сюды. Са мною ж, калі нават і перабяромся на той бераг, ты і кроку не ступіш. А тут, у гэтай схованцы, я дачакаюся цябе...

Бой на пераправе сціхаў. Паступова і яго, нібыта цёплай коўдрай, зухутала дымам-забыццём. Прачнуўся ад холаду: начная свежасць прабрала да касцей. На абодвух берагах стаяла цішыня, быццам ён тут, у схованцы, застаўся адзін на ўсім белым свеце. І такі сум агарнуў яго, хоць ты крыкам крычы! Думкі розныя ў галаву палезлі: «Можа, не даплыў Мікола, а раптам забілі ці ў лапы да фашыстаў трапіў... Не дацягну я тут да раніцы, змерзну. Так і буду вечна ляжаць у схованцы гэтай. І пахаронку пашлюць дадому — не загінуў смерцю храбрых, а без вестак прапаў». Не паверыў, калі пачуў на рацэ ўсплёск вёслаў. Не паверыў і галасам, калі пачалі яго клікаць. Адазваўся толькі тады, як пазнаў Міколаў голас:

— Тут я, Міколка!

Крыкнуў, здавалася, з усяе сілы, а голасу не было, адзін хрып. І зноў страціў прытомнасць.

Як везлі яго ў шпіталь, як ляжаў на аперацыйным стале, нічога не памятаў. Толькі раніцай крыху ачуўся. І першае, аб чым спытаў санітарку, дзе Мікола Рыжык? А санітарка, яшчэ зусім дзяўчо, сярдзіта павяла брывамі і сказала:

— Вам, дарагі таварыш, нельга размаўляць. Ляжыце спакойна, не хвалюйцеся. Усё страшнае для вас засталося ззаду.

— Ды як жа спакойным быць,— разгневаўся ён,— калі выратавальніка майго, Міколы Рыжыка, побач няма?! Што з ім? Дзе ён? Не ведаеш, так і скажы. Тады я сам пайду да начальніка шпіталя і ўсё ў яго даведаюся.

— Нельга вам уставаць! — перапалохалася санітарка.— І размаўляць урачы не дазваляюць. А радавы Міка-

лай Рыжык гадзіну назад на спадарожнай машыне адправіўся ў размяшчэнне сваёй часці. Абяцаў хутка наведаць вас.

Ад радасці ў яго сцінулася сэрца, з вачэй пацяклі слёзы.

— Прабач, дачушка,— прамовіў ён ледзь чутна і хуценька нацягнуў коўдру на галаву...

* * *

Баі ў Маньчжурыі падыходзілі да канца. Але асобныя часці разбітай Квантунскай арміі ўсё яшчэ шалёна супраціўляліся. Каб хоць неяк затрымаць імклівы рух савецкіх войск, японцы ўзрывалі масты, тунелі, дамбы...

Камандзіра БАА падпалкоўніка Радзівонава выклікалі на вузел сувязі. Вярнуўшыся, ён сабраў камандзіраў падраздзяленняў, начальнікаў службаў і абвясціў:

— Нам загадана перабазіравацца ў Таадзінь. Рухаемся двума эшалонамі. Першы эшалон, які павяду я, выступае ў пятнаццаць нуль-нуль. Другі эшалон на чале з начальнікам штаба знімецца пасля вылету палка...

Мяркуючы па ўсім, ён хацеў сказаць яшчэ нешта, але не рашыўся. А ў Андрэя Гаўрылавіча Стасюка так і ёкнула сэрца: ці не здарылася што з Міколам Рыжыкам? І ён не вытрымаў:

— Таварыш камандзір, а што вядома пра Міколу Рыжыка? Даляцеў ён да Таадзіня?

Камандзір быццам толькі і чакаў гэтага пытання.

— Зараз запрошвалі пацвярджэнне іх вылету ад нас. Да Таадзіня лёту гадзіна дваццаць мінут. Мінула ўжо больш як дзве гадзіны, а самалёта ў Таадзіне няма...

Усе зразумелі: здарылася бяда. Але якая? Адзінае, на што яшчэ спадзяваліся, можа, самалёт зрабіў вымушаную пасадку, і яны даведаюцца пра гэта, калі прыбудуць у Таадзінь. А калі не?

У прызначаны час першы эшалон выступіў на Таадзінь. Дарога была няблізкая: каля сотні кіламетраў па палявых дарогах і амаль столькі ж ад Каменістай цясніны па аўтастрадзе. Ехаць карацейшай дарогай — цераз Каменістую цясніну — у шыфроўцы катэгарычна забаранялася.

Андрэй Гаўрылавіч і Косця Сырыца сядзелі ў грузавіку гаспадарчага ўзвода, за якім падскаквала на калдобінах палявая кухня. У кузаве не было ратунку ад пылу: дробны, як попел, ён шэрай хмарай стаяў у паветры. Машыны вымушаны былі ісці з уключанымі фарамі.

Андрэй Гаўрылавіч дастаў капшук, набіў люльку, раскурыў. Але не адчуў ніякага смаку. Усё, відаць, з-за праклятага пылу. Тады Андрэй Гаўрылавіч завёў размову пра Міколу Рыжыка:

— Косця, а слаўны ён усё-такі хлопец...

— Хто, Міколка? — пацікавіўся Косця, высоўваючы нос з-пад плашч-палаткі.— Баявы хлапчына,— цёпла прамовіў ён.— І што магло здарыцца з самалётам? Капітан Навумаў, казалі, класны лётчык, самалёт пасадзіць хоць на гарадошную пляцоўку. Не верыцца, каб разбіўся.

— Не каркай! — абарваў яго Андрэй Гаўрылавіч.— Селі дзе-небудзь, а магчыма, і прыляцелі ўжо ў Таадзінь.

Косця прамаўчаў. Андрэй Гаўрылавіч, каб адагнаць трывогу, прызнаўся:

— Чуеш, Косця, а Міколка абяцаў прыязджаць да мяне на пабыўку. Паважае ён мяне. Ды і я люблю яго, як роднага сына.

Косця адказаў не адразу і, як здалося Андрэю Гаўрылавічу, з крыўдай у голасе:

— Можа, і да мяне калі-небудзь завітае. Я ж таксама...

Андрэй Гаўрылавіч з надзеяй запэўніў:

— Вядома, завітае. Міколка не такі, каб забываць франтавых сяброў...

Як ні стараўся Андрэй Гаўрылавіч, размова не вязалася. Тады ён захутаўся з галавой у плашч-палатку і паспрабаваў заснуць. Ды дзе там: ад пылішчы не тое што заснуць — задыхнуцца можна было. Але прыкладна праз гадзіну, а можа, і менш дыхаць стала лягчэй. Андрэй Гаўрылавіч высунуўся, глядзіць: пылу амаль няма і дарога гладкая, а па абодва бакі да неба падымаюцца зялёныя, аблітыя промнямі сонца, сопкі. І толькі на адной, што падступала да самай дарогі, не было ніводнага дрэўца. Сівы мох ды рэдзенькія чэзлыя кусцікі — вось і ўвесь убор.

Косця таксама скінуў з галавы капюшон плашч-палаткі і, спыніўшы позірк на камяністай сопцы, усклікнуў:

— Паглядзі, Гаўрылавіч, усе сопкі як сопкі, а гэтая, быццам грэшніца, уся голая!

— Та-ак, відаць, нечым правінілася,— усміхнуўся Андрэй Гаўрылавіч. І тут убачыў, што са схілу сопкі нехта заклікальна махае рукамі. Заўважылі гэта і з галаўной машыны. Камандзір падаў сігнал, і калона спынілася. Салдаты высыпалі з машын, каб размяць здранцвелыя ногі.

Ад сопкі да іх спяшаліся двое кітайскіх сялян і з імі... Мікола Рыжык. Хлопца нельга было пазнаць: твар і рукі

падрапаныя, пад вокам сіняк, губы распухлі, гімнасцёрка і штаны ў дзірках.

— Міколка! Што здарылася?! — усклікнуў Андрэй Гаўрылавіч.

— Нас збіў над цяснінай японскі знішчальнік...— прамовіў хлопчык і прыхінуўся да грудзей старога салдата. Але адразу ж авалодаў сабою, пачаў дакладваць камандзіру, які падышоў да яго, як над Камяністай цяснінай іхні «ПО-2» быў збіты японскім знішчальнікам, што падняўся з сакрэтнага падземнага аэрадрома ў цясніне, як яны з лётчыкам трапілі ў рукі японцаў і як потым у час бамбёжкі аэрадрома нашай авіяцыяй уцяклі з палону.

— Дзе лётчык? — спытаўся камандзір.

— Ён у кітайцаў, у бяспецы, хоць і цяжка паранены,— адказаў Мікола і з удзячнасцю паглядзеў на сваіх спадарожнікаў, якія стаялі трошкі ўбаку,— старога кітайца і хлопчыка.— Але тут вось якая справа, таварыш падпалкоўнік. На рацэ Сяахэ ёсць дамба. Японцы рыхтуюцца яе ўзарваць.

Радзівонаў разгарнуў карту.

— Дзе дамба?

— Вось тут, у гэтай гарлавіне. Калі дамба будзе разбурана, вада затопіць усю цясніну...

Пакуль Мікола гаварыў, стары кітаец увесь час спрабаваў нешта падказаць на ламанай рускай мове. І вось цяпер, калі хлопчык замоўк, ён зрабіў крок да камандзіра і са слязамі на вачах прамовіў:

— Спасай дамба! Спасай чжунга!..

Радзівонаў задумаўся. Відаць, пра тое самае думаў і Андрэй Гаўрылавіч. Гэта ж у такім глыбокім тыле знаходзіцца дзеючы варожы аэрадром! А ўзрыў дамбы? Якія беды прынясе ён кітайцам, затапіўшы іхнія палі! А калі б калона пайшла кароткай дарогай, праз цясніну?.. Наша камандаванне, відаць, даведалася пра існаванне гэтага падземнага аэрадрома, таму і папярэдзіла шыфроўкай падпалкоўніка Радзівонава, каб не сунуўся ў цясніну. Інакш калона магла трапіць пад свае бомбы ці быць змыта вадою.

— Таварыш падпалкоўнік, выходзіць, трэба дапамагчы кітайцам,— паправіў на плячы аўтамат Андрэй Гаўрылавіч.— Трэба ратаваць дамбу!

Салдаты падтрымалі старшыну адабральнымі воклічамі. Камандзір, нахмурыўшыся, сказаў:

— Сам ведаю. Але гэта трэба зрабіць так, каб самім не трапіць у пастку. У тым, што дамба замініравана, не можа

быць сумненняў. Думаю, японцы толькі і чакаюць, каб мы ўвайшлі ў цясніну.

Нампаліт капітан Смародзінцаў, які ведаў кітайскую мову, пераклаў словы камандзіра кітайцу. Выслухаўшы яго, стары кітаец узбуджана загаварыў, паказваючы рукою ў бок ад камяністай сопкі.

— Стары кажа, што ехаць да дамбы праз цясніну не трэба. Ёсць дарога ў аб'езд сопкі,— сказаў Смародзінцаў.

Радзівонаў кіўнуў і накіраваўся да машыны-радыёстанцыі. Выйшаў адтуль праз некалькі мінут.

— Нам загадана ў аб'езд цясніны наблізіцца да дамбы і па магчымасці папярэдзіць яе ўзрыў. Туды накіроўваецца таксама адно з маршавых падраздзяленняў. Але яно далей ад дамбы, чым мы...— І ён адразу ж загадаў выводзіць калону на палявую дарогу.

У «віліс» да Радзівонава селі стары кітаец і капітан Смародзінцаў. Міколу і кітайскага хлопчыка з кароткім імем Лі Андрэй Гаўрылавіч узяў да сябе ў кузаў грузавіка, дзе Косця Сырыца падрыхтаваўся да сустрэчы гасцей: на плашч-палатцы стаяла бляшанка свіной тушонкі, ляжаў нарэзаны хлеб.

Па вузкай, зарослай па абочынах дробным кустоўем дарозе калона паднялася на перавал, і ўсе нарэшце ўбачылі водную гладзь, адгароджаную ад гарлавіны цясніны і ад вёскі плацінай-дамбай.

Камандзір загадаў спыніцца і замаскіраваць машыны, и да дамбы выслаў разведку на чале з капітанам Смародзінцавым. Праз гадзіну разведчыкі вярнуліся, прывёўшы з сабою яшчэ аднаго кітайца. Ён расказаў, што, як толькі пачалася бамбёжка аэрадрома, ахова дамбы некуды знікла. Але ён бачыў, як група японцаў спускалася з сопак на дарогу, што вяла да дамбы. Трое з іх неслі на плячах нейкія цяжкія скрынкі. Капітан Смародзінцаў выказаў здагадку, што выбуховае ўстройства пры бамбёжцы выйшла са строю і японцы, відаць, паспрабуюць узарваць дамбу пры дапамозе дадатковай узрыўчаткі — па дэтанацыі. Камандзір зноў задумаўся, але ўсё гаварыла за тое, што нампаліт мае рацыю. Тут жа ўзнік і план дзеянняў: асноўныя сілы батальёна займаюць абарону вакол калоны на выпадак раптоўнага нападзення, а невялікая група вылучаецца ў засаду, каб пераханіць японцаў. Гэтую групу, куды ўвайшлі і Андрэй Гаўрылавіч, і Мікола, і Косця, узначаліў сам камандзір.

Засаду наладзілі метраў за дзвесце ад дамбы. Чакалі

нядоўга: ледзь заляглі, як на дарозе паказалася калона японцаў. У трох на плячах былі цяжкія скрынкі. Наперадзе ішоў афіцэр, прыспешваў салдат, крычаў на іх, але яны, стомленыя і размораныя гарачынёй, ледзь валаклі ногі.

— Страляць паўзверх галоў! — загадаў Радзівонаў.— Калі не здадуцца, тады ўжо...

Японцы мінулі ўмоўленае месца на дарозе, і Радзівонаў падаў сігнал. Цішыню разарвалі кароткія аўтаматныя чэргі, заляпалі вінтовачныя стрэлы. Японцы, бязладна адстрэльваючыся, замітусіліся, павярнулі назад. Ды шлях ім перапыніў афіцэр. Сціскаючы ў руках шашку і пісталет, ён прымусіў іх спыніцца і кінуцца ўрукапашную. І тут усё змяшалася: стрэлы, крыкі...

Бой працягваўся ўсяго некалькі мінут, але забітыя былі і з аднаго, і з другога боку. Японцы, якія засталіся жывымі, паднялі рукі. Іх хутка абяззброілі.

І тут Мікола Рыжык перарывістым ад хвалявання галасам крыкнуў:

— Паглядзіце, там самураі! Зараз ірвануць!..

Андрэй Гаўрылавіч і Косця адначасова павярнуліся і замерлі. Каля грэбеня дамбы побач са скрынкамі з дынамітам корпаліся японскі афіцэр і двое салдат. У гарачцы бою ніхто не заўважыў, як яны аддзяліліся ад сваіх, падцягнулі да дамбы скрынкі з узрыўчаткай і цяпер рыхтаваліся іх узарваць. У руках афіцэра бліснуў агеньчык.

«Запаліў бікфордаў шнур!..» — зразумеў Андрэй Гаўрылавіч.

— Трэба пагасіць яго! — усклікнуў старшына і кінуўся да дамбы. Ён бег, не адрываючы вачэй ад злавеснага дымка, які змейкай звіваўся па зямлі, праклінаючы цяжкія армейскія боты і сваё сэрца, якое шалёна калацілася ў грудзях. «Хутчэй, хутчэй!..» — у думках падганяў ён сябе. Але сам ужо адчуваў, што не дабяжыць. І тут як віхор, паўз яго пранёсся Мікола. Ён быў басаного — паспеў скінуць боты. Андрэй Гаўрылавіч крыкнуў яму наўздагон:

— Вырывай шнур!..

Ён яшчэ ўбачыў, як Мікола з разбегу ўпаў побач з бікфордавым шнурам, які ўжо дагараў, ірвануў яго. Але на нейкую секунду раней адчуў моцны штуршок у грудзі. Перад вачамі ўсё закалыхалася, паплыло...

Падбег Косця, апусціўся на калені. Андрэй Гаўрылавіч ляжаў ніцма, з раскінутымі рукамі, быццам спрабаваў дацягнуцца да бікфордава шнура. Косця павярнуў яго на

спіну. Гімнасцёрка на грудзях старшыны была ўся ў крыві, вочы заплюшчаны.

— Гаўрылавіч! — як не сваім голасам закрычаў Косця.— Андрэй Гаўрылавіч!

Старшына расплюшчыў затуманеныя вочы:

— Косця, дамба... цэлая?

— Цэлая, Андрэй Гаўрылавіч, цэлая!.. — Косця прыўзняў яго галаву, падсунуў пад яе пілотку і адчуў, як па целе старшыны прайшла сутарга. Потым вочы заплюшчыліся — і ўсё.

Падбег Мікола з заціснутым у кулаку кавалкам абгарэлага шнура.

— Дзядзька Андрэй, таварыш старшына, пачакайце, не памірайце, зараз вас перавяжуць!.. Пачакайце!.. — у адчаі пракрычаў ён. Але стары салдат ужо не чуў яго...

Кітайскія сяляне прапанавалі пахаваць загінуўшых нашых салдат у брацкай магіле на вясковых могілках.

На насілках са ссечаных маладых елачак салдаты Радзівонава і кітайцы па чарзе неслі загінуўшых у апошні шлях. Толькі Косця Сырыца і Мікола Рыжык нікому не саступалі свайго месца ў галавах насілак, на якіх ляжаў Андрэй Гаўрылавіч. Побач з Міколам крочыў Лі.

Адгрымеў развітальны салют, усе ўжо селі ў машыны, а Косця і Мікола ўсё яшчэ стаялі каля нізенькага пагорачка свежай зямлі. Падышоў падпалкоўнік Радзівонаў, абняў іх за плечы, тужліва ўздыхнуў:

— Пара...— і, крышку памарудзіўшы, дадаў: — Няхай гэта далёкая зямля будзе ім пухам...

З кузава машыны Мікола яшчэ доўга бачыў кітайскага хлопчыка Лі. Ён стаяў на дамбе і развітальна махаў чырваназорнай пілоткай, якую нехта падараваў яму.

## ЗМЕСТ

## «ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-МАЦІ БУДУ ЙГРАЦЬ!»



## «ПАКЛЯНЁМСЯ ЛЮБІЦЬ НАШ КРАЙ!..»



Літаратурна-мастацкае
выданне

**БАЦЬКАЎШЧЫНА**

**Зборнік
гістарычнай
літаратуры**

Укладальнік
*ПАНІЗНІК*
*Сяргей Сцяпанавіч*

Рэдактар *Л. М. Цяляк*
Мастацкі рэдактар *К. С. Ракіцкі*
Тэхнічны рэдактар *Г. Ф. Дуброўская*
Карэктар *Д. Р. Лосік*

Здадзена ў набор 14.07.94. Падпісана да друку 29.03.96. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друкарская. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 13,02+0,84 укл. Ум. фарб.-адб. 15,12. Ул.-выд. арк. 13,53+0,63 укл. Тыраж 3000 экз. Зак. 1132.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

